


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (1002)

КРАСАВІК

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

## Мар’ян ДУКСА



* * *

Такі ўжо ўспамін харошы
прыходзіць бесперастанку...
Не знаю, мо туфлі, галошы
нацягваў на ногі ўранку.
Глынуўшы крыху зацiркі,
грэў пальцамі дзіўны абутак.
Што ў ім утвараліся дзіркі,
зусім не ўпадаў у смутак.
Я ведаў, што хопіць трывання,
мой нораў праз гурбу пралезе.
Такое было адчуванне,
што ногі купаюцца ў снезе.
Іх снежнаю коўдраю хутаў.
Што цёпленька зробіцца — верыў.
О хутар, замецены хутар —
засыпаны вокны і дзверы.
Ад стыні зліпаліся вочы.
А поўз я, здаецца, вясёлы...
Быў след на падворку воўчы.
І мой,
які гробся да школы.

* * *

Ад маці мне застаўся боль,
пякучы боль благога лёсу.

---

*__Дукса Мар’ян Мікалаевіч__ нарадзіўся 5 красавіка 1943 года на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Свірскае вучылішча механізацыі (1960), філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1969). Працаваў у калгасе, настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спатканне» (1967), «Станцыя» (1974), «Забытыя словы» (1979), «Твая пара сяўбы» (1985), «Заснежаныя ягады» (1989), «Горн прымірэння» (1993), «Прыйсці да алтара» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Зялёны акварыум» (1980), «Світаюць сосны» (1987), «Нябесны карнавал» (1998), «Паэтычны каляндар» (2003).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1990).*

Той боль такі, хоць заскуголь
і лётасці прасі ў нябёсаў.
Але ж пакуты не адны —
усведамляць: быў лёс няшчасны…
Боль вырас тройчы ад віны,
і не чужой віны — уласнай.
Не так любіў, не так рабіў,
не разумеў яе самоты.
Галоўнаю прычынай быў
яе штодзённай адзіноты.
О маці родная! Дазволь,
калі прыходжу я ў адведкі,
пакінуць пакаяння боль,
загорнуты ў жывыя кветкі.

* * *

Над вухам звіняць адгалоскі
вятрыскам падмеценых дзён.
Упарта ў маленькую вёску
праз вокны збягае мой сон.
Прыходзіць вячэрняя ціша,
абнятая рэхам былым.
І цемра густая калыша
далёкага вогнішча дым.
Пранізваюць змрок вечаровы
і побач кішаць за сцяной
не вельмі прыемныя словы,
камусьці сказа́ныя мной.
Твой выгляд даўно не геройскі,
бо нешта ты спраўдзіў не так…
Бягуць за табой адгалоскі,
як шумная плойма сабак.

* * *

Ідуць адчай і злосць
за мной — па свежым следзе…
Як добра, што Ты ёсць
за воблакамі недзе.
Не трэба галасіць,
калі з душой у згодзе.
Найлепей папрасіць...
Павер, адразу — дойдзе...
Не гушкай на гарбе
свой боль, хоць і прычынны.
Палёгка да цябе
пад’едзе нейкім чынам.
Хоць не плыве ніяк
да розуму людскога,
адкуль, чаму і як
прыходзіць дапамога.

* * *

Вось-вось — будынак стане друзам...
Ты проста геній — не аматар.
Якім маліцца трэба музам
табе, упарты рэстаўратар,
каб залячыць фасад нягеглы,
каб сілай надзяліць фундамент,
зраўняць знявечаную цэглу
і раптам ажывіць арнамент?
Ды не балконы і не лёхі,
не склеп, што зноў адштукаваны, —
галоўнае тут — дух эпохі,
што цэдзіць гмах памаляваны.
Каб цераз свежую акрасу
былога свету дух сыходзіў,
каб чулася дыханне часу,
што згінуў за гарой стагоддзяў.

* * *

Яна заўжды на кліканым абедзе
штораз сядзіць у цэнтры — больш нідзе...
Пастукваючы ножкай, бізнес-лэдзі
упэўнена па офісе ідзе.
У сэрцы — клопат, ён такі вялікі —
і днём і ноччу з ім так і жыве.
Фінансавыя тоўпяцца падлікі,
палічкі ўсе заняўшы ў галаве.
У свеце гандлю — зорка, а не пешка,
крутая віртуозніца хутчэй.
Пазбаўленая сонейка, усмешка
выглядвае з падведзеных вачэй.
Калышучы мадэльнаю фігурай,
адшліфаваны халадок нясе,
бо з сумачкі, што з натуральнай скуры,
павытрасала сентыменты ўсе.

* * *

На чужыне хіба ж, як у ванне,
радасць цёпленькая ажно пеніць?
Як жа цягне нас да пераймання,
ва ўсім хочацца так «еўрапеіць».
Як жа можна аднойчы стрымацца,
каб чарговую байку не слухаць,
каб прывезенае не памацаць,
языком не лізнуць, не панюхаць...
Розум наш, можа, большага варты,
хоць і трацiў сябе на пустое.

Еўрапейскія вашы стандарты —
хто пацвердзіць, што гэта святое?
Ох, ён, гонар, капрыз чалавечы —
не ўсё пройдзе праз сэрца, як сіта.
Ці накінем на ўласныя плечы
балахон, пад капірку пашыты?

* * *

Няспынны бег, шалёны бег.
Ён з кожным годам нарастае.
Што з гэтага? Душа пустая.
Што мы ўхапілі? Грэх і смех.
Куды пусціліся так хутка?
На газ абцасамі — смялей!
Хай набягае вёрст накрутка,
тэмп вар'яцее... Што далей?
Няўжо нас гоніць толькі страх?
Хіба штурхае думка злая?
Мо кожны з нас усведамляе:
супынішся — наступіць крах.
Ніяк не разумею штось,
як чую: свет ужо не спыніш...
Каму так хочацца на фініш?
І што — салодкі фініш ёсць?

* * *

Снягі адышлі, і сплылі ледаходы,
зямлю ажывіла пара веснавая.
Працуе штодзённа Дызайнер прыроды,
ні днём Ён ні ноччу не адпачывае.
Натхнёна малюе зялёны арнамент,
травой заплятаючы арыгінальна.
Які цудатворны і велічны талент,
які ён бязмежны і неспасцігальны!
Мы славім Яго праз усе пакаленні
за фарбы, што ззяюць наўкруг прамяніста.
Схіліўшыся нізка, стаяць на каленях
заўжды перад Ім мастакі-пейзажысты.

* * *

Палыхліва-калючыя ружы —
пекнасць іх трохі холадна свеціць.
Лепей што — ці разумныя дужа,
ці прытульныя родныя дзеці?
Таннай славы раздзьмуханы водар
ці з'яднанасці душ асалода?
Паўзабыты, пакінуты гонар

ці заўсёды жывая лагода?
Як жа вышукаць пэўнасць на свеце,
хто адказ падрыхтуе нам верны:
лепей што — геніяльныя дзеці
альбо дзеці, шчаслівыя вельмі?

* * *

Выносныя сосны, стаю сярод вас.
Вы цэлыя ўсе — ані пнёў, ані трэсак.
Вам сонца паслала сур’ёзны наказ —
не крыўдзіць яшчэ маларослы падлесак.
Уведаў і так ён, пачым ліха фунт,
святла яму вось дастаецца найменей.
Ён кволым карэннем хапіўся за грунт,
а зверху зусім не даходзяць праменні.
Вам здзеклівы гвалт не пасуе ніяк.
Хоць вы прыўзняліся, нібы піраміды,
вы любіце, мусіць, густы маладняк,
таму і няшкодныя вашы флюіды.
Выносныя сосны, хто ж я сярод вас?
Ніколі мяне не пытаеце: «Хто ты?»
Між вас я ніколі не ўзгадваю час
і не адчуваю ніякай самоты.
І праўда: між вамі я хто такі ёсць —
сваяк ці вандроўнік усё ж бесталковы,
у вас улюбёны пакліканы госць —
жаданы! — ці проста суб’ект выпадковы?

* * *

Парывісты вецер амбіцый,
ён воблакі нават калыша.
Спіць месца зыходных пазіцый,
навокал самота і ціша.
Жадаючы славы й бяссмерця,
чаго тут адведаеш мала,
адсюль чалавечае сэрца
як быццам уверх стартавала.
Бо зведаць як хочацца — варта! —
узлёты, трыумфы і зоры...
А месца вялікага старту —
яно з дабрыні і пакоры...
Тут бэз ажно пеніцца ўвесну,
тут чуюцца вечныя спевы.
Ды сэрцу чамусьці тут цесна,
не цешаць ні людзі, ні дрэвы.
Як хочуць, аднак, апусціцца,
адолеўшы гонар стамлёны,
на месца зыходных пазіцый
і сэрца, і свет утрапёны.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ*

*Раман*

## Частка трэцяя

### XIII

Праз нейкі час яны пабудавалі ў сваім Воўчым Багне некалькі зямлянак — для асабовага састава і камандзірскую. У маладаступных месцах абладзілі склады для правізіі. Гэта была база. Цяпер усе добра ведалі, што без базы не наваюеш.

Неўзабаве да іх далучылася парашутна-дэсантная група «Актыўныя», якой камандаваў чэкіст маёр Лінёў. Спецыялізаваліся на дыверсіях, займаліся таксама разведкай. Чэкісцкі вопыт у Лінёва быў вялікі, пачынаў яшчэ пры Дзяржынскім, прайшоў яшчэ тую вайну — грамадзянскую, таксама жорсткую і крывавую. Выгляд меў сухі, нават, можна сказаць, чыста казённы, позірк — калючы і патрабавальны. Насіў скуранoе паліто і боты. Пачуваў сябе даволі ўпэўнена. Кожную раніцу, незалежна ад надвор'я, рабіў зарадку — «гімнастыку», як ён сам гэта называў. Скідаў ватоўку і выходзіў з зямлянкі ў адной белай кашулі, і пачыналася — удых-выдых, нахілы ўправа-ўлева, паднімаў рукі, прысядаў. Пасля «гімнастыкі» скідаў кашулю і да пояса абліваўся вадой. Раз у тыдзень галіўся, раз у два тыдні галіў галаву. Намыленым памазком, не спяшаючыся, накладаў пену, браў у правую руку брытву, левай дапамагаў, і паціху зразаў з твару і галавы непатрэбную, на яго думку, расліннасць. Быў прыхільнікам строгіх правілаў гігіены. Дзеля гэтага пабудавалі нават лазню. Яна была падобная на зямлянку і тапілася па-чорнаму. Пасярэдзіне стаяла печ-каменка, дым з якой выходзіў праз адтуліну ў даху і адчыненыя дзверы. Ля печы — дзве бочкі з вадою, ля сцен — палкі для парыльшчыкаў. Ваду бралі з калодзежа, які выкапалі паблізу.

Два гады прайшло з пачатку вайны, і многае памянялася і ў жыцці людзей, і ў іх адчуваннях. Больш стала інфармацыі, газет, свежыя навіны абнадзейвалі. Летам 1943 года Чырвоная Армія граміла немцаў пад Арлом і Курскам. Газеты здабывалі, дзе толькі можна было. Аднойчы прынеслі некалькі газет ад палкоўніка Сцяпана. Гэта была «ЗАРЯ» — былая брэсцкая абласная газета, якая цяпер пачала выдавацца ў партызанскай зоне. Чытаў перад грамадой сам камісар Пётр Мачалаў, усе прымоўклі, слухаючы:

* Працяг. Пачатак у № 6—12, 2012 г., № 1—2, 2013 г.

*«Шесть дней тому назад немцы начали сильное наступление против наших войск в районах Курска, Орла и Белгорода. Но противник не застал нас врасплох. Мужественные воины Красной Армии встретили наступающих захватчиков сокрушительными ударами.*

*Только за первые пять дней гитлеровская армия оставила на полях боев 40 тысяч солдат и офицеров, 2036 подбитых и сожженных танков. В воздушных боях и зенитной артиллерией сбито 905 немецких самолетов. Пытаясь удержать наше продвижение на юг, немцы атакуют с западного фланга, но безуспешно. Немецкая линия обороны прорвана 12 июля на 11 километрах. Теперь ширина прорыва 60 километров. С обеих сторон участвуют около шести тысяч танков, а также много авиации, артиллерии и другой техники.*

*Ожесточенные бои продолжаются...»*

— Вялікая бітва там пачалася! — сказаў Лінёў, які прысутнічаў на чытцы. — Тэхнікі шмат, танкі!..

— Значыць, не толькі зімой б'ём, але і летам! — павесялеў Калеснікаў, і яго настрой перадаўся ўсім. — А то іхнія газеты сталі пісаць, што нам толькі зімою шанцуе.

— Не, і зімой будзем біць, і летам, і вясной, і восенню! — запярэчыў Гарланаў.

— У любое ўрэмя года, пры любым надвор'і, — дадаў Афінагенаў, якога палкоўнік Сцяпан прыставіў да Лінёва намеснікам па разведцы.

— Брунькін быў адтуль — з Курскай вобласці, — уздыхнуў Непагодзін.

— Ну, цяпер і ад іх чагосьці трэба чакаць, — сказаў Лінёў, маючы на ўвазе, зразумела, праціўніка, немцаў.

Партызанскае жыццё рухалася сваім парадкам, досвед ужо быў.

Сустрэўшы Косцю, Афінагенаў з дакорам сказаў:

— Што ж вы, Хлябіч, з месца странуліся? На ўсход пайшлі? Такой каманды не было.

— Тут, можа, я і не вінаваты, — стаў апраўдвацца Косця, — большасць гэтак вырашыла.

— Вы ж былы камандзір, а развялі дэмакратыю. Гэта вельмі дрэнна.

Косця прамаўчаў, падумаўшы, што Афінагенаў разважае правільна і з ім варта згадзіцца, хаця ў жыцці трапляюцца складаныя сітуацыі. Аднаго правіла на ўсе выпадкі не хопіць.

У атрад не пераставалі прыходзіць новыя людзі. Адзін з новенькіх расказаў пра сябе (яго везлі ў Германію на прымусовыя работы, і ён збег з цягніка) і назваў сваё прозвішча — Кавалёў. Гарланаў, які, дарэчы, дэмакратыі не дазваляў, скептычна крутнуў галавой:

— Кавалёў? А чаму Кавалёў?

— Бацька быў Кавалёў.

— Дык ужо лепш Кузняцоў! Каб панятна было!

З камандзірам не паспрачаешся. Кавалёва запісалі Кузняцовым.

— Гэта ў цябе будзе псеўданім, — жартам суцешыў хлопца Косця.

Партызанскія будні ішлі сваім ходам.

* * *

Стоячы на заставе, у дазоры, за кіламетр-паўтара ад лагера, прывыклы да тайгі Санька адчуваў глыбокае дыханне лесу, спрадвечны спакой лясной глухамані. Пасля некалькіх дажджлівых дзён устанавілася добрае надвор'е. Сонца ззяла, зямля падсохла, было цёпла і ціха. Дрэвы стаялі моўчкі, моц-

ныя і трывалыя, туга напінаючы бугрыстыя мускулы галін і далёка ў бакі раскінуўшы зялёныя кроны. Высозныя хвоі, дубы. Санька пазіраў на гэтыя дрэвы, магутныя і незалежныя, і ўспамінаў тайгу, родныя мясціны і сваякоў. Пад нагамі, як і ў тайзе, слаўся верасовы дыван, праз які прабіваліся стракатыя лясныя кветкі, папараць, духмяная зуброўка. Не, у тайзе зуброўку ён не сустракаў, але гэтаксама пахлі смалою сосны, прыемным водарам павявала ад прымятай травы і кветак.

Над верасамі, зазіраючы ў кветкі, кружылі заклапочаныя пчолкі, зумкаў разамлелы чмель. Сярод брусьнічніка, на купіне, грэўся на сонцы вуж. Санька, не здымаючы вінтоўкі, прыхінуўся да дубовага камля і плячом адчуў, як быццам там, за каструбаватай карой, нешта рухаецца, варушыцца, бродзіць, шукае выйсця. «Жыве прырода, — зноў падумаў партызан, — зіхаціць усімі сваімі фарбамі, не зважаючы ні на чалавека, ні на вайну, якая адбываецца ў свеце, перайначвае і разбурае чалавечыя лёсы, творыць на зямлі зло. Шмат у табе, прырода, хараства, але раўнадушная і абыякавая ты да ўсяго, нібы чужая. Кінем мы некалі гэты лагер, і зноў усё заплыве пяском, зарасце травой, карчамі, лесам…»

Зверху, з гушчыні дубовых галін, закрычала івалга, нібы аб нечым папярэджваючы. Зарыпела старое дрэва. Вуж споўз з купіны і схаваўся ў траве.

Пачуўся гул аўтамашыны. З-за павароту і сапраўды паказалася легкавушка, пафарбаваная ў камуфляжны колер, і замільгала па лясной дарозе ў бок лагера. Можна было пазнаць марку машыны: «опель-капітан». Ад нечаканасці Санька ажно здрыгануўся, сарваў з пляча вінтоўку, прыклаўся і стрэліў у бок легкавушкі. З ім быў напарнік у насунутай на вочы кубанцы, ён таксама стрэліў, і, магчыма, хтосьці з іх пацэліў, таму што легкавушка спынілася, адчыніліся дзверцы, і адтуль, з-за руля, вываліўся чалавек і кульнуўся на зямлю. Але доўга не ляжаў, тут жа падхапіўся, падняў рукі і залямантаваў як рэзаны:

— Не страляйце!

Санька з напарнікам — гэта быў якраз Кавалёў-Кузняцоў, — трымаючы зброю напагатове, выйшлі з-за дрэў.

— Не страляйце, не страляйце! — лямантаваў незнаёмы. Апрануты быў у цывільнае, на нагах меў дабрэнныя боты. Мітусліва махаў чырвоным сцяжком. На выгляд было яму гадоў за пяцьдзясят, твар даўно не голены, зарослы шчаціннем, пад носам шэрай сівізной бялелі вусы. Скуласты твар жорсткі, на левай шчацэ чырванела вялікая пляма.

— Свой я, таварышы, свой! — ён сарваў з галавы замусоленую кепку і цяпер махаў і сцяжком, і кепкай.

«Перабежчык», — здагадаўся Санька.

— Уладзімір Пташкін, — адрэкамендаваўся незнаёмы, насунуў на галаву кепку і дастаў з кішэні нямецкі пашпарт з дзюбатым арлом і свастыкай на вокладцы, працягнуў партызанам.

Косця ўзяў пашпарт, гартануў і паклаў сабе ў кішэню.

— Ведаеце па-руску?

— Ведаю. Рускі я!

Перабежчыка пачалі абшукваць, абмацваць і спераду, і ззаду, і па кішэнях.

— Ды не там шукаеце, таварышы! У мяне ўсё там! — чалавек паказаў на аўтамашыну, у якой прыехаў. — Вы ж бачыце — пераходжу дабравольна. Дазвольце адчыніць багажнік! Я не з пустымі рукамі! Звярніце ўвагу!

На заднім сядзенні «опель-капітана» ляжалі два нямецкія аўтаматы, скрынкі з патронамі.

— Гэта яшчэ не ўсё! — хваліўся перабежчык.

У багажніку знаходзілася біклага з нейкай вадкасцю, кансервы — некалькі бляшанак.

Санька не спускаў вачэй з нечаканага госця, які назваў сябе Пташкіным. Адчувалася, што гэта бывалы і свойскі чалавек, але ў абліччы пракідалася нешта падазронае. Па яго твары ўвесь час слізгала нейкая штучная ўсмешка, а вочкі, маленькія, але вострыя і пранізлівыя, чапляліся за ўсё навокал. Спяшаючыся, ён схапіў біклагу, лоўка адкруціў корак, напоўніў алюмініевую кружку і працягнуў Саньку:

— Вып’ем?

— Мы на службе.

Напарнік Кавалёў-Кузняцоў таксама адмовіўся.

— Дык тады дазвольце мне! За свабоду! Смерць фашысцкім захопнікам!

Пташкін шморгнуў ноздрамі, рашуча прыклаў кружку да вуснаў і пачаў прагна піць.

— Спірт! — патлумачыў ён, апаражніўшы кружку і выціраючы даланёю рот. — Вядзіце да камандзіра!

Павёў затрыманага Санька, пакінуўшы на пасту напарніка. Па дарозе ўвесь час падганяў яго, не спускаючы з прыцэлу. Пташкін ішоў роўна і даволі хутка, адчувалася, што спірт яго не браў. Праз якую гадзіну яны мінулі другую заставу і былі ўжо ў размяшчэнні атрада. Арыштаванага змясцілі ў каравулцы, а Санька пабег да начальства.

— Перабежчык! — далажыў ён, зайшоўшы ў камандзірскую зямлянку.

У зямлянцы гарэла тоўстая свечка з воску, асвятляла памяшканне, у якім сядзелі трое: Гарланаў, Афінагенаў і камандзір дыверсійнай групы маёр Лінёў. Выглядалі па-вайсковаму — у гімнасцёрках. Спераду гімнасцёркі былі гладка распраўленыя, а ззаду фалдамі падабраныя пад рэмень. Лінёў толькі што скончыў сваю гімнастыку, твар і галава выглядалі ў яго свежапаголенымі. На стале перад ім ляжала карта-кіламетроўка, паперы, маленькі радыёпрыёмнік. Санька расказаў, як затрымалі перабежчыка, паклаў на стол яго пашпарт. Лінёў разгарнуў дакумент, пачытаў, паўглядаўся ў фатаграфію.

— Прывядзіце арыштаванага! — загадаў ён. Падумаўшы, нібы нешта ўспомніўшы, дадаў: — Але спачатку ўважліва абшукайце да ніткі! Каб чаго пры ім не было! Я ведаю падобных тыпаў!

Пташкін знаходзіўся пад вартай, і яго пасля грунтоўнага шмону канвойны прывёў да начальства. Гэта быў ужо не Санька, а іншы партызан.

— Хто вы? Адкуль?

Затрыманы сцягнуў з галавы кепку, прывітаўся, з цікавасцю зірнуў на камсастаўскую форму, у якую былі апрануты Лінёў і Гарланаў. Афінагенаў быў у цывільным.

— Родам я са Смаленска, служыў у Краснай Арміі, трапіў у палон, аказаўся ў лагеры. Умовы немагчымыя. Людзі чахлі і паміралі. Кожны дзень з лагера выязджала двухколка, напоўненая трупамі. Аблепім двухколку гэтую з усіх бакоў і пхаем. А побач, канешна, канваір. Сіл няма цягнуць яе, а ён нас прыкладам, прыкладам! Так, бывае, агрэе, што ў двухколку кладуць. Жывы ці свядомасць пацяраў — хто яго ведае? Цяжка было жывога ад мёртвага адрозніць. З двухколкі ў яму валілі. Жах! А канваіры на губных гармоніках іграюць!

З’явіліся рабяты ад генерала Уласава. Што рабіць? Ну што б вы зрабілі ў маім палажэніі? Пайшоў да Уласава. Вучыўся на курсах шафяроў. Там, прызнаюся, і даў сагласіе працаваць шафёрам у Брэсцкім гестапа. Нічога не падзелаеш — прымусілі. Увесь час спадзяваўся перайсці да сваіх, таму і згадзіўся

быць шафёрам. Пераходжу, як бачыце, дабравольна і не з пустымі рукамі. Аўтамашына, зброя, спірт.

Лінёў і Афінагенаў пераглянуліся між сабой, зірнулі на затрыманага.

У партызанскай практыцы не раз здараліся такія выпадкі і сустракаліся падобныя, як сказаў Лінёў, тыпы.

— А дзе служылі? — спытаў Афінагенаў.

— У аўтабаце.

— У якім?

— Ды хіба гэта важна?

— Ты не круці! Расстраляем, і ўсё тут! — ціха, але выразна прамовіў Лінёў. У голасе прагучала пагроза, але Пташкін нібы не заўважыў яе, быццам было нешта болей важнае для яго, чым асабісты лёс.

— Вам нада як найскарэй мяняць пазіцыю! — шумна выдыхнуў ён і паглядзеў на Лінёва ва ўпор. — Не пазней як праз пару дзён пачнецца карная экспедыцыя!

— Адкуль вы ведаеце? — Гарланаў кінуў зняважлівы позірк на перабежчыка.

— Чуў з размовы.

Пташкін ахвотна расказаў пра сваё былое начальства, пра шэфа Брэсцкага гестапа палкоўніка СС фон Гольдберга, пра тое, што пра карную экспедыцыю чуў менавіта ад яго.

Пасля гэтага допыт спынілі, канваір вывеў арыштаванага. Пташкін ледзьве падняўся пасля гэтай нялёгкай для яго размовы. Падняўся і, цяжка дыхаючы, пайшоў, залажыўшы за спіну рукі.

Дапытвалі яго і назаўтра, і так некалькі дзён. Пташкін гаварыў адно: «Хачу ваяваць з гадамі!» Нарэшце допыты спынілі.

— Ну што, паверым? — Лінёў уважліва паглядзеў на Афінагенава, той пацiснуў плячыма.

— Не ведаю.

— Трэба задаволіць яго просьбу. Умоўна. Прыставіць да яго каго-небудзь з нашых. Як да навічка. Хай паходзяць разам! Паглядзім, што гэта за пташка. Лінёў — разведчык вопытны, ведаў, што робіць.

Гарланаў быў згодны з яго прапановай, толькі запытаў:

— А каго прыставім?

— Я знаёміўся з асабовым саставам, у вас там ёсць чалавек з капэзэбоўскім прошлым, былы член гэтай бражкі. Я маю на ўвазе КПЗБ.

— Хлябіч?

— Я думаю, ён падыдзе. Мужык смышлёны, вопыт у яго ёсць. Пускай падружацца.

Выклікалі Косцю. Лінёў расказаў, якое заданне яму даручаецца. Заданне адказнае.

— Слушаюсь! — адказаў Косця, як таго патрабаваў статут.

— Даём твайму Пташкіну выпрабавальны тэрмін, — патлумачыў чэкіст. — Табе трэба быць пры ім неадлучна. Тыдні два, а можа, і болей. Зразумеў?

— Зразумеў.

— Глядзі, вачэй з яго не спускай!

— Есць! — адказаў Косця па-вайсковаму. Былы камандзір, цяпер ён быў шараговым байцом, прывілей не патрабаваў і на становішча сваё не крыўдзіўся. Свае абавязкі выконваў сумленна.

— Зброю пакуль што выдаваць, канешна, не будзем, — заключыў Гарланаў, маючы на ўвазе перабежчыка.

Пташкінскую легкавушку схавалі ў зарасніку. Дзе — перабежчык не ведаў, каб не пакарыстаўся з ліхой мэтай, не паспрабаваў уцячы. Сачыў за ім Косця ўважліва, але нібы нязмушана і непрыкметна. Сваю місію растлумачыў Пташкіну адразу, калі пазнаёміўся з ім. Папрасіў аднаму не адлучацца. Некалькі хлопцаў дапамагалі.

Пацягнуліся дні. Мінуў адзін тыдзень, за ім другі. Выпрабавальны тэрмін прайшоў без запінкі, усё складвалася самым належным чынам. Пташкін трымаўся грамады, нават хадзіў з хлопцамі «на жалезку», праўда, без зброі, нёс міну, і з усіх сіл хацеў паказаць, што ён, як кажуць, «у дошку свой». Дужа радаваўся, калі ўдалося падарваць цягнік, адыходзіў ад чыгункі разам з усёй групай.

Атрад жыў сваім жыццём. У тры гадзіны дня абедалі. Радуючыся жнівеньскаму сонейку, партызаны разбрыліся па паляне са сваімі кацялкамі ды міскамі. Косця з Пташкіным таксама прыселі на ўсохлых пяньках, дасталі лыжкі. Косця краем вока сачыў за напарнікам і зноў заўважыў дзіўную рэч: кожны раз, калі Пташкін збіраўся есці, дык непрыкметна клаў два пальцы ў рот, з аднаго і таго ж левага боку, быццам штосьці шукаў у зубах, і хуценька хаваў руку ў кішэню. Косця далажыў аб гэтым Лінёву. Чэкіст загадаў узмацніць кантроль над перабежчыкам, які, вядома, бачыў, што яго ўсё яшчэ правяраюць, і нерваваўся. Мог бы паспрабаваць уцячы, але па натуры быў, відаць, упарты і глядзеў на партызанскае асяроддзе з пагардай, недаацэньваў рызыкоўнасць свайго становішча і здольнасці чэкістаў. Словам, дуэль, супрацьстаянне працягваліся.

Аднойчы ўсе разам селі абедаць, і Косця з таварышамі заўважылі, як іх паднаглядны ў долю секунды сунуў пальцы ў рот і тут жа выняў іх, сунуў руку ў кішэнь. Рабіў гэта хутка, нібы аўтаматычна. Яго аднак імгненна з абодвух бакоў схапілі за рукі, а Косця сціснуў за глотку. Пташкін страпянуўся з усіх сіл і захроп. Відаць было, як кроў прыліла яму да шчок, а пляма пачырванела яшчэ больш. З кішэні, куды ён толькі што апусціў руку, Косця дастаў зуб-пратэз, падобны на звычайны кутні зуб. Перабежчыку скруцілі рукі і прывялі ў зямлянку да Лінёва. Маёр грэбліва пакруціў у руках пташкінскі зуб-пратэз.

— Што гэта? — Лінёў скрывіў губы, разглядаючы дзіўную знаходку.

Пташкін маўчаў. Усё больш набракала чырванню пляма на левай шчацэ, а ў вачах адбіўся жах становішча, у якім ён апынуўся.

— Што гэта? — на больш узмоцненай ноце паўтарыў чэкіст, трымаючы ў руцэ штучны зуб.

Штучны зуб аказаўся кантэйнерам, яго ўдалося адчыніць. У ім знаходзіўся белаваты парашок. Твар Пташкіна зрабіўся каменным, вакол вачэй шырока заляглі чорныя кругі, скулы прыкметна абвастрыліся, ён увесь сцяўся, знерухомеў. Пра нешта, відаць, думаў, узважваў, шукаў выйсце з той пасткі, якую сам сабе і падрыхтаваў. Нарэшце ўсё ж такі ўзяў сябе ў рукі. Зірнуў чамусьці на партрэт Сталіна, што вісеў на сцяне. На стале ляжала пачатая пачка «Беламорканала», і ён папрасіў закурыць.

— Гэта цыяністы калій, — прызнаўся ён, зацягнуўшыся папяросай.

Усе, хто сядзеў у зямлянцы, маўчалі. Маўчаў і арыштаваны, пазіраючы на свечку, што гарэла на стале.

— Што ж, песенька мая спета, — нарэшце пачаў ён, азірнуўшы прысутных. — Вы патрабуеце прызнання? Я дам яго вам. Аб каштоўнасці мяркуйце самі. Так таму і быць. Раскажу пра доўгую дарогу, якая прывяла мяне сюды. Пачалося гэта вельмі даўно. У палітычным вышуку я з маладых нагцей, яшчэ пры бацюшку-цары. Я прафесіянал, ідэйныя меркаванні для мяне, паверце,

справа другарадная. Смерці я не баюся, я не раз з ёю сустракаўся і гатовы прыняць хоць сёння.

— Прозвішча, імя, званне! — амаль выкрыкнуў Лінёў. Косця здзівіўся: выгляд у чэкіста быў такі, нібы ён ведае ўсю гэтую гісторыю.

— Не Пташкін я. Ніякі я, канешна, не Пташкін, — прызнаўся паддопытны. Рот яго скрывіўся, а губы пабялелі. Відаць, цяжка давалася яму гэтае прызнанне. У руках ён нервова мяў сваю замусоленую кепку, на бледным цяпер твары рэзка выдзялялася чырвоная пляма.

— А хто? — не вытрымаў, уступіў у размову Косця, хоць яму, як шараговаму партызану, належала маўчаць.

— Сапраўднае маё прозвішча Гадаў.

— Хто? — не паверыў сваім вушам былы капэзэбовец і ажно прыўстаў са столака, на якім сядзеў, і здрыгануўся.

— Гадаў Ардальён Барысавіч.

Гэта была поўная нечаканасць, і Косця быў літаральна ашаломлены.

— Спакойна! — Лінёў падняў руку, строга паглядзеў і на Косцю, і на Гадава.

— Што? Злавеснае? — Гадаў фанабэрыста, з іранічнай усмешкай зірнуў на былога капэзэбоўца. — А мне падабаецца, хоць я амаль ніколі ім адкрыта не карыстаўся. Зрэшты, нічога злавеснага ў ім няма. У старажытнасеміцкіх вераваннях Гад — бог шчасця і ўдачы, і, можа, дрэнна, што ім мала карыстаўся. Але цяпер гэтага ўжо не паправіш.

Прысутныя маўчалі.

— Працягвайце! — сказаў Афінагенаў.

— Пад іншымі прозвішчамі я пачаў жыць з 1912 года, калі лёс звёў мяне з адным мацёрым і ўпартым камуністам, па следзе якога я ішоў доўгія гады. Зрэшты, як аднойчы ён мне сказаў, першы раз сустрэліся мы з ім яшчэ раней — у Брэсце. Але пра гэта — у свой час. Таленавіцейшы чалавек, далажу я вам, таленавіцейшы! Магчыма, ён і вызначыў маю далейшую службу ў ахранным аддзяленні, усю маю, можна сказаць, службовую кар'еру. Ды што там кар'еру — жыццё! Не лёгка мне з ім было, не лёгка. Дарэчы, нарадзіўся ён недзе тут, у гэтых мясцінах, пад пушчай…

— Хто гэта? — спакойна і нібы незацікаўлена спытаў Лінёў.

— Гэта даўняя гісторыя, вы яго не ведаеце. Кляновік Сямён Андрэевіч. Даравіты чалавек!

Лінёў ніяк не адрэагаваў, але твар яго яшчэ больш пасуровеў, у вачах дадалося калючасці і пагардлівасці. Ён успамінаў…

Косця таксама быў узрушаны да крайнасці, хаця і такога працягу гісторыі, і такога прызнання чакаў.

Лінёў вырашыў зрабіць перапынак, бо ён, відаць было, таксама хваляваўся.

— Увясці! — загадаў ён.

Арыштаванага Гадава адвялі ў каравульнае памяшканне пад узмоцненую варту.

## XIV

Пачалі раіцца, што з ім рабіць? Адправіць у штаб ці кокнуць на месцы, як гэта звычайна ў такіх выпадках з такімі і рабілася. Афінагенаў быў за тое, каб працягнуць допыт. Лінёў з ім пагадзіўся. Праз паўгадзіны Гадава зноў прывялі на допыт, і ён прадоўжыў свае прызнанні.

— Я не здраднік, я прафесіянал, улічыце гэта, калі ласка. Вышук — мая прафесія. Палітычны вышук.

Прысутныя ўважліва слухалі, не перабівалі, назіраючы, як пакрыўся шчэццю і пабурэў твар арыштаванага.

— Сярод многіх падзей, — у голасе паддопытнага загучаў раптам нейкі стоены боль, — адносіны з гэтым падпольшчыкам, я маю на ўвазе Кляновіка, асабліва запомніліся. Не ведаю, чаму. Магчыма, таму, што ў нашы адносіны была замешана жанчына, якую я, прызнаюся, вельмі кахаў. Яна выконвала яго заданні і з’яўлялася жонкай аднаго шараговага камуніста. А я яе кахаў…

Косця (яго зноў запрасілі ў Лінёўскую зямлянку) адразу здагадаўся, пра каго гаварыў Гадаў, пра Лісакоў. Пра Марыю і Ігната з Трышына, што пад Брэстам. Косця добра ведаў і яго, і яе. Ён успомніў словы гаротнага Ігната Лісака, удаўца, які хадзіў на апазнанне Гадава, калі той быў арыштаваны НКУС восенню 1939-га: «Нашто ты загубіў бязвінную душу Марыі Васільеўны? Нашто загубіў, ірад пракляты!?» Тады Гадаў маўчаў, калаціўся ад страху.

А зараз вёў свой аповед далей:

— Дык вось у тым самым 1912 гаду, у самым пачатку, амерыканскі ўрад паведаміў нашаму, расійскаму, што ён прымусова высяляе з ЗША вялікую групу рускіх сацыял-дэмакратаў і іншых бунтаўшчыкоў і што параход з імі накіроўваецца ў Расію. Клопатаў з сацыял-дэмакратамі было тады, зрэшты, як і заўсёды, шмат, і расійскі ўрад прасіў пачакаць, але амерыканцы не згаджаліся. Расійскі ўрад здолеў паставіць адну толькі ўмову: каб параход кіраваўся не ў Пецярбург, не дай бог, і не ў Еўропу, а куды-небудзь далей. Тут амерыканцы згадзіліся, накіравалі параход ва Уладзівасток. Дарэчы, хай будзе вам вядома, гадоў праз дзесяць нешта падобнае зрабіў і Ульянаў-Ленін — таксама пасадзіў на параход некалькі соцень вучоных і філосафаў і выслаў за межы Расіі. Так што ён у гэтым выпадку не быў арыгінальны…

— Ну, ты Леніна не трогай! — Лінёў стукнуў кулаком па стале.

— Прабачце. Дык вось я служыў тады ў жандарскім ведамстве. — Гадаў развёў рукамі. Што было, маўляў, тое было. — Вырашана было, каб яны не распаўзаліся па імперыі, схапіць іх там, ва Уладзівастоку, і адправіць куды трэба. Прасцей кажучы — у каталажку, на катаргу… І вось у сярэдзіне сакавіка стала вядома, што параход прыбывае. Мы падняліся па трывозе, усё ўпраўленне, сярод ночы, і тут жа акружылі прыстань. Аказалася, што на параходзе знаходзіліся не толькі сацыял-дэмакраты, якіх налічвалася каля двухсот, але і іншыя пасажыры, у тым ліку і крымінальнікі. Усё пераблыталася. Многія з крымінальнікаў сімпатызавалі рэвалюцыянерам і перадалі ім свае дакументы, што дазволіла бесперашкодна па трапе, каля нас, спакойна прайсці ў горад. Потым мы знайшлі на параходзе, калі ён апусцеў, толькі іхнія шмоткі. Спахапіліся, але было ўжо позна. Сацыял-дэмакраты змяшаліся з публікай і падаліся хто куды.

Гадаў папрасіў закурыць.

— Усё пераблыталася, — паўтарыў ён, зацягнуўшыся папяросай. — Паднялі полк салдат, пачалі прачэсваць горад, аднак затрымаць удалося не многіх. Краснашчокава помню, Фядотава, Сянкевіча… Сярод іх быў і ён, Кляновік. Яны ў параўнанні з ім дробязь. Асабіста я яго тады яшчэ не ведаў, аднак пазнаў па апісанні і фатаграфіі. Ён гэта адчуў і сам да мяне падышоў. Сярэдняга росту, моцнага целаскладу, каржакаваты, малады. Назваў сябе Кляновікам і сказаў: «А я вас ведаю, бачыў вас у Брэсцкай крэпасці, у 1904-м…» Я здзівіўся. «Значыць, у вас неблагая памяць, калі помніце 1904-ты, — адказаў я, — тым лепш: больш раскажаце». Кляновік моўчкі пацiснуў плячыма. Хітры быў!

Я адвёў яго ў аддзяленне і пачаў, як водзіцца, здымаць допыт. Адказваў на пытанні ўхіліста, але вёў сябе карэктна. Даў паказанні ў прыналежнасці да меншавікоў. Выдумаў. Ён ужо тады быў перакананым бальшавіком! Гэта найбольш адпавядала яго характару. Час быў, аднак, позні, допыт скончыць мы не паспелі, і Кляновік папрасіў вывесці яго ў двор, у прыбіральню. Павёў я асабіста, з павагі. Малады яшчэ быў, наіўны. А ён яшчэ і кажа: «Цяпер я ўвесь поўнасцю ў вашай волі…» Ваш саглядатай, — Гадаў кіўнуў на Косцю, які сядзеў збоку на столаку пры сцяне, — такога б не дапусціў, узяў бы з сабой яшчэ каго, ахову, канвой, а я паверыў. Да гэтага часу не магу сабе дараваць. Пастаяўшы ў прыбіральні, ён выйшаў, спыніўся ля сцяны, ветліва папрасіў закурыць, спытаў, дзе памыць рукі. Я, паверыце, нават узрадаваўся: падумаў, што чалавек пачынае да мяне хінуцца, нешта цікавае мае паведаміць. І вось тут я першы раз яму прайграў. Даў, як зараз помню, папяросу і стаў запальваць запалкі. Дзьмуў вецер, і запалакі гаслі. Раптам мяне нешта апякло, тузанула нібы вулканічным выбухам, так, што я на колькі імгненняў страціў прытомнасць. Ачнуўшыся, зразумеў, што ў твар мне нанесены ўдар такой сілы, якога я, прызнаюся вам, дагэтуль не атрымліваў. Сам арыштаваны, зразумела, уцёк. Вязучы! Плот быў пад тры метры ў вышыню, а яму ўсё ніпачом. Як птушка, пераляцеў. Я абмацаў сківіцы і выплюнуў два зубы — вось тут, кутнія, з левага боку, знізу, — Гадаў паказаў рукою на тое месца, дзе знаходзіліся некалі зубы, выбітыя Кляновікам. — Пасля гэтага тут у мяне і стаяў той штучны мост, які вы ў мяне аднялі.

Кляновіка як ветрам здзьмула. Умелы быў канспіратар! Прыроджаны! Потым я даведаўся, што ён колькі начэй хаваўся ў партовым пасёлку Эгершэльд, у грузчыкаў, але было ўжо позна. Яго, як кажуць, і след прастыў. Я, прызнаюся, быў абражаны, пераживаў і пакляўся адпомсціць яму, але Кляновік аказаўся цвёрдым арэшкам, не з прасцякоў.

Усе слухалі з нарастаючай увагай. Гадаў зноў папрасіў закурыць. Зацягнуўся колькі разоў папяросным дымам і працягваў:

— Другая мая сустрэча з ім адбылася ў красавіку таго ж 1912 года.

— Трэцяя! — паправіў яго Косця, які да гэтага ўважліва слухаў аповед арыштаванага.

— Вінават, трэцяя, — згадзіўся Гадаў, павёўшы вачыма па Косцю, нібы нешта прыгадваючы. — Калі лічыць тую, першую, у Брэсце, у крэпасці. Адкуль вы ведаеце?

— Дык вы самі толькі што пра гэта казалі.

— Тут пытанні задаём мы! — абарваў паддопытнага Лінёў.

— Ну, канешна! — ахвотна згадзіўся той. — Вы гаспадары становішча! Дык вось трэцяя сустрэча адбылася — дзе б вы думалі? — на берагах Лены. Есць у Сібіры такая рака. Залатая, можна сказаць, рэчка! Людзі з галавой капіталы тут састаўлялі. Ваш Кляновік быў сярод завадатараў бунту на Ленскіх залатых прыісках. Многія чулі пра гэты бунт, але што да чаго — ніхто не ведае. А гэта ваш Кляновік папрацаваў! Тут ён проста выслізнуў у мяне з рук. І тут яму, як бачыце, пашанцавала. Малады, лёгкі на нагу. Зух! Шчыра вам скажу: я нават яшчэ больш запаважаў яго пасля гэтага.

Наступным разам ён сам прыехаў да мяне ў госці. У 1914 годзе я займаў пасаду начальніка трэцяга жандарскага ўпраўлення ў сваім родным горадзе Бійску. Яго ўзялі ў Маскве за бальшавіцкую дзейнасць, судзілі і выслалі ў Бійск. Як бы ведалі, што я чакаю яго там. У Бійску ён адбываў тэрмін, і я яму ў гэтым не перашкаджаў…

Пачалася Першая сусветная вайна. З Бійска мяне накіравалі на поўдзень Расіі. Гэта быў раён Крыма: Феадосія—Адэса—Севастопаль. Цудоўныя мясціны! Хто там быў, ведае.

Лінёў пры гэтых словах адвёў вочы ўбок, пра нешта задумаўся, а Гадаў расказваў:

— Мора, сонца, паветра. Адзін Кактэбель чаго варты! Там інтэлігенцыя збіралася — за ёй таксама глядзець даводзілася…

Тут я перажыў падзенне Раманавых, а потым і бальшавіцкі пераварот. Тут, у Феадосіі, я сустрэў Машу. — Гадаў глыбока ўздыхнуў, у роспачы ашчаперыў галаву рукамі і на імгненне прыпыніў свой расказ. Відаць было, што яго ўзварушыў успамін пра Машу. Памаўчаўшы, сказаў: — Радчайшай красаты была гэта жанчына. Міравая красавіца. Такіх я больш не сустракаў. — Відаць, ад нахлынуўшых пачуццяў расказчык зрабіў глыбокі ўздых і пахітаў галавой. — І я б дамогся яе рукі, але на маім шляху стаў Кляновік. Так, зноў ён! Перайшоў мне дарогу ў Феадосіі ў 1918-м! Не ведаю, як яны пазнаёміліся. Кляновік на ўсё быў здольны. Ён вёў сваю падрыўную работу сярод салдат Антанты — англічан і французаў. Меў псеўданім — Марской. З дапамогай падпольшчыкаў уладкаваўся ў штаб Дзянікіна каналізацыйным рабочым. Меў цэлую сетку агентаў. Англійскую мову ведаў дасканала і ўмела карыстаўся гэтым, заводзіў кантакты з англійскімі саюзнікамі — маракамі. Французскую ведаў горш, але ўдасканальваўся. Ну, Маша ў гэтым дапамагала. Потым яна мне казала, што ў іх быццам адкрылася роднасць душ. Ну, канешна, прыгожая была. І што робіць Кляновік? Ён — уявіце сабе! — здолеў зрабіць з Машы бальшавічку! Больш таго. Пасватаў яе за маладога прапаршчыка — майго ад'ютанта Ігната Лісака! Вось як бывае. Гэты прапаршчык здрадзіў і мне, і цару, і англійскім і французскім саюзнікам, звёў у мяне нявесту і кудысьці знік. Вядома, куды — у падполле, да падпольшчыкаў падаўся. А там верхаводзіў Кляновік…

У Феадосіі з прыходам красных наступіла мая чарга. Кляновік арыштаваў мяне, і Чака без суда прыгаварыла да расстрэлу. Гэта было ў памятным 1919-м, летам. Вывелі на пустыр, і быў бы ўжо канец беднаму Гадаву. Але мне пашанцавала таксама, як некалі і яму ва Уладзівастоку. Я ўцёк з-пад расстрэлу, хоць адна з куль усё ж такі слізганула па плячы. Ачуняў і падаўся ў Еўропу. А куды ж яшчэ? Так што смерцю, гаспада, мяне запалохаць нельга, мы з ёю старыя прыяцелі, дружым даўно. Служыў, не буду таіць, усім, хто плаціў і змагаўся з бальшавікамі. Была ў мяне даволі аб'ёмная картатэка дадзеных па палітычных крамольніках рускага паходжання, якая ў свой час зацікавіла паліцыю Веймарскай рэспублікі. Не толькі яе. Знаёмствы былі абшырныя. З цягам часу аказаўся на службе ў польскай разведкі. Гестапа дапамагала дэфензіве. Ну, вядома, больш іграла, чым дапамагала, але камуністаў лавілі разам. Скажу вам, і гестапа, і дэфензіва пераймалі ад нашай старой ахранкі ўсе метады і спосабы барацьбы з падрыўным элементам. На арыштаванага не толькі заводзілася асобная справа, але, як правіла, пачыналася пастаянная слежка. Уявіце сабе маё здзіўленне, калі, рыхтуючы людзей для засылкі ў КПЗБ, выйшаў на след не толькі Кляновіка, але і сваёй былой нявесты… цяпер яна была ўжо буйным агентам Камінтэрна ў Польшчы. Кляновіка я пасадзіў. Ён быў у поўнай маёй уладзе. Мог у любы момант павесіць яго ці забіць — гэта было як раз плюнуць. На гэта я не пайшоў. Я меў, не хвалюся, сусветны вопыт барацьбы з Камінтэрнам, а гэта, магу вас запэўніць, нешта ды значыць.

«Ну і гад жа ты!» — падумаў Косця, слухаючы.

— Я ведаў, што з такімі, як Кляновік, дамовіцца нельга. Ні на кампраміс, ні на капітуляцыю яны не пойдуць. Мы называлі іх апантанымі, лічылі

вар'ятамі, ненавідзелі да глыбіні душы, але як прафесіяналы, цанілі. Нават ахоўвалі! Так! — дадаў паддопытны, заўважыўшы недаўменне на твары Афінагенава. — Яны былі для нас арыенцірамі і своеасаблівымі праваднікамі. Ідучы па іх следзе, мы адчувалі змоўніцкія планы бальшавікоў, сачылі за іх работай у дадзенай мясцовасці. Дзе Кляновік — там падзеі. За ім сачыла не адна дэфензіва. Ён патрэбны быў многім. Не, мы не маглі дазволіць сабе насалоду прыкончыць яго ў Польшчы, ён патрэбен быў нам жывы! Мы рыхтавалі яму іншы лёс. Але пра гэта пазней…

Гадаў абвёў прысутных вачыма, каб праверыць уражанне ад таго, пра што ён расказваў, зноў папрасіў закурыць, зрабіў глыбокую зацяжку. Слухачы, унурыўшы галовы, маўчалі, пазіралі на расказчыка сурова, непрыхільна, з-пад ілба.

— З Марыяй я абышоўся па-іншаму, — зрэшты так, як яна гэтага заслугоўвала. Прыгожая была Марыя Васільеўна. Лісак Марыя Васільеўна — перайшла на прозвішча мужа. Майго былога дзеншчыка! Казачнага хараства жанчына і рэдкай абаяльнасці. Перад такой цяжка было не зняць фуражкі. Доўга яна палячышкаў за нос вадзіла — усю Брэсцкую сакрэтную паліцыю. — Гадаў уздыхнуў. — І паверыць цяжка, як можа жанчына, настолькі шчодра адораная прыродай, устаяць перад усімі спакусамі нармальнага жыцця, аддаць перавагу неверагодным цяжкасцям падполля! Яна ішла за сваім Кляновікам, як нітка за іголкай! Што яе ў ім вабіла — мужнасць, адданасць ідэі, фанатызм? А магчыма, яшчэ што?.. Не ведаю. Не магу зразумець. Працяглы час Марыя з'яўлялася сувязной камуністаў Заходняй Беларусі, Брэстчыны з Мінскам і Масквой, часта пераходзіла дзяржаўную граніцу. Перадавала інфармацыю. На граніцы ў яе было сваё акно, і нават не адно. І ў Мінску, і ў Маскве яна атрымлівала інструкцыі і вярталася. Туды-сюды, туды-сюды. Чаўнок! Аднойчы я ўсё ж такі рашыў яе затрымаць, калі яна ішла туды. Здарылася гэта ў раёне Радашковіч, пад Мінскам. Летні дзень доўгі, але я чакаў. І адзін дзень, і другі. Нарэшце з'явілася красуня, выйшла з кустоў. У мадэльных туфельках, у чорных шоўкавых панчошках! Як бы ў тэатр сабралася ці ў рэстаран. Шчыра вам скажу: злосць мяне ахапіла, хацеў тут жа застрэліць, забіць, але не змог. Столькі гора яна мне прынесла, а забіць не змог! Рука не паднялася… Убачыўшы мяне, не магла стрымаць хвалявання. Я гэта заўважыў. А можа, думаю, на гэты раз сыдземся? Мужам і жонкай станем, разам па жыцці пойдзем?.. Кахаў я яе. Прапанаваў ёй, у чарговы раз, — Гадаў цяжка ўздыхнуў, — руку і сэрца. Золата, кажу, брыльянты — усё ў цябе будзе. Ніхто б не ўстаяў! А яна толькі пасміхаецца. Усё адхіліла! Фанатызм браў сваё. І паверце — я яе адпусціў. Ідзі, дарагая Марыя Васільеўна, куды ідзеш! Прабачце, што я вам усё так расказваю. Але праўда ёсць праўда.

— І куды яна пайшла? — спытаў Косця.

— У Мінск, да сваіх начальнікаў, па інструкцыі. — Гадаў зрабіў паўзу. — Але не ўсё так проста. Не ўсё так проста. Прайшоў некаторы час, мяне мучыла рэўнасць. Месца сабе не знаходзіў! Паверыце, у вачах стаяў яе вобраз, і яна была жонкай камуніста! Э-эх! Горш і прыдумаць цяжка. Я не вытрымаў, і ў 1931 годзе загадаў маім людзям арыштаваць яе. Гэта было, як зараз помню, у сакавіку. Пайшоў да яе ў камеру і зноў паўтарыў свае прапановы: «Будзь маёй жонкай!» На калені стаў. Так! Успомніў Дастаеўскага і стаў на калені. Як яна на мяне глядзела! Колькі пагарды было! Колькі непрыступнасці! Ну проста як скала. Што ж, яна сама сабе падпісала смяротны прысуд. У ліпені таго ж трыццаць першага года яе не стала. Я яе на гэты раз не абараняў. Цела вынеслі з турмы ноччу і закапалі на Трышынскіх могілках.

— А з Кляновікам што? — зноў не выцерпеў, азваўся Косця, усхваляваны гэтым апошнім рэхам, якое так нечакана дайшло, дакацілася да яго з мінулага, ад сяброў.

— Кляновік да гэтага часу ўжо быў у Саўдэпіі. Выслізнуў ад нас, з нашых рук. Нелегальна перайшоў граніцу. Але мы дасталі яго і там. Неабходныя паперы на Лубянку падкінулі… Ваш вусаты, — Гадаў, як здалося прысутным, з павагай кіўнуў на партрэт Сталіна, — на нашым баку быў…

— Сталіна не трож! — Лінёў зноў ударыў кулаком па стале.

Расказваючы, Гадаў ад страху і хвалявання ўспацеў, кропля поту павісла на кончыку носа. Цяжка дыхаў. Памаўчаўшы, працягваў:

— За Кляновікам мы, канешна, сачылі, вачэй не спускалі. Ваша «тройка» ў 1938 годзе без суда прыгаварыла яго да «вышкі» па абвінавачванні ў здрадзе. У здрадзе каму, як вы думаеце? У здрадзе вашаму камунізму. Таму, чым ён займаўся. За што бароўся, на тое і напароўся. Потым мае людзі спаткалі яго ажно ў Бійску. Гэта, як помніце, мая радзіма, — Гадаў, незразумела ад чаго, ці то засмяўся, ці то захрыпеў. — Паміраць яму было цяжка… Без нашай дапамогі, як бачыце, не абышлося. Таму ён — іронія лёсу! — і на маю радзіму, у Бійск, трапіў. Бальшавікі часам таксама жартаваць умелі. Гумар адчувалі, асабліва чорны…

Гадаў на гэтым не спыніў свой аповед.

— У 1939-м я, на жаль, не паспеў выехаць на Захад і з прыходам Чырвонай Арміі быў арыштаваны НКВД. Капэзэбовец мяне апазнаў. Стары знаёмы, былы мой ад’ютант, прапаршчык, якога я калісьці ў жывых пакінуў, а ён мяне пагранічнікам здаў. Я тады ў прыгарадным цягніку Брэст—Уладава ехаў. У вагоне адсыпаўся, у горадзе амаль не паказваўся. Кінулі мяне ў Брэсцкую турму, у якую да гэтага я сам мог бы кінуць каго захацеў. На гэты раз сябры Кляновіка шчыльна зацягнулі пятлю вакол маёй шыі. Але фартуна зноў усміхнулася мне. Вязунчык я! За дзве гадзіны да расстрэлу ў ноч на 22 чэрвеня пачалася вайна, стража паразбягалася, і я разам з усімі, хто сядзеў у Брэсцкай турме, выйшаў на волю. Што рабіць, не ведаю. Сустрэў старых знаёмых з Абвера, сталі працаваць. Пра ваш атрад немцы ведаюць і, канешна, хочуць знішчыць. Вы для іх, скажу вам, як костка ў горле. — Тут расказчык зрабіў паўзу. — Гэтую справу даручылі мне. Таму я і прыехаў сюды, аднак вы аказаліся хітрэйшыя. Я пастарэў ужо. Не спадзяваўся, што траплю ў пастку. У тым маім зубе было столькі атруты, што хапіла б на сотню людзей… — Ён зноў памаўчаў. — Але ўсяму прыходзіць канец. Мне ён прыйдзе ад вас, вам — ад немцаў. Я ў гэта веру і таму не баюся таго, што са мной адбудзецца.

Скончыўшы свой аповед, арыштаваны перавёў погляд на свечку, што гарэла на стале і ўжо амаль дагарала. Лінёў і ўсе астатнія маўчалі, не спускаючы з арыштаванага вачэй.

Зноў загучаў нечакана акрэплы голас Гадава:

— Я расказаў вам толькі агульную схему дарогі, па якой ішоў. Падзей, прыгод, сітуацый у мяне — не злічыць. Але што аб гэтым гаварыць, — ён змоўк, уздыхнуў і махнуў рукой. — Разумны з разумным доўга не гаворыць. Ці не так?

Прысутныя надта былі здзіўлены пачутым. Асабліва Косця. Успомніўся Кляновік і ўсё, што з ім было звязана: «Можа, з-за гэтага царскага служакі Гадава ён і пацярпеў? Здраднікам палічылі? Недарэчнасць нейкая, але хіба мала гэтых недарэчнасцей у жыцці? Часам можна падумаць, што яно з адных іх і складаецца. Не паверылі, што столькі разоў можна сустракацца выпадкова. Але, гад, ішоў след у след. Кляновік — Кляновік! Усё жыццё змагаўся, за нашу справу змагаўся, і сам яе ахвярай стаў. Як, зрэшты, і я…»

Гадаў сядзеў натапырыўшыся, надзьмуўшы губы. Лінёў, нібы пра нешта раптам успомніў, устаў, падскочыў да яго і рвануў на ім кашулю, агаліўшы плечы.

— Есць! — крыкнуў ён і паказаў на цемнаватую метку, што віднелася на правым плячы. — Тады, у 1919 годзе, я залішне ўправа ўзяў, таму ты і ўцёк, сволач!

Гадаў схамянуўся ад нечаканасці, яшчэ больш налілася чырванню пляма на левай шчацэ.

— Гэта вы тады стралялі?

— Я, — адказаў Лінёў.

Для Гадава гэта адказ прагучаў як стрэл. Ён неяк адразу абмяк, твар страціў былую ўпэўненасць, ён цяжка ўздыхнуў, апусціў галаву. Але гэта доўжылася адно імгненне, «перабежчык» стукнуў сябе далонню па ілбе, як бы нешта ўспомніў і зноў павесялеў, прапанаваўшы новую гісторыю. Аднак слухаць яго ўжо не хацелася. Відаць было, што ён, хоць і казаў, што не баіцца смерці і гатовы яе прыняць, на нешта ўсё ж такі спадзяецца, чагосьці настойліва чакае. Больш таго, адчувалася, што ён і сёння здольны на любыя выхадкі і нешта тоіць.

За дзвярыма пачуліся галасы. Відаць, нешта здарылася. Нечакана дзверы ў зямлянку расчыніліся і ўбег дзяжурны, спяшаючыся, далажыў, што з боку Камянца ў напрамку лагера рухаюцца немцы. Пачуўшы гэта, арыштаваны прыкметна пажвавеў, нават прыўстаў з калоды, на якой сядзеў.

— Пан Гадаў! — выразна, нават неяк урачыста, вымавіў Лінёў, дастаючы з кабуры маўзер. — Пакінь сваю задуму! За чвэрць стагоддзя, пакуль ты бадзяўся па Еўропе, я навучыўся страляць без промаху!

З паўднёвага боку раз-пораз чуўся прыглушаны рокат матораў, абазначылася кулямётная чарга. Гэта гітлераўцы рваліся на выручку свайго агента. Гарланаў спешна пакінуў зямлянку. Гадаў быў узбуджаны. Ён раптам з усёй сілы шпурнуў ў твар Лінёва кепку, якую трымаў у руках і, сарваўшыся з месца, ударыў Косцю нагой у жывот і ўслед за Гарланавым кінуўся да дзвярэй. Можа б і ўцёк, але ў тую ж секунду раздаўся стрэл, і Гадаў, быццам спатыкнуўшыся, пачаў марудна асядаць на дол, потым перавярнуўся на спіну. На твары, як пячатка з пропускам на той свет, застыла грымаса пагарды і нянавісці. Косця зірнуў на Афінагенава, потым на Лінёва. Ён таксама быў узбуджаны, з дула маўзера тоненькім струменьчыкам віўся дымок.

Трэба было ўступаць у бой.

## XV

На гэты раз ад карнікаў удалося адбіцца. Маёр Лінёў і яго людзі перабазіраваліся ў іншае месца, пакінуўшы ў атрадзе Афінагенава, які працягваў працаваць па лініі палкоўніка Сцяпана.

Неяк ужо вечарэла, Афінагенаў паклікаў да сябе ў зямлянку Свісціяна. Той з’явіўся, здаўшы, па патрабаванні ардынарца, зброю пры ўваходзе, атузаў полы кажушка. Далажыў, рыпнуўшы ботамі:

— Таварыш упаўнаважаны, радавы Гунько па вашым загадзе прыйшоў!

— Не прыйшоў, а з’явіўся! — паправіў яго Афінагенаў, зірнуўшы на цёмныя калматыя бровы, што навісалі над Свісціянавымі вачыма, а потым перавёў погляд на яго боты, хромавыя, са скрыпам, з халявамі гармонікамі.

— Ну, як ваюеш, таварыш Гунько? — першае, пра што спытаў упаўнаважаны, пачаўшы, як водзіцца, здалёк.

Свісціян некаторы час моўчкі паглядаў сабе пад ногі, на боты, затым, зірнуўшы кудысьці ўбок, адказаў:

— Я ваюю па-народнаму, па-мужыцку, як умею. На жалезку хадзіў. «Васточнікі», магчыма, мною не задаволены, пасміхаюцца…

— Не звяртай увагі.

— А я і не звяртаю. Вяскоўцы таксама валяць на нас з Маркелам мох і балота, не любяць, калі папросіш у іх што. А хіба я для сябе стараюся?! Я для атрада стараюся. Кажух — гэта самая партызанская адзежа, тое, што трэба.

— Да вы сядайце!

Свісціян моўчкі прысеў на столак ля стала. Яны закурылі. Упаўнаважаны спачатку прыкурыў цыгарку сам, потым даў прыкурыць госцю і доўга трымаў у руцэ дагараўшую запалку, пакуль яна не абпякла пальцы, тады кінуў на дол. Вытрымаўшы паўзу, пачаў гаварыць:

— Мы не маралісты, мы дзела павінны дзелаць.

— Угу, — няўцямна прамармытаў суразмоўца.

— Тое, што ты ўзяў у нейкага кулака кажух, — гэтага, дарагі таварыш, яшчэ мала. Гэта ўсяго ліш адзежда. Адзежда, каб укрыцца ў лясу.

Свісціян намагаўся зразумець, куды хіліць начальства, і не мог.

— Я чаму, собственна гавара, пазваў вас і задаю вам гэтае пытанне? У сваёй рабоце мы павінны ўлічваць буквальна ўсё: і «жалезку», і засады, і гаспадарчае забяспечэнне, і многае іншае, што служыць нашай перамозе над ворагам.

Апроч таго, каб вы ведалі, штаб таварыша Панамарэнкі ў Маскве паставіў перад намі адказную задачу ліквідацыі ўстаноў гміннай адміністрацыі і, зразумела, працуючых там служачых разам з сем'ямі. Не трэба шкадаваць здраднікаў нашай савецкай Родзіны. Гэта адносіцца таксама і да солтысаў, вучыцялей, якія працуюць у новаадкрытых школах.

Ёсць адна справа… Ёсць указанне, вам я пад сакрэтам скажу, пашарсціць кое-каго. — Упаўнаважаны зноў закурыў цыгарэту, пачаставаў Свісціяна. — Указанне цвёрдае, — працягваў ён. — У іншых мястах таварышы ўжо шарсцяць, а мы запаздываем. Зверху ёсць папрокі і ўказанні, што мы недастаткова ліквідуем прыхвасняў! Прадацелей нада ўбіраць! Прадацелей і халуёў.

Свісціян нарэшце пачаў цяміць, пра што ідзе гаворка, і зрабіў моцную зацяжку цыгаркай, удыхнуўшы ў сябе яе пал.

— Здраднікаў, ліха яго матары, шмат! — згадзіўся ён, выдыхнуўшы дым. — У кожнай вёсцы ёсць солтыс, і працуе ён на немцаў! Кантыгент з людзей спаганяе! Немцам дапамагае!

— Я не толькі пра солтысаў кажу, якія паводзяць сябе вельмі дрэнна, выдаюць савецкіх актывістаў, сувязных. Я маю на ўвазе шырэй. Паслугачоў у немцаў многа. Наш антыфашысцкі камітэт навёў спраўкі. Інфармацыю мы імеем. Афінагенаў кончыкам мізінца скінуў попел з цыгаркі. — Вот за Ратайчыцамі на хутары — гэтае места вам, думаю, вядома — пражывае нехта Аўстрыец.

— А я яго ведаю.

— Тым больш.

Аўстрыйца ведала ўся акруга. Мянушка была ў яго не выпадковая, бо па нацыянальнасці гэты чалавек і сапраўды быў аўстрыйцам і застаўся ў Ратайчыцах яшчэ з 1918 года, з той вайны, калі тут знаходзіліся аўстрыйскія салдаты, раскватараваныя на пастой па хатах мясцовых жыхароў. Аўстрыец закахаўся ў гаспадарову дачку і, калі наспеў час вяртацца дадому, застаўся са сваёй прыгажуняй і ажаніўся з ёй. Працавалі на гаспадарцы і нажылі чацвёра дзяцей.

— Цяпер ён за фурмана ў Мандрашчака, — праінфармаваў Свісціян.

— Трэба паглядзець, што за птушка.

— Паслухач! Усё жыццё некага вазіў. Раней, пры Польшчы, заўсёды вазіў войта. Тады кагосьці яшчэ. А цяпер камісара на брычцы катае! Тоўстага Люльку.

— Дакаціўся! — Афінагенаў з размаху пляснуў далонню па стале. — Здрадніцтва — страшная рэч!

— Забіць гада!

— А вы падумайце, пакумекайце!

Відаць было, як унутры ў Свісціяна адбыўся нейкі ўскалых, і ён неспакойна заёрзаў на сваім столаку.

— Вот, таварыш Гунько, па гэтай справе я вас і пазваў. Вы чалавек ідэйны, адным словам, наш. Расстаноўку класавых сіл ведаеце. З прадажнікамі цырымоніцца нельга. Прадацялей нада неатлагацельна пускаць у расход. Пулю ў лоб і ўсё!

— Я не прамажу, — упэўнена паабяцаў Свісціян, і на яго твары ўсталявалася пагрозлівая ўсмешка. — І рука не дрогне!

— Будзь асцярожны! Дзейнічаць трэба ноччу.

«Не вучы рыбу плаваць!» — падумаў Свісціян, але прамаўчаў.

— Ноччу, — зноў паўтарыў упаўнаважаны.

— Знаю. Я Маркела вазьму з сабой. Удвух!

— А гэта яшчэ лепш.

— Там яшчэ адзін ёсць, у Прусцы, хата з краю стаіць, ля гасцінца.

— Хто?

— Платонаў Васіль.

— Гэтага не трогай.

— Ён жа зямлю ад немцаў атрымаў!

— Я сказаў! — упаўнаважаны выразна паглядзеў на свайго падапечнага.

— Зразумела.

— Добра. Дваццаць мінут вам на зборы, і неадкладна сюды да мяне! І боты пераабуй! Нашто ў лясу скрып?

Свісціян шустра падхапіўся, нязграбна павярнуўся і выйшаў з зямлянкі. Знайшоў Грышку і памяняўся з ім ботамі. Грышка ахвотна пайшоў на абмен, бо Свісціянавы боты былі хромавыя і куды лепшыя, чым у яго, амаль новыя. Маркела знайшоў у каменданцкім узводзе. Напарнік ляжаў на нарах іназіраў, як сябры гуляюць у карты. Карты зашмальцаваныя дарэшты, і ўжо не разабраць нават голых жанчын, якія на іх намаляваны.

— Ну, хопіць бокі адлежваць!

Маркел адарваў погляд ад стала з картамі і зірнуў на Свісціяна, які здаўся яму нейкім надта засяроджаным і набураным. Не ўтрымаўся, каб не пажартаваць:

— Што гэта ў цябе за выгляд, нібы курэй краў?

Свісціяну гэта не спадабалася.

— Збірайся! Афінаген выклікае! — абсек ён напарніка, грозна шморгнуўшы носам.

Маркел споўз з нараў, нацягнуў на ногі боты, апрануўся. Насунуў на галаву шапку. Свісціян зрабіў яму заўвагу:

— Ты, дарагі, злоўжываеш картамі і нарамі!

— У якім сэнсе? — не зразумеў Маркел.

— Доўга спіш. Калі так будзеш спаць, дык і вайна скончыцца.

— Дык чым блага?

— Без медаля застанешся.

Сябар уздыхнуў, не надта, відаць, спадзеючыся атрымаць медаль.

— Яе вазьмі! — Свісціян паказаў на прыслоненую да сцяны вінтоўку. Гэта была Свісціянава СВТ, якую ён падарыў сябру пасля таго, як сам займеў з дапамогай Гарланава аўтамат ППШ.

Сябар прыхапіў вінтоўку, і яны пакінулі зямлянку. Гульцы праводзілі іх запытальнымі позіркамі. Па дарозе Свісціян расказаў напарніку, што ім даручаецца, і той адразу заныў: «Нялёгкая гэта справа, ох, нялёгкая!»

Упаўнаважаны ўжо чакаў іх, стоячы пасярод зямлянкі.

— Прывядзіце сябе ў парадак! — загадаў ён, калі яны пасталі ля парога. — Каўняры зашпіліце! Дысцыпліна абавязковая для ўсіх і ва ўсім. Тым больш перад такім сур'ёзным заданнем, якое вам даручаецца. Партызану нельга быць расхрыстаным да пупа!

Растлумачыў важнасць задання, якое яны павінны былі выканаць. Яшчэ раз прыдзірлівым позіркам абвёў аднаго і другога.

— Усё зразумела?

— Так точна! — адрэзаў Свісціян.

— Пытанні ёсць?

— Няма, — зноў адказаў Свісціян.

Упаўнаважаны падышоў бліжэй і скамандаваў:

— Раўняйсь! Смірна! Напра-ва! Група для выканання прыгавору антыфашысцкага камітэта, шагам марш!

І яны пайшлі. Спачатку тупалі страявым крокам, а потым перайшлі на звычайны. Напрамак узялі на Каленкавічы, а далей праз Русілы і Перкавічы на Царкоўнікі.

— А ты ўжо па-вайсковаму навучыўся! — звяртаючыся да сябра, адзначыў Маркел.

— Што ты маеш на ўвазе?

— Чотка адказваеш: «Так точна!» Раней не ўмеў.

— Вось і ты вучыся!

— Мне, Свісціянка, цяжка гэта ўсё адразу ўцяміць…

— Бо дурань. Вучыся! Варушы мазгамі!

Ішлі, трымаючыся напрамку, не блудзілі, бо мясцовасць ведалі. Ішлі лесам, але не абыходзілі і палі. Даспявала ярына — пшаніца, ячмень, авёс. У адным месцы наткнуліся на нязжатую палоску жыта. Панікла бялелі жытнёвыя каласы, стаміўшыся чакаць гаспадара.

— Глядзі ты, — кіўнуў галавой Маркел, — забыўся ці што?

— Памёр, напэўна, або забілі — адно з двух, — упэўнена сказаў Свісціян.

— Вайна! — разважаў сябар.

У паветры адчувалася парнасць. Месяц знаходзіўся ў фазе ветаху і праменіўся нямоцным адлюстраваным святлом. Над зямлёй узнімаліся белаватыя слупы туману, асветленыя ступленымі рожкамі месяца. Недзе ў тумане, у зялёнай асацэ, на ўсю моц крычалі драчы.

— Эх, надаела блыкацца па лесе, — уздыхнуў Маркел, папраўляючы на плячы вінтоўку.

— Нічога, — супакоіў яго сябар, — можа, калі медаля дадуць.

— Дадуць, дагоняць і яшчэ дадуць. — Маркел, па ўсім відаць, у гэтым пытанні быў скептыкам.

Ішлі ўсю ноч, пакуль прыйшлі ў Свішчоўскі лес. Зрэшты, летняя ноч кароткая, не заўважылі, як пачало світаць, як пагаслі і без таго бледныя зоркі і зашчабятала птаства. Да каленяў і вышэй вымаклі ў расе. Ранішні, перад-

світальны вецер прайшоў па вершалінах дрэў, ад камлёў цягнула холадам. Маркел зябка пацепваў плячыма. Спакваля аднак цяплела, падсыхала раса, па ранішняй траве, па яшчэ санлівых кветках разлівалася жыццё. Заззяла нарэшце ранішняе сонца, і ноч канчаткова ператварылася ў дзень.

Напароліся на зараснікі мядзведжага малінніку, паласаваліся спелымі ягадамі, пагрызлі прыхопленыя з сабою сухары. Днявалі ў карчах, зашыўшыся ў самы гушчар, у зарасніку папараці. Побач ляжала струхлелая калода паваленага дрэва, ружавелі верасы, зелянеў мох, па ім слалася дзераза. Пах дурнап'яну казытаў ноздры.

— Да нас тут, мусіць, барсук кватараваў, — такое меркаванне выказаў Свісціян, прынюхваючыся, — па паху чую.

— Можа, і барсук, — няпэўна адказаў Маркел, — а можа, мядзведзь. Каб з мядзведзем побач не легчы…

— Дурань! Адкуль тут мядзведзю быць?

— А хіба не бачыш, колькі тут малінніку. Гэта ж ён для сябе насадзіў, для сябе нагадаваў! Мядзведзь разумны, як і чалавек, а можа, яшчэ і хітрэйшы.

Спінай да спіны, не здымаючы кажушкоў, яны і паснулі.

Прачнуўшыся, Свісціян шморгнуў носам і доўга глядзеў на куст каліны, на якім сядзелі дзве сарокі і дзяўблі чырвоныя ягады. У вечаровым паветры слупом таўкліся рудыя мошкі. Чутно было, як у траве, з якой віднеліся кудзеркі лугавога кіпрэю, цвіркочуць конікі. Пара было паднімацца, але не хацелася, і ісці не хацелася — ні туды, куды яны ішлі, ні куды-небудзь яшчэ. Адпачынак размарыў. Свісціян раскінуў пацерплыя пасля сну рукі, пацягнуўся, адчуў, як у далонях запульсавала кроў.

— Ну што, ліха яго матары, пайшлі?

— Пайшлі, — уздыхнуў Маркел, які пра нешта думаў, клычачы ў зубах звялую травінку. — Вось толькі пераабуюся.

Ён зняў боты і зноў абуўся, параматаўшы анучы. З прывалу зняліся, як толькі змерклася.

— Нялёгкая гэта справа, ох, нялёгкая, — зноў заныў Маркел.

— Не расслабляйся!

Адсюль да мэты заставалася кіламетры тры — тры з паловай, не болей. Маркел, нібы нешта прадчуваючы, пахітаў галавой:

— Увязаліся мы з табой у гэтае дзела…

Свісціян нічога не адказаў, толькі незадаволена чмыхнуў шырокімі ноздрамі. Ішлі, непакоячы маладых жабак, якія, ратуючыся, нечакана выскоквалі з-пад ног. Але вось лес застаўся ззаду. Дол нібы апусціўся ўніз, і яны пайшлі поплавам. Недзе ля ракі рыкалі каровы. Да хаты Аўстрыйца, што стаяла якраз на поплаве, воддаль ад вёскі, падышлі, калі зусім сцямнела. Пачакалі на выспе ў кустах, прыслухаліся. Пахмурная ноч ахінула іх сваёй цёмнай, мяккай, як вата, прасторай. Цішыня. Нерухома стаяў, ледзь падняўшыся ад зямлі, туман, за якім віднелася сенажаць, купы вербалозу і алешніку. Тут пачыналася даліна Лосьны. Веяла начной прахаладай. З аграмаднага цёмна-сіняга купала неба ціха ззялі месяц і немігатлівыя зоркі.

Яны нічым не выдавалі свайго месцазнаходжання, а толькі слухалі. Недзе ў хляве жаласна бляялі авечкі. Можна было адрозніць тонкія галасы ягнят. Потым у хлеўчуку загагалі гусі. «Гусей мае!» — невядома чаму здзівіўся Свісціян. У хаце свяцілася акно. Значыць, яшчэ не спалі, заканчвалі дзённыя клопаты. Свісціян адвёў назад затвор аўтамата.

Да хаты наблізіліся з боку агарода, зазірнулі ў акно. Цьмяна гарэла лямпа, падвешаная да столі. Гэта была кухня. Побач з печчу стаяў стол, за якім,

спінаю да акна, сядзеў Аўстрыец і вячэраў. «Вось і наступіў для цябе судны час! — падумаў Свісціян. — Гэтак, відаць, распарадзіўся лёс. Нічога не зробіш, тут — хто каго». Сталі чакаць, калі ён скончыць вячэру. Час цягнуўся доўга, і яны не вытрымалі, рушылі ў хату. Дзверы аказаліся не зачыненымі, таму ўдвух, без перашкод, зайшлі ў сені, адтуль, намацаўшы дрыготкімі рукамі клямку, — на кухню. Аўстрыец усё яшчэ вячэраў, сёрбаў з міскі кіслае малако. Не данёсшы лыжкі да рота, здзіўлена і недаўменна паглядзеў на ўвайшоўшых.

— Пайшлі з намі! — уладна, без прадмоў, загадаў Свісціян. — На двор! Ну! Выходзі!

Чалавека, відаць было, ахапіў страх, ён увесь дробна закалаціўся, але, як ні дзіўна, працягваў сядзець і сёрбаць лыжкай вячэру. Ад страху ён нічога не цяміў і рабіў зусім не тое, што яму загадвалі, а можа, і самога загаду не чуў. «А-а-а, давячэраеш на тым свеце», — падумаў Свісціян, і з яго аўтамата палыхнуў агонь. Усё навокал затрашчала, нібы падала падсечанае дрэва. Прашыты аўтаматнай чаргой Аўстрыец на імгненне знерухомеў, а потым тварам і грудзьмі грузна абваліўся на стол, перавярнуўшы міску з кіслым малаком. Гняўліва, абурана захроп і моўчкі, усім целам, як мяшок, абрынуўся на падлогу. Пад ім адразу ж расплылася па маснічынах цёмная лужына.

— Як з бочкі, ажно забулькатала, — абмахваючыся ад дыму, прамовіў, нібы пракаменціраваў Маркел.

Раптоўна расчыніліся дзверы і ў кухню з крыкам і віскатам ускочыла, сарваўшыся, відаць, з пасцелі, жанчына ў адной сарочцы і залямантавала колькі было сіл:

— Ай-яй-яй! Ратуйце! Забіва-аюць!

Каля яе цісnuліся, трымаючыся за матчын падол, напалоханыя дзеці, іх было трое. Свісціян, не разважаючы, зноў націснуў на кручок. Жанчына спрабавала бараніцца, выставіла перад сабой рукі, хацела затуліць сабою дзяцей, але кулі прымусілі яе са стогнам асунуцца на дол. Побач з ёю, як падкошаныя каласкі, пападалі і дзеці, не ўцяміўшы нават, што ж гэта такое адбываецца. Пераступіўшы праз забітых, Свісціян сунуўся ў дзверы, дзе была спальня. Азірнуўся і ў лямпавым святле ўбачыў на ложку малое. Дзіця, лежачы на спінцы, перабірала сваімі тоўсценькімі крываватымі ножкамі і круціла галоўкай. Свісціян і тут доўга не думаў, нават, можна сказаць, і зусім не думаў, а як нейкі робат наставіў аўтамат і пырнуў чаргой у бок ложка.

Маркел стаяў на кухні, бачыў усё і такога, пэўна, не чакаў, яго ўсяго працяў страх, усё ў ім дрыжэла і калацілася. І раптам яму нібы штосьці стукнула ў галаву, ён ударыў прыкладам па лямпе, і памяшканне адразу ж налілося густой, як дзёгаць, цемрай.

— Ты што, ядрона вош! Ачумеў ці што? Ад дыму ўчадзеў? — скрыгатнуў зубамі Свісціян. — Зараз я і цябе, сука, урою! — Памкнуўся ў Маркелаў бок, але зачапіўся нагою за труп, за адзін, потым за другі, і са здзіўленнем падумаў, што ніхто чамусьці не стогне. «Забітыя ці прытварыліся? У цемрыве доўга блытаўся, не адразу змог адшукаць дзверы. Вочы засціў крывавы туман. Вадзіў рукамі па сценах, намацваў дзверы, умакрэў увесь, з ілба сыпаліся буйныя кроплі поту. Гукаў Маркела, але той кудысьці знік ці затаіўся. Становішча здалося яму безвыходным у самым прамым сэнсе гэтага слова. Нарэшце ён усё ж такі выбавіўся з гэтага хатняга лабірынту, выпаўз на падворак і, разгледзеўшыся, убачыў напарніка, які ўспёрся на плот і сутаргава курчыўся, перагінаючыся на другі бок. Відаць было, што яго ванітавала.

— Усіх? — спытаў Маркел, павярнуўшыся да Свісціяна. — Ну, ашалеў…

— А ты што? Хочаш, каб яна потым расказала? Ты гэтага хочаш? Гэтага? Ты…

— Не шалей!

— Я ўсё магу!..

Свісціяна ўсяго ажно калаціла, голас дрыжэў. Напалоханы Маркел, каб яшчэ горай не было, прамаўчаў, нічога не адказаў, ён таксама не мог супакоіцца, трымцелі рукі.

— Шкадуеш? — Свісціян скрыгатнуў зубамі.

— А хто яго ведае, як яно яшчэ павернецца.

— Ты часам такое вякнеш, ажно слухаць праціўна! Літасці захацеў!.. Ды хай загіне два невінаватых, у канцы канцоў, чым адзін здраднік у жывых застанецца! Я, браце, адважны да шаленства! А можа, ён Палагу маю забіваў?! — Свісціян адхаркаўся і гучна сплюнуў. Паглядзеў на Маркела і крыху апрытомнеў. Хацеў сказаць: «Балдавешка ты дурная! Сядзіш на маёй шыі!» Але змоўчаў, стрымаўся.

— Але ў цябе і нервы! — цяжка сапучы, здзіўлена пахітаў галавой Маркел. — Не нервы, а канапляныя вяроўкі…

— А ў цябе што? Здалі? Хлюпік! — Свісціян зноў крэпка вылаяўся. — Калоцішся, як з калодзежа вылезшы…

Марудзіць нельга, пара было «рабіць ногі», знікаць. Але нешта на момант прымусіла яго сцішыцца. Плячыма і патыліцай ён раптам выразна адчуў, што за ім нехта ўважліва сочыць, назірае, не адрываючы вачэй. Ён рэзка павярнуўся назад і ўбачыў кагосьці, хто, не тоячыся, на ўвесь рост, стаяў усяго ў некалькіх кроках ад яго, за плотам. Свісціян, доўга не думаючы, зноў пацягнуў за кручок, але стрэлу не атрымалася. Дыск быў пусты, усе патроны выдаткаваныя. Незнаёмец не зварухнуўся, не зрушыўся з месца. «Пудзіла!» — нарэшце скеміў Свісціян і хацеў зарагатаць са сваёй памылкі, але смеху не атрымалася. Апусціў ППШ дуламданізу. «Аўстрыец, сабака, паставіў! Настрашыць хацеў!..» Прывычным рухам закінуў аўтамат за плечы.

— Ну, хопіць бляваць, пайшлі! — груба скамандаваў напарніку і самому сабе. Маркелаў панічны жах перадаўся, відаць, і яму, як Свісціян ні храбрыўся і ні адганяў страх ад сябе.

Яны пайшлі.

— Аж мароз па скуры працяў, — дрыжачым голасам прызнаўся Маркел. — Зубы застукалі…

— А ты не бойся! Свет, ліха яго матары, не варты таго, каб з ім надта цырымоніцца ды чыкацца. Лепш хай цябе баяцца! — Ён перавёў дыханне і змоўк.

Вярталіся тым жа шляхам. Ішлі подбегам, не спыняючыся. Баяліся пагоні — жандараў з сабакамі. Блыталі сляды, калі пераходзілі рэчкі.

— Пудлівы ты надта! — яшчэ раз упікнуў Свісціян напарніка і супакоіў сябе. А потым зноў захваляваўся: «Пудлівы, — адзначыў у думках, — і ўсё бачыў. Лішні сведка! А нашто лішні сведка?..» Але на гэтым думкі прыпыніліся.

Вярнуўшыся, далажылі аб выкананні задання.

## XVI

Лета канала на вачах, у чарговы раз саступаючы ўладу восені. Як заўсёды, жаўцела і пачынала ападаць лісце на дрэвах. Сарвецца з галінкі ліст і ляціць чаранком уніз. Вось адзін упаў, упаў з ціхім жалобным звонам, за ім упадзе другі, але каторы будзе гэтым другім — невядома. Знешне Пруска выглядала як звычайна ў гэтую пару, але дыхала неспакойна, напружана.

Напрадвесні забралі на работу ў Германію Цімошаву Параску і Відэркавага Колю. З Бранавіч паехаў Сенька — сын Барбары, Лявонавай сястры. Хартон, яго бацька, спрабаваў тлумачыць: «Ён жа работнік у нас адзіны, як я без яго кантыгент выплачваць буду?» «Паможам!» — рагаталі паліцаі, што забіралі хлопца. Цяпер ад Сенькі ні слыху, ні дыху. Людзі жылі ў страху і ў паняверцы, баяліся і немцаў з паліцаямі, і іншых начных гасцей, — таго ж Свісціяна, што валацужнічаў па наваколлі. Трагедыя з сям'ёй Аўстрыйца атрымала вельмі шырокі розгалас, хаця не ўсе ведалі, хто гэта зрабіў і хто таму віною. Солтыс Хрысан шчыра выконваў свае абавязкі, чуйна сачыў за настроямі падапечных. Атрымліваючы акупацыйныя газеты, чытаў іх на вясковых сходках і пасядзеньках. У іх гаварылася пра неадольную магутнасць нямецкай арміі і яе пераможны наступ на ўсход.

Звычайна гэта была тыднёвая газета «Новая дарога», якая выдавалася з 1942 года ў Беластоку пад рэдактарствам нейкага Хведара Ільяшэвіча. «Запісвайцеся ў 30-ю дабравольную беларускую кавалерыйскую дывізію «СС»! Вас чакае хвала і слава!» — заклікала газета. Газета змяшчала аб'явы пра асобаў, якіх шукала паліцыя. Сярод такіх было прозвішча Севасцьяна Гунькі з Алешкавіч. Правіннасць яго — тлумачыла газета — была ў тым, што ён займаўся кантрабандай і нелегальна пераходзіў мяжу. За звесткі пра яго месцазнаходжанне абяцалася ўзнагарода пяцьсот марак.

— Дык гэта Свісціян! — чамусьці ўзрадаваўся Гамон.

Усе ведалі, што Свісціяна ўзялі да сябе партызаны. Ахрэм Чапёрка нібы запэўніў:

— Яго не зловіш.

— Дзе ж ты яго ноччу зловіш! — пагадзіўся Мікіта.

Пасядзенькі прускаўскіх мужчын адбываліся часцей за ўсё ў хаце Мікіты Галёнкі. Пахілая Галёнкава хата — у цэнтры вёскі, і тут, паводле даўняй завядзёнкі, часцей за ўсё збіраліся прускаўскія мужчыны. Абмяркоўваліся важныя падзеі і здарэнні ў ваколіцы, у адкрытых размовах каменціраваліся матэрыялы з газет. Пры гэтым зазвычай шмат курылі, і хата літаральна раздзімалася ад тытунёвага дыму.

— Цікава, хто каго — Гітлер Сталіна ці Сталін Гітлера, — варушыў тоўстымі вуснамі Апанас Хомка. — За кім жа верх будзе?

Адназначнага адказу на гэтае пытанне ні ў кога не было.

— Марыканцы хочуць другі фронт зрабіць, — дыхнуў густым дымам Мікіта, адняўшы ад рота цыгарку, — але, пэўна, не надта спяшаюцца, бо каму хочацца свой лоб падстаўляць.

— Дзіва што! — глыбакадумна адзначыў Гамон, папраўляючы на галаве аблавушку, якую ён насіў і зімой і летам.

— Пабачым, — бурчэў асцярожны Міхаль Тупчык.

— Усё можа быць, — сказаў Мілецій, як заўсёды, не патлумачыўшы таго, што ён мае на ўвазе.

Аднойчы — гэта было ў жніўні — прыйшоў солтыс і, як звычайна, прынёс газету. Гэта была ўсё тая ж «Новая дарога». Разгарнуўшы і ўткнуўшыся ў яе носам, стаў па складах чытаць артыкул пад назвай «Вайна», змешчаны на першай старонцы.

— «*У выніку вялікіх стратаў, панесеных бальшавікамі ў апошнім часе на ўсіх адрэзках усходняга фронту ў людскіх і ваенных матэрыялах, бальшавіцкія атакі на пачатку мінулага тыдня значна аціхлі. Толькі апошнімі днямі ізноў разгарэліся заўзятыя баі, прычым у сектары Арла, на поўнач, усход і*

*паўдзённы захад ад горада, баі трываюць безупынна ад самага пачатку. Асабліва на паўдзённы захад ад Арла вораг кідае ў бой вялікія масы людскога і ваеннага матэрыялу. Аб заўзятасці бальшавіцкіх атакаў сведчыць тое, што на вельмі малым адрэзку фронту вораг кідае штодзень больш як сотню танкаў, спрабуючы тут зрабіць прарыў. У атаках прымае ўдзел таксама вялікая колькасць самалётаў. Нягледзячы на гэтыя заўзятыя атакі, нямецкія жаўнеры стаяць непарушна ў абароне і з дапамогай сваёй авіяцыі наносяць ворагу вялікія страты ў людзях і матэрыяле. Кожны дзень выводзіцца са строю не менш як 80 варожых танкаў. Цэлыя палкі бальшавіцкіх войскаў пад агнём немецкага аружжа гінуць да апошняга жаўнера. Вораг прабуе таксама безупынна наступаць на поўнач і на ўсход ад горада. Усе яго атакі і на гэтых адрэзках таксама разбіваюцца аб нямецкую абарону. Ужо 2 гады Арол знаходзіцца ў нямецкіх руках.*

*За мінулы тыдзень было знішчана на ўсходнім фронце 771 савецкі танк, 360 савецкіх самалётаў, акрамя таго здабыта шмат іншага ваеннага матэрыялу. Ад 5-га ліпеня, гэта значыць, ад пачатку баёў каля Арла знішчана 7 тысяч 110 савецкіх танкаў.*

*На Чорным моры адна нямецкая падводная лодка затапіла адзін варожы танкер на 7 тысяч (БРТ). У Фінскай затоцы нямецкія ваенна-марскія сілы затапілі адзін ваенны карабель.*

*Цяжкія баі на Сыцыліі прадаўжаюцца з неаслабнучай сілай…*»

Мужчыны слухалі і паціскалі плячыма. Глухаваты Мікіта часам перапытваў тое, што не дачуў. Курцы чакалі, калі Хрысан кончыць чытаць і дасць адарваць ад газеты па шматку паперы, каб згарнуць самакрутку. Закурыўшы, перакідаліся словамі.

— Глядзі ты! — здзівіўся Фэдар-японец.

— Відаць, прапаганда! — усумніўся нехта.

— Сказала баба бабе, што жаніўся бусел на жабе, — пажартаваў асмялелы Гамон, але ніхто пасля яго жарту не засмяяўся.

— Чагосьці трэба чакаць… — зацягнуўшыся дымам, быццам падвёў вынік разважлівы Павал Гальяш.

— Тут ёсць над чым падумаць, — дадаў сваё Хвядзюшка Шпунт.

Жанчыны маўчалі. Таіса — жонка Мікіты — увогуле істота маўклівая, але аціхла і не падавала голасу ўладная яе свякроў Аляксейчыха — маці Мікіты. Старая звычайна ўзнімала голас і ва ўсё ўмешвалася, рабіла заўвагі і прысуд, а цяпер моўчкі займалася хатнімі справамі.

Ноччу нехта павесіў на дошку аб'яў, што была прыбіта на таўшчэзнай ліпе насупраць Галёнкавай хаты, газету «ЗАРЯ». На раніцу сабраўся народ, газета зацікавіла ўсіх. Пад такой назвай выходзіла калісьці, да вайны, газета ў Брэсце. Цяпер яна была пазначана датай 11 ліпеня 1943 года. Побач стаяў нумар — 28. Газета пісала пра сучасныя рэчы. На першай старонцы Мікіта прачытаў заметку пра жыццё остарбайтэраў, як называлі іх немцы, у Германіі. Чытаў, па агульнай просьбе, уголас:

«*Нам удалось сбежать с фашистской каторги. Страшно становится, когда вспоминаешь, как мучают наших братьев и сестёр в рабовладельческой Германии. На каторгу нас везли в закрытых товарных вагонах. За все время пути получили всего лишь 5 раз горячую пищу. Когда приехали в Лейпциг, нас загнали в лагерь, обнесенный колючей проволокой. Жили здесь под открытым небом. На работу выводили ежедневно под охраной немецких солдат.*

*Работали по 12 часов в день под непрерывным понукиванием гитлеровских надсмотрщиков. За весь день тяжелого непосильного труда нельзя ни на одну минуту остановиться, чтобы хотя немного удалить усталость. Рабовладельцы зверски избивают обессилевших...*»

Крона на ліпе такая густая, што не давала прабіцца сонечнаму святлу, і разбіраць дробны шрыфт было нязручна, таму чытаў ён марудна, углядаючыся ў тэкст, час ад часу спатыкаючыся на асобных словах:

Яшчэ заметка пад назвай «Взорвали нефтебазу»:

«*Группа народных мстителей отряда проникла в город К. и взорвала там нефтебазу. В результате возникшего пожара сгорело 42 тонны бензина, 53 тонны керосина, 20 тонн автола и солидола*».

З другога боку быў змешчаны матэрыял «Огонь по машинам». Тут апісваліся дзеянні партызан, якія зрабілі засаду і знішчылі некалькі нямецкіх машын. У якасці трафеяў партызанам дасталіся: аўтамат, дзве вінтоўкі, гранаты і патроны.

Была з правага боку надрукавана і частушка, на беларускай мове:

Мчаўся, мчаўся ў Маскву
Гітлер з Герынгам пузатым.
А цяпер яшчэ хутчэй
Прэ ён зноў дахаты!

— Аднака! — баязліва павёў галавой Гамон. — Партызаны, выходзіць, дасаждаюць.

Побач зноў заметка па-руску, у ёй расказвалася пра падзеі ў Англіі:

«*В Англии выпущен новый тип транспортного самолета на 200 пассажиров. Заправка бензина — 23 тонны. Дальность полета — 6 тысяч километров...*»

Гэтую заметку Мікіта не дачытаў, бо падышоў Хрысан і, зразумеўшы, што да чаго, сарваў газету і пры ўсіх парваў. Мужчынам нічога не заставалася як разысціся.

* * *

Ахрэма Чапёрку хавалі ў сераду. Малады мужчына, нядаўна толькі трыццаць мінула. Араў, сеяў, як і ўсе. А цяпер ляжаў у труне, рослы, шыракаплечы, са складзенымі рукамі, у якіх гарэла грамнічная свечка, а ў чорнай чупрыне блытаўся сонечны прамень. А можа, таму і знайшла яго куля, што такі прыгожы — рослы ды шыракаплечы? Якога хілага, можа б, і не знайшла, пашкадавала...

Дамавіна стаяла ў новай хаце, якую Ахрэм паспеў паставіць замест дзедавай, старэнькай, перакошанай, але пажыць у новай хаце ў смак і не паспеў. Зімой жылі ў кухні, дзе стаяла печ, а летам адчынялі дзверы і ў святліцу.

Дамавіну паставілі ў святліцы. Народу поўна — і ў хаце, і вакол хаты. Быў чалавек і няма. Забілі жандары з паліцаямі, якія пастаянна палявалі на партызанаў.

— І пажыць як трэба не паспеў, — уздыхнула Фёкла, думаючы пра сваё і назіраючы, як на няшчыльна зачыненае нябожчыкава павека села муха, і

ўдава Жуфея адагнала яе ўзмахам рукі. Жуфея ціха ўсхліпвала, уздрыгваючы плячыма, па яе твары каціліся буйныя слёзы. Маладая ўдава. Яе сэрца дзяўбло няўпыннае гора. Ціха перашэптваліся жанчыны:

— Ой, у сырой зямельцы ляжаць будзе-е…

— Ну і ну! Хто б падумаў…

— А дзе цяпер спакойна? Нідзе, — колькі разоў паўтарыла Хомчыха. — Нідзе! Страляюць, паляць…

— Ахрэм, па-грэчаску, кажуць, здаравец. Здаравец — і на табе!

— Калі ўжо будзе канец гэтаму ўбіўству? — недаўменна хітала галавою суседка Хрысія. — Ой, людкове-е!..

У кутку, угнуўшы галаву, сядзела Амелія, спачуваючы родзічам і адначасова разлічваючы на ўдзел у памінальнай вячэры. Яна часта ўздыхала, пра нешта думала і нарэшце сказала:

— Мусіць, мужчыны ўсе загінуць у гэтай вайне.

Ніхто на гэта нічога не адказаў.

У хаце пахла хвояй і ладанам. Служыў паніхіду айцец Клаўдзій, і наконт ладану не паскупіўся, махаў кадзілам шырока і шчыра. Празрыстая аблачына блакітнага дыму паднялася ажно да столі.

Васіль Платонаў стаяў тут жа, у натоўпе, збянтэжаны. «А калі б партызаны забілі? Напэўна б, без папа хавалі…» — думаў ён. Ён жахаўся і перажываў яшчэ і таму, што на месцы Ахрэма з вялікай верагоднасцю мог быць ён.

…Калі сябры — Пятрусь Тысянчук, Сяргей Сталетнік, Арцік Каленік, Мікіта Галёнка, Оргій Ламака і Ахрэм Чапёрка — збіраліся ехаць у Зянькі, дык надта хацеў і ён, Васіль. Нядаўна гэта ўсё было — пазаўчора, а калі ўспомніць, дык дрыжыкі да пятак дастаюць. Гэта ж яны стаялі каля Галёнкавай хаты, пад ліпай, і гаманілі, дамаўляліся. Пятрусь Тысянчук жыў на хутары за ракою. Пацам прыходзіўся сваяком: родны брат жонкі Якава Арыстархавіча Хвядосі.

Падышоў, павітаўся Гамон.

— Здарова, кавалерка! — сказаў ён жартам, дзеля добрага настрою, бо кавалераў сярод іх не было, усе паспелі ажаніцца.

— Здарова, дзядзьку! — азваліся мужчыны. — Едзем з намі!

— Куды?

— У Зянькі.

— Гуляеце?

— А што нам!

— Мацакі! — пахваліў Гамон. — А я ўжо, таго, стараваты для вашай кампаніі.

У Зяньках можна было і пагуляць, тамтэйшая самагоншчыца Маланння толькі што, казалі, неблагой карчоўкі зварыла, так што можна было пакаштаваць. Карчоўка, праўда, толькі для адводу вачэй, — мужчыны ведалі, што ў Зяньках нярэдка нанач спыняліся партызаны, заходзілі на музыкі і можна было сустрэць знаёмых. Ведаў гэта і Васіль.

— Едзем з намі! — звярнуліся да яго мужчыны, калі ён падышоў да кампаніі.

«А можа, з Санькам Растатуевым пашанцуе ўбачыцца ці яшчэ з кім?» — мільгнула ў галаве, і ён падахвоціўся адразу:

— Едзем! Забягу толькі дадому, кажушок накіну, халаднавата…

Жнівеньскія ночы і сапраўды зябкія, а кажушок у прускаўцаў — адзенне універсальнае, насілі яго і зімой, і летам. Вось і Ахрэм у кажушку, і Мікіта, і ўсе іхнія кажушкі аднолькавыя — і на крой, і на колер, і на даўжыню.

Дома была Прося. Тузаючы калыску з малым Лёнікам, пачала плакаць, калі Васіль абвясціў пра намер ехаць у Зянькі. Цяпер гэта было небяспечна. На ложку сядзеў сумны Віталік і ўслед за маці таксама пачаў румзаць.

Дачуўшыся пра зборы мужчын ехаць у Зянькі і што хоча ехаць Вася, прыбегла запыханая Фёкла. Хустка збілася на патыліцу.

— Ну і што ты надумаў?! — спынілася каля сына. — Куды ты? Куды? Ты ведаеш, што можа быць?

— Ну а што тут такога? Еду з хлопцамі, пабуду ў Зяньках і вярнуся.

— От я зараз цябе трапкачом! — рашуча сказала Фёкла і зняла з цвіка стары, абтрапаны ручнік з кутасамі.

Васіль уздыхнуў і пасміхнуўся. «Ага, так ты мяне і ўтрымаеш!» — гаварылі яго вочы. Але ў матчыным паглядзе, звернутым на яго, ён адчуў нешта незвычайнае, нейкую ўтрапёнасць.

— Ой, ой, ой! — не аціхала Фёкла, заломваючы рукі і хапаючыся за галаву. Нядобрае прадчуванне нябачнымі кляшчамі сціскала яе сэрца, у вачах заіскрыліся расінкі слёз.

— Паеду! — стаяў на сваім сын.

Фёкла села ў сенях на парозе.

— Не пушчу!

— Вася! Ва-ася! — не сунімалася і Прося.

— Паеду!

— Не!

Калі Васіль наважыўся пераступіць парог, Фёкла ўхапіла яго за штаны, загаласіла:

— Не едзь!

Як ні рваўся, ён вымушаны быў саступіць, застацца. Адмовіліся ехаць Сяргей Сталетнік і Арцік Каленік.

Ахрэм таксама вагаўся, ехаць ці не. Жонка Жуфея была супраць, а Ламакава Барбара, як звычайна, незадаволеная, крычала на свайго Оргія:

— Ідзі, ідзі! Дурны Багдан! Каб ты назад не вярнуўся…

— Ну што, паедзеш з намі? — не адставалі сябры ад Ахрэма.

— І хочацца, і колецца, — апраўдваўся той, азіраючыся на жонку.

Ахрэм меў прыгожы голас і няблага спяваў.

— А нам якраз спевака не хапае. Каб песні спяваў! Гы-гы-гы!.. — жартаваў і насядаў Пецька.

Ахрэм сарваў ліпавы сэрцападобны пілаваты ліст, пакруціў у руцэ і раптам, ссунуўшы на патыліцу кепку, каб вецярок халадзіў лоб, заспяваў:

Три танкиста, три весёлых друга-а
Экипаж машины боевой!..

Звонка, задорна, смела палілася песня. Гэта азначала, што ён згадзіўся.

— Салавей! — пахваліў Галёнка, запрагаючы ў воз рудую сваю кабылу. — А дзе той Васіль? — спытаў ён.

— Маці, бачыў я, пабегла да яго, гэта, відаць, яна затрымала, — сказаў Ахрэм.

— Хто? — недачуў Мікіта.

— Фёкла.

Каб ведаў чалавек, дзе прытаілася бяда! Але ж не ведае. Так вось здарылася і на гэты раз. Не дачакаўшыся Васіля, яны селі на падводу і паехалі ўтрох. На небе запальваліся і ззялі сярэбраным святлом першыя зоркі, а на зямлі гусцела сутонне і ўшчыльняўся змрок. Параўняўшыся з моглiцамі, спусціліся

з Маркавай гары. Унізе віднеліся пахілыя вербы і пачыналася пойма Лосьны, да якой вёў даволі круты адкос, парослы алешнікам і вербалозам. Далей была затока, у якой стаяў Маркаў човен.

Партызаны гэтымі мясцінамі, здаралася, хадзілі, і немцы з паліцаямі, вядома, імкнуліся сачыць за іх рухам і месцазнаходжаннем. На гэты раз непадалёк ад Маркавага хутара, у кустах, зрабілі засаду, на якую і нарваліся прускаўскія мужчыны.

Мікіта Галёнка потым расказваў. Праехалі могліцы, з’ехалі са стромкай Маркавай гары. Абмінулі хутар, пакінуўшы яго ззаду. Наперадзе пад месячным святлом бялела дарога, блішчэў пясок. Бліжэй да дарогі грувасціліся лазовыя карчы, алешнік. Справа, над рачной поймай і кустоўем, нерухома стаяў туман, над якім узвышаліся постаці абгарэлых ад удараў маланкі вербаў.

Зрэдку перакідваліся словамі.

— Давай песню! — патрабавальна напомніў Пецька. Дастаў з кішэні некалькі яблыкаў і пачаставаў сяброў, якія пачалі іх смачна грызці.

Заспяваў Ахрэм не адразу. Даеў свой яблык і, магчыма, не хацеў парушаць начной цішыні, магчыма, пра штосьці задумаўся. Але набраў нарэшце поўныя грудзі паветра, прымружыў вочы, і палілася песня, тая, якую любілі спяваць прускаўскія мужчыны.

Собирались козаченьки-и
Рано утром на заре,
Думу думали большую-у
На колхозном на дворе…

Ахрэм лёгкім рухам рукі ссунуў на патыліцу кепку, з-пад якой завіваўся чорны чуб, і сам стаў крыху падобны на казака. Прыгожа лілася песня:

В колхозах хлеба полные амбары,
Привольно жить нам стало на Дону-у.
Эх, проливали кровь свою недаром
Мы на полях в гражданскую войну-у…

Стрэлы прагучалі на апошнім куплеце, нібы тыя, хто сядзеў у засадзе, у лазовых карчах, хацелі пачуць песню да канца.

Приезжай, товарищ Сталин,
Приезжай, отец родной…

Ахрэм зваліўся на дол, а кабыла пацягнула воз далей, збочыўшы ў поле. Падвода затарахцела на разорах.

Назаўтра, раннем, па загадзе ратайчыцкага амтскамісара, прускаўскія мужчыны павялі ў гміну коней: лепшых немцы адбіралі для вайсковых патрэб, якія ў іх пасля няўдач пад Курскам няспынна павялічваліся. Павялі, нічога не ведаючы аб тым, што здарылася з Ахрэмам. Васіля з аднавяскоўцамі не было, ён меўся весці каня ў наступны раз. Ратайчыцкі паліцай Дзем’янюк абвясціў прускаўцам: «Кацапа забілі!» Мужчыны маўчалі. Паліцай патлумачыў: «Былога начальніка пошты ў Ратайчыцах. Сам бачыў. Яго кажушок…» Ніхто не верыў, бо бачылі Васіля жывым, калі раніцой вялі коней каля яго хаты, але паліцаю не пярэчылі, маўчалі. Вярнуўшыся, пачулі галашэнне, галасілі ў Ахрэмавай хаце. Чуўся голас Жуфеі — Ахрэмавай жонкі:

— А Ахрэмчык мой! А што ж з табой зрабі-ілі?! Дужа мне будзе тошнenька, дужа мне будзе маркотненька, што цябе, салавеінька, з намі не будзе-е! Не чуць будзе шчабечучы! Адкуль я буду цябе спадзявацца? Адкуль дажыдацца-а?

Ахрэмка-Ахрэмка, ці чуеш ты, як я па табе плачу? Дзеці пла-ачуць… Ах, Божухна-Божа-а…

— Пацера наша вялікая-а! Пацера наша дарагая! — усхліпвалі жанчыны, спачуваючы суседцы.

— Ахрэма падстрэлілі, — разносілася сумная вестка па Прусцы, па іншых вёсках, па ваколіцы.

На Маркавым хутары чулі стрэлы ўначы і як затарахцела фурманка, але з хаты ніхто не выходзіў. Гаспадар — Маркаў сын Максім (стары Марка ўжо не злазіў з печы) выйшаў толькі пад раніцу. Ля адзінокай вярбы ляжаў чалавек. Максім пазнаў прускаўскага Ахрэма, які ляжаў, уткнуўшыся тварам у рукаў кажушка, з-пад левага боку расплылася па пяску цёмная пляма. Максім паведаміў жонцы ў Пруску.

Адпявалі Ахрэма ў царкве. Оргій Відэрка ўдарыў некалькі разоў у кавалак рэйкі, што цяпер вісеў на званіцы замест сапраўднага звона, які немцы забралі на пераплаўку для сваіх ваенных патрэб. Гук ад рэйкі слабы і дробны, не звон, а кашаль, і неўмагату і няўцям яму абвясціць пра завяршальны акт чалавечага лёсу. Ахрэма пахавалі, і відавочна было, што вініць у яго смерці нікога, апроч тых, хто яго забіў, не даводзілася. Хіба што адзін Хрысан прытрымліваўся іншай думкі.

— А нашто яму было ехаць у тыя Зянькі? — казаў ён, даводзячы, што нябожчык сам вінаваты ў тым, што адбылося. — Не трэба было гэтага рабіць.

## XVII

Скасілі ярыну — завяршылася жніво. Канец жніўня і верасень выдаліся цёплымі, аксамітнымі, але пасля гарачага лета лісце на вясковых дрэвах паспела ўжо грунтоўна пажоўкнуць. Звялае, знясіленае летняй гарачынёй, яно з ледзь чутным звонам валілася на зямлю. Пачарнела каліна — у верасні гронкі каліны чарнеюць. На агародзе жаўцелі гарбузы, схіляліся тварам да зямлі высокія сланечнікі.

У пачатку верасня прускаўскія жанкі ды дзяўчаты выбіралі лён, які звінеў сухімі галоўкамі, нагадваючы пра сваю спеласць. Яго вязалі ў снапкі і ставілі ў бабкі, каб сушыўся на ветрыку. З ільном шмат працы. Як падсушыцца, трэба звезці ў клуню, абмалаціць прачамі на таку, уручную, а потым везці да рачной затокі — мачыць. Затым ізноў сушыць, ламаць, церці, трапаць, часаць і, гэта ўжо зімою, прасці.

Гэтым займаліся Фёкла з Просяй. Лявон павёз у Ратайчыцы, на прыёмны пункт, кантыгент — зерне з новага ўраджаю. Здача кантыгенту (падатку) — справа абавязковая для кожнай сялянскай гаспадаркі. Ухіліцца — кара. Камісар Люльке асабіста спаганяў «кантыгент» і правяраў, каб у гаспадара не заставалася «лішняга» збожжа. Чакаць ад гэтага «прусака» літасці ці хаця б паблажкі не даводзілася. Солтыс Хрысан ужо абышоў усе хаты, кожны гаспадар атрымаў паперку, у якой значылася велічыня падатку. Ад Кужалёў — тры цэнтнеры збожжа, па колькасці ворнай зямлі.

Разам з Лявонам павезлі кантыгент Натолій — баптыст і Сяргей Сталетнік. Да Ратайчыцаў дарога не далёкая, усяго пяць кіламетраў, але вазакі селі, умасціліся на сваіх падводах, побач з мяшкамі. Седзячы на возе, лепш думаецца і лепш бачыцца дарога. Аб’ехалі сажалкі, ззаду застаўся мосцік цераз Плісу, каля Пана Яна дарога паварочвала ўправа. Жоўтым асеннім полымем

заняліся два каштаны каля крухмальні, побач з сажалкамі. Дрэвы магутныя, як дубы, якім не страшныя былі ні буры, ні навальніцы. З трэскам і почакам абвальваліся з іх на дол жалуды.

Восень сорак трэцяга года выдалася сухая і цёплая, дажджоў амаль не было. Стаяла пара бабінага лета. Тонкія ніці павуціння сумна серабрылі зямлю. З-за хмары, на просіні, выбліснула сонца, кінула промні на альтанку, у якой стаяў драўляны Пан Ян. З усіх бакоў яе абступалі кусты бэзу і чаромхі, расла ажына, да сцен прыпадаў дзікі вінаград. Побач чарнелі зараснікі глогу і шыпшыны, яны таксама нібы пасвятлелі. Галіны шыпшыны абсыпаны даспелымі жоўтымі ягадамі. Адчуўшы падтрымку ад сонца, абвітая пурпуровым вінаградным лісцем, альтанка ажыла і нават памаладзела. Ад яе самой нібы праменіліся святло, дабрыня і жыццёвыя спадзевы. Не так пахіла і сумна, як звычайна, выглядала з глыбіні гэтага збудавання меланхалічная постаць Пана Яна: пажвавеў крыху і сам святы, нават быццам крыху заўсміхаўся.

За хутарам Кучэўскага адкрываўся шырокі прасцяг поля. Стаяла ціш. Над іржышчам і папарамі падавала галасы вараннё. Потым ехалі праз паселішча палякаў-каланістаў, уздоўж платоў з прыбітых да жэрдак драўляных аполкаў. Ля платоў вытыркаліся сцябліны дзядоўніку з пасівелымі махрамі. Парадзела, ссохлася перыстае лісце ясеняў, што там-сям стаялі каля хат. Ад чарапічных дахаў адсвечвалі промні сонца. Пасярэдзіне сядзіб, паміж хатамі і гаспадарчымі пабудовамі, узносіліся ўверх драўляныя жардзіны громаадводаў. У параўнанні з прускаўскімі сядзібы палякаў-каланістаў выглядалі заможнымі.

Ратайчыцы былі ўжо блізка. Вёска — доўгая, у адну вуліцу. Невядома, за што гэтае паселішча аблюбавала адміністрацыя, але менавіта тут, змяняючы адна адну, месціліся воласць, гміна, сельсавет, затым ізноў гміна. Каля магазіна, дзе службоўцы важылі і прымалі кантыгент, ужо стаялі вазакі з іншых вёсак. Тут прускаўцы і пачулі гэтую навіну: застрэлілі амтскамісара Люльке. Ураджаныя мужчыны напалохана дзівіліся гэткаму неспадзяванаму здарэнню. Няўжо? Усемагутнага Люльку (так на мясцовы люд празваў амтскамісара) узялі ды застрэлілі. Толькі што Аўстрыйца з сям'ёй забілі, а цяпер ужо і да самога камісара дабраліся!

— І хто гэта? — не стрымаў цікавасці Сяргей.

Натолій, напалоханы Сяргеевым пытаннем, ад страху ажно сагнуўся. Лявону таксама стала не па сабе: ён ведаў, што залішняя цікавасць караецца. Але знайшоўся ў натоўпе хтосьці больш смелы. Калі службоўцаў побач не было, пачуўся чыйсьці голас:

— Туды яму і дарога, звер зверам быў.

— А як гэта здарылася? — паўтарыў сваё пытанне Сяргей. — Што адбылося?

Люльке — гэта ведалі ўсе — заўсёды знаходзіўся пад аховай і, як казалі, непахісна верыў, што яго мундзір мае магічную сілу. І вось — на табе!

Жыхары Ратайчыцаў ужо ведалі, як гэта адбылося. Амтскамісара застрэлілі савецкія лётчыкі. Пракідкі Юзік Занько з Трасцяніцы дазнаўся ад Фелікса Пыра нават аб падрабязнасцях. Юзік таксама прывёз жыта на здачу кантыгенту, ён і распавёў гэтую гісторыю.

…Над Брэстам немцы падбілі савецкі самалёт. Да гэтага часу савецкія сюды амаль не прыляталі, а з вясны 1943 года налёты на Брэст, на чыгуначную станцыю, сталі частымі — раз ці два на тыдзень, звычайна ноччу. Кожны раз гэта было нешта незвычайнае. Немцы ўключалі пражэктары, пускалі ракеты, адкрывалі зенітны агонь. Над горадам на працяглы час завісалі на спецыяльных парашутах асвятляльныя прыстасаванні, падобныя на аграмад-

ныя люстры, што залівалі ўвесь абшар зямлі пад сабой зеленавата-жоўтым святлом.

Пасядзенькі ў Мікіты Галёнкі доўжыліся да поўначы і за поўнач. У час такіх налётаў мужчыны выходзілі на вуліцу, каля Натоліевай ліпы збіралася ўся вёска, ніхто не спаў, глядзелі. Брэст — на поўдзень ад Прускі, калі напрамую, дык кіламетраў трыццаць — трыццаць пяць, не болей. Стаялі каля хаты падсолтыса Мішы Латушкі, адкуль адкрываўся небны прасцяг на поўдзень, у бок Брэста. Зарыва над горадам відаць здалёк, відаць, як яно палымнела, разгаралася ўверх і ўшыркі. Можна было нават бачыць, як да савецкіх падляталі нямецкія самалёты. Завязваўся бой, паветраныя пагоні. Рваліся бомбы, у горадзе, звычайна ў некалькіх месцах, пачыналі палымнець пажары, крамсалі неба пражэктары. У небе, над даляглядам, тварылася цэлая містэрыя, з водблiскамі агню на воблаках, пералівамі святла і ценяў, высокімі слупамі дыму. Ішоў паветраны бой, за якім назірала ўсё наваколле. Ішоў далёка, таму ніякіх гукаў не чулася, як у нямым кіно. Усё адбывалася ў поўнай цішыні: кружыліся, даганяючы адзін другога, ныралі і ўзмывалі ўверх самалёты, запальваліся і гаслі ракеты, асвятлялі неба выбухі бомбаў.

Міша Латушка не раз спрабаваў падлічыць колькасць самалётаў, але кожны раз збіваўся з ліку.

— Ну, Брэст-крэст! — гаварыў у такіх выпадках Гамон, хітаючы ад здзіўлення сваёй вялікай галавою.

— Хутка пачнецца!.. — загадкава дадаваў Міхаль Тупчык і змаўкаў.

Што пачнецца, дакладна ніхто не ведаў, але добрага чагосці ніхто не чакаў. Здаралася, хоць і рэдка, што самалёт падбівалі і ён загараўся, выкідаліся з парашутамі лётчыкі і недзе за небакраем марудна апускаліся да зямлі. Чый самалёт, чые лётчыкі, — савецкія ці немцы — здалёк, на адлегласці, немагчыма было разабраць. Цяжка было меркаваць таксама пра далейшы іх лёс. Немцы, вядома, сачылі за іх прызямленнем, прачэсвалі тую мясцовасць, дзе яны апусціліся, шукалі з сабакамі.

Тыя, якіх збілі і якія выкінуліся з парашутамі, і ўрэшце застрэлілі Люльке, схаваліся на хутары, кіламетраў сем ад Ратайчыц. Беглі і натрапілі на хутар пад раніцу. Нейкі час назіралі, а потым пастукалі. Было іх двое. Дзверы адчыніла гаспадыня, надта ўстрывожаная гэтым раннім візітам. Перад ёй стаялі двое зняможаных і абяссіленых мужчын у лётчыцкіх шлемах і скураных куртках. Ажно хісталіся ад стомленасці, галодныя, прасілі есці. Адзін, старэйшы на выгляд, быў паранены ў руку, якая бездапаможна целяпалася, абкручаная бінтамі і падвязаная да шыі. Жанчына спачувальна пахітала галавой і ўздыхнула. Трэба было дапамагчы людзям, што трапілі ў бяду. Гаспадыня дала паесці і прытуліла.

Гэта была жанчына гадоў сарака з добрым, прыветным тварам. Звалі яе Дамяцея. Яна ведала, што калі немцы дазнаюцца, дык дабра не чакай, але згадзілася дапамагчы.

— Мы тут доўга не затрымаемся, нам у паветра трэба, — гаварылі ёй лётчыкі. Гэта былі баявыя хлопцы, на гімнасцёрках пазвоньвалі медалі.

Аэрадром знаходзіўся не блізка, недзе ажно пад Смаленскам, і яны вагаліся: ісці на ўсход ці пачакаць сваіх тут? А можа, далучыцца да партызан, чуткі пра якіх да Дамяцеі даходзілі не раз, пра што яна ім і расказала. Вырашылі пачакаць, агледзецца, падлячыцца, а потым прыняць рашэнне. Дамяцея была не супраць, у сваю чаргу спадзеючыся на якую-небудзь дапамогу па гаспадарцы. У клуні пад застаронкам з жытнімі снапамі яны абладавалі схоў. Днём звычайна і знаходзіліся ў гэтым сваім схове.

Жандары і паліцыя на чале з амтскамісарам Люльке з'явіліся праз які тыдзень, нечакана. Прыехалі раніцай на некалькіх фурманках. Навёў, пэўна, нехта з суседзяў. Прыхапілі з сабой сабак на кароткіх павадках. Гэта былі нямецкія аўчаркі чорнай масці, якія нагадвалі карнікаў у чорных мундзірах. Амтскамісар узяў з сабой Мандрашчака (перакладчык спатрэбіцца абавязкова) і быў настроены надзвычай рашуча і ваяўніча. Апошнім часам начальства было незадаволена Люльке, абвінавачвала яго ў неэфектыўнасці дзеянняў і абяцала справадзіць на фронт, і такая перспектыва амтскамісара не радавала. Здаецца, рабіў усё магчымае, каб надаць сваім адміністрацыйным дзеянням належную эфектыўнасць, павесіў нават каля сябе на сцяну — як дастаць рукой — гумовы бізун і ўжываў яго пры першай магчымасці, не шкадуючы гумы, а начальства гэтага нібы не заўважала.

Сярод паліцаяў знаходзіліся Пыр, Цароў і Дзем'янюк — усе ў чорнай форме з белымі павязкамі на рукавах. Не хапала бензіну, і амтскамісар, як тылавы службовец, вымушаны быў перайсці на конскую цягу — перасесці на брычку. За фурмана ў яго цяпер, пасля Аўстрыйца, быў стары паліцай Паляжай.

Таўстун нязграбна споўз з брычкі і, зламысна пабліскваючы шкелцамі пенснэ, на чале ўсёй кампаніі накіраваўся да хаты. Загрымелі прыкладамі ў дзверы.

— Адчыняй! Тут начуюць бандыты! — гукнуў Пыр і націснуў плячом. Бразнула адарваная засаўка, і ў хату ўдарыў сноп святла ад некалькіх электрычных ліхтарыкаў.

— Хэндэ хох! — зароў Цароў.

Амтскамісар разам з усімі ўваліўся ў хату, і пад яго вагою натужна застагналі маснічыны. Дамяцея залекацела ад страху. Учынілі ёй допыт. Амтскамісар дапытваў праз Мандрашчака. Люльке адольвала адышка, ён змаўкаў, хапаў ротам паветра, хваляваўся і пагражаў. Напалоханай Дамяцеі заняло дых. На пытанні яна адно толькі сутаргава пацiскала плячыма і казала: «Нічога не ведаю». Люльке ажно пеніўся ад злосці і некалькі разоў рукой у пальчатцы ўдарыў яе ў твар.

— Donnerwetter! — вылаяўся ён і ў дадатак сцебануў сваю ахвяру бізуном цераз плячо. Жанчына загаласіла.

На падворку, нібы адчуўшы настрой амтскамісара, ярыліся, заходзіліся брэхам аўчаркі.

Невядома, што адбылося ў схове, але адзін з лётчыкаў кінуўся ўцякаць. Магчыма, хацеў прыкрыць таварыша і гаспадыню, паказаць, што на хутары, апроч яго, нікога з пастаяльцаў не засталося. Яго ўгледзелі, калі пералазіў цераз плот і бег агародам, прымінаючы сцяблiны высокай лебяды. Тут жа на яго спусцілі гайню аўчарак, адну з іх ён дастаў нажом, які прыхаваў недзе ў рукаве. Сабака звягліва заскавытаў, заенчыў, як ашпараны, і адбег убок. Гэта яшчэ больш раззлавала астатніх. Ашалелыя, яны пачалі рваць чалавека на кавалкі, кідаліся на яго спераду і ззаду. Баронячыся, ён рукамі прыкрываў ніз жывата, адпіхваў жывёлін нагамі, нарэшце, зняможаны, паваліўся, стаў качацца па пяску, за ім, як пастромкі, цягнуліся кішкі. Разарваны, знерухомеў, уткнуўшыся тварам у зямлю.

Параненага сабаку перавязвалі жандары. Пачалі вобыск. Агледзеўшы хату, пайшлі па хлявах і ў клуню. Паперадзе ўсіх — Люльке. Махаў рукамі, мітусіўся, аддаваў загады, камандаваў. Падаставаўшы з вінтовак шампалы, раз'юшаныя жандары і паліцаі азвярэла торкалі імі ў снапах і ў сене. Можа б яны нічога і не знайшлі, калі б Люльке не здаліся падазронымі ніжнія снапы

ў застаронку, каля самага шула, якія крыху выдзяляліся на агульным фоне. Ён ірвануў знянацку і выцягнуў зараз ажно тры, і ўсе ўбачылі цёмны лаз, які вёў у патаемнае схованішча.

— Heraus![1] — зароў уражаны амтскамісар, але з лаза ніхто не паказваўся. Ён яшчэ раз паўтарыў каманду, але таксама безвынікова.

— Выхадзі! — крычалі і брыдка лаяліся паліцаі. — Выхадзі!

Ёсць там хто ці нікога няма, — ніхто таго не ведаў. Камісараў твар перасмыкнуўся ад абурэння і злосці.

— Ферфлюхтэ русэ! — зноў вылаяўся раз’юшаны Люльке і, схіліўшыся над адтулінай, пачаў прынюхвацца, сунуў у адтуліну галаву разам з фуражкай з высока заломленым верхам. Амтскамісар нібыта ашалеў, паводзіў сябе, як вар’ят.

«Не то зусім здурнеў, — напалохаўся Мандрашчак, які знаходзіўся побач, — не то ўсё адно як пагібелі сабе шукае». Якраз у гэты момант пачуўся глухі гук стрэлу, і камісар памалу стаў асоўвацца ў яміну галавою ўніз, і пэўна знік бы недзе ў нетрах гэтага сховішча, каб не быў занадта тоўсты і каб падначаленыя не паспелі схапіць за боты. Люльке выцягнулі з лаза без яго высокай фуражкі і бліскучага пенснэ, якія праваліліся ўніз, і вынеслі на падворак. Таўстун не падаваў прыкмет жыцця: куля пацэліла ў лоб. Больш у сховішча ніхто не палез, яго закідалі гранатамі. Нежывога Люльке паклалі на павозку. Бяссільна і бязладна матлялася галава з раскудлачаным, пад маркоўны колер, валоссем, галава, як бы ўжо і не належала камісару. Мандрашчак зірнуў на забітага, на дзірку ў ілбе, і ўспомніў наіўную веру прусака Люльке ў тое, што яго мундзір, як пастаянна цвердзіў амтскамісар, мае магічную сілу і абароніць ад кулі. «А можа, і мае? — падумаў перакладчык. — Бо куля ж трапіла не ў мундзір…»

Пасля гэтага жандары з паліцыямі далі волю свайму азвярэнню. Хутар падпалілі — і хату, і клуню, і хлявы — і пачалі знушчацца з гаспадыні. Чаго толькі не рабілі: рвалі валася, разрывалі ноздры, а калі ўпала — пінала нагамі. Бедная жанчына крычала немым голасам. Хутар гарэў, і кампанія сабралася ў адваротную дарогу. Дамяцеі зацягнулі вяроўку на шыі і прывязалі да воза. Звязаны былі і рукі.

Ад хутара патыхала дымам. Узбуджаны і напалоханы (хто будзе адказваць за забітага Люльке?) Пыр дастаў з воза гляк самагонкі. Пілі з горла.

Калі ад’ехалі ад хутара, які схаваўся за парослым беразняком пагоркам, і выехалі на прасёлачную дарогу, убачылі жанчыну, што ішла насустрач з дзіцем на руках. Тулячы малое да грудзей, думала пра нешта сваё.

— Halt![2] — у некалькі галасоў гаркнулі карнікі.

Маленькі — кату па пяту — жандар, не марудзячы, узняў вінтоўку і паводзячы дулам, пачаў цэліцца.

— Кляйне, кляйне![3] — схамянуўся раптам Пыр, як бы ў яго прачнуліся рэшткі сумлення. — Гэта тутэйшая жанчына з дзіцем. Дзіця! Не страляйце! Nicht schissen!

— Бандыт! — не верыў жандар і не апускаў вінтоўкі.

Загаманілі яго таварышы:

— Beruhige dich![4]

---

[1] Выходзь! *(ням.)*

[2] Стой! *(ням.)*

[3] Дзіця, дзіця! *(ням.)*

[4] Супакойся! *(ням.)*

— Lass das! Sonst treumst du in der Nacht eine russische Hexe![1]

Але той усё ж такі стрэліў. Не папаў! Куля свіснула дзесьці побач, ля шчакі, і жанчына ад страху і роспачы павалілася ў траву, прыціскаючы да грудзей дзіця.

— Ой, божачка мо-ой! Забілі! Забілі! — заенчыла яна.

Жандары дружна зарагаталі, забыўшыся, што побач з імі на возе забіты іх начальнік. Амтскамісар ляжаў нерухома і цяпер ужо ні на што не звяртаў увагі. Забітага Люльке, мяркуючы па ўсім, не шкадаваў ніхто, нават Мандрашчак.

Жанчыну з дзіцем адпусцілі, а Дамяцею прывялі ў Ратайчыцы і там расстралялі, каля пастарунка.

* * *

Вечарэла, калі Лявон з Сяргеем і Натоліем вярнуліся дадому.

Далейшыя падзеі былі наступныя. Цела Люльке адаслалі на яго радзіму, у Германію, на пахаванне. На бліжэйшую вёску Хадасы ўлады наклалі кантрыбуцыю ў 25 тысяч нямецкіх марак на карысць удавы і дзяцей забітага амтскамісара Люльке. Людзі прадавалі, хто што меў, — жывёлу, гусей, курэй, збожжа, палатно, вопратку, — каб сплаціць гэтую кантрыбуцыю.

— Бог пакараў таго Люльку, — гаварылі пpускаўскія жанчыны, — за тое, што звон з царквы зняў.

## XVIII

Праз сон Просі падалося, што каля акна хтосьці стаіць. Жанчына прыслухалася.

— Хазяін, адчыні!

За акном нехта стаяў і ледзь чутна шкробся ў шыбіну.

— Васіль, Вася! — дакранулася яна да мужавага пляча.

— Што? Што такое? — усхапіўся той.

— Чуеш? Нехта просіцца!

Васіль сцішыўся і сапраўды пачуў чыйсьці невыразны голас.

— Прося, запалі святло! — сказаў жонцы. Потым перадумаў: — Пачакай, не трэба!

Абое пачалі апранацца.

— Партызаны, відаць, — ціха прамовіў Васіль, выйшаў у сені, адсунуў засаўку і ў праёме дзвярэй на фоне цёмнага бэзавага куста ўбачыў чалавечую постаць, каля яе другую. Неба зацягнула шэрым, накрапваў дождж. На гэтым фоне не пазнаць было, хто перад табою стаіць.

— Пазнаеш?

— Не лякайся, гэта мы, — сказаў Мурашка. Побач з ім быў Афінагенаў.

— Пазнаў, — адгукнуўся Васіль, — заходзьце…

Пачуўся голас упаўнаважанага:

— Немцаў у дзярэўне няма?

— Няма.

«Ну вось, нарэшце спаткаліся, — падумаў Васіль, даўно занепакоены і азадачаны тым, што яшчэ з зімы Афінагенаў не з’яўляўся на спатканні, пра

[1] Пакінь! А то яшчэ ноччу прысніцца табе гэтая руская ведзьма! *(ням.)*

якія ў іх было дамоўлена. — Але што ж, няпэўны час — і лёс чалавечы няпэўны. Кругом — немцы, паліцыя, карнікі…»

Апошнім часам, пасля забойства камісара Люльке, Ратайчыцкая гміна знаходзілася пад асаблівым наглядам жандараў і паліцыі. Магчыма, пагэтаму і партызаны абыходзілі гэтыя мясціны далей.

Госці прайшлі ў хату, ціха павіталіся з Просяй, якая адразу ж кінулася занавешваць акно.

— Нешта доўга вы не прыходзілі? — загаманіў Васіль, даючы дарогу гасцям. — Я ўжо і чакаць стаміўся.

— Дзялы! — коратка і няпэўна адказаў Афінагенаў. — Дзялы, брат. А ў вас як настрой?

— Так сабе.

Госць прысеў на столак каля стала. Выгляд меў, як заўсёды, заклапочаны, але здаваўся больш упэўненым у сабе, чым той раз.

— Ну, што ў вас новага? — спытаў ён, каб пачаць гаворку.

Мурашка зняў з плячэй рэчмяшок, расшпіліў каўнер кашулі, натапырыў вусы. Прысеў, як і яго спадарожнік, на столак, па другі бок стала. У калысцы заплакала малое — Лёнік, але Прося яго супакоіла, папраўіла падушку, калыхнула калыску.

— Ну, гаспадыня, чым частаваць будзеш? — зірнуў на яе Мурашка.

— Я якраз капусту на абед варыла! Мы на некалькі дзён варым, вось толькі халодная, але я падагрэю.

— Не, печ не тапі! — спыніў яе ўпаўнаважаны. — Гэта ні к чаму. Не нада, каб з трубы дым ішоў. Паядзім і халодную. Дай папіць!

Прося падышла да ацынкаванага вядра, што стаяла ў кутку ля печы, зачарпнула поўную кварту і падала госцю, які стаў прагна піць. Папіў і Мурашка, выцер рот рукавом. Афінагенаў паглядзеў на гаспадыню. Аказваецца, ён помніў яе імя.

— Ну, як жывеш, Прося? — спытаў ён.

— Так вось і жывём, — сціпла адказала маладзіца, завіхаючыся каля пліты. Дастала міскі, наліла ў іх капусты, паставіла на стол. Гаспадар накроіў хлеба, схадзіў у камору і прынёс сала.

— Перакусвайце, на што лепшае выбачайце.

З-за акна, праз занавеску, палілося месяцавае святло. Згаладнелыя госці прагна елі, у месяцавым святле відаць было, як у іх варушыліся не толькі сківіцы, але і вушы.

Зноў захныкала малое.

— Цыц ты, гора маё! — нібы паскардзілася Прося, шморгнуўшы носам.

Нарэшце яны падсілкаваліся, пасёрбалі халоднай капусты, пакаштавалі сала. Афінагенаў пахваліў капусту, падзякаваў гаспадыні. Прося сціпла прамаўчала.

— Ну, што ў вашай меснасці слышна? — пацікавіўся ўпаўнаважаны.

Васіль уздыхнуў, крыху падумаў, адчуваючы на сабе вострае лязо позірку свайго суразмоўцы.

— Ну, вы ж, пэўна, ведаеце, што Лескі спалілі. Тое, мусіць, і нас чакае. Царкоўны звон знялі і забралі. Коней мабілізуюць для сваіх патрэб. Людзей арыштоўваюць. Ахрэма забілі.

— Вораг — ён вораг і ёсць. Нічога добрага ад яго чакаць не даводзіцца. А якога Ахрэма? Хто такой?

— Наш вясковец. Ехаў з мужчынамі ў суседнюю вёску, і на засаду нарваліся. Усе жывыя, а яго забілі.

— На вайне ўсякае случаецца, усякія абстаяцельствы.

— «Аўстрыйца» забілі. Быў тут такі ў ратайчыцкага камісара за фурмана; ды не аднаго забілі, а разам з сям'ёй. Жонка, чацвёра дзяцей!..

— Не чуў. А хто?

— Ніхто не ведае.

— Можа, акаўцы?[1]

Васіль паціснуў плячыма, ён упершыню чуў пра акаўцаў, але пытацца, хто яны такія, не рашыўся.

— А насяленне як да гэтага ставіцца?

— Хто як. Дзяцей надта шкадуюць. Яны ж ні ў чым не вінаватыя.

Упаўнаважаны дастаў з кішэні пачак папярос, на гэты раз гэта быў «Беламорканал», пачаставаў Мурашку, потым Васіля. Яны закурылі. Афінагенаў адразу ж прагна зацягнуўся і выдыхнуў з сябе аблачыну шызага тытунёвага дыму. Васіль таксама зацягнуўся.

— «Беламорканал»? — здзівіўся ён.

— «Беламорканал».

— Савецкія! — дадаў Мурашка.

— Ну, а яшчэ што? Што слышна? — працягваў свае пытанні ўпаўнаважаны.

— Нядаўна і самога Люльке на той свет адправілі.

— Ратайчыцкага камісара?

— Яго.

— А хто?

— Савецкія лётчыкі. Самалёт падбілі, а яны на парашутах спусціліся і ў адной жанчыны на хутары хаваліся. Ну, немцы і высачылі. Немцы ці хто падказаў, не ведаю. Прыехаў на хутар Люльке з жандарамі ды паліцаямі, і сталі шукаць. Адзін лётчык паспрабаваў уцякаць, дык яго з сабакамі дагналі, а другі ў схроне сядзеў, і Люльке сам за ім палез. Як ён палез, так той і стрэліў з пісталета, і Люльке капут.

— Туды яму і дарога.

— Яснае дзела, — дадаў Мурашка.

— У Ратайчыцах, у гміне, новы камісар. Прозвішча — Шрубэ. Кажуць, яшчэ горшы за свайго папярэдніка.

— Ён, імейце ўвіду, таксама свайго дачакаецца.

Зноў прачнуўся ў калысцы Лёнік і зноў заплакаў. Віталік — старэйшы яго брат — спаў на печы. Набегаўся за дзень і спаў моцна.

Васіль і Афінагенаў, па прапанове госця, удвух выйшлі з хаты і спыніліся за грушай. Чутно было, як вецер абдзімаў яе вершаліну, нагадваючы аб сабе тонкім свістам. Пахла прывялым і звільгатнелым ад расы палыном. На небе, паміж нерухомых аблокаў, стаіўся бледны сярпок месяца. Каля яго, як свечка, ціха цеплілася маленькая зорка. Месяцавае святло ледзь-ледзь пазначала аблічча госця і серабрыла прасцяг поля за царквой, што ўзвышалася па той бок гасцінца, акрытая густой купінай старых ліп і клёнаў.

— А як ваш свяшчэннік? — упаўнаважаны зірнуў у бок царквы, над якой, над купінамі дрэў і званіцаю, узвышаўся цёмны на фоне неба крыж. — Ён твой сусед.

— Сусед, — сказаў Васіль і рашуча ўзяў бок айца Клаўдзія, які некалі пачалавечы прычыніўся да яго вызвалення з падвалаў Камянецкага гестапа.

---

[1] Фарміраванні польскай падпольнай арганізацыі «Армія Краёва».

— Ну, гэта парадачны свяшчэннік! Калі немцы прыйшлі, дык ён у царкве казаў людзям, каб і надалей жылі па справядлівасці, дружна, каб забылі аб узаемных непаразуменнях і не бегалі са скаргамі да немцаў. А цяпер ён бядуе.

— А што такое?

— Немцы звон загадалі зняць, на пераплаўку забралі.

— Панятна. Метал ім трэба, — разважыў упаўнаважаны.

У верхавіне грушы прашумеў вецер, памахаў яе густымі галінамі. Побач стаяла, нібы стаіўшыся, новая хата і пазірала на іх цёмнымі вачыма-вокнамі. У яе Платонавы так і не перасяліліся. Паставілі зруб, накрылі, але вокан яшчэ не было. Ні вокан, ні печы, ні падлогі. Жылі ў старой хаце, якую называлі «ўрамянкай», але жылі ў ёй ужо гады тры.

— Так і не дабудаваў? — кіўнуў у яе бок упаўнаважаны.

— Матэрыял трэба, сталярка…

Васіль перавёў погляд на зоркі, якія белымі кропачкамі раіліся ў цёмным небе.

— А людзі як? Што пра нас кажуць? — зноў задаў пытанне Афінагенаў. — Як настроі?

— Людзі спачуваюць вам, шкадуюць. Цяжка ў лесе…

— А настрой як?

— Немцаў баяцца.

Афінагенаў зрабіў паўзу, глыбока ўдыхнуў у грудзі паветра, выдыхнуў і сказаў:

— А мне вось, собственна гавара, у Маскве давялося пабываць! Начальства па неадкладных справах выклікала, агульнае становішча абмяркоўвалі.

— Ну і як там? Як Масква?

— Масква — як скала! Абстаноўка — дзелавая, рабочая, спакойная. Таварыш Сталін на месцы.

— А на фронце як справы?

— Ну вы ж, мабыць, ведаеце, што Красная Армія нагалаву разграміла фрыцаў пад Арлом і Курскам.

— Размовы ідуць, але не пэўныя.

— Гэта, імейце ўвіду, вялікі поспех! На рускіх прасторах, у раёне Курска і Арла, адбылася жорсткая, яшчэ нячуваная ў свеце танкавая бітва! Вы ўяўляеце? Бітва матораў! Узяты нашымі войскамі Харкаў. Гэта яшчэ ў жніўні месяцы, а цяпер, імейце ўвіду, і Смаленск наш. Фронт прыбліжаецца к Беларусіі, а гэта ка многаму абавязвае.

— Добрая навіна! — захваляваўся Васіль.

— Словам, дух у немцаў ужо не той. Цяпер яны ў кусты глядзяць. Ініцыятыва ў нас! Трэба, каб усе пра гэта ведалі. Вам, я бачу, яўна не хапае праўдзівай інфармацыі. Перададзім нашу зводку, павесіш на відным месцы, хай людзі чытаюць!

— Зразумела.

— А што ў вас? — зноў запытаў упаўнаважаны.

— Ноччу назіраем налёты на Брэст, уся вёска не спіць, людзі збіраюцца, здалёк добра відаць.

— Гэта нашы лятаюць чыгуначны вузел бамбіць. Са Смаленска ляцяць праз усю Беларусію.

— Ці ж хутка зусім прагоняць?

Афінагенаў паглядзеў на Васіля.

— Думаю, што скора, калі мы адсюль помач акажам. Краснай Арміі помач нужна.

— Ну, а другі фронт? Чаму не адкрываюць? Столькі размоў…

— Гэта ўсё дасужыя выдумкі. Наўрад ці адкрыюць калі-небудзь! Разгаворы, паліціка…

— Ну, а як там Санька Растатуеў? — у сваю чаргу запытаў Васіль, маючы на ўвазе акружэнца Саньку-сібірака, якому ён дапамог калісьці трапіць да партызан. Ужо год прайшоў з таго часу.

— Ваюе.

Васіль задумаўся, а потым сказаў — нібы сам сабе:

— Я б і сам падаўся ў партызаны.

— Так ты факцічаскі ў партызанах, ты связны.

— Я б у лес хацеў. Гэта больш апрадзялённа, а связны што? Хто связнога ведае?

— Не возьмем мы цябе, ты нам тут патрэбен. Кім цябе заменіш? А ў лясу людзей хапае.

— Прыйдуць жа нашы, могуць спытаць. Абавязкова спытаюць. Што я адкажу?

— Па крайняй меры, не січас. Ты здзесь нужон.

— Не, маё месца там, — стаяў на сваім Васіль. — А што я — лыкам шыты? Свісціяна ўзялі, а мяне не хочаце, для мяне шлях закрыты.

— Ты вот кідаешся ў спор, — Афінагенаў занерваваўся і ажно пакруціў галавой, — а забываеш, што ў цябе сям'я. У выпадку, калі ты пойдзеш у лес, яны смяротнымі заложнікамі стануць. — Ён зрабіў паўзу. — У мяне таксама ёсць сям'я, але яны за лініяй фронту, у тылу. Колькі ў цябе дзяцей?

— Трое, старшы сын Уладзімір у айчыма жыве. Нарадзіўся там, там мы яго і пакінулі.

Васіль ажно здзівіўся: сапраўды, пра тое, што дзеці могуць стаць заложнікамі, ён і не падумаў. Атрымлівается, што думаў больш пра сябе.

— Ну вот, жана, дзеці. Ты здзесь нужон, нада хлеб сеяць.

«А можа, гэта і да лепшага?» — падумаў Васіль і ўспомніў, як ён пра свой намер падацца ў партызаны, ісці ў лес сказаў Просі. «Ты што! — абурылася тая і кінулася ў плач. — Ты пойдзеш, а мяне з дзецьмі немцы расстраляюць! Не пушчу!» Выходзіць, што Афінагенаў мае рацыю.

— Трэба, собственна гавара, аднавіць нашы сустрэчы! — працягваў упаўнаважаны. — Калі ласка, прыходзь на тое месца, дзе мы з табой у мінулым годзе сустракаліся. На горцы каля крывой бярозы, што ў кустах стаіць. Раз на два тыдні, у сераду. — Памаўчаўшы, ён раптам з «ты» перайшоў на «вы»: — Не забывайце: вы нашы вушы і вочы, ваша інфармацыя для нас вельмі каштоўная. Гэта імейце ўвіду.

Размова, здаецца, была ўжо вычарпаная. Можна было вяртацца ў хату, але Афінагенаў чамусьці марудзіў. Памаўчаўшы, ён нарэшце спытаў пра тое, што яго, пэўна, можа найбольш турбавала і гняло. Нават неяк асабліва прыцішыў голас:

— Ну а пра тыя паперы, пра архіў, нічога не чуваць? Мінулы раз мы з вамі пра гэта гаварылі, я прасіў.

— Я помню. Усё неяк аціхла, не чуваць, каб хто пра паперы згадваў.

— І немцы маўчаць?

— Маўчаць.

— Архіў мы знойдзем і з вінаватых строга ўзышчам, па поўнай праграме! Гэта я абяцаю.

Васіль нічога не адказаў, але не мог не падзівіцца таму, што гэтае пытанне дасюль яго турбуе.

Азваўся ў куратніку певень, і адразу ж на яго кукарэканне забрахаў чыйсьці сабака.

— Ну вот, — сказаў упаўнаважаны. — Пытанні да нас ёсць? Калі ёсць, задавайце.

— Больш пакуль што пытанняў няма.

На гэтым размова спынілася, і яны вярнуліся ў хату. Мурашка сядзеў на лаўцы ля сцяны і ціха аб нечым перамаўляўся з гаспадыняй, якая трымала на руках малога Лёніка. Афінагенаў азірнуўся:

— Цясно ў вас.

— Цясно, — уздыхнула Прося. — Новую хату будуем, але яшчэ не скончаная, вунь, без вокан стаіць, ды і падлогі няма.

— Панятна.

— Можа, бялізна для нас якая знойдзецца? — папрасіў Мурашка.

Той раз бялізну забраў Свісціян. Прося ўспомніла, як ён трос куфар, браў усё падрад. Пару сарочак для Васіля яна паспела з таго часу пашыць. На гэты раз яна аддала іх новым начным гасцям, якія пасядзелі яшчэ трохі і пачалі развітвацца.

— А можа, заднюеце ў нас, а вечарам пойдзеце? — прапанаваў гаспадар. — Трэба ж і адпачыць.

Афінагенаў зноў азірнуўся — налева, направа.

— Малавата ў цябе месца.

— Дык у хляве на вышках, ніхто не ўбачыць!

— Не, пойдзем.

— Будзеце ісці назад — заходзьце! — запрасіў Васіль, хоць і не ведаў, куды яны накіроўваюцца.

Ужо заканчвалася восень, наперадзе маячыла зіма.

## XIX

Даўно сканала восень. Па лесе, па палянах гуляў вецер, ашчэпваў з дрэў апошняе лісце. Сухое надвор'е па часе змянілася імжакай, пасля якой секануў мароз і, у канцы кастрычніка, выпаў зазімак. К гэтаму часу партызаны Гарланава паспелі аднак абладзіць зямлянкі, збольшага прыстасавацца да новых прыродных умоў.

Нямала новага было і ў партызанскім жыцці. Восенню 1943 года колькасць партызанаў на Брэстчыне ўзрасла да 15 тысяч чалавек — у асноўным за кошт перакінутых з усходу. Наступіў новы перыяд партызанкі — цэнтралізаваны. Зверху, з цэнтральнага партызанскага штаба давалі ўказанні, патрабавалі ўзмацніць рэйкавую вайну. З'явіўся загад начальніка гэтага штаба № 0042 ад 14 ліпеня 1943 года «Аб партызанскай рэйкавай вайне на камунікацыях ворага». У сувязі з гэтым загадам палкоўнік Сцяпан, які атабарыўся са сваім штабам у Пінскіх балотах, каля Глухамлянскага возера, патрабаваў разгортвання «рэйкавай вайны» і нацэльваў на масіраваныя ўдары па чыгунцы. Ён таксама не скупіўся на загады.

Атрад імя Ушакова паводле актыўнасці не адставаў ад іншых у Брэсцкай зоне. Малодшы лейтэнант Гарланаў аказаўся, нягледзячы на маладосць, неблагім камандзірам, разважлівым і цвёрдым. Ён нармальна камандаваў атрадам, выконваў планавыя баявыя аперацыі па загадах штаба брыгады. Адпачываць, вядома, не даводзілася, хадзілі на заданні. Заданні самыя розныя: хто ішоў у разведку, хто нёс лістоўкі, хто выпраўляўся ў засаду ці на дыверсію. Рабілі

засады на нямецкі транспарт са збожжам, якое немцы забіралі ў сялян у якасці абавязковых паставак, займалі жывіну па маёнтках, палявалі ляснога звера. Аператыўныя групы выходзілі на чыгунку, шасэйныя дарогі, калі ўдавалася, палілі масты, знішчалі тэлефонныя лініі, ліквідоўвалі пасты і нямецкую адміністрацыю.

Падрывалі паязды на лініях Брэст—Баранавічы, Брэст—Пінск, Ваўкавыск—Слонім, Беласток—Ваўкавыск, Гайнаўка—Свіслач. Нарэшце з'явіліся аўтаматычныя ўзрывальнікі — «жабкі», як іх называлі партызаны. Гэта нашмат аблегчыла цяжкую, рызыкоўную працу падрыўнікоў, ужо не трэба было ні бікфордавага шнура, ні вяроўкі. 19 верасня 1943 года, калі пачаўся новы этап «рэйкавай вайны» пад назвай «Канцэрт», з дапамогай такой «жабкі» група Калеснікава пусціла пад адхон эшалон з боепрыпасамі на ўчастку Брэст—Баранавічы.

У атрад часцей стаў трапляць партызанскі друк, агітацыйныя матэрыялы. Праводзіліся калектыўныя чыткі. Слухалі радыё, але ўрэшце прыёмнік змоўк — сеў акумулятар. Час ад часу атрад наведваў упаўнаважаны Афінагенаў. Прыносіў інструкцыі ад Антыфашысцкага камітэта і газеты. Для калектыўных чытак збіраліся — хто быў на той час вольны ад заданняў — каля кастра. Усталёўвалася між тым зіма, падступалі халады. Пад снегам шархацела змёрзлая трава, стала па-сапраўднаму зімна. Дадалося няўтульнасці ў чалавечы побыт. Палілі касцёр, слабы, каб меней дыму. Упаўнаважаны пытаўся пра настрой. Настрой быў бадзёры. Фронт рухаўся на захад, і гэта ўсяляла надзею.

На адной з такіх чытак упаўнаважаны ўрачыста абвясціў:

— Вызвалена, таварышы, уся левабярэжная Украіна, фарсіраваны Днепр. А немцы вельмі на яго спадзяваліся! Лічылі непрыступным! Кіеў, таварышы, наш! Гэта, самі разумееце, — працягваў упаўнаважаны, — вялікі поспех. Мы таксама, собственна гавара, чым можам абавязаны дапамагаць фронту, дапамагаць Краснай Арміі, якая, несумненна, скора прыйдзе і сюды, да нас. Гітлер вераломна напаў, таму вынуждзены былі на пачатку адступіць, заманіць яго к сабе, а патом ударыць! Так што скора яму будзе капут! Бальшавікоў, як вядома, ніхто не пераможа! Канешна, страты ёсць. Страты, упушчэнні. Наш раён нялёгкі. Пушча набіта немцамі, уся ўтыкана гарнізонамі. Тут разгарнуцца цяжка. Фронт, таварышы, набліжаецца да нас, і, відзіма, мы далжны дзелаць вывады. Не выключана, таварышы, я выдаю вам сакрэт, што нам прыйдзецца перамясціцца насустрач, на ўсход, у бок пінскіх балот. Там штаб, там палкоўнік таварыш Сцяпан, там напружаная мазгавая, стратэгічная дзейнасць, адтуль ідзе агульнае кіраўніцтва!

Побач з упаўнаважаным — сваё начальства: камандзір Гарланаў і камісар Мачалаў. Камісар трымаў у руцэ ўжо вядомую газету «ЗАРЯ».

— Зноў на ўсход? — не выцерпеў Маркел. — Адзін раз ужо былі там.

— Адставіць разгаворы! — гукнуў на яго Гарланаў.

Нехта з патызан, убачыўшы ў камісара газету, пацікавіўся, калі яна была надрукаваная. Аказалася, што 24 верасня 1943 года.

— Свежая! — сказаў Гарланаў.

— Вот, таварышы, паслухайце заметку «Сила партизанских ударов». Мачалаў паднёс да вачэй газету: — «*Бригадой под командованием товарища А.,* — прачытаў ён, — *успешно проведены две крупные операции по уничтожению немецких гарнизонов, в которых насчитывалось 600 солдат и офицеров. Партизаны действовали смело и решительно, вражеские гарнизоны были разгромлены. Партизаны захватили в плен 108 гитлеровцев и большие*

*трофеи — 10 пулеметов, более 160 винтовок и автоматов, противотанковое ружье, несколько тысяч патронов, 63 лошади, много разного военного имущества*».

Усе ўважліва слухалі. Нейкі час, пад уражаннем прачытанага, маўчалі. Плылі шызыя дымкі ад самакрутак. Пачутае рабіла ўражанне, і камісар прачытаў яшчэ некалькі аналагічных матэрыялаў.

— Дык справы ідуць быццам нядрэнна! — павесялелі слухачы.

— А я яшчэ вось што вам прынёс! — камісар дастаў з кішэні згорнутыя і пацёртыя лісткі паперы, распраміў іх. — Сам Урбановіч перадаў! «Хлопцам, — сказаў, — прачытай!» Але гэта ўжо па-беларуску. Гэта яшчэ адна газета — «За Радзіму»!

— Кузняцоў! — Гарланаў звярнуўся да партызана, які сядзеў у заднім радзе. — Пачытай! Ты па-беларуску чытаеш.

Той, каго назвалі Кузняцовым, спачатку не зрэагаваў і падхапіўся толькі тады, калі яго падштурхнулі таварышы. Гэта ён усё яшчэ не прывык да свайго новага прозвішча.

— Кузняцоў, пачытай! — паўтарыў Гарланаў.

Партызан узяў ад камісара пацёртыя лісткі і стаў чытаць:

Затанцую я «Мікіту»,
Заспяваю «Юрачку».
Удавіліся фашысты,
З’еўшы нашу курачку.

Слухачы заўсміхаліся.

— Чый жа гэта вершык? — спытаў Грышка.

— Нейкага Міколы Засіма, — адказаў Кузняцоў.

— Складна сачыніў!

— А вось яшчэ:

На асіне ліст дрыжыць,
У тумане спяць паляны.
Хочаш ты на свеце жыць —
Сабірайся ў партызаны.

Афінагенаў і камандаванне атрада пакінулі касцёр, накіроўваючыся ў камандзірскую зямлянку. Астатнія ўсё яшчэ сядзелі каля цяпельца. Навокал ціха пахістваў голым голлем прычасаны вятрамі лес. Мурашка падняўся, пахадзіў паміж дрэў, назбіраў бярэма яловага сушняку і кінуў у касцёр, прыхлопнуўшы полымя. Касцёр быццам пагас зусім, а потым разгарэўся зноў, з новай сілай, абвіўшы агнём сухое голле.

Свісціян з Маркелам сядзелі тут жа, пазіралі на агонь. Верхняя губа ў Свісціяна завісала на ніжняй, ён пра нешта думаў.

— А за маю галаву, — азваўся нарэшце ён, — тысячу марак даюць ды яшчэ карову ў прыдачу! — У голасе яго гучаў не страх, а ганарлівасць. Ён расправіў грудзі, пацягнуўся, унутры, у касцяку, нешта зарыпела і хруснула.

— Хто дае? — пацікавіўся Бокша, які любіў часам задаваць нечаканыя пытанні і выклікаць усмешку сяброў.

— Немцы! Хто ж яшчэ! — абурыўся Свісціян.

— Дзіва што! — падтрымаў сябра Маркел.

— Адкуль ты ведаеш? — не паверыў Санька Растатуеў.

Усе былі, што і казаць, надта заінтрыгаваныя.

— Ну, ты даеш! — загаманілі ў грамадзе. — Дык раскажы!

— Іхнія газеты пра гэта пішуць.

— Няўжо пра цябе газеты будуць пісаць? — засумняваўся Ціхаміраў. — Хваліся ды не папярхніся.

— А хто гэтую ўзнагароду прызначыў? — запытаў цікаўны Калода.

— Сам Шруба! — ашчэрыўся Свісціян, відавочна задаволены зробленым на таварышаў уражаннем. — Ды яшчэ карову ў прыдачу! Датумкаў?

— Ого! — азваўся Калеснікаў, які слаба рэагаваў на размовы сяброў, засяродзіўшыся на нейкіх сваіх думках.

— Не казырай! — паспрабаваў асадзіць Мурашка.

— А я і не казыраю.

— А я лічу, што мала, — умяшаўся ў гаворку Маркел, які, відаць, кіраваўся нейкімі сваімі, уласнымі ўяўленнямі і падлікамі і лічыў, што сябар «каштуе» болей. Выходзіла, што калі б за Свісціяна прызначылі большую плату, дык было б больш справядліва.

Іншыя маўчалі, не ведалі — верыць гэтаму ўсяму ці не.

— Мяне баяцца! — зноў загаманіў Свісціян. — А я, ліха яго матары, жыццём рызыкую! Уласнай галавой!

— Не гарачыся! — папярэдзіў сябра Маркел.

Косця, які таксама знаходзіўся каля вогнішча, задумліва спытаў:

— А што будзе, калі партызанка скончыцца?

У характары Косці з даўніх часоў было такое, што любіў ён думкамі забягаць наперад, у будучыню, спрабуючы разгадаць ход падзей.

— Грамадзянскую спецыяльнасць маеце? — звярнуўся ён да Свісціяна.

— Я над гэтым яшчэ не думаў, — адказаў той.

— Варта падумаць.

— Прыйдзе час — падумаем.

Твары людзей крыху палагаднелі, рысы разгладзіліся і сталі мякчэйшымі, але кожны ведаў, што да таго часу, калі спатрэбіцца грамадзянская, мірная спецыяльнасць, трэба яшчэ дажыць, а гэта — пытанне. Нехта, можа, дажыве, а нехта не.

Свісціян цыркнуў слінаю праз зубы, пацэліўшы ў касцёр.

— Пляваццa ў агонь нельга, — заўважыў Калода.

— Чаму?

— На тым свеце патэльню лізаць будзеш.

— Можа, хто і будзе, а я не, — упэўнена адказаў Свісціян.

— Пасля перамогі я вас усіх да сябе ў Маскву забяру! — паабяцаў Віцька-масквіч. — У Белакаменную! Горад — красата-а!

— А я ні разу не быў у Маскве! — узрадаваўся вельмі непасрэдны Кубартаеў. — Цікава было б глянуць. Сталіца!

— Забяру! — пацвердзіў Віцька.

У Грышку прарваўся яго заўсёдны скептыцызм:

— Абяцаеш чарэшні на вярбе, — пазяхнуў ён.

— А што мы там будзем рабіць? — пасміхнуўся Санька.

— Знойдзем работу! — запэўніў Віцька. — На заводзе рабочыя рукі заўсёды патрэбныя.

— Каб куды далей не загрымець, — ціха азваўся Непагодзін.

— У жыцці ўсякае здараецца, усякае можа трапіцца, — разважыў Косця, які меў шмат падстаў, каб гэтак думаць. Помнілася савецкая турма, у якой яго застала вайна, і тое, што было потым. У перамозе ён не сумняваўся, але што будзе пасля?

— А я хацеў бы чаем угасціць, нашым, калмыцкім! — радасна сказаў Кубартаеў. — Такога чаю нідзе няма! Эх, чай!

Прысутныя нейкі час маўчалі, пазіраючы на касцёр, кожны думаў пра сваё, успамінаў.

— Наш час прыйдзе, але ці застане нас? — усумніўся Калода і пашкроб за вухам. — Эх, каб пашанцавала! Цікава, як ужо там будзе?

— А вы ведаеце, што цяпер новага медаля ўвялі? — абвясціў інфармаваны Калеснікаў.

— Якога такога медаля? — зноў загаманіла грамада. — Прыдумаў, Якаў Ксенафонтавіч!

— Для партызан. «Партызану Вялікай Айчыннай вайны», першай і другой ступені.

— Нам не дадуць, бо мы далёка ад начальства, пра нас яно, можа, і не здагадваецца, — сумна пасміхнуўся Грышка, пазіраючы на агонь.

— Павінны даць! — адгукнуўся Маркел, прагавіта, рыўком удыхнуўшы паветра.

Навін было шмат, і кожнаму хацелася верыць у свой шанец. Свісціян дастаў з кішэні гадзіннік і паўзіраўся ў цыферблат.

— Упаўнаважаны нешта выклікае, на дванаццаць гадзін…

Справы былі ва ўсіх, і людзі пачалі разыходзіцца.

Праз некалькі дзён сталася так, як казаў Афінагенаў: ушакоўцы рушылі на ўсход, у цэнтральную зону партызанскага руху на Брэстчыне, у бок пінскіх балотаў, і вярнуліся назад толькі вясною і, вядома, не ўсе.

## Частка чацвёртая

### I

Позняй, зацяжной выдалася вясна 1944 года. Надвор'е дзівіла холадам, нават у сакавіку яшчэ ціснуў мароз. Але ўрэшце прыйшоў канец і зіме. У сярэдзіне сакавіка навіс над зямлёй туман, ахутаў усё наваколле. На змену снегападам з лёгкімі маразамі прыйшлі зацяжныя адлігі з дажджамі. Чутно было, як на лядах гукалі зайцы.

У паветры панаваў водар талага снегу, пад якім ціха перашэптваліся невідочныя ручаіны, падаючы вестку пра тое, што ідзе вясна. Затым, невядома нават калі, з ночы на раніцу, невідочныя ручаіны ператварыліся ў відочныя пісягі праталін, па якіх струменілася жыватворная талая вада. Зніклі пад вадой лясныя дарогі і сцежкі, разліліся рэкі і балоты. Па калені ў вадзе стаялі дрэвы. Свет напоўніўся птушкамі, з'явіліся гусі, качкі, буслы, а яшчэ раней прыляцелі жураўлі. Цяжкае, з пахам прэлі паветра абуджала трывогу.

Вярнуўся на ранейшыя свае мясціны атрад Гарланава…

У сакавіку 1944 года праз Камянеччыну, вяртаючыся з рэйду ў Польшчу, ішла партызанская дывізія імя С. А. Каўпака. Дывізія — цэлае злучэнне, болей за дзве тысячы чалавек — рухалася паперадзе наступаючай Чырвонай Арміі, яе Украінскіх, Першага і Другога, франтоў. Трэба было ўзмацніць дапамогу наступаючым, глыбей пранікаць у варожы тыл, рэзаць камунікацыі, зрываць перакідку войск і грузаў праціўніка, дэзарганізаваць работу яго тылу, узнімаць народ на ўзброеную барацьбу. Камандаваў гэтым войскам генерал Пятро Вяршыгара, адзін з паплечнікаў Сідара Каўпака. Па дарозе падрывалі масты, разбуралі чыгунку, знішчалі дробныя гарнізоны. Буйныя населеныя пункты абыходзілі, ішлі кружным шляхам. Гэта быў цяжкі, гераічны шлях.

Дасягнуўшы Польшчы, каўпакоўцы павярнулі на поўнач, нацэліўшыся на Белавежскую пушчу. Пушча хутчэй за ўсё і была іх галоўнай мэтай. Дзеля гэтага, магчыма, іх і паслалі — каб разгадаць загадку пушчы: што там у немцаў робіцца. 20 сакавіка яны падышлі да вёскі Ражкоўкі і атакавалі з ходу. Адны адразу ўварваліся ў вёску, другія пайшлі ў абход. Ражкоўку ўзялі, але ў пушчу немцы, выдатна ўзброеныя, не пусцілі. Гэтаксама, як год назад не пусцілі брыгаду генерала Капусты, які ішоў з усходу. Каўпакоўцы пайшлі ў абход і ўдарылі з захаду, але немцы і на гэты раз паднялі авіяцыю, пусцілі танкі, спрабавалі ўзяць наступаючых у клешчы, але не атрымалася. Бой доўжыўся дзве гадзіны, было шмат забітых і параненых. Тым часам каўпакоўцы паспелі пераправіцца праз раку Белую, праз мост, і замацавацца на другім беразе. Яны былі таксама няблага ўзброеныя, мелі гарматы, мінамёты, бранябойныя ружжы. Здолелі адбіцца, калі немцы зноў палезлі з танкамі, і, захоўваючы парадак, прадоўжыць свой шлях, цяпер ужо на поўдзень. Сталася так, што злучэнне Вяршыгары не абмінула на сваім пакручастым шляху і Прускі, калі рухалася ад Белавежскай пушчы на поўдзень, у бок Брэста. Рух атрадаў злучэння расцягнуўся на некалькі кіламетраў. Над партызанамі ўвесь час кружылі адзін ці два нямецкія самалёты, палівалі з кулямётаў, кідалі бомбы і гранаты. Спачатку праз вёску віхрам праімчалася, узрываючы капытамі яшчэ не абсохлую зямлю і распырскваючы лужыны, конная разведка — чалавек пяць. Разведвалі абстаноўку. Спыніліся толькі напрыканцы вёскі, каля хаты Васіля Платонава. Гарачыліся пад імі, стрыглі вушамі і грызлі жалезныя цуглі ўзмыленыя, разгарачаныя коні. Сярод дня заспявалі пеўні — адзін, другі, трэці. З хаты выйшлі Васіль і Прося.

— Немцы далеко? — запытаў, не злазячы з сядла, малады коннік у кубанцы з чырвоным верхам і падняў на дыбкі каня. Конь хрыпла заіржаў, давячыся цуглямі, з храпы валілася пена.

— Жандармерыя ў Ратайчыцах, — адказаў Васіль, — гэта пяць кіламетраў адсюль.

— Калі пеўні крычаць, значыць, немцы далёка! — адгукнуўся другі коннік, больш сталы на выгляд, відаць, камандзір. І дадаў: — У вас размесціцца штаб!

З гэтымі словамі коннікі павярнулі назад і зніклі таксама хутка, як і з'явіліся. Пасля коннага дазору рушыла войска. Целагрэйкі, кажушкі, курткі, шынялі. Пруска адразу напоўнілася шумам, крыкамі каманд, скрыпам вазоў і тупатам задыханых коней, песнямі, пераборамі гармонікаў. Забрахала Нэрка, але, убачыўшы такую плойму народу, тут жа аціхла.

Каўпакоўцы ішлі, як бура. Чулася:

— Не марудзь!

— Праязджай!

— Давай, давай!

Цягнулі гарматы.

Церусіўся дробны сакавіцкі сняжок, растаючы на конскіх спінах і чалавечых абліччах. Раздаваліся каманды:

— Рухайся! Хутчэй!

Войска ішло, не спыняючыся. Конныя, пяхота, абоз. Народ бывалы, немалы шлях адолелі. Прускаўцы вырашылі, што гэта вяртаецца фронт.

Пайшоў дождж. Змываў апошні снег, які заставаўся толькі дзе-нідзе, у схаваных ад сонца куточках. Пад дажджом, з вінтоўкамі за плячыма, па раскіслай, зацягнутай вадой вуліцы ішлі людзі. Наўкола разводдзе, абутак у брудзе, адзенне пашарпанае — хто ў чым. Людзі брылі, ледзь выцягваючы з гразі ногі. Чвякалі па гразі падводы, шырока раскідаючы па баках пырскі. Падзьмуў

вецер, і яшчэ болей напяліся струны дажджу. Вуліца, спрэс здратаваная конскімі капытамі, коламі партызанскіх павозак і нястомнымі чалавечымі нагамі, нагадвала суцэльнае месіва з зямлі і бруду. З усіх сіл напружваліся коні. Некаторыя жывёліны вельмі змардаваныя і знясіленыя, з намулянымі на шыях і рэбрах ранамі. Было ў гэтым скопішчы людзей, фурманак, коней і гармат нешта гратэскнае, з перабольшаннем ва ўсім — і ў масавасці і бясконцасці шырокай плыні, і ў яе неадольным імкненні кудысьці ўперад, і ў хаатычнасці, і ў звышчалавечасці высілкаў, намаганняў і пакут.

Куды яны імкнуцца — гэтага ніхто не ведаў, нават яны самі. Ішлі, рухаліся, імкнуліся ўперад. Карціна гэтага руху ўспрымалася як нейкі апакаліпсіс, як незразумелая бязглуздзіца, і жудасна было на яе глядзець.

Многія прускаўцы пахаваліся ў схронах, якія — ваенны час — на ўсякі выпадак выкапалі, кіруючыся інстынктам самазахавання. Месца для іх выбіралі за хатамі, у садках, паміж дрэў, на агародах. Некаторыя прыстасаваліся ў старых бульбяных ямах.

Кужалі, Лявон з Фёклай, і малы Валодзік нікуды не ішлі, сядзелі ў хаце і пазіралі ў акно, за якім тварылася нешта незвычайнае. Некалькі фурманак і людзей на конях згрудзіліся каля Лявонавага калодзежа, абступіўшы яго з усіх бакоў. Драўляны кубел бегаў уніз-уверх, ваду вылівалі ў доўгае карыта, да якога цягнуліся пысамі стомленыя коні. Храплі, прасілі вады, каўпаковец у шынялі з абарваным хлясцікам, што вісеў на адным гузіку, і нямецкім аўтаматам за плячыма падвёў жэрдку з кубелам да сябе і пачаў прагна піць. Напіўшыся, перадаў іншым. Была відаць яго белазубая ўсмешка і тое, які ён малады і колькі ў ім сілы. Людзі пілі проста з кубла, ставячы яго на край зруба.

Лявон выйшаў на вуліцу, назіраючы, як да калодзежа пад’ехала калымага, запрэжаная невялічкім махнатым конікам. Кіраваў з пугай і лейцамі ў руках дзядзька ў світцы, з рэдзенькай барадой і стомленымі вачыма ў чырвоных павеках. Ззаду пад брызентавым паддашкам ляжалі раненыя з забінтаванымі галовамі, а каля іх сядзела жанчына, па ўсім відаць цяжарная. Лявон прынёс вядро і дапамог фурману напаіць коніка. З алюмініевай кружкі наталілі смагу параненых. Падышла Фёкла, пакінуўшы ў хаце Валодзіка, і адразу звярнула ўвагу на цяжарную жанчыну:

— Ой, дочка, заходзь у хату, хоць абагрэешся!

— Некагда, я тут з байцамі, мы на месцы не стаім, мы ў дзвіжэніі.

— На хвілінку!

— Некагда, мамаша, некагда!

Асвоіліся з абстаноўкай прускаўцы і крыху пажвавелі. Самыя цікаўныя пачалі пакідаць схovы і выходзіць на свет, каб паглядзець на ўзброеных людзей, што шырокай плынню рухаліся па вясковай вуліцы. З-за хаты паказалася Апанасава Дзякрэта, нясмела наблізілася да калымагі.

— З дзіцем цяжка, — паспачувала яна.

— Гасударству здам, а сама ваяваць буду! — упэўнена, без ценю сумнення, адказала жанчына.

— Дык шкада!

— Нічога! Васпітаюць!

На пачутае прускаўцы толькі здзіўлена ківалі галовамі.

— Дык гэта сапраўднае войска! — гаманілі мужчыны, аглядаючы вайскоўцаў і іх зброю.

Разам з усімі ў сваім выцвілым капялюшыку, акрытая шэрым залатаным коцам, стаяла прускаўская варажбітка Амелія. Страшнавата было, відаць, адной сядзець у хаце.

— Ой, людкове, ашалець можна, — ціха вымавіла Хомчыха, якая выйшла на вуліцу следам за сваёй нявесткай Дзякрэтай.

Да калодзежа пад'язджалі і падыходзілі ўсё новыя людзі з гэтай бясконцай плыні чалавечых абліччаў, прыпыняліся, бралі ваду.

— Э-эх, дайсці б да Берліна і там бы яго і прыкончыць! — ад калодзежа азваўся яшчэ адзін малады каўпаковец у заломленай на патыліцу хвацкай кубанцы. Грудзі ў яго былі крыж-накрыж абкручаны кулямётнымі стужкамі з новенькімі патронамі.

— Вы, таварышы, крыху больш асцярожна сябе вядзіце, а то немцы наўкол, страшна… — раіў Фэдар-японец, які, цікаўны, таксама прычыкільгаў сюды, апіраючыся на кавеньку.

— А нам напляваць на фрыцаў! — адказаў партызан і ляпнуў сябе даланёй па гурдзях, ажно зазвінелі стужкі з патронамі.

— Давай песню! — гукнуў нехта ў людской плыні і заспяваў. Голас звонкі, прыгожы:

Ехалі казакі
Із Дону дадому,
Падманулі Галю,
Забралі з сабою-ю…

Астатнія падхапілі:

Едзьма, Галю, з намі,
З намі, казакамі,
Крашча табе будзе,
Як у роднай мамы-ы…

Пpускаўцы добра ведалі гэтую старую казацкую песню — магутную і раздольную — і яшчэ больш дзівіліся няскоранаму, бунтоўнаму духу гэтых упартых людзей, іх неадольнаму імкненню наперад.

Ой ты, Галя,
Галя маладая-я… —

разлягаўся прыпеў. Спявала, здаецца, уся калона: і бадзёрыя, дужыя, і стомленыя, і хто быў паранены, маладыя і старыя, а з хмарнага неба ўсё яшчэ церусілася імжака.

Каўпакоўцы ішлі і ішлі — не відаць было канца. Напаіўшы коней і самі наталіўшы смагу, саступалі месца іншым і кіраваліся далей.

У небе з'явілася «рама» — двухфюзеляжны нямецкі самалёт-разведчык. Стаў назойліва кружыць над вёскай. Да Лявонавых веснічак пад'ехала некалькі коннікаў. Пазадзіралі галовы і сталі ўглядацца ў той бок, дзе знаходзіўся самалёт.

— Гэта ён нас высочвае! — загаманіў адзін з іх і адмыслова мацюкнуўся. — У лесе пад дрэвамі можна схавацца, а тут адкрытае месца!

— Эх, была б зенітка, я б яму даў! — азваўся другі. — Кастыль пракляты!

«Кастыль» нечакана крута развярнуўся, скінуў бомбу, якая са свістам аддзялілася ад самалёта і ўпала за Прускай, на выгане. Выбух аднак не прычыніў шкоды, толькі здрыганулася зямля і ўтварылася неглыбокая яміна.

Прускаўцы зноў кінуліся хавацца. Разам з усімі з крыкам «Ой, ратуйце, бамбяць!» пабегла і Амелія. Свайго схрону ў яе не было, і трапіла яна да Відэркаў — тыя разам з суседзямі выкапалі цэлую зямлянку, даволі прасторную і нават утульную — з зашклёным акном у шчыце. Тут ужо былі Оргій Відэрка з Верай і дзецьмі, Ганна Бочка, Мізаль Тупчык са сваёй Гапай,

саламяныя ўдовы Груша ды Волька Хомкава, чые мужыкі з’ехалі ў свой час (яшчэ пры Польшчы) у Амерыку ды так і не вярнуліся і пісаць перасталі. У прыадчыненыя дзверы прапхнуўся Гамон. Прыўзнятыя бровы гаварылі, што ён вельмі напалоханы.

— Вуліцу расквасілі так, што не прайсці, — сказаў ён, прысеўшы на кукішкі. — Дзіва што! Столькі народу!

З кутка азваўся Міхаль Тупчык:

— Дык, можа, гэта Чырвоная Армія ідзе? Можа, фронт? А мы сядзім тут і не ведаем! Я спрабаваў іх распытаць, дык не кажуць! Ну, але пабачым.

— Гэта мусіць жа сакрэт, — уставіла слова Груша. — У вайсковых заўсёды так.

— А я аднаму даў закурыць, — пачаў Оргій, скручваючы цыгарку, — дык ён мне расказаў. Гэта яшчэ не фронт, кажа, а парцізаны. Рэйдам, кажа, ідзём і ўвесь час напрамак мяняем. У Польшчы ажно былі, адтуль вяртаюцца. Мы, кажа, каўпакоўцы.

— А куды ж яны ідуць? — запытала Вера.

— А яны і самі не ведаюць, — адказаў Оргій.

Пасля гэтага ўсе прымоўклі.

Амелія сціпла прытулілася ля ўвахода, адчуваючы ўсеагульны подых страху, які стаяў у паветры. Страх, кажуць, аб’ядноўвае. Усе маўчалі, і Амелія, мусіць, каб парушыць гэтае гнятлівае маўчанне, сказала:

— Бачыла я таго Каўпачка — старычок сівенькі з сівой барадой, зброяй абвешаны і па баках пазірае. Я адразу здагадалася, што гэта ён.

— Дзе ж ты яго бачыла? — з недаверам і незадаволена прагудзеў Відэркаў пракураны бас. Паміж бровамі ў яго з’явілася суровая складка. — Дзе ж ты яго бачыла?

— А от бачыла!

— Не магла ты бачыць, бо яго з імі няма.

— А я бачыла! — упарта стаяла на сваім жанчына.

Оргій цяжка ўздыхнуў і агледзеўся, як бы просячы абароны ў прысутных.

— Змысліла! — засумняваўся і Гамон. — Мяне на мякіне не правядзеш! — гугнявячы, дадаў ён.

Загаманіла Сцяпанава жонка Ганна:

— Выйдзі, Амелія, бо як упадзе бомба, то за цябе і нас паб’е!

Пасля гэтага ў схроне зноў усталявалася напружаная цішыня. Наверсе чутны былі стрэлы, прарэзлівыя каманды і воклічы — гэта ўсё ішлі каўпакоўцы.

— Вайна — гэта Божая кара, — стала тлумачыць Ганна, — напамінак чалавеку аб расплаце за яго праграшэнні. А ты, Амелія, грэшніца! Сама ведаеш…

Усе сталі злосна пазіраць на Амелію, чакаючы, калі яна ўстане і пойдзе. Тая, аднак, не спяшалася, упарцілася, баялася, вядома, таго, што адбывалася за дзвярыма схрону, і раптам грозна бліснула на аднавяскоўцаў сваімі чорнымі вачыма:

— А можа, вы яшчэ больш грэшныя за мяне! Калі Бог не дапусціць, то і бомба не кране. Нікога не трэба асуджаць! Гэтак і ў Пісанні сказана.

— Цікава! — паждвавеў Гамон. Калісьці ў такіх выпадках ён напорыста сцвярджаў, што Бога няма, а цяпер не рашыўся пярэчыць веруючым жанчынам, а толькі з абурэннем крутнуў галавой.

— Вон, вядзьмарка! — не вытрымала і перайшла на крык Груша.

— Але ж у Пісанні сказана: «Хто без граху, няхай кіне камень…» — не здавалася Амелія. Відаць было, што ёй цяжка, твар пачаў жаўлець, збірацца ў зморшчынках.

— Пракудзіла дзеўства! — далучылася да сябровак Гапа, ужо канкрэтна напамінаючы пра Амеліны правіннасці. — У распусным доме была!

— А я ж жабракам — і тым прытулак даю, — апраўдвалася Амелія і заплакала. Горкая крыўда на ўсіх авалодала ёю.

Прускаўцы ўмелі быць і спагадлівымі, і тактоўнымі, і далікатнымі, але на гэты раз людзі нібы пра ўсё забылі. Вінаватая была, казалі, вайна, яе суровыя абставіны, якім па-свойму мянялі і перайначвалі чалавека. Жыццё людзей вельмі звязана з абставінамі. Гэта — праўда. Калі ўсё добра, дык і чалавек нармальны, мяккі. Здараецца, аднак, што чалавек літаральна звярэе. Але прычынаю тут не толькі абставіны, ёсць у падобных сітуацыях значная доля і чалавечай віны.

— Вон! Вон! Вон! — загрымелі жаночыя галасы.

Аднак Амелія, нягледзячы ні на што, была не такая, каб саступіць права на апошнюю рэпліку. І цяпер яна сабралася з духам, павярнулася да аднасельцаў і зняважліва скрывіла рот.

— Звяры! — скрозь слёзы прамовіла яна, вусны яе нервова перасмыкнуліся, жанчына падхапілася і, плачучы, выйшла.

— Апушчэніца! — услед ёй сказала Вера. — Бачыце, як яна сябе паводзіць!

— Бэська! — дадала Гапа.

— Лында! — гукнуў яшчэ нехта.

— Шляюцца тут усякія, — прагугнявіў Гамон.

— Кажуць, што калі бэську пакрыўдзіш, дык яна можа адабраць у тваёй каровы малако, — пасля некаторага маўчання разважліва зазначыў Міхаль. — А тое дрэнна.

На гэта ніхто нічога не адказаў, усе змоўклі, а пасля некаторага часу людзі зноў паказаліся на вуліцы, на сваіх панадворках.

Фёкла паслала Лявона праведаць Васіля. Як яны там з Просяй ды з дзецьмі наводшыбе, у крайняй хаце?

## II

Лявон стараўся ісці, дзе сушэй, прыціскаўся да плота, пераскокваў праз асабліва гразкія месцы, а побач усё яшчэ рухаліся падводы — ар'ергард каўпакоўскага войска. Фурманы крычалі, нукалі на коней, прыспешвалі. Прускаўскую вуліцу размясілі так, што яна, да гэтага сухая і цупкая, стала падобнай на цёмнае месіва — гразь па калені, вышэй калёсных ступіц. Знакамітая лужына паміжураднікавым домам, у якім жылі цяпер яго дачка Амелія і сын Восіп, і хатай Відэркаў нагадвала возера, па якім, як чаўны, плылі партызанскія фурманкі пад мітуслівыя вокрыкі сваіх вазакоў-капітанаў. Лявон абышоў гэтае разводдзе па каменнях, што ляжалі з левага боку вуліцы, дзе рос высокі, падобны на дрэвы, бэз. Мінуў змрочнае з выгляду ўраднікава жытло, былую Шпронькаву лаўку, якая так і стаяла зачыненая, і наблізіўся да абсады пасынка. На дарозе спыніла варта:

— Стой! Куды ідзеш?

— Да сына іду.

— Нельга! Паварочвай назад!

Ля хаты чакала некалькі фурманак і падобная на тачанку брычка. У хату заходзілі і выходзілі з яе абвешаныя зброяй каўпакоўцы. Частка іх — большасць у белых кажушках — тоўпілася пад грушай-дзічкай на Васілёвым падворку. «Штаб!» — зразумеў Лявон. Раптам сярод гэтых людзей ён угледзеў знаёмую постаць: чалавек крыху вышэй сярэдняга росту ў кароткай сялянскай світцы, з нямецкім аўтаматам пры баку, нешта тлумачыў, паказваючы рукою кудысьці ў далечыню, куды, выпаўзаючы на камянецкі гасцінец, рухалася, у напрамку Ратайчыцаў, партызанская армія. Высокі лоб. Твар у цёмным шчацінні, пад куртатым носам тапоршчыліся рудаватыя вусы.

— Падазронага затрымалі! — гукнуў вартавы, каб пачулі тыя, хто стаяў пад грушай.

Чалавек на момант зірнуў у Лявонаў бок, і Кужалю здалося, што гэта Косця Хлябіч.

— Косця?

Так, гэта быў Косця, ён падышоў да Лявона, і яны моцна абняліся. Змяніўся за гэты час Лявонаў зямляк. Вочы з карых зрабіліся нібы нават зеленаватымі і глыбей схаваліся пад бровы, і вусы добра-такі выцвілі, і лоб у зморшчынках, але гэта быў той самы неўгамонны Косця, які не даваў сабе расслабіцца і вечна нечага дамагаўся.

— А мой ты дарагі! — дзівіўся Лявон, спаткаўшы даўняга сябра і таксама сціскаючы яго ў абдымках. — Ну, сапраўды, неіспавядзімыя пуці Гасподнія! — Ад хвалявання ён правёў колькі разоў далонню па лбе, паправіў на галаве кепку.

— Я, дзядзьку, я.

— І ты з імі?

— З імі! А што? Ваяваць яны ўмеюць, гэта я на свае вочы бачыў. Каля Ражкоўкі добра немцаў патрапалі, ужо ў пушчу былі зайшлі, у 833-ці квартал, але на нямецкую засаду нарваліся.

— Да пушчы, я чуў, не падступішся, — сказаў Лявон.

— Дык вось на поўдзень павярнулі. Шасэйныя дарогі не для нас. А вы як жывяце?

— Хіба гэта жыццё? Ад страху калоцімся. Бізуна амаль кожны паспрабаваў.

— Я да дзядзькі Цімошы хацеў забегчы, пабачыцца, але не атрымалася.

Пра сябе Косця нічога не сказаў, а было пра што. Пражыта шмат. Не стаў ён гаварыць і пра тое, што апошнім часам яго ціснула нейкая нечаканая і незразумелая апатыя. У атрадзе ён адчуваў сябе нібы не ў сваёй талерцы, і калі падвярнуліся каўпакоўцы і ім спатрэбіўся чалавек, які ведае мясцовасць, Косця згадзіўся і з дазволу Гарланава пайшоў з імі.

— А я, дзядзьку, за гэты час нешта пра Кляновіка выведаў.

— Праўда?

— Выпадкова.

Ім, урэшце, было пра што пагаварыць і апроч Кляновіка, але далёкі ўспамін пра старога сябра зацікавіў і ўсхваляваў Лявона. Ой, як даўно гэта было! Яшчэ да бежанства ў Расію. Пазнаёміліся яшчэ ў Амерыцы, а ў канцы 20-х Кляновік кудысьці бясследна знік. Што праўда, то праўда: занятак у яго быў вельмі рызыкоўны і небяспечны: камуніст, падпольшчык, разведчык. Адным словам, нелегал. Знікнуць такому проста: трапіў у лапы паліцыі і знік.

Косця патлумачыў:

— На допыце расказаў нам той, хто яго добра ведаў, усё жыццё ішоў за ім следам, яшчэ з царскіх часоў, а цяпер у Брэсце на немцаў працаваў. Ён і нам нашкодзіць хацеў. Гадаў — яго прозвішча.

— Гадаў?

— Так. Агаварыў яго гэты Гадаў, калі Кляновік, пасля турмы, граніцу перайшоў і з Польшчы ў СССР падаўся. ГПУ паверыла, і яго арыштавалі…

Лявон уздыхнуў, пашкроб за вухам.

— Цяжка, калі свае арыштоўваюць.

— Не дай бог.

— Я разумею.

Лявон убачыў, як непадалёку ад Васілёвай хаты, побач з гасцінцам, задыміла палявая кухня, вакол якой ішло гаманкое партызанскае жыццё. Толькі царква стаяла маўклівая і сумная, нібы чагосьці чакала. За агароджай віднеліся пахілыя крыжы.

Косця не стаў працягваць свой аповед пра Кляновіка, а зноў спытаў:

— Ну, як жыццё?

— Пра што ты пытаеш? Якое цяпер жыццё?

— Нашы наступаюць — фронт.

— Я чуў.

— Трэба крыху пратрымацца, цяжка цяпер усім.

Лявон згодна хітнуў галавой.

— Ужо Мазыр вызвалілі і Калінкавічы. Хутка тут будуць. А я з хлопцамі іду, дарогу паказваю.

— Трэба! — пагадзіўся Лявон.

— Ваюем па абстаноўцы.

— Я бачу. Нялёгка вам.

— Ох і смелыя хлопцы! Лезуць туды, дзе больш небяспечна. Я такіх не бачыў. Надта смелыя, адчайныя! Сапраўдныя героі. Я не перастаю здзіўляцца.

— Дык і добра ўзброеныя!

— Няблага.

— А як там мае? — зноў загаварыў Косця, успомніўшы сваіх — Цімошу з Хрысіяй і бабулю Васіліху.

— Жывуць, дзякуй богу. А ты ўзяў бы ды наведаў!

— Не адпускаюць! Я тут вельмі патрэбен. І вы, дзядзьку, не гаварыце нікому, што мяне бачылі, а то яны непрыемнасці могуць мець. Васіля вашага я папярэдзіў ужо.

— Ну, можа, па часе бабулі Васілісе скажу, што бачыў цябе.

— Ёй скажыце.

— А што ў свеце чутно? — запытаў Лявон.

— Усе чакаюць адкрыцця другога фронту, а яго так і не адкрылі. Капіталісты! Абманшчыкі! Хіба ад іх чаго добрага дачакаешся?

— А можа, усё ж такі адкрыюць? — выказаў спадзяванне Лявон і ўспомніў, як год назад яны ўжо гаварылі на гэтую тэму.

Косця хацеў, відаць, нешта сказаць і, мяркуючы па ўсім, рэзкае, але да іх падышоў Васіль, падаў айчыму руку (з Косцем ужо бачыўся) і паведаміў:

— Косця, цябе нешта сам Вяршыгара выклікае.

— Ну, можа, яшчэ пабачымся! — спяшаючыся, кінуў Косця на развітанне і, пацiснуўшы аднаму і другому рукі, імкліва пайшоў.

Забягаючы наперад, трэба сказаць, што больш у Пруску ён ніколі не вяртаўся, Лявон яго не бачыў, і лёс яго невядомы.

Пагаманіўшы з Васілём, Лявон вярнуўся дадому.

Партызанскае войска ўсё яшчэ ішло. Вуліца ўжо зусім ператварылася ў балота, у суцэльную калатушу. Трывожна іржалі стомленыя коні. Некаторыя ўжо ледзь цягнулі нагружаныя рознай паклажай і раненымі павозкі. Ад Грыш-

кі Латушкі з-пад плота выскачыў здурнелы певень і, перабягаючы вуліцу, скачучы, трапіў пад задняе кола партызанскай фурманкі, яго тут жа, без следу, праглынула вадкае месіва.

Не стала вады ў калодзежы. Фёкла вынесла тую, што была ў хаце, у вёдрах, але яе, вядома, хапіла не нашмат. Адна з фурманак, якую ледзьве цягнуў дашчэнту змораны канёк, спынілася ля калодзежа, з яе саскочыў, не выпускаючы з рук пугі, вазніца і падбег да калодзежа. Не ведаючы, што вады ў ім ужо няма, ён, спяшаючыся, апусціў кубел уніз, хацеў зачарпнуць, але вады не было. Пачаў мацюкацца. З фурманкі няўцямна пазірала на яго жанчына з перавязаным вокам. Паверх перавязанага вока і здаровага цьмяна блішчэлі акуляры з тоўстымі шкельцамі. Апранутая ў вайсковы бушлат, плечы абвязаны шарсцяной хусткай-шаліноўкай.

— Усё! Вычарпалі дарэшты! Пясок… — сказаў Апанас, які знаходзіўся побач, трымаючы ў руках вядро і, пэўна, чакаючы, калі прыбудзе ў калодзеж вада.

— Нужна вада! Лошадзь напаіць! — звярнуўся да яго вазніца.

— Дзе ж я табе вады той дастану? — пацізнуў плячыма Апанас. — Вычарпалі! Трэба было раней.

— А пачаму ты не ў парцізанах? — прыдзірліва запытала жанчына, наставіўшы на Апанаса схаванае пад шклом здаровае вока.

— А на гаспадарцы хто застанецца? — наіўна, пытаннем на пытанне, адказаў Апанас.

Партызан-вазніца, не доўга думаючы, з усёй сілы сцегануў яго пугай па спіне — раз, другі. Апанас, як заяц, адскочыў убок і, кінуўшы вядро, пабег хавацца за хату.

— Наклаў у штаны! — прамовіў партызан і плюнуў на дол. Азірнуўся і ўбачыў на падворку Лявона. Месячы па калені гразь, перайшоў вуліцу і рушыў да яго.

— А ты чаму не ў парцізанах? — грозна запытаў ён і перасунуў з-за плячэй на грудзі свой аўтамат з круглым дыскам.

— Я інвалід. Яшчэ з той вайны. Вось, рука ў мяне слаба дзейнічае, — Лявон крыху прыўзняў левую руку, паказваючы, што яна ў яго хворая.

— Лошадзь імееш?

— Ну, імею.

— Памоч нам нада!

Лявон не адразу ўцяміў, чаго ад яго патрабуюць, толькі праз некалькі імгненняў дайшоў да яго сэнс гэтага непрыемнага пытання. З павозкі нязграбна злезла жанчына з перавязаным вокам і ў акулярах і рашуча накіравалася да іх.

— Ты не врубілся, старык! — з ходу сказала яна. — Давай лошадзь! Відзіш, наша какая? Відзіш, как холку нацёрла? Відзіш?

Конь быў яшчэ не стары, гнядой масці, але змораны і вельмі саслабелы. Надта прыгожыя былі вочы — вялікія і сумныя. І белая зорачка на ілбе. Лявон наблізіўся да яго, крыху асадзіў назад, торгнуў хамут і ўбачыў нацёртую на холцы крывавую рану. Толькі маўклівая жывёліна магла цярпець такое. Пазбіваныя былі і ногі, і капыты.

Пыдышла Фёкла, паспачувала.

— Давай, за лошаддзю шагам марш! — скамандаваў фурман. — Адчыняй сарай!

Гэта былі суровыя людзі, і Лявон разумеў, што абмяркоўваць гэтае пытанне, а тым больш пярэчыць ім, не выпадала. Ды, як ні як, былі яны

свае, білі немца, пастаянна знаходзіліся ў небяспецы. Іх становішчу не пазайздросціш.

— Нічога не зробіш, адчыняй, — уздыхнула Фёкла і змахнула слязіну з вачэй.

Лявон паслухмяна павёў іх у хлеў. А кабыла была ў яго добрая — здаровая і сытая. Мянушку мела — Лялька. Каўпакоўцы, калі ўбачылі яе, дык адразу павесялелі.

— Ну, старык, ты нас выручыў! — радавалася аднавокая і, бачачы, што ў Лявона ўпаў настрой, падбадзёрыла: — Да ты не гаруй! Мы табе сваю каняку аставім!

Каўпакоўцы забралі Лявонаву прыгажуню, замест яе пакінулі свайго выбракаванага коніка. Змардаванага, замуленага, з разбітымі капытамі. Бедалага ледзьве цягнуў ногі. Лявон сумна глядзеў на каня, не ўпэўнены, ці выйдзе з яго што-небудзь людскае —- загнаны, сухарэбры, з да крыві нацёртай шыяй.

— А ведаеш, як яго завуць? — спытаў вазніца, зноў закідваючы аўтамат за плечы. — Юша! Цудоўнае імя! Цягавіты на рэдкасць!

Юша махнуў мордай, нібы пацвярджаючы, што гэта і сапраўды так, падступіў да Лявона бліжэй і холкай пацёрся яму ў грудзі.

— Цягне ён харашо! — пацвердзіла жанчына. — Як трактар!

Лявон хацеў нешта ёй сказаць, але, зірнуўшы на яе твар, прамаўчаў.

Зноў пачуўся голас партызана-фурмана:

— А сена? Сена ў цябе ёсць?

Лявон адчыніў клуню, і партызан узяў з застаронка ахапак сена, занёс і паклаў у воз, прымяў і вярнуўся за другім ахапкам. Жанчыне захацелася закурыць. Лявон пачаставаў яе і фурмана сваім тытунём, яны згарнулі з газетнай паперы цыгаркі, прыкурылі ад запалак, якія былі ў жанчыны. Відаць, каб якнебудзь кампенсаваць яго страту, жанчына дастала з воза кніжку, ужо парадкам памятую і зачытаную, і працягнула Лявону.

— Вазьмі, хазяін, на памяць кніжыцу ўместа лошадзі! — сказала яна.

Лявон узяў кнігу і, аддаліўшы яе ад вачэй на выцягнутай руцэ, прачытаў па складах: «Ра-ду-га». Гэта была назва, што стаяла на вокладцы. Крыху вышэй і драбнейшымі літарамі значылася імя аўтара: Ванда Васілеўская. Кужаль нейкі час пазіраў услед ад’ехаўшай фурманцы, якая не ехала, здавалася, а нібы плыла ў гэтым незвычайным вулічным разводдзі. Потым павёў Юшу ў хлеў, думаючы, чым яго пакарміць. У другой руцэ трымаў падораную «кніжыцу». У хляве сунуў яе пад сена на вышкі.

Каўпакоўцам былі патрэбны свежыя коні, і яны, апроч Кужалёў, узялі коней у Шведаў і Антона Давыдзюка, а таксама ў Павала Гальяша, які ехаў з лесу, вёз дровы. Партызаны хуценька выпраглі яго каня, забралі сабе, пакінуўшы Павалу свайго, зморанага. Заскочылі ў маёнтак да Лявара, які недзе ўдала схаваўся. Нягеглага Стаха, які адно толькі мычэў, не разумеючы, што адбываецца, не чапалі. Забілі некалькі парсюкоў і цялушак, каб накарміць людзей, і паімчалі далей. Партызанскае войска спяшалася. Напружана, па-дзелавому працаваў штаб. Далі ўказанне падрыўнікам аб мініраванні гасцінца на той выпадак, калі з боку Камянца кінуцца наўздагон немцы.

— Шуралёва сюды! — распарадзіўся камандзір групы і аддаў загад.

Нехта ўдакладніў:

— На грунтоўку?

— На грунтоўку.

Група мінёраў адправілася выконваць заданне. Гасцінец незабрукаваны, і міны ставілі проста на грунтоўку. Ад вёскі адбегліся не нашмат, на якіх паўкіламетра, паскідалі з плячэй рэчмяшкі і ўзяліся за работу. Гэта было якраз насупраць прускаўскіх могілак. Ломам ды радлёўкай выдзеўблі дзясятак ямак, паклалі ў іх жалезныя кругляшы мін, засыпалі пяском.

— Харош! Фрыц не пройдзе!

— Давай па ходзе яшчэ пару штук! Каб напэўна было!

Вечарэла. Усходняя частка неба ўжо апускалася ў начны морак. К ночы пахаладнела. Работа была зроблена, і мінёры кінуліся даганяць сваіх.

Ззаду, у ар’ергадзе, як заўсёды, заставаліся п’яныя. Гарэлка дадавала куражу і жадання спяваць. І яны спявалі. У некалькі галасоў:

Чубчык, чубчык, чубчык
кучаравы,
да развявайся, чубчык,
па вятру-у…

Звонкі, залівісты голас выводзіў:

А я Сібіры этай не баюся,
Сібір ведзь та жа руская зямля-я…

Лявон помніў гэту песню яшчэ з Расіі, з часоў бежанства. Потым пачулася яшчэ адна — украінская:

А там стары батько-о
Окопы копав,
Він здалеку бачыв,
Як стрілець упав,
Підійшов він бліжче
Тай сына впізнав…

Але праехалі нарэшце і спевакі. Пруска аціхла пад покрывам ночы. Лявон з Фёклай сядзелі ў хаце, пры іх знаходзіўся ўнучак. Лямпы не запальвалі, хапала месяцавага святла, якое павольна цадзілася ў акенца.

— Ой, столькі гора на свеце! — уздыхнула Фёкла.

— Якое гора — «чубчыка» спяваюць.

— Спяваюць…

— А я Косцю сустрэў!

— Косцю?

— З імі ён.

— Дзіўны ён. Заўсёды сабе нешта шукае. Казаў, што ўжо Саветы ідуць, а сам нейкі сумны. Я па вачах заўважыў.

Была ўжо перадпоўнач.

Лявон з Фёклай, паклаўшы Валодзіка спаць, выйшлі з хаты, спыніліся ля весніц. З алешніку, з карчоў, патыхала халоднай свежасцю. На фоне неба з начнога сутоння выступаў каштан, нібы прасіўся пагрэцца ў хату. Паміж хмарамі там-сям ззялі зоркі. Лявон падумаў, што ён заўсёды любіў глядзець на гэтае высокае, вечнае неба, прыгожае і ўдзень, і ўночы. Недзе за Млынамі засакатаў кулямёт.

— Як на машынцы шые, — сказала Фёкла.

Высока ў паветры чуцён быў свіст куляў.

Падышла Хомчыха, і ёй, відаць, не спалася.

— Чалавек страляе, — бурчэла яна, — а чорт кулю носіць. — І дадала: — А майго Апанаса пугай перацягнулі. Так спляжылі!

Фёкла моўчкі паспачувала.

— Пайду, пагляджу, як там Юша, — сказаў Лявон і накіраваўся ў хлеў, дзе стаяў каўпакоўскі конь.

Каля Млыноў злучэнне Вяршыгары перапраўлялася праз Лосьну і, забыўшы пра адпачынак, пакацілася далей. Перайшоўшы шашу Высокае — Відамля, разграмілі пагранзаставу ў Лешні. У Прусцы чуліся водгукі далёкага бою. Пачаў зноў накрапваць дождж са снегам. У шырокай лужыне пасярод вуліцы адлюстраваўся жоўты месяц.

Пачуліся, пад раніцу ўжо, далёкія гарматныя стрэлы. Назаўтра людзі казалі, што гэта стралялі немцы. Прыкацілі з Высокага невялікую гармату і давай паліць услед, наўздагон. Шкоды каўпакоўцам не прычынілі. Тыя былі ўжо далёка, рухаліся на поўдзень, а потым, перайшоўшы шашу паміж Відамлем і Брэстам, каля Турны, павярнулі на ўсход, углыб Палесся…

Рэйд каўпакоўцоў зрабіў вялікае ўражанне на ўсё наваколле, але людзям, як і раней, заставалася адно — чакаць, што будзе далей.

## III

Пасля каўпакоўцаў у Васілёвай хаце засталася лістоўка:

*«Грамадзяне і грамадзянкі!*

*Усімі сіламі дапамагайце сваім сынам-партызанам. Хай праклятыя гітлераўцы ведаюць, што партызаны і народ — гэта адно і тое ж, што партызан немагчыма знішчыць, пакуль жыве народ».*

Васіль прачытаў раз і другі і задумаўся. Розныя думкі стукалі ў галаву: «Прыйдуць Саветы і спытаюць, што рабіў, ці дапамагаў партызанам? Скажу, дапамагаў. А чаму сам у лес не пайшоў? Вунь Санька пайшоў… Дык гэта Санька, а ў мяне сям'я, дзеці. Каб не яны, пайшоў бы! Хто яго ведае, як яно будзе, калі вернуцца нашы…»

Апроч сям'і, трымала яго яшчэ і хата — новая, недабудаваная, якая стаяла побач з «урамянкай» без дзвярэй і акон, якія былі забіты дошкамі, пустая, незаселеная. Ён і ганарыўся гэтым сваім дзецішчам — сведчаннем сваёй самастойнасці, і ніяк не мог яго даканаць, давесці да «розуму». Добра, што хаця ўдалося накрыць, і нават не саломай, а гонтай, але далей гэтага справа не пайшла. З хатай ён біўся, як рыба аб лёд, бо не дастаць было ні дзерава, ні цэглы, ні абсталявання. Усё ўскладніла вайна. Хата стаяла, пазіраючы на свет цёмнымі аконнымі праёмамі, дзвярныя праёмы былі забіты дошкамі. Ні печы не было пакуль што, ні падлогі.

Хто не звяртаў увагі на вайну і ўсе астатнія акаляючыя падзеі і прытрымліваўся толькі прыроднага ходу рэчаў, дык гэта чаромха, што стаяла непадалёк ад недабудаванай хаты, — не куст, а магутнае, раскідзістае дрэва, якое расло ва ўсе бакі, навісаючы над гасцінцам. У сярэдзіне красавіка над Прускай правуркатаў першы вясенні гром, на які згодна адрэагавала ўся прырода, і асабліва шчыра — чаромха. Яна буйна расцвіла, ажно ўспенілася густой малочнай квеценню.

Васіль загледзеўся на прыгажуню-чаромху і зноў успомніў пра сталярку — пра вокны і дзверы. Дошак на падлогу, з дапамогай Мірыка Паца, нарэзаў, а са сталяркай атрымалася затрымка. Турбавала яго яшчэ і тое, што даўно не з'яўляўся на сустрэчу Афінагенаў. Ні яго самога не было, ні сувязніка. Трэба было інфармаваць, лічыў ён, пра злучэнне каўпакоўцаў, што маршам

прайшло праз Пруску, і генерала Вяршыгару, штаб якога спыняўся ў яго, Васілёвай хаце, пра тое, як нахабна паводзіць сябе нямецкая адміністрацыя. «А можа, самому пашукаць іх? Яны цяпер недзе за Камянцом, не іначай. А дзе яшчэ ім быць? Заказаць сталярку можна хіба што толькі нейкаму пушчанскаму майстру з тых краёў. Вось гэта якраз і добра — тое, што трэба!»

І яшчэ падумаў, што арыентавацца трэба на Дварцы, на Дацкевіча, каб мець што сказаць, калі спыняць і спытаюць, куды едзеш. «Еду, маўляў, у Дварцы, да Дацкевіча, у якога купіў зруб, а цяпер хачу заказаць сталярку. І сталярку, можа, прыдбаю, і іх адшукаю. А можа, калі прымуць, дык з імі і застануся. Партызанам буду. Ніхто і ведаць не будзе…»

У сенях затупала Прося, вярталася, пэўна, ад маці. Жонку Васіль пазнаваў, што называецца, па хадзе: яна звычайна спяшалася. Дзверы адчыніліся, і сапраўды на парозе паказалася яна. Зірнула на калыску, у якой спаў Лёнік.

— Ты адзін?

— З малым.

— Не плакаў?

— Не.

Прося падышла да калыскі.

— А я, Прося, у Камянец надумаў ехаць.

Яна няўцямна зірнула на мужа.

— Са сталяркай трэба нешта пачынаць рабіць. Можа, сталярку ўдасца заказаць.

Пра тое, што трэба дабудаваць хату, яны гаварылі даўно. Не ў час гэтае будаўніцтва, але ж калі пачалі, дык трэба закончыць.

— Вокны будзем ставіць такія, каб адчыняліся, — працягваў Васіль, — не тое, што ў гэтай «урамянцы». Высокія!

— Высокія і з фортачкамі, як у Шпроньkі, каб праветрыць, — дадала Прося. Як гаспадыня, яна хацела, каб было, як лепш.

— Я такія калісьці ў Берасці бачыў. Адчыняюцца, і ўсё, як трэба. Паветра заўсёды свежае. Добра!

— Толькі, Васенька, за Камянец не едзь. Чула я, што неспакойна там.

— А дзе цяпер спакойна?

— Не едзь туды! Там немцы вёскі паляць! З Лескамі вунь што зрабілі. Страх! — Яна быццам прадчувала што нядобрае. Жаночае сэрца — чуйнае.

— Можа, хату хутчэй скончым.

— Хата можа і пачакаць, але каб усё астатняе было добра.

Але Васіль ужо наважыўся, а калі так, дык яго было не стрымаць. Магла б стрымаць маці, але Фёкла не ведала.

На развітанне Прося яго абняла і сказала:

— Будзь асцярожны!

— Не хвалюйся, усё будзе добра. — І з гэтымі словамі ён сеў на веласіпед і, націснуўшы на педалі, падаўся ў бок Камянца.

У ранішняй цішыні роўна шумелі веласіпедныя колы, у твар павяваў духмяны халадок. Дарога знаёмая. За Бабіцкай гарою — Ліпна. Цяпер тут замест хат зямлянкі. Бедныя людзі корпаліся каля іх, некаторыя ўскопвалі агароды. Непрывычна, жаласна было глядзець, як аголеныя, безабаронныя печы сек дождж і абагравала веснавое сонца. Людзі, напаўголыя і босыя, жылі ў зямлянках разам з жывёлай.

Далей — Мікалаева, з царквой на ўзгорку каля гасцінца. Яшчэ трохі — і Замасты, потым Камянец. У Камянцы ён не спыняўся, а адразу па былой Літоўскай вуліцы павярнуў на Навіцкавічы, адтуль — на Шышова, у Чарна-

кі, па мосце перабраўся на другі бераг Лосьны і падаўся па ўскраіне пушчы на ўсход. Вясна 1944 года была хоць і позняя, але затое дружная. Прайшлі дажджы, ужо некалькі разоў грымела. Вясна трымалася народнай мудрасці: першы гром раскрыў на дрэвах пупышкі, пасля другога адскочыла маладая трава, з трэцім — зацвілі яблыні. Чутно было, як дыхала зямля, абагрэтая вясеннім сонцам. Убіраўся ў зеляніну навакольны прастор.

За Лосьнай раскінуўся шырокі, да самага лесу, заліўны луг. Цягнуліся да сонца рознакаляровыя лугавыя кветкі — белыя, жоўтыя, фіялетавыя. Далей, за лугам пачыналася поле. На ўзмежках сялянскіх загонаў цвілі грушкі, соладка пахла квецень, па-вясенняму калюча прыгравала сонца. У твар падзьмула густым палявым паветрам, па зямлі пабеглі цені ад хмар. Дарога ішла то полем, то праз лес. Гэта была ўсходняя ўскраіна Белавежскай пушчы. Лес — спелы, дарослы, выглядаў то па-царску велічна, то больш даверліва і задушэўна: бярозы з кашлатымі елкамі, сосны, дубы, шэрае кустоўе, ядлаўцовы падлесак. Зелянеў ляшчыннік. Па гэтых мясцінах — Васіль ведаў — пралягалі шляхі, якія звязвалі партызанскі захад з усходам, Беласточчыну з Гута-Міхалінскімі лясамі.

Не стамляючыся, ён круціў педалямі і расшыранымі ноздрамі прагна, напоўніцу ўдыхаў водар лесу, дзівіўся яго гушчыні і свежасці. Парная зямля аддавала настоем імхоў, грыбніцай, ужо сагрэтай веснавым цяплом. З травы там-сям вытыркалася лісце зубрынага ласунку — кіпрэю, сінімі вачыма пазірала лясная фіялка, у засені цвіў падбел. Дацвіталі лазовыя карчы, бялелі па палянках, на ўскрайку лесу, пралескі, пахла чарамша. Духмяным белапенным цветам п’яніла каліна. «Час сеяць лён», — падумаў Васіль, успомніўшы, што лён звычайна сеялі тады, як зацвітала каліна.

Вясной пушча напаўняецца спевам птушак. Некаторых Васіль умеў пазнаваць з дзяцінства: вось падобная на вераб’я круцігалоўка, вось пячураўка-трашчотка. Трывожныя ўскрыкі падае сойка, скача па сасновых галінах, заглядаючы ў старыя сучкі, дзяцел. Умасціўшыся на высокім дрэве, аглядае наваколле арлан-белахвост. Дзесьці далёка застагнала зязюля, але неўзабаве голас яе прапаў, згубіўся ў бяскрайняй глыбіні пушчы.

Ён праехаў Грудавікі, наступнай вёскай павінны былі быць Дварцы. Дарога ішла праз сасьнякі. Вакол стаяла цішыня, нібы ніякай вайны і не было. Страх аднак пастаянна падпільноўвае чалавека, абуджае трывожныя прадчуванні. Раптам наперадзе, як бы з засады, выступіла адзінокае дрэва — ніцая бяроза з нахіленым тоўстым ствалом. Прускавец адчуў, як у галаве заварушыліся неспакойныя думкі, але за бярозай зноў адкрыўся заліты сонцам смалісты сасняк. Не густы, ён увесь прапах смалінай і ажно свіціўся святлом і радасцю жыцця. І толькі ў сцені рослага, квітнеючага маладняка дагнівалі старыя абамшэлыя пні, ад якіх патыхала прэллю, ды цямнелі тоўстыя вывараціны. Далей зноў пайшоў стары лес.

Стукнуў колькі разоў дзяцел і перастаў. Пераскочыў, пэўна, на другое дрэва, бо па часе пачаў ізноў — па-вясенняму мякка, пяшчотна, як бы клікаў да сябе сяброўку. Лёгка падскокваючы, перабегла дарогу вавёрка.

Да Дварцоў заставалася яшчэ, пэўна, з паўкіламетра, як у пералеску пачуў:

— Halt! Hende Hoch![1]

Васіль спыніўся, злез з веласіпеда і зразумеў, што трапіў на нямецкую засаду. Тут яго і схапілі, наставілі зброю, прымусілі падняць рукі.

[1] — Стой! Рукі ўверх! *(ням.)*

— Хто ты? — спытаў высокі, сухатвары немец з цяжкім падбародкам і сінімі мяшкамі пад вачыма. У руцэ ён трымаў пісталет. Ва ўтрапёным паглядзе пракідаліся шаленства і жорсткасць. — Парашутыст?

Гэта быў гестапавец, аб чым сведчыла яго чорная ўніформа з чарапамі на фуражцы і на лацканах каўняра. Каля яго было яшчэ некалькі немцаў і паліцаяў у чорным. Іх пашчэнкі застыглі ў хціва скрыўленых усмешках. Яго тут жа абшукалі, але нічога не знайшлі (ніякіх дакументаў ён з сабою не браў), і гэта ўзбудзіла іх яшчэ больш.

— Папаўся!

Ад нечаканасці і ад страху Васіль ажно ўспацеў, адчуў, як закалаціліся ногі. Не чакаючы адказу, яму перавязалі сырамятным абрэзкам рукі, але гэтага паказалася мала.

— Рукі на патыліцу! — скамандаваў паліцай, высокі і тонкі, як жэрдка і па-блазенску зарагатаў, адкрыўшы гнілыя чорныя зубы.

Другі паліцай, чырванатвары, у чорным суконным галіфэ, адабраў веласіпед.

— Марш! — загадалі ззаду.

Мільганула думка пра ўцёкі, але ж куды? Ды ад кулі і не ўцячэш. Адчуў, як усю яго істоту агортвае халодны жах і ад страху падгінаюцца калені. Яго павялі. Побач, на веласіпедах, ехалі канвойныя, і яму даводзілася бегчы. Прыгадаліся словы Мірыка, якія той сказаў калісьці ў Камянцы, у сваім магазіне: «А хто там будзе разбірацца — вінаваты ці не. Кокнуць і ўсё». Успомніў Просю: «Не паслухаў. Правільна яна казала, а я не паслухаў, і вось маеш…» Ад стомленасці, а найбольш ад страху некалькі разоў падаў. Немцы, асабліва паліцаі — усе на веласіпедах — прыспешвалі: «Хутчэй! Хутчэй!»

Дварцы праміНулі не спыняючыся. Потым Вішню і Хілеўшчыну. Арыштаваны зразумеў, што яго гоняць кудысьці далей. Паказалася яшчэ адна вёска. Калі наблізіліся, Васіль на нямецкім дарожным указальніку прачытаў па складах: Stschyrtschowo.

«Гэта ж Шчырчова!» — дайшло нарэшце да яго. Успомніў, што Шчырчова знаходзілася каля тых самых Лесак, якія ў маі спалілі немцы, а ўсіх жыхароў расстралялі. «Вось дзе апынуўся!» Пагналі вёскай. Ля крайняй хаты, каля плота, стаяла жанчына і пільна, і разам з тым спачувальна, узіралася ў яго, арыштаванага. Васіль у адказ зірнуў на яе: «Памаліся за мяне, жанчына, я ні ў чым не вінаваты, але справы мае дрэнь. Усё. Капцы. Памаліся за мяне, каб у мяне хапіла сіл, каб як пераадолець страх…»

Пасярэдзіне вёскі стаяла вялікая хата, да сцен туліліся зялёныя атожылкі бружмелю. Калісьці, пры Польшчы, тут знаходзілася лясніцтва, пры савецкай уладзе месціўся сельсавет, цяпер быў, мяркуючы па ўсім, паліцэйскі пастарунак. У гэты пастарунак яго і прывялі і адразу сталі біць, як бы дзеля гэтага і прывялі. Гумовая палка са свістам працяла паветра і ляснула па Васілёвай спіне. Пасыпаліся ўдары з розных бакоў. Паліцаі лупцавалі гумовымі палкамі. Іх было чацвёра. Для постраху раўлі і лямантавалі на ўсе галасы. «Пачалося!» — мільгнула ў Васілёвай галаве, і ад болю ён паваліўся на падлогу, адчуўшы, як унутры ў яго ўсё абарвалася і прарэзліва зазвінела ў вушах. Ён асунуўся на падлогу, спрабаваў абараніцца, закрываў галаву рукамі, курчыўся, але нішто не дапамагала, удары сыпаліся, як град, рвалі адзенне, рэзка абпальвалі. Але, на шчасце, так працягвалася нядоўга, экзекуцыя спынілася, яго паднялі з падлогі і пасадзілі на столак. Насупраць, на сцяне, ён убачыў плакат, на якім была намалявана строгая жанчына з прытуленым да вуснаў пальцам. Знізу

словы: «Pst! Feind hųrt mit![1]» Злева, каля абшарпанай сцяны, якая не мела вокнаў, стаяў стол. Там, у крэсле, ужо сядзеў сухатвары гестапавец з чарапамі на каўняры і цяжкім падбародкам, ён, праз перакладчыка, пачаў допыт.

— Хто ты? Адкуль?

Васіль назваў сваё прозвішча і вёску, але гестапавец толькі скептычна пасміхнуўся, выняў з кабуры пісталет і паклаў перад сабой на стол. З воранёнага дула струменіўся халадок. Цяжкі падбародак немца выдаўся наперад.

— Будзеш жыць, — сказаў ён, не глянуўшы на арыштаванага, — калі скажаш, дзе хаваюцца твае сябры-дэсантнікі.

— Я не дэсантнік, я нават не ведаю, што гэта такое.

— Не прыкідвайся, не раю! Прызнавайся ва ўсім! У цябе няма іншага выйсця. Ну!

Арыштаваны пацiснуў плячыма, яны сталі цяжкімі і балелі.

— Я ў Дварцы еду, да Дацкевіча, сталярку хачу заказаць.

— Ду біст партызан?[2]

Гэтае пытанне прускавец зразумеў і без перакладу.

— Не.

— Сталярку атрымаеш бясплатна. Карову дадзім!

Васіль маўчаў і толькі пацiскаў плячыма.

— Дзе знаходзяцца партызаны? Ну? Дзе партызаны?! Дзе бандыты?! Што?! Не разумееш, тваю маць?! — стараўся перакладчык, імкнучыся дапамагчы шэфу.

— Я працую на гаспадарцы і нічога не ведаю.

— Не ведаеш?

— Ратайчыцкі амтскамісар дабавіў мне зямлі два гектары, і я павінен іх абрабіць. Астатняе мяне не цікавіць.

— Не далей, як гэтай ноччу савецкі самалёт выкінуў парашутыстаў, і ты — адзін з іх! І не прыкідвайся цялём! — У гестапаўца, відаць, здавалі нервы, ён перайшоў на крык, запырскаў слінаю і колькі разоў ударыў кулаком па стале. Васіль убачыў налітыя крывёю вочы. — Ну? — Гестапавец зграб са стала пісталет, падняўся з крэсла і падышоў да арыштаванага, у якога са скроней пакаціліся буйныя кроплі поту, але страляць не стаў. Выбраўшы момант, з усяе сілы ўдарыў па патыліцы.

Васіль адчуў, як у шыі нешта хруснула, але свядомасці не страціў. У роце ўтварыўся салёны прысмак крыві. У наступнае імгненне ўдарылі па галаве збоку, па правай палавіне. Арыштаванаму здалося, што галава зрабіла поўны паварот вакол шыі. «Ну, відаць, канец!» — мільганула думка, і тут жа ўзнік востры боль у галаве і ў патыліцы.

Яго катавалі доўга, са смакам і, як ні дзіўна, не спяшаючыся, а калі ён паваліўся, пачалі біць ботамі ў жывот і пад бокі. Ён хапаў ротам паветра, але паветра не хапала ці яно было настолькі разрэджанае і бескіслароднае, што ніякага ўдыху не атрымлівалася. З носа цякла кроў. «Дзе бандыты?» — стаяла ў вушах. Калі траціў свядомасць, адлівалі вадой і зноў білі.

Раптам адчуў, што яго падхапілі за рукі і цягнуць. «Вось і ўсё, — абыякава падумаў ён, — і як нечакана!..» Ногі баранавалі зямлю, потым прарэзліва зарыпелі дзверы і яго кудысьці штурхнулі, бразнуў замок. У твар дыхнула чымсьці настылым і затхлым, і наступіла цішыня. Балелі галава, жывот, рукі, і колькі часу ляжаў без прытомнасці, ён не ведаў. Нарэшце,

[1] Цішэй! Вораг падслухоўвае! *(ням.)*

[2] Ты партызан? *(ням.)*

паварушыўшы галавой, прыйшоў да памяці і агледзеўся. Гэта было сутарэнне з нізкай столлю, цэментнай падлогай і некалі атынкаванымі сценамі. Усё выглядала сырым і заплеснявелым, але моцным і трывалым, як цытадэль, з якой не было аніякага выйсця. Свіцілася адзінае акенца, з разбітым шклом, закратаванае тоўстымі металічнымі пруткамі. Пахла потам, мачой і экскрэментамі. На сцяне хтосьці цвіком ці чым яшчэ надрапаў нейкія словы, але ў Васіля ўсё яшчэ мітусілася ў вачах, і цяжка было разабраць, што там надрапана. «У другі раз трапіў у апраметную! — падумаў ён, успомніўшы першы арышт у 1941 годзе. — Тады выбавіўся, бацькі дапамаглі, а на гэты раз? Хто дапаможа?» Намацаў на шыі нацельны крыжык на волглым шнурку. «Можа, ён выратуе? Тут ужо, пэўна, ніхто не дапаможа. Ніхто не ведае, дзе я. Дом смерці…» Ім авалодала роспач, якая потым змянілася абыякавасцю: «Будзь, што будзе!..»

Паступова вочы прывыкалі да падвальнай цемры. Агледзеўся яшчэ раз: ні стала, ні ложка, ні нараў якіх-небудзь у падвале не было. Толькі ў кутку, заўважыў, ляжала трохі саломы. Да гэтай саломы ён і падпоўз, ткнуўся скронню ў сцяну, адчуўшы холад атынкоўкі. Наверсе, на ўзроўні зямлі, свіцілася акенца, за якім хадзіла варта. Стомлены і скатаваны, ён апусціў галаву на салому і паспрабаваў заснуць, але не мог. Садніла ўсё цела. «Каб хутчэй канец!» — вярцелася ў галаве. З гэтай думкай ён упаў у забыццё. Калі ачнуўся, у сутарэнні прыбавілася святла, і ён зноў угледзеў на бруднай сцяне невыразны надпіс, выдрапаны чымсьці вострым. Прачытаў: «Я ў божым свеце не вінаваты». «Хто гэта мог напісаць? — падумаў Васіль. — І што з ім магло здарыцца? Можа, такі як і я? А можа, гэта Кавальчук пісаў?» Кавальчука ён ведаў, быў з ім аднаго ўзросту, да вайны не раз сустракаліся ў Камянцы, і ведаў, што з ім здарылася ў самым пачатку вайны[1].

Бразнуў замок, і ў падвал, нагінаючыся, уваліліся два паліцаі з вінтоўкамі.

— Давай!

І зноў пацягнулі на допыт. Увялі ў той самы пакой, дзе сядзеў ужо не той сухатвары гестапавец, а іншы, магчыма, яго намеснік, у такім жа чорным мундзіры, з немігатлівымі вачыма. Арыштаванага ён сустрэў яхіднай усмешкай.

— Erledigt?[2]

Перакладчык пераклаў пытанне, але Васіль толькі ўздыхнуў.

— Дык, кажаш, сталярку шукаў і думаеш, што мы паверым?

— Сталярку! У мяне хата недабудаваная. Сталярка патрэбна! Вокны! Дзверы!

Перакладчык пераклаў яго адказ, але Васілёвы тлумачэнні былі для гестапаўца непераканаўчымі і ён зняважліва скрывіў свае тонкія вусны:

— Не лічы мяне за дурня! Калі мы не атрымаем інфармацыі пра бандытаў, дык павесім!

Арыштаваны маўчаў, чакаў ужо, што будзе. Іншага не заставалася.

— Ты думаеш нас абмануць?

— Не.

Роўны тон паддопытнага вывеў гестапаўца з сябе, яго тонкія вусны задрыжэлі, і ён перайшоў на крык:

---

[1] Кавальчук П. А. — старшыня Шчарчоўскага сельсавета, расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г.

[2] Гатоў? *(ням.)*

— Гаўляттэр Кох яшчэ раз напомніў нам, што лепш павесіць на сто чалавек больш, чым на аднаго менш, і цырымоніцца з табой я не буду! Пакажы кантактовыя скрынкі! Назаві сувязных!

Васіль пацiснуў плячыма і адмоўна хітнуў галавой.

— Я ні з кім не звязаны і нікога не ведаю.

— Бач ты яго! Выкручваецца, як скурат на агні! — сказаў перакладчык, і невядома было, чые гэта словы — яго асабістыя ці ён перакладаў гестапаўца.

Паклікалі паліцаяў, што знаходзіліся ў другім пакоі і былі напагатове. Васіля зноў катавалі, мучылі пытаннямі, але ён стаяў на сваім. Вочы апухлі, і ён ужо мала што бачыў. Твар немца дваіўся, расплываўся ў пляму.

— Erschissen![1]

— К сценке! — выгукнуў перакладчык, паўтарыўшы загад гестапаўца.

«Расстраляць! — дайшло да яго скрозь затуманеную свядомасць. — Ну, усё… Канец… Не спадзяваўся, што ўсё гэтак закончыцца, але ў душы ўжо ўсталявалася абыякавасць да ўсяго: ужо што будзе. Марыў толькі аб тым, каб як спыніўся фізічны боль. Яго вывелі ў двор, паставілі спінаю да дрэва, звязаўшы за дрэвам рукі. Гестапавец дастаў з кабуры, што вісела ў яго на жываце, пісталет і пачаў цэліцца. Куля ўдарыла недзе зверху, рэкашэтам слізнула па ствале, пасыпаліся трэскі. Ні стрэлу, ні таго, як пасыпаліся трэскі, Васіль не пачуў, ад страху і нервовай знямогі ён страціў прытомнасць і каля дрэва асеў на дол.

Яго зноў кінулі ў тое самае сутарэнне. Трое сутак прабыў без ежы і вады. «Відаць, канчаць будуць, — вырашыў ён, — няма на што спадзявацца, нічога ім не дакажаш…» Але не. Нарэшце далі нейкай поліўкі і кавалак чэрствага хлеба. Прынёс вартавы, паліцай з карабінам і белай павязкай на рукаве.

— Суп! — сказаў ён няйнакш, як у насмешку.

«Суп» больш падобны быў на памыі, але што зробіш, голад не цётка.

Пацягнуўся час.

---

[1] Расстраляць! *(ням.)*

***Працяг будзе.***

## Валеры МАКСІМОВІЧ



### МАЁЙ ЗЯМЛІ

Зямля мая — мой звонкаспеўны край,
Святая жыватворная крыніца!
Вяртаюся сюды, нібыта ў рай,
Каб ля святых вытокаў памаліцца;

Вачмі лугі аблашчыць і палі,
Падлесак мой, што дружна ў рост пусціўся,
Сцяжынкі тыя, што ў жыццё вялі,
Каб не зблудзіў, са шляху каб не збіўся.

Хачу ўдыхнуць паветра і святла,
Абшарам самавітым наталіцца,
Пацешыцца з буслінага крыла
І з чарадой птушынай парадніцца.

О краю мой — святляны, дарагі,
Прытулак жыццяспеўны, жыццядайны!
Ты лечыш ад самоты і тугі,
Ад нематы і немачы адчайнай.

Табе сыноўскі нізкі мой паклон,
Табе мая бязмежная удзячнасць
За несціханы ў сэрцы перазвон,
Душой адчутую радзімы значнасць.

---

*__Максімовіч Валерый Аляксандравіч__ нарадзіўся 21 сакавіка 1962 года ў вёсцы Траянец Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1989). Доктар філалагічных навук. Быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры БДУ, першым прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Цяпер — выконваючы абавязкі намесніка дырэктара па навуковай рабоце Інстытута філасофіі НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012).*

Я веру: калі стане золка мне
Ад ветру злога, сцюжы і завеі, —
Мая зямля, бы маці, прыхіне
І, як ніхто на свеце, зразумее.

Таму я зноў вяртаюся сюды,
Да родных ніў, да звонкай той крыніцы —
Святой і жыватворнае вады —
Вячыстай прыгажосцю прычасціцца.

## УЛЕТКУ

Разгараецца лета… Гудзе… Палымнее…
Колькі красак у лузе!.. Спыніся… Счакай…
Хараство найсвятое, што песціць і грэе,
Ты ласкава і ціха душой прывітай.

Ў чабаровым настоі, у паху хмялёвым
Столькі цуду зямнога і боскай красы!..
І люструецца казачная васільковасць
У празорынах чыстай крыштальнай расы.

Лугавыя званочкі гасцінна прывецяць
Песняй шчырай, сардэчнай і роднай здавён…
Знікне, счэзне кудысьці — як друз той, як смецце —
Надакучліва-шэры жыццёвы прыгон.

Каласяцца жыты ля старога гасцінца,
І гамоніць разложысты дуб ля мяжы…
Гэта тое, на што нельга, дружа, забыцца,
Чым патрэбна — як дарам зямным —даражыць.

Разгараецца лета — шматфарбна, шматспеўна…
Краскі ў лузе палаюць наўздзіў, зіхацяць.
І так хочацца свет гэты роднасна-крэўны
Мне ласкава і ціха душой прывітаць.

## НА РОДНЫМ ПАДВОРКУ

***Наследаванне М. Багдановічу***

Сонца садзіцца. Ідзе на змярканне.
Ціха ля хаты. Празрыстасць. Спакой.
Сэрца так прагне палёгкі-адхлання
Гэткай дзівосна прыгожай парой.

Добра, так добра на родным падворку
Мне летуценіць — мары снаваць,
Бачыць, як дзесь загараюцца зоркі,
Чуць, як шапоча ля плота трава.

А недалёка, у садзе барвовым,
Сведкі даўно прамінулых часоў —
Дуб каранасты на пару з сасною —
Цешацца ў засені думных вякоў.

Гукі знаёмыя песні вячыстай
Матчынай льюцца ў душу светлынёй, —
Быццам схіліўся сусвет над калыскай —
Безабаронна-лагоднай зямлёй.

Я счараваны, здзіўлёны дазвання.
П'ю вечаровы духмяны настой…
Просіць-жадае палёгкі-адхлання
Сэрца — такой цудадзейнай парой!

## АБЛОКІ, СЭРЦА І Я

Аблокі белыя павольна плывуць
У даль бязмежную па сіняй прасторы
І так прынадна запрашаюць-завуць
Мяне з сабою — за лясы і за горы.

Такі спакойны і бязважкі палёт,
Такая вытанчанасць і грацыёзнасць,
Што мне здаецца — і праз тысячу год
Я не забуду гэту дзіўную лёгкасць.

Стаю, задумлівы, гляджу ім услед
І адарваць ад іх свой позірк не ў стане…
І сам не ведаю, як выйшла, але
Мне раптам сэрца хтось балюча параніў.

І нібы спуджаным малым птушанём
Яно ўздрыгнулася ўва мне, затрымцела
І верабейкам, а ці мо жаўруком
На свет шырокі паляцець захацела.

Ах, ты балеснае маё птушанё,
Не біся сполашна на волю, у неба, —
Ты мая радасць і маё ты жыццё,
Ты больш за ўсё мне ў гэтым свеце патрэбна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аблокаў белых знік прымроены след,
Няўзнак растаў дзесь у блакітным тумане…
А я гляджу, зачараваны, услед
І адарваць на міг свой позірк не ў стане.

## СУТОКІ

**1**

Перадумаю ўсё, перапомню
У вячэрніх і дзённых сутоках, —
Яркім і незгараючым промнем
Шугане мая памяць далёка.

Разгавеецца, распалымнее,
Разварушыць прыспаныя споды —
І скрозь сполахі святлаценяў
Ажывуць зноў былога прыгоды.

І мяне нібы хвалі спудныя
Панясуць па нізінах і высях —
Невыгоднага, ды непадсуднага,
Што не можа ніяк адрачыся

Ад жыцця разгавейна-сцюжнага,
Ад жыцця блаславёна-любага —
І такога наўздзіў валацужнага,
І такога, як стоўп, нязрушнага…

Ах, сутокі мае вы, сутокі,
Леглі вы на узгорынах стромкіх,
На выжарынах-лядах шырокіх,
На дарогах маіх векапомных, —

Там, дзе лучыцца даль і неба,
Там, дзе праўда з хлуснёй вякуе,
Там, дзе трэба і дзе не трэба
Лёс і немач, і моц даруе.

**2**

Разгайдаліся хвалі ў непагадзь,
Б'юць раз'юшана ў скалы панурыя,
Быццам ім не хапае нечага,
Быццам штосьці з сябе выштурхваюць.

І паміж кавадлам і молатам
Раздзіраюць сябе не шкадуючы,
І не пырскі шпурляюць — золата
Ў рове дзікім і пратэстуючым.

Вы мяне сцеражыце, хвалі,
Ад усіх на зямлі сурокаў
І гартуйце, як гартавалі,
На нязбытных жыцця сутоках.

Станьце вы вартавымі долі,
Разгавейцеся ў яркіх высях,
Каб не змог я нідзе й ніколі
Ад самога сябе адрачыся.

## БАЛАДА ПРА ДУШУ ПАЭТА

На той зямлі, дзе вечна быў няўрод
І лютавала злыбедная сіла,
Праз сотні згубных і знябытных год
Паэтава душа закаласіла.

На пустцы той — счужэлай, нежывой,
На гонях тых — бяскроўных, скамянелых —
Змог моц узяць расток з зямлі сваёй
І выбіцца з-пад скіб, ужо скалелых.

Сярод згібелай стыні і пяскоў,
На шэрым абязлюднелым абшары
Душа паэта вынікла з акоў
Зямной і небнай неадступнай кары.

Адрынуўшы прысуды і грахі,
Зняможліва, адчайна, ускрыжова
На белы свет — знямелы і глухі —
Прабілася паэтавае слова.

Знядужы люд зацята ўсё маўчаў
Пад ношаю свайго наканавання
І не пачуў, не згледзеў, не спазнаў
Душы ўваскрослай цёплае дыханне.

Паўсюль стаяла страшная мярцвень,
І ў гэтай беспрасветнасці цярновай
Як заклік, як малітву — з дня на дзень —
Душа паэта прамаўляла слова.

Калі ж яму не ўдасца ўратаваць
Сусвет, што зыдзе ўвесь на пацяруху,
Жывое слова зможа сведкам стаць
Няўмёрласці ўваскрошанага духу.

## ПРА ВЕЧНАЕ

Ах, як яна пахла, зямліца, вясноваю ранню!..
У прыгаршчы ўзяць бы, здаецца, і смак той адчуць…
А сіл неставала… Ён слухаў зязюлі куванне,
Ды дужа хацелася пошчак салоўкі пачуць!..

А згадкі нястомна тачылі-вярэдзілі сэрца,
І памяць, як спудная, рвалася некуды зноў.
Не ў час, далібог, было б зараз знячэўку памерці,
Сысці назаўсёды з зямных пракаветных шляхоў.

Сысці непрыкметна ці знікнуць у прыцемках дзесьці,
Зямны несучы, што прысуджаны лёсам быў, крыж…
— Ах, што ж ты, зязюля, так сумна куваеш у лесе,
Чаму ж ты, салоўка, ў зялёны мой сад не ляціш?..

Стаміўся… Здарожыўся… Думаў, прылёг на хвілінку…
А вечнасці пошум — жывы, стогалосы — паплыў
Над полем шырокім, над лесам і над аблачынкай,
Бы некаму штосьці нястомна казаў-гаманіў…

Усё ў гэтым свеце як ёсць — ад няўспомнага веку —
Віруе, струменіць наўсцяж, каб удалеч імкнуць…
І як гэта важна — на ўскрайку жыцця — чалавеку
Зязюлю ў бары і салоўку у садзе пачуць.

## МАЛІТВА ЗА ПАЭТАЎ

Божа мой, беражы паэтаў —
Светалюбных сваіх абраннікаў —
І даруй ім многія леты
У вянцах вечароў і раніцаў.

Адпусці ім грахі няздужныя,
Ахіні іх сваёю ласкаю
І зрабі, каб праз ночы сцюжныя
Ваўчаніста звяр'ё не кляцала.

Дай ім моцы стальной, спружыннае,
Дай жа моцы такой вялікаснай,
Каб ім крыку не знаць крумкачынага,
Не прасіць каб ніколі літасці.

Дай сцяжыну ім, дай дарожачку —
І не блізкую і не далёкую, —
Дай у сэрца сябе ты, Божухна,
Запалі ў кожным веру высокую

На шляхах выбоістых, сходжаных,
На шляхах располымных, здумненых,
Дзе так шмат светлых мар народжана,
Дзе іх шмат беззваротна зглумлена.

На усіх на роскрыжах свету,
У вянцах вечароў і раніцаў,
Божа мой, беражы паэтаў —
Улюбёных сваіх абраннікаў.

## МАІМ ЗЕМЛЯКАМ

Нас віхуры гадоў параскідваць па свеце не здолелі,
І сцяжынкі маленства травою тут не парaслі.
Хто сказаў, што нас мала, — не верце таму! — нас паболела,
І я рады вітаць вас на нашай Лагойскай зямлі —

Той зямлі, што не раз выпішчалася дымам, пажарамі,
Той пакутнай зямлі, што з нямогласці і забыцця
З непрыкутай, не знішчанай, не здратаванаю мараю
Неўпрыкмет паўставала, бы з попелу-тла, да жыцця.

За стагоддзі ліхія чаго толькі тут ні здаралася,
Ды адважна і мужна наш прашчур свой край бараніў.
І падасца міжволі, што сувязь часоў разарвалася б,
Калі б спадчыне здрадзіў сваёй я і род свой забыў.

Мы зямлі абавязаны гэтай
не проста прапіскаю —
Абавязаны мы нараджэннем сваім і жыццём,
Кожнай дробачкай шчасця, што ў сэрцы зіхотна паблісквае,
Кожным падараваным нам Боскаю ласкаю днём.

Перад памяццю продкаў наш доўг чалавечы не сплачаны…
Толькі ведаю: разам лягчэй сваю долю снаваць.
Дык дазвольце яшчэ раз, мае землякі, мовай матчынай
Вас ад шчырага сэрца у роднай старонцы вітаць.



Ніна РЫБІК

# СКРЫЖАВАННІ

*Аповесць**

...Толькі калі адчыніла дзверы ў кватэру, зразумела, як стамілася.

І раптам успомніла, што з учарашняга вечара не бачыла і не чула Васілька: калі адыходзіла ранкам, ён яшчэ спаў. І за цэлы дзень ён ні разу не патэлефанаваў. А яна з-за ўсіх гэтых клопатаў і турбот таксама забылася на старэйшага сына. Новая хваля трывогі захліснула Таццяну: хоць бы з ім усё было добра! Не разуваючыся, падышла да яго пакоя, асцярожна прыадчыніла дзверы… Ложак не разасланы — сына няма! Божа, дзе ж ён у такі час?! Чаму не патэлефанаваў, не папярэдзіў?

Кінулася на кухню — халадзільнік з'яўляўся ў іх месцам абмену паведамленнямі яшчэ з таго часу, калі дзеці былі малыя, мабільных тэлефонаў не існавала, і яна прымацоўвала на самым відным месцы, якое ніхто з сямейнікаў не мог абмінуць, запіскі, калі па нейкай прычыне не магла сама выправіць хлопцаў у школу ці сустрэць з заняткаў: дзе стаіць абед, што трэба купіць, калі яе чакаць дахаты. Так і павялося з таго часу: усе паведамленні адзін аднаму яны пакідалі, прымацоўваючы іх магніцікам да халадзільніка.

Дзякуй богу, блакітны аркушык паперы здалёк кідаўся ў вочы: «Мама, не хвалюйся, я сёння заначую ў Антона. Заўтра мы едзем у будаўнічы атрад, адтуль бліжэй ісці да вакзала. Не турбуйся, я ўсё неабходнае сабраў. На ўсякі выпадак нагадваю, што я ўжо вялікі хлопчык. Люблю, цалую! Твая любімая кветка».

Вось жа нягоднік! Жартуе яшчэ — «кветка»… Даўно яна ўжо не называе сына кветкай — дык ён сам, калі хоча падлашчыцца, нагадвае пра сваю дзіцячую сямейную мянушку. Мог жа патэлефанаваць, толкам расказаць, што гэта за будатрад, куды едзе, на які час… І ўчора прамаўчаў, сакрэтчык, — мусіць, пабаяўся, што яна не пусціць. Некалі, з месяц назад, буркнуў, што хоча летам падзарабіць і запісаўся ў будатрад. Яна тады была стомленая ці занятая нечым, часу на размову не мела, і толькі заўважыла, што ёй гэта не вельмі падабаецца, і прапанавала больш падрабязна пагаварыць пра ўсё пазней. Вася маўчаў увесь гэты час. А цяпер вось навіна, як гром з яснага неба! Трэба будзе, як пазвоніць, зрабіць яму капітальную прачуханку… Хоць, зрэшты, што гэта зменіць? Ён сапраўды ўжо дарослы… «Радавацца трэба, а не злавацца, — суцяшала яна сябе. — І ўвогуле — усё добра… І ўсё закончылася, нават гэты бясконцы дзень… А цяпер — спаць, спаць, спаць…»

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 3, 2013 г.

Ужо ў ложку ўспомніла, што Валодзя таксама за ўвесь дзень не звязаўся з ёй ні разу. І яна нават не ведае, ці выйшлі на сувязь палякі, ці працягваюцца іх перамовы… «Падумаю пра гэта заўтра», — засынаючы, паставіла кропку ў сённяшнім дні.

…Тэлефон разрываўся, спрабуючы вырваць яе з палону сну. Так не хацелася падымацца… Павекі, здаецца, наліліся свінцом, вейкі склеіліся… А тэлефон усё цілілікаў… І раптам думка: «А калі гэта звоняць з Мінска, з бальніцы? Можа, што з Андрэйкам? Ці з Васільком?» — прымусіла яе падхапіцца і куляй кінуцца ў прыхожую.

— Алё! Што? Што здарылася? — амаль выкрыкнула ў трубку.

— Добры дзень, — ветлівым мужчынскім голасам павіталася з ёй тэлефонная трубка. — Гэта кватэра Таццяны Аляксееўны Мальцавай?

— Так…

— Вы з’яўляецеся дырэктарам прыватнай фірмы?

«Спалілі… Абакралі…» — як znічкі, мільгалі ў галаве думкі.

— Так, з’яўляюся — і заснавальнікам, і дырэктарам. А ў чым справа, вы можаце растлумачыць?..

— Прабачце, што турбуем вас у такі позні час. Гэта з аддзялення міліцыі.

«О, госпадзі — гэтага яшчэ не хапала, — у роспачы ўпала на банкетку Таццяна. — Пэўна, нешта з Васем. У бойку ўлез… Ці машына збіла… А мо рэчы ўкралі… Хай бы лепш рэчы, толькі б усе здаровыя былі!» — праносіліся ў галаве думкі, абганяючы адна адну.

— Тут такая справа… — нарэшце пасля доўгай паўзы загаварыла трубка. — Мы затрымалі злодзея. Ён ноччу знаходзіўся ў службовым гаражы вашай фірмы і спрабаваў угнаць адтуль ваш аўтамабіль. Дакументаў пры ім не было, акрамя вадзіцельскага пасведчання на імя Юрыя Аляксандравіча Кашаварава. Але ён сцвярджае, што ключы ад гаража далі яму менавіта вы і што ён працуе ў вашай фірме вадзіцелем…

«Божа, зноў гэты інтэлігентны бомж уляпаўся ў гісторыю! Ну проста трыццаць тры няшчасці, а не чалавек! Ці, можа, сапраўды хацеў украсці машыну? — падумала раптам са спалохам. — Яшчэ і папярэджваў, што яна занадта даверлівая…»

І тут жа прагнала ад сябе гэтую думку: не можа быць. За сённяшні дзень паміж імі прабегла іскрынка шчырасці, разумення, нейкі момант ісціны, даверу… Не можа чалавек з такімі вачамі, як у гэтага бамжа, так лёгка, так подла гэтую іскрынку растаптаць. Тым больш, што і сэнсу ў гэтым няма ніякага: машына прыметная, пашпарт — у яе, знойдуць яго абавязкова і вельмі хутка, і зноў пасадзяць.

Яна пастаралася адказаць як мага больш спакойна:

— Так, сёння я позна вярнулася з камандзіроўкі і таму дала шафёру, Юрыю Аляксандравічу Кашавараву, ключы ад гаража, каб ён паставіў машыну і пераначаваў у пакоі адпачынку вадзіцеляў. А пашпарт яго знаходзіцца ў мяне. Так што ўсё ў парадку, вы можаце яго адпусціць.

— Не атрымаецца, Таццяна Аляксееўна, — крыху вінавата ўздыхнуў суразмоўца. — Адкуль мы ведаем, што гэта менавіта той чалавек, якому вы даверылі ключы і сваю маёмасць? Тым больш, што выклікаў міліцыю паведамленнем аб незаконным пранікненні ў службовае памяшканне вашай фірмы ваш жа супрацоўнік. Дарэчы, таксама вадзіцель, які чамусьці свайго калегу ніколі ў вочы не бачыў. Нешта тут не складваецца.

«Пэўна, Коля вярнуўся з рэйса і праявіў пільнасць, калі ўбачыў у гаражы незнаёмага чалавека, — здагадалася Таццяна. — Малайчына, што казаць…»

— Ён не можа яго ведаць, новага вадзіцеля прынялі на работу дзень назад, пакуль іншыя знаходзіліся ў рэйсе, — пастаралася растлумачыць сітуацыю як мага больш спакойна.

— Ну, так гэта ці не, — разбяромся. Спадзяюся, што з вашай дапамогай. І ўсё ж затрыманаму давядзецца пабыць у нас… Да таго часу, пакуль вы прыедзеце ў аддзел, прывезяце яго пашпарт, напішаце заяву, што гэта менавіта той чалавек, за каго сябе выдае, у сэнсе — ваш вадзіцель, што вы не маеце да яго прэтэнзій — толькі тады мы зможам яго адпусціць.

«Заўтра… З раніцы на рабоце будзе безліч пытанняў — так заўсёды бывае, калі яна адсутнічала. Да таго ж трэба разбірацца з гэтымі палякамі. А тым часам гэты Юрый Аляксандравіч будзе сядзець у міліцыі з бамжамі, алкаголікамі і прастытуткамі — з-за таго, што яна праявіла асцярожнасць і забрала ў яго пашпарт…»

— А калі я зараз прыеду?

— Ну калі вам не хочацца спаць… — здаецца, такая прапанова міліцыянера збянтэжыла.

— Паспіш тут з вамі, — буркнула Таццяна. — Дзе вы знаходзіцеся?

Міліцыянер назваў адрас, і яна аж прысвіснула: часам сам не ведаеш, што паабяцаеш — ноччу, без машыны і без грамадскага транспарту, ёй ісці туды добрую гадзіну…

Ахоўнікі правапарадку, здаецца, зразумелі яе разгубленасць:

— Калі вы сапраўды надумаліся з'явіцца да нас, не чакаючы раніцы, то мы прышлём за вамі патрульную машыну. Называйце адрас…

Таццяна ўздыхнула з палёгкай і прадыктавала вуліцу і дом:

— Праз паўгадзіны я буду ля пад'езда.

І толькі потым уявіла, што будзе, калі нехта з суседзяў заўважыць, як яе ноччу забірала з-пад дома міліцэйская машына:

— Толькі, калі ласка, без мігалак і сірэны, а то суседзяў перабудзіце, ды і рэнамэ мне адпаведнае створыце.

— Добра, — засмяяўся міліцыянер. — Будзе без сірэны.

Толькі паклаўшы трубку, Таццяна глянула на гадзіннік — маленькая стрэлка крышку ссунулася з тройкі. Выходзіць, паспала яна гадзіны дзве, не болей. Ну што ж, і за тое дзякуй…

…Юрый сядзеў у дзяжурнай часці міліцыі на мулкай драўлянай лаўцы — збянтэжаны, разгублены, вінаваты. Чамусьці ёй стала шкада яго — вось жа не шанцуе чалавеку…

— Таццяна Аляксееўна, прабачце, што стварыў вам праблемы, — падняўся ён, як толькі яна зайшла ў пакой. — Паверце, я не хацеў…

— Цяжка ўявіць, што вы па добрай волі тут адпачываеце, — хмыкнула Таццяна, працягваючы дзяжурнаму яго пашпарт. — І як гэта ў вас атрымліваецца?

— Мусіць, талент такі маю, — сумна ўсміхнуўся ён і развёў рукамі.

…Справы былі ўладкаваны за якія паўгадзіны. У Юрыя папрасілі прабачэння і пры гэтым параілі ў далейшым заўсёды трымаць пры сабе свае дакументы і ўвогуле — быць больш абачлівым, ім прачыталі лекцыю па прафілактыцы крадзяжоў асабістай і іншай маёмасці — і нарэшце адпусцілі. Праўда, падвезці яе дахаты ў ахоўнікаў парадку больш жадання не ўзнікла: сказалі, што патрульная машына паехала на выклік.

— Ну, і куды вы зараз, вязень сумлення? — іранічна спытала Таццяна, калі за імі зачыніліся дзверы аддзялення міліцыі: дзіўна, але пасля ўсяго перажытага за мінулыя дзень і ноч у ёй абудзілася гарэзлівае чарцяня.

— Для пачатку варта было б правесці сваю ратавальніцу дахаты, — у тон ёй адказаў Юрый. — А то час позні…

— Хутчэй — ранні… — паправіла яна.

— Хай сабе і так — але ж занадта ранні… Не вельмі абачліва прыгожай жанчыне адной гуляць у такі час па вуліцах горада. Тым больш, што ісці давядзецца далекавата.

— Ну што ж, Юрый Аляксандравіч, за язык вас ніхто не цягнуў, — яна нечакана для сябе падхапіла яго пад руку. — Пайшлі!

Праз колькі крокаў вырвала руку, ускочыла на бардзюр тратуара і пайшла па ім, балансуючы, каб не ўпасці, — ён ішоў побач, усміхаючыся, гатовы падтрымаць у выпадку чаго.

…Падышлі да скрыжавання, заўсёды такога шумнага і шматлюднага днём, праехаць якое для яе заўсёды было выпрабаваннем. Яна заўсёды забывалася своечасова перастроіцца ў патрэбны рад, потым мусіла ехаць далёка наперад, разварочвацца, вяртацца, зноў вылічваць, куды трэба перастроіцца і потым павярнуць, каб аказацца на патрэбнай вуліцы, ды яшчэ сачыць за знакамі — ох, і надакучыла ж ёй гэта! А цяпер гэтае шумнае скрыжаванне было ціхім і пустынным. Такі добры ноччу святлафор здалёк па-сяброўску падміргваў усё дазваляючым жоўтым вочкам, нібы просячы прабачэння за дзённую мітусню.

— Вы ніколі не задумваліся, Юра, што ўсё наша жыццё — суцэльныя скрыжаванні? — яна саскочыла з бардзюра і зноў узяла яго пад руку. — Кожнаму чалавеку штодня, штохвіліны трэба рабіць выбар, куды пайсці, куды павярнуць, з кім загаварыць, а з кім — не варта. І ніхто не ведае, хто і што чакае цябе за тым ці гэтым паваротам… У казках хоць камень стаіць на скрыжаванні і папярэджвае: налева пойдзеш — каня страціш, направа — галаву… А тут ідзеш — і не ведаеш… Здаецца, на такую роўную, шырокую дарогу звярнуў, а пройдзеш колькі часу, глядзіш, а наперадзе — тупік… А калі і па сцежачцы вузенькай пойдзеш, а яна выведзе цябе на шырокі праспект…

— Мне здаецца, што галоўнае, каб дарога, шырокая яна ці вузкая, тваёй была. Асабістай. Як у Высоцкага — сваёй каляінай, — падумаўшы, вельмі сур’ёзна адказаў Юрый.

— А калі каляіна тая — вузкая, брудная, разбітая? А побач — шырокая і гладкая шаша?

— Але ж усё роўна яна — чужая. Некага, свайго, яна, можа, і да шчасця прывядзе. А цябе, чужога, як вы казалі толькі што, — у тупік ці яшчэ куды горш. Сваю дарогу трэба шукаць. Хай не адразу яна знойдзецца, хай праз сінякі і гузакі, але ж — свая…

— І што, вы сёння не пагадзіліся б памяняць сваю цяжкую і мулкую жыццёвую каляіну на больш роўную і зручную?

Юрый памаўчаў крыху, падумаў.

— Напэўна, у гэта цяжка паверыць, але — не, — загаварыў ён нарэшце. — Урокі жыцця бываюць вельмі балючыя, але я зразумеў: трэба ўмець і на такіх вучыцца. Ну не застаў бы я тады сваю жонку з чужым мужчынам, жылі б мы з ёй і далей — і што? Думаеце, яна б іншай стала? Ды ніколі! Ну, адзінае, што, можа, я б у турму не трапіў, ды і то, як кажуць, бабка надвое варажыла — не ў той дзень, дык у іншы… Хоць і тыя гады я не магу назваць выкрасленымі з жыцця, я там многаму навучыўся, многае зразумеў, сустрэў і

сапраўдных людзей, і нягоднікаў — школа жыцця не слабая. Хоць, канешне, ніхто не імкнецца ў яе паступіць… Але не здарылася б таго майго заўчаснага вяртання з камандзіроўкі — і наша сямейная агонія працягвалася б яшчэ невядома колькі. І жыцця б не было, і развесціся б не рашыўся, сына б пашкадаваў. Так бы і пражыў усё жыццё ці колькі б там атрымалася: на волі — і ў няволі. А так хай мне зараз вельмі не проста, але ж я дакладна ведаю, дзе свае, а дзе — чужыя. А быт, спадзяюся, з цягам часу наладзіцца — не зломак жа я, сёе-тое ведаю і ўмею. Зрэшты, у любым выпадку — я жыву сваім жыццём. Іду сваёй дарогай, тапчу сваю каляіну. І ў чужую — не хачу.

Таня, слухаючы яго, падумала пра Сашу, успомніла сваё ўсёабдымнае каханне, надзеі, пакуты… Зноў, бы ўвачавідкі, убачыла збалелы позірк цвярозых вачэй п’янага Пашы… І зазірнуўшы ў сваю душу, ціха, сама сабе, сказала:

— Ведаеце, я — таксама…

…А тым часам горад прачынаўся. Неба на ўсходзе ўвачавідкі святлела. Калі яны выйшлі на мост, які злучаў раздзеленыя ракой два раёны, над шматпавярхоўкамі заружавелася. Тэлевізійныя антэны вышэй выцягнулі свае доўгія рукі, каб затрымаць на хвілінку імклівы бег лёгкіх хмарак і вызваліць неба для чырванашчокага шарыка, які паволі, нехаця, выпаўзаў з-за гарызонту, заліваючы ўсё неба ружовым, падфарбоўваючы карункавыя спаднічкі аблокаў, запальваючы ў запыленых шыбінах заспаных вокнаў яркія салюты, прабіраючыся ў шматлікія кватэры, гарэзліва падскокваючы на грабеньчыках рачных хваль…

І раптам, нібы кінуты нябачнай дужай рукой мячык, сонца выскачыла на небасхіл. Узнялося над гарызонтам, заўсміхалася мірыядамі праменьчыкаў, лёгка і пяшчотна цмокнула жанчыну, што прыпынілася пасярод моста, абапёршыся на парэнчы, пагладзіла па няголенай шчацэ мужчыну, што стаяў побач, — і пабегла далей, вышэй, шпарчэй…

— Юрый, давайце пастаім тут хвілінку… — Таццяна была зачаравана гэтым відовішчам. — Які гэта цуд — надыход раніцы ў горадзе! Сорамна прызнацца, але я ніколі гэтага не заўважала. Хоць прачынацца даводзілася і рана, і вельмі рана… Але ўсё па нейкай патрэбе, неабходна было некуды бегчы, спяшацца, думаць аб тым, каб не спазніцца. А гэта, аказваецца, так маляўніча… Дзякуй вам, што я гэта ўбачыла. Гэта ж столькі світанкаў праспала!

— Выбачайце, але за гэты падарунак я адчуваю хутчэй віну, чым маральнае задавальненне…

— Ды хопіць вам! Што было, тое прайшло, забудзьцеся. Памаўчыце лепш і палюбуйцеся, які ранак нараджаецца!

Але Юрый глядзеў не на неба, а на яе — з захапленнем і здзіўленнем.

— Ніколі б не падумаў, што строгая і дзелавая бізнес-вумэн на самай справе — такая рамантычная жанчына… — нарэшце прамовіў ён.

— Ды што вы, Юра! — засмяялася Таццяна. — Вось яшчэ — знайшлі Асоль! Жанчына на пятым дзясятку, у якой двое амаль дарослых сыноў ад розных бацькоў, у падначаленні — паўсотні супрацоўнікаў… Якіх я, прызнаюся вам па сакрэце, трымаю ў яжовых рукавіцах і нават, здараецца, зусім не па-жаночы карыстаюся, калі моцна давядуць, ненарматыўнай лексікай… І чаму мы так любім ярлыкі, штампы? Калі жанчына займаецца бізнесам — значыць «жалезная лэдзі» і «сталін у спадніцы». Калі здольная захапляцца ўзыходам сонца — то «тургенеўская паненка». А тое і другое разам — ну ніяк немагчыма?! Вы ўпэўнены, што свет дзеліцца так палярна?

— Ды не, — ён разгубіўся. — Я і сам не ўкладваюся ў палярныя ацэнкі. Але так цікава кожны раз бачыць вас securelyрознай, і заўсёды такой непадобнай на папярэднюю… Нібыта гэта некалькі жанчын, абсалютна розных — і ўсе ў адным абліччы.

Яна гарэзліва ўсміхнулася:

— І якая вам больш падабаецца?

— Якая? — Юра ўважліва паглядзеў на яе хвілінку, а потым кінуўся назад. — Пачакайце крышачку, Таццяна Аляксееўна! Адну хвілінку, я зараз вярнуся! — крыкнуў ён ужо на хаду.

Яна недаўменна паціснула плячыма: дзівак чалавек! І сабралася ісці далей адна — уцёк, відаць, яе праважаты, не вытрымаў такога мноства жанчын у адной, спалохаўся разнастайнасці ў аднастайнасці…

Але Юра ўжо бег назад. У руках ён трымаў абярэмак касачоў — сініх, блакітных, крэмавых, ружовых…

— Таццяна Аляксееўна, гэта — вам! У знак удзячнасці. І захаплення. Ведайце: вы мне падабаецеся ва ўсіх абліччах…

Яна не знайшлася што адказаць на гэты яго парыў. Прыціснула кветкі, схавала ў іх твар.

— Дзе вы іх узялі? — схамянулася нарэшце.

— На клумбе нарваў. Тут, ля моста. Я хацеў гэта зрабіць яшчэ тады, як мы праходзілі міма, ды падумаў, што вы не дазволіце.

— Ну і правільна падумалі! Гэта ж суцэльнае вар’яцтва. Вы што, забыліся, адкуль мы вяртаемся? Назад, у міліцыю, захацелі, ці што? У гэтым выпадку маё заступніцтва не дапаможа, хутчэй наадварот — сведкай пайду ці нават саўдзельніцай.

— Ну, за гэта, спадзяюся, у турму не пасадзяць. У крайнім выпадку дадуць пятнаццаць сутак. Можна патрываць дзеля такой жанчыны, горшае бачылі…

«Нешта зашмат кампліментаў, — яе вясёлы і лірычны настрой знік гэтак жа нечакана, як і з’явіўся. — Напэўна, я шмат яму дазваляю. А ён і рады старацца… — раздражнёна падумала яна. — Трэба выкінуць гэтыя кветкі — каб не напрыдумваў гэты Юрый сабе бог ведае чаго… Да таго ж яны — крадзеныя…»

Але ранішні водар касачоў так тонка абдымаў, ахутваў, як пяшчотны шоўк, кожны дотык якога — асалода… На трапяткіх пялёстках дрыжэлі-пераліваліся дробненькія расінкі — як слязінкі анёлаў. Ёй так даўно не дарылі кветак — вось так, ад душы, без усялякай нагоды — яна нават забылася, калі гэта было ў апошні раз… Афіцыйныя букеты да чарговага дня нараджэння, упакаваныя ў бліскучы цэлафан, як велікасвецкія дамы ў тугія гарсэты, не лічацца.

І яна не змагла выпусціць з рук кветкі — прыціснула букет да грудзей, нібы нехта збіраўся яго адабраць.

Але адказала суха — хопіць на сёння пяшчотнасцей:

— Не спяшайцеся з высновамі, Юрый Аляксандравіч. Не такая я цудоўная, як вам падалося пасля першага дня знаёмства. Баюся, што вы вельмі хутка пераканаецеся ў гэтым і зменіце сваё меркаванне пра мяне… А ўвогуле, хопіць лірыкі, хадземце дахаты.

Рэштку дарогі яны прайшлі моўчкі, думаючы кожны пра сваё.

Каля пад’езда яна спынілася:

— Дзякуй, я ўжо дома.

— Гэта вам дзякуй, Таццяна Аляксееўна. Каб не вы, сядзеў бы зараз у каталажцы. І такі цудоўны ранак не сустрэў бы…

— Ранак і сапраўды цудоўны, — уздыхнула яна. — Быў… А зараз пачынаецца працоўны дзень. І штосьці мне падказвае, што будзе ён зусім не такім цудоўным. А цяжкім і напружаным…

— А вы з-за мяне зноў не адпачылі… — вінавата апусціў ён галаву.

— Нічога, я прывыкла да такога рытму. Зараз вось залью ў сябе паўлітра моцнай кавы — нараджуся нанова. Дарэчы, а вы як, куды цяпер? — успомніла Таццяна. — Прабачце, але ў гараж вам ісці ўжо не варта. Зрэшты, у вас жа сёння законны адгул! Так што можаце адпачываць, як палічыце патрэбным. А я тым часам правяду растлумачальную работу.

— Ну, калі так, то я лепш паеду да сябе на дачу. Трэба там зрабіць сёе-тое. Ды і думкі прывесці ў парадак, а то нешта яны, як авечкі ў статку — разбрыдаюцца, хто куды…

— Добра, адпачывайце. Заўтра, як звычайна, прыходзьце а дзявятай гадзіне, — ужо з дзвярэй нагадала Таццяна — і за ёй гулка ляснулі дзверы.

Кантрасны душ і два кубкі моцнай кавы і сапраўды зрабілі цуд: Таццяна адчувала сябе бадзёрай, нібы і не было ўчарашняга шалёнага дня і гэтай разбітай бяссоннай ночы. Яна ведала, што гэта ненадоўга, і бліжэй да абеду стомленасць вернецца, наваліцца на плечы пудовым цяжарам — не разагнуцца, не падняць вочы, не кажучы ўжо, каб нешта думаць і рабіць. І тады зноў спатрэбіцца кававы допінг, а лепш за ўсё — хоць невялікая, хоць на паўгадзінкі, перадышка, адпачынак, калі можна адключыцца ад усіх і ўсяго…

Але гэта будзе потым, праз некалькі гадзін, а цяпер яна гатовая была горы звярнуць. І галоўнае, што яе цікавіла ў гэты момант: чаму ўчора не тэлефанаваў Валодзя? Ці аб'яўляліся палякі, як прайшлі перамовы з імі, ці не ляпнуў сябар чаго-небудзь лішняга з-за сваёй прыроднай гарачнасці, ці не знік у патэнцыяльных партнёраў намер размясціць буйны заказ на іх фірме?

Але пачынаць працоўны дзень ёй давялося зусім не з пытанняў міжнароднага супрацоўніцтва. Офіс гудзеў, як пчаліны рой, які толькі вылецеў з вулля і цяпер мітусіўся, шукаючы, дзе звіць клубок — гэтае месца пчолам паказвала матка, а растрывожаны калектыў, падобна, чакаў яе, Таццяну. Яна не магла зразумець: у чым справа, чаму яны ўсе так расхваляваліся? І нават Валодзя: у попельніцы, нягледзячы на пачатак дня, ужо ляжала гара недакуркаў, што сведчыла, што кампаньён знаходзіцца ў вышэйшай ступені ўзбуджэння.

Вірус усеагульнай трывогі перадаўся і Таццяне. А Валодзя толькі ўзмацніў гэты стан.

— Таня, у нас праблемы, — сустрэў яе на парозе кабінета паведамленнем, якое не давала надзеі нават на кароткатэрміновы адпачынак на працягу дня, на які яна так разлічвала.

— Што такое? Нешта здарылася? З палякамі не складваецца?

— Ды не, тут усё нармальна, нават лепш, чым можна было чакаць, — адмахнуўся Валодзя. — Пра гэта пазней, гэта церпіць. Я аб іншым. Сёння ноччу да нас у гараж улез злодзей і спрабаваў украсці тваю новую «таёту». На шчасце, у гэты час Коля вярнуўся з рэйса, заўважыў святло ў гаражы, а праз няшчыльна зачыненыя дзверы — незнаёмца, які калупаўся ў машыне. Коля малайчына, не стаў высвятляць, што да чаго, а адразу выклікаў міліцыю і пачакаў, пакуль яны прыедуць. Злодзея затрымалі. Але самае горшае нават не сам гэты факт, а тое, што ў яго быў ключ ад нашага гаража — замок непашкоджаны. Вось я і думаю: адзін ён працаваў ці ў кампаніі? Колькі яшчэ такіх ключоў можа хадзіць па горадзе? І адкуль яны ўзяліся ў гэтага ўгоншчыка? Не хацелася б думаць дрэнна пра нашых людзей, але ж падзеі складваюцца вельмі непрыгожа…

— Ах, ты аб гэтым, — з палёгкай уздыхнула Таццяна. — Не хвалюйся, Валодзя, гэта не праблема, а ўсяго толькі непаразуменне, я ўжо ўсё ўладкавала.

— Якое непаразуменне? Што ты ўладкавала? — не мог зразумець Валодзя.

— Ніякі гэта быў не злодзей, а наш новы вадзіцель, — уздыхнуўшы, стала ў каторы раз ужо тлумачыць Таццяна. — Мы ўчора з Мінска вярнуліся позна. Грамадскі транспарт не хадзіў, а жыве ён за горадам. І я дала ключы, каб ён пераначаваў у пакоі адпачынку вадзіцеляў. А Коля, як ты разумееш, з новенькім яшчэ не паспеў пазнаёміцца. Ну вось і падумаў, што гэта — злодзей, выклікаў міліцыю. Ноччу мне патэлефанавалі з аддзялення. Я з'ездзіла туды, і ў рэшце рэшт усё высветлілася. Так што родная фірма можа працаваць спакойна, ніхто на нашу незалежнасць і дабрабыт пакуль, дзякуй богу, не пасягае.

Валодзя развёў рукамі:

— Я нават не ведаю, што сказаць… Таня, ты з кожным днём здзіўляеш мяне ўсё больш.

— Чым жа, дазволь спытаць? — паціснула плячыма Таня, усаджваючыся ў крэсла. — Што я такога дзіўнага і няправільнага зрабіла?

— Ты яшчэ пытаеш, што? — зноў стаў гарачыцца Валодзя. — Прымаеш на работу нейкага бамжа з падваротні, з цёмным мінулым і без усялякіх рэкамендацый, нічога пра яго не ведаючы, давяраеш яму сваю новую дарагую машыну і жыццё — добра, справа, як кажуць, асабістая. Потым ты даеш яму ключы ад гаража, дзе захоўваецца матэрыяльных каштоўнасцей не на адну тысячу зялёных рублёў — і на гэты раз, заўваж, ужо не тваіх асабістых, а ўсёй фірмы. Справа заканчваецца разбіральніцтвам у міліцыі. А ты расказваеш пра гэта так спакойна, нібы нічога не здарылася! Зрэшты, чаму ты так упэўнена, маці Тарэса ты наша, што гэты твой пратэжэ на самай справе не збіраўся ўкрасці машыну, а Коля, а затым і міліцыя яму проста перашкодзілі?

Таццяна стомлена ўздыхнула:

— Валодзя, ты вярзеш такое глупства, што ў мяне няма ніякага жадання з табой спрачацца і нешта даказваць. Ну падумай сам: калі б гэты вадзіцель хацеў украсці нашу машыну, то ў яго было мноства магчымасцей зрабіць гэта на працягу дня, яшчэ ў Мінску — там, дарэчы, «загнаць» яе прасцей. Напрыклад, у той час, калі я некалькі гадзін знаходзілася ў бальніцы, а ён стаяў на паркоўцы. Навошта яму дзеля гэтага трэба было вяртацца ў горад, адкуль ён ведаў, калі мы прыедзем, і тым больш, што я прапаную яму пераначаваць у гаражы?

Валодзя сядзеў, унурыўшы галаву, і было незразумела, пагаджаецца ён з Таццянай ці проста не мае аргументаў ці жадання спрачацца. І яна выкарыстала перадышку для наступлення:

— А ўвогуле — колькі ты ўжо будзеш папракаць мяне гэтым вадзіцелем? Учора ўвесь ранак абмяркоўвалі гэтую тэму, сёння — зноў. Нібы нам няма аб чым больш гаварыць. Ну ўзяла яго на работу — і што? Падумаеш, рэкамендацый у яго няма! Быццам гэта дае нейкую гарантыю ці ты не ведаеш, як робяцца гэтыя рэкамендацыі! Успомні Юльку, сакратарку нашу былую. Па знаёмстве дзяўчыну на работу бралі, з рэкамендацыямі! І што атрымалася? У колькіх супрацоўнікаў яна кашалькі аблегчыла, наіўна лыпаючы сваімі анёльскімі вочкамі? А Колю, калі ты памятаеш, яго былы начальнік так адрэкамендаваў — толькі ў турму з такой характарыстыкай. А ён сёння — наш лепшы вадзіцель і першы памочнік. Гэты Юрый — чалавек прыстойны, няўжо ты не бачыш? У тваім узросце пара ўжо навучыцца разбірацца ў людзях і без рэка-

мендацый. Ну не пашанцавала мужыку ў жыцці, дык што ж, і надалей піхаць яго ў тую яму, з якой ён стараецца выбрацца? Не па-людску гэта, Валодзя. Успомні, як мы з табой пачыналі — каб добрыя людзі тады не паверылі, не дапамаглі, не пазычылі грошай — і без усялякіх гарантый, заўваж, пад адно чэснае слова, да таго ж на няпэўны тэрмін — дзе б мы сёння былі? А сёння мы ўжо такія разумныя ды рэспектабельныя, вадзіцель з вуліцы для нас — не фармат, нам рэкамендацыі патрэбны…

Валодзя працягваў маўчаць, і Таццяна вырашыла, што час змяніць тэму і перайсці да галоўнага, што яе турбавала:

— А ўвогуле, хопіць ужо пра гэтага вадзіцеля. Дарэчы, май на ўвазе, што я на сённяшні дзень дала яму адгул. Так што за прагулы яго звальняць не варта. Ва ўсякім разе, пакуль.

— Рабі, як знаеш, — буркнуў Валодзя. — Нібы жанчыну можна ў нечым пераканаць, пакуль яна сама не ўпэўніцца…

Таццяна зрабіла выгляд, што не заўважыла апошніх яго слоў.

— Ты лепш раскажы пра палякаў: ці тэлефанавалі яны ўчора, да чаго вы дамовіліся?

— Што тычыцца палякаў, то я ж табе сказаў: усё ў парадку. Нават лепш, чым мы меркавалі. Яны не толькі тэлефанавалі, але і прыязджалі ўчора.

— Ого! — ускінула вочы Таня, забыўшыся пра нядаўнюю спрэчку і цалкам пераключыўшыся на тое, што яе найбольш хвалявала ў гэты момант. — А што гэта іх так торкнула? Не было ж такой дамоўленасці і нават намёкаў аб такім жаданні не выказвалася…

— Відаць, пазней узніклі… Патэлефанавалі адразу, як ты паехала, сказалі, што хочуць на свае вочы пабачыць, як у нас арганізаваны вытворчы працэс, ці маем мы рэальныя магчымасці выканаць іх заказ — адшыць такія мадэлі, як ім патрэбна, ды яшчэ буйную партыю і еўрапейскай якасці.

— Ну, для еўрапейскай якасці трэба еўрапейскае абсталяванне, еўрапейскія тэхналогіі… Ну і, адпаведна, заплаціць за работу па еўрапейскіх расцэнках. А раз шукаюць партнёраў тут — то хочуць сэканоміць. І, значыць, могуць нечым паступіцца… — напаўголаса, нібы сама з сабой размаўляла, прамармытала Таццяна.

А потым зноў звярнулася да Валодзі:

— Ну і якія вынікі іх візіту? Трэба думаць, што згарэлі нашы надзеі на гэты заказ сінім полымем — і пажарныя не спатрэбіліся?

Для такога скептыцызму былі падставы. Таццяна ведала: шыць дзяўчаты на іх прадпрыемстве ўмеюць і справу сваю любяць. Кваліфікацыю кожнай са швачак, закройшчыц, прасавальшчыц яна правярала асабіста, кожная праходзіла выпрабавальны тэрмін, перш чым сесці на асноўныя, найбольш складаныя мадэлі, за работу ім плацілі прыстойную зарплату — сярод спецыялістаў гэтага профілю работа ў фірме лічылася прэстыжнай, трапіць сюды хацелі многія. І якасць была адной з галоўных іх «казырных карт», гэтым яны не дазвалялі сабе паступіцца ні на грам і ў больш цяжкія гады, а цяпер губляць рэпутацыю тым больш не мела сэнсу. Менавіта на гэта — на высокую рэпутацыю іх фірмы, якая вырабляе якасную прадукцыю, — яна і разлічвала, пасылаючы заяўку на гэты тэндар і ўвязваючыся ў перамовы з палякамі.

А вось вытворчы працэс — гэта, безумоўна, было іх слабым месцам. Таццяна супакойвала сябе тым, што гэта часова, што вось яшчэ крышку яны падымуцца — і тады… Зрэшты, людзі, накладваючы на бутэрброд каўбасу, не бачаць, у якіх умовах яна робіцца, — ядуць і нахвальваюць. Якая модніцам розніца, у якім памяшканні і на якіх машынах пашытая

сукенка, калі яна ім падабаецца? Але пры гэтым разумела, што адгаворкі гэтыя — дзеля супакаення ўласнага сумлення, гэта апраўданне сённяшняй сітуацыі і, так бы мовіць, асаблівасцей унутранага рынку. Да еўрапейскага ўзроўню ім, вядома, яшчэ далёка. Памяшканне, у якім абсталяваны швейны цэх, — прыстасаванае. Умовы працы людзей — далёка не самыя лепшыя. Ды і абсталяванне… Што там казаць — мінулае стагоддзе. Канешне, марыць пра міжнародныя заказы з іх вытворчай базай было чыстай вады авантурай. Але ж так хацелася адным махам вырашыць некалькі праблем: атрымаць доўгатэрміновы выгадны заказ, зарабіць неблагую капейку — а там можна і пра мадэрнізацыю думаць, і пра расшырэнне вытворчасці. Хаця, калі гэтыя палякі бачылі іх умовы, то кантракт наўрад ці падпішуць. Яна б на іх месцы, напэўна, не рызыкнула б…

Але Валодзя, назіраючы, як яна скісла пасля паведамлення пра візіт на прадпрыемства замежных гасцей, тым не менш усміхаўся загадкава. Нарэшце вырашыў не выпрабоўваць далей яе цярпенне:

— Ты не паверыш — усё закончылася лепш, чым мы маглі разлічваць у самых смелых марах! Спачатку яны, вядома, круцілі носам, калі зайшлі ў наш швейны цэх — не паверылі, што ў такіх умовах, на нашым абсталяванні можна пашыць тое, што яны збіраюцца ў нас заказваць. А потым папрасілі нашых дзяўчат у іх на вачах раскроіць і сшыць адну з самых складаных мадэлей — ну тую, памятаеш, што зачапіла іх на выставе. Дзяўчаты малайцы, з задачай справіліся выдатна. Палякі доўга цокалі языкамі, усё нахвальвалі: «Добжэ!», «Гжэчна!». А ў выніку не толькі пацвердзілі свой намер падпісаць кантракт, але прапанавалі паставіць нам новыя швейныя машыны нямецкай вытворчасці, самыя сучасныя!

— На якіх умовах? — насцярожылася Таццяна. — Ты ж разумееш, што ў нас цяпер няма свабодных сродкаў для замены абсталявання. І ў чарговы крэдыт увязвацца не можам — папярэдні яшчэ не выплацілі. Мы збіраліся правесці мадэрнізацыю вытворчасці толькі ў выпадку ўдалай здзелкі з гэтымі палякамі.

— У тым уся і справа, што ўмовы вельмі выгадныя! — ледзь не падскочыў Валодзя, паведамляючы галоўную навіну ўчарашняга дня — столькі часу трымаў інтрыгу. — Адтэрміноўка плацяжу, разлік прадукцыяй, дваццаць працэнтаў кожнай партыі будзе ісці ў лік пастаўкі абсталявання! Так што ўсё проста цудоўна!

Таццяна вушам сваім не паверыла — няўжо? Такія ўмовы — гэта ж проста неверагодная ўдача!

— Валодзя, ты малайчына! Я табой ганаруся! З гэтымі палякамі мы выйдзем на якасна новы ўзровень!

— Не радуйся так моцна, — астудзіў яе запал сябар. — На жаль, ёсць у гэтым кантракце і адно вузкае месца — тэрміны.

— А што тэрміны? — не зразумела Таццяна.

— Палякі хочуць закласці ў кантракт патрабаванне аб тым, што першая партыя прадукцыі павінна быць адгружана не пазней чым праз месяц пасля пастаўкі абсталявання, і кожная наступная — раз у месяц з 20-га па 25-е число.

— А што цябе ў гэтым непакоіць?

— Машыны новыя, імпартныя — невядома, як мы тут з імі разбяромся, як хутка асвоім. А тэрміны даволі жорсткія… Але на гэтым пункце палякі, колькі я ні спрабаваў аслабіць яго, настойваюць прынцыпова — кажуць, што для іх гэта вельмі важна, у іх там ужо свае дамоўленасці з гандлем…

— Ну, па-першае, абсталяванне павінен прывезці нейкі наладчык — ён і дапаможа нашаму тэхнолагу і швачкам ва ўсім разабрацца, — стала прадумваць варыянты выйсця з магчымай сітуацыі Таццяна. — А калі нават узнікне форс-мажор, то, магчыма, мы зможам адшыць першую партыю ці нават некалькі на сваім абсталяванні, раз ужо ім так спадабалася, як працуюць нашы дзяўчаты. Зрэшты, не так проста разабрацца, на якой машыне гэтая мадэль шылася, калі зроблена якасна. Няўжо гэта так сур'ёзна?

— Дык у тым і справа, што вельмі сур'ёзна! І твой варыянт не пройдзе: яны прадставілі каталог мадэлей, заказ на якія збіраюцца ў нас размясціць, — у кожнай ёсць нейкая штучка, якую ў нашых сённяшніх умовах не зробіш, патрэбна спецыяльнае абсталяванне. Гэта не прынцыповыя асаблівасці, так, дробныя дэталі, для айчынных кліентаў мы б лёгка іх замянілі — і атрымалася б не горш. Але з палякамі не пройдзе. Вы, кажуць, працаваць умееце, мы ў шчырым захапленні ад кваліфікацыі вашых закройшчыц і швачак, але нам патрэбна еўрапейская якасць, якую вы на сваім абсталяванні забяспечыць не зможаце. Таму альбо адшываеце наш заказ на тых машынах, якія мы паставім, і ў заяўленыя намі тэрміны, альбо мы будзем шукаць іншых партнёраў.

Крыху падумаўшы, Таццяна развяла рукамі:

— Ну што ж, будзем асвойваць новыя машыны ў рэкордна кароткія тэрміны. Іншага выйсця ў нас няма — гэты кантракт мы не можам упусціць.

Новыя машыны ім прывезлі праз месяц.

За гэты час яны правялі немалую падрыхтоўчую работу: вызвалілі месца ў швейным цэху, падрыхтавалі яго для ўстаноўкі імпартнага абсталявання, траіх швачак з ліку самых талковых і ініцыятыўных папярэдзілі, што ім давядзецца асвойваць новыя машыны.

Увесь гэты час Таццяна з Юрыем амаль што не бачыліся. Іх ранейшыя вадзіцелі, Коля і Павел, якія да таго ўдвух ледзь паспявалі закрываць усе транспартныя пытанні і працавалі амаль без выхадных і з ненарміраваным рабочым днём, цяпер так узрадаваліся з'яўленню памочніка, што пры найменшай магчымасці перакладвалі на новенькага ўсе дальнія рэйсы. Ён не пратэставаў — наадварот, здаецца, быў гэтаму нават рады. Машыны трымаў у парадку, усе даручэнні — іх вадзіцелі былі адначасова і забеспячэнцамі, і экспедытарамі, і механікамі, і грузчыкамі — выконваў акуратна і своечасова, з хлопцамі ладзіў — неяк адразу, з першага дня стаў у іх асяродку сваім. Ніякіх пытанняў да яго не ўзнікала, і нават Валодзя перастаў бурчэць, што Таццяна ўзяла на работу бамжа — хоць і паглядваў на новенькага крыху недаверліва, нібыта ўсё не мог вызначыцца: на самай справе гэты Кашаваraў нармальны мужык ці толькі прыкідваецца такім да пары да часу? Пра інцыдэнт з міліцыяй і крадзяжом «таёты» цяпер усе ўспаміналі, як пра жывы анекдот — вельмі хутка гэтае здарэнне ўвайшло ў разрад карпаратыўнага фальклору.

Падчас невялікіх паездак па горадзе Таццяна садзілася за руль сама — напрацоўвала вадзіцельскі вопыт, хоць і без асаблівага энтузіязму. Толькі аднойчы, калі Андрэйку трэба было забіраць з бальніцы, яна зноў папрасіла Юрыя адвезці яе ў Мінск. Але паездка гэтая мала нагадвала папярэднюю. Амаль усю дарогу яны маўчалі, нібы і не было ў той першы дзень паміж імі моманту шчырасці, нібы і не злучыла іх пакалечаныя душы кволая, тоненькая, як павуцінка, нітачка даверу, узаемнай сімпатыі, разумення, нібы і не было таго ранішняга ўзыходу сонца і водару па-хуліганску сарваных на гарадской клумбе касачоў, які яшчэ доўга кружыў ёй галаву…

Адзінае, што яна спытала, калі яны ад'ехалі ад горада:

— Ну як вам, Юрый, ваша новая работа, калектыў?

Ён у адказ толькі ўсміхнуўся:

— Напэўна, гэта я павінен спытаць — як вам ваш новы вадзіцель? У маёй сітуацыі выбіраць не даводзіцца, я рады любой рабоце і за кожную ўдзячны. А вось вам, напэўна, не ўсё роўна, хто ў вас будзе працаваць… Я стараюся, як і абяцаў, апраўдваць ваш давер.

Такі асцярожны адказ крыху пакрыўдзіў Таццяну — яна хацела пачуць што-небудзь прыемнае пра іх фірму, калектыў, зрэшты, пра сябе — а ён, падобна, сам напрошваецца на кампліменты. Пераб'ецца…

А мо справа была ў тым, што ўсе яе думкі ў апошнія дні былі заняты палякамі, новым абсталяваннем, якое з дня на дзень ім павінны былі паставіць, — гэта адкрывала заманлівыя перспектывы ў развіцці іх фірмы, і яе не пакідала змешанае пачуццё трывогі і радаснага прадчування перамен. Абмяркоўваць з вадзіцелем гэтую тэму было неяк недарэчы, а гаварыць аб нечым іншым не хацелася. А Юрый, магчыма, адчуўшы яе стан, таксама не кідаўся ў размовы.

Андрэйку ўжо знялі швы, і яна забрала яго дахаты. І ў той жа дзень адвезла да бабулі ў вёску. У вучылішчы пачаліся канікулы, сядзець хлапчуку ў гарадской кватэры было б сумна, ды яшчэ пасля аперацыі, калі па вуліцы не пабегаеш, з сябрамі не павалтузішся. І ўвогуле — дзіцяці пасля аперацыі патрэбен догляд. А Таццяна, дакараючы сябе, што яна — недаравальна дрэнная маці, не дадае дзецям мацярынскай увагі, клопату, шчырых размоў і проста штодзённых стасункаў, разам з тым разумела, што зноў не зможа ўдзяліць сыну патрэбнай увагі — цяпер, напэўна, менш, чым калі-небудзь: і бягучых спраў хапае, а тут яшчэ незапланаваная мадэрнізацыя, якая невядома як пройдзе і колькі часу адбярэ… А ў бабулі, яна ведала, Андрэй будзе дагледжаны. Можа, не так весела хлапчуку будзе ў вёсцы — але затое яна можа не хвалявацца хоць пра тое, каб сын быў накормлены і не гойсаў з ранку да вечара дзе папала.

Абсталяванне з Польшчы ім даставіў вельмі несімпатычны — прынамсі, на яе погляд — малады чалавек. Яна не магла нават сказаць дакладна, чым ён яе раздражняў. Акуратна апрануты — толькі неяк вельмі па-жаночы: у яркай квяцістай прыталенай кашулі з чырвонай хусцінкай на шыі, у джынсах у абліпачку. Быў падкрэслена ветлівы ў размове — аж да прытарнасці. І нават рускую мову ведаў нядрэнна, так што паразумецца ім удалося. І ўсё ж яе не пакідала неадольнае жаданне, каб ён пакінуў кабінет як мага хутчэй…

Абсталяванне выгрузілі, устанавілі ў цэху, распакавалі. Усе швачкі пакідалі работу, сабраліся і глядзелі на новыя бліскучыя машыны, як на дзіва — а як жа гэты цуд тэхнікі працуе?

Прыкладна тое ж пытанне яна задала жанчынападобнаму маладому чалавеку: хто і калі будзе займацца пусканаладачнымі работамі новага абсталявання? На што той какетліва ўсміхнуўся:

— Ну, гэта не па маёй частцы. Я — не наладчык, я — экспедытар. Груз даставіў, атрымайце і распішыцеся.

— Пачакайце, — не зразумела Таццяна. — Вы што, не дапаможаце нам запусціць гэтыя машыны ў работу?

— Канешне, не! — яго ўсмешка чашырскага ката запоўніла, здаецца, усю прастору. — Гэта не ўваходзіць у мае абавязкі.

І, убачыўшы, як акругліліся вочы ў дырэктара, паспяшаўся супакоіць:

— Ды вы не хвалюйцеся! Наколькі я ведаю, там нічога асабліва складанага няма, вашы майстры самі з усім разбяруцца. Вы ж не ў каменных пячорах выраслі, — міла «падчапіў» ён партнёраў. — Там ёсць падрабязная інструкцыя для кожнай машыны, ну проста па кроках усё распісана. Ну а калі нешта ўсё ж не зразумееце, то выклікайце наладчыка з фірмы-вытворцы. Мы свае абавязкі выканалі ў адпаведнасці з умовамі кантракту. Астатняе — ваш клопат, — працягваў усміхацца вяртлявы экспедытар, пакуль яна раздумвала, падпісваць накладныя ці не. Урэшце вырашыла, што ён мае рацыю — неяк яны з Валодзем прашляпілі, пра наладку абсталявання ў кантракце і сапраўды нічога не сказана. Нікуды не дзенешся…

Малады чалавек, схапіўшы падпісаныя паперы, тут жа рэціраваўся, пакінуўшы ў кабінеце прытарна-салодкі водар хутчэй жаночай, чым мужчынскай парфумы і непрыемны асадак на душы, нейкае трывожнае хваляванне.

Што трывога была недарэмная, яна зразумела, як толькі на парозе ўзнік Валодзя. Твар у яго быў разгублены:

— Таня, ты ведаеш нямецкую? — пацікавіўся ён, не паспеўшы зачыніць за сабой дзверы.

— Ага, у межах школьнай праграмы. Ды і тое са слоўнікам. А што табе раптам нямецкая спатрэбілася?

— Ну вось… А я і так не ведаю, у школе іспанскую нібыта вучыў… А тут усё — на нямецкай мове, — працягнуў ён пашпарты на новыя машыны і інструкцыі па наладцы. — Я зразумеў толькі, што гэта эксперыментальнае абсталяванне з Германіі. Слухай, гэта не машыны, а нейкі кот у мяшку…

— Та-а-ак… — Таццяна задуменна пагартала пашпарты з незразумелым тэкстам. — А чыста знешне можна вызначыць, што ў гэтых машынах да чаго? Так бы мовіць, традыцыйным метадам навуковага тыку?

— Можа, і можна, але калі мы не туды «тыкнем», зламаем — тады што? Хто плаціць будзе? І чым? Дзяўчаты ў цэху галосяць — ніхто не рашаецца нават падысці да гэтага звера без тлумачэнняў. А хто ім растлумачыць, што і як рабіць?

— Выходзіць, нашы шчодрыя інвестары падсунулі нам нават не ката ў мяшку, а сапраўднага траянскага каня, — пасля доўгай паўзы задуменна прамовіла Таццяна.

— У сэнсе? — не зразумеў Валодзя.

— У прамым. Ну вось глядзі, якая карцінка вымалёўваецца. Запусціць машыны самі мы не можам, так? Не асвоіўшы іх, заказ выканаць таксама не зможам. А за кожны дзень пратэрміноўкі ў адпаведнасці з умовамі кантракту бярэцца няўстойка. Пару месяцаў пастаім — аддадзім у кошт доўгу не толькі гэтыя машыны, але і свае ўласныя… А самі на цвінтар пад царкву пойдзем з шапкай…

— Ну, напэўна, на самай справе ўсё не так страшна? — ці то спытаў, ці запэўніў Валодзя. — Павінна ж быць нейкае выйсце…

— Можа, і не так. А можа, яшчэ страшней… У тым выпадку, калі мы ў самы бліжэйшы час не знойдзем тое самае выйсце, не запусцім машыны і не пачнём адшываць заказ.

— А калі папрацуем з ранейшымі партнёрамі, пакуль прыедзе наладчык? Усё ж нейкія грошы…

— Якія партнёры, Валодзя? У чаканні гэтага заказу згорнуты практычна ўсе ранейшыя сувязі — ці ты забыўся? Мы проста фізічна не змаглі б адшываць штомесяц такія партыі палякам і працаваць на ўнутраны рынак. Даходаў ад таго, што дашываецца па ранейшых пагадненнях, не хопіць нават на выплату няўстойкі, не кажучы ні пра што іншае.

— Што ж рабіць, Таня? — разгублена прамовіў Валодзя.

Як гэта ні дзіўна, але ў складаных сітуацыях сябар, заўсёды такі ўпэўнены, разумны, дальнабачны, губляўся, як дзіця. І ўсю адказнасць перакладваў на яе, Таццяну, непадзельна давяраючы яе цвярозаму розуму і інтуіцыі. Гэтым галоўным чынам і тлумачылася, што з іх, дваіх паўнапраўных кампаньёнаў, якія ўклалі ў справу роўныя долі, разам арганізоўвалі яе з самага пачатку і, нягледзячы на штодзённыя спрэчкі, часам вельмі вострыя, тым не менш умудрыліся не пасварыцца, юрыдычным, ды і фактычным дырэктарам з'яўлялася яна, жанчына, а Валодзя быў яе намеснікам. Таццяну спачатку гэта напружвала — яна была выхавана ў атмасферы вясковага дамастрою, калі слова мужчыны было першым і апошнім, а жанчына павінна была бясспрэчна падпарадкоўвацца па той адзінай прычыне, што яна — жанчына. Але менавіта Валодзя, адчуваючы яе ўнутраную, не на паказ, сілу, настояў на такім падзеле службовых абавязкаў. І ні разу за гады сумеснай працы не выказаў ні слова крыўды, ні нават намёку на яе з-за сваёй нібыта не мужчынскай «ролі другога плана». Праўда, і Таццяна ніколі не давала яму адчуць, што яна тут — галоўная. Заўсёды і ва ўсім яны раіліся і важныя рашэнні прымалі разам. Выпадак з Юрыем быў першым падобным — таму, напэўна, Валодзя і ўзлаваўся, што яна імпульсіўна прыняла на работу новага чалавека, не параіўшыся з кампаньёнам.

Яна маўчала і малявала на чыстым аркушы кружочкі і квадрацікі, зігзагі маланак і кучаравыя аблокі, кветачкі і розныя лічбы — гэта дапамагала ёй думаць. Валодзя ведаў, што ў такія хвіліны «мазгавога штурму» Таццяну лепш не чапаць — тады яна абавязкова нешта прыдумае. Ці, ва ўсякім выпадку, паспрабуе…

— Рабіць нешта, вядома, трэба — не сядзець жа, склаўшы рукі… — нарэшце загаварыла Таццяна. — Давай раздзелімся і пачнём з малога — можа, і сапраўды ўсё можна вырашыць без асаблівых страт, а мы тут распанікаваліся? Ты, Валодзя, паспрабуй звязацца з палякамі і высветліць, знарок яны прыслалі абсталяванне без наладчыка ці гэта проста непаразуменне? Было б цудоўна, калі б яны сказалі: «Ах, выбачайце, заўтра наш прадстаўнік выязджае». Хоць чуе маё сэрца, што нас элементарна хочуць «кінуць» з гэтымі нечакана шчодрымі інвестыцыямі і ніякай дапамогі ад палякаў чакаць не варта, хутчэй наадварот… У такім выпадку трэба тэлефанаваць у Германію, на фірму-вытворцу гэтых цуда-машын, каб іх чорт узяў, і дамаўляцца, каб немцы прыслалі наладчыка і тэхнолага. Але для такіх перамоў патрэбен чалавек, які хоць бы крыху валодае нямецкай, так што іх пакуль давядзецца адкласці... Ну і каштаваць гэта, трэба думаць, будзе нямала — машыны ж не мы куплялі…

— Ёсць яшчэ адзін шлях, — працягвала думаць услых Таццяна. — Неабходна пацікавіцца — можа, на якім з айчынных прадпрыемстваў ужо ёсць такое абсталяванне, і мы зможам папрасіць дапамогі ў калег? І абавязкова трэба знайсці талковага лінгвіста з тэхнічным ухілам, які б здолеў перакласці інструкцыю… І ўсё — тэрмінова.

Нарэшце ў голасе Тані загучалі звыклыя рашучыя ноткі, якія так супакойвалі падначаленых, і Валодзю — не ў апошнюю чаргу: значыць, яна ўжо ведае, што рабіць:

— І так. Ты зараз садзішся на тэлефон і здабываеш інфармацыю. А я паеду ў наш універсітэт шукаць перакладчыка. Трэба толькі захапіць інструкцыю, каб зразумелі, аб чым ідзе гаворка… Хто ў нас сёння з вадзіцеляў на месцы? Я ў такім стане, што сесці за руль не рызыкну…

— Ды ўсе, — паціснуў плячыма Валодзя. — Хоць не, Коля адпрасіўся — маці з вёскі прыязджае, трэба сустрэць. А Павел, здаецца, учора дзень нараджэння жонкі адзначаў — лепш не рызыкаваць. А твой пратэжэ, як заўсёды, у форме і ў поўнай баявой гатоўнасці.

— Ну вось і паеду са сваім пратэжэ… — падхапіла Таццяна сумку, выходзячы з кабінета.

На яе рэзкае: «Паехалі!» Юрый без лішніх слоў выгнаў «таёту» з гаража. І толькі калі яна села ў машыну, лаканічна спытаў:

— Куды?

— Ва ўніверсітэт…

…У галоўнай навучальнай установе горада яе чакала расчараванне. Не тое, каб за пераклад ніхто з выкладчыкаў не браўся, — ахвотнікі падзарабіць знаходзіліся. Але… Ідзе сесія, затым пачынаюцца падрыхтоўчыя курсы, уступныя экзамены… А тэкст складаны, тэхнічны, шмат спецыяльных тэрмінаў… Хутка не атрымаецца, у лепшым выпадку — праз месяц.

— Інтэрнэт? — паглядзеў на яе са здзіўленнем загадчык кафедры замежнай мовы, да якога яна звярнулася са сваёй просьбай. — Ну, гэта вы і самі можаце паспрабаваць, навошта вам тады спецыяліст? Калі не баіцеся запароць машыну. Вы паспрабуйце дзеля цікавасці прапанаваць гэтаму «разумнаму жалезнаму дзядзьку» перакласці на рускую мову што-небудзь з Караткевіча. Ці, калі вы больш па тэхнічнай частцы, то хоць бы інструкцыю па выкарыстанні праса — і пабачыце, што атрымаецца.

Таццяна выйшла з універсітэта і плюхнулася на сядзенне машыны ў поўнай роспачы.

— Што ж рабіць? — спыталася напаўголаса ў самой сябе.

— Нешта здарылася? — Юрый не спяшаўся кранацца з месца.

— Ды ўжо ж, здарылася… — яна заплюшчыла вочы і адкінулася на сядзенні. — Як там у класіка? Бойцеся данайцаў, што прыносяць падарункі. Так прыкладна атрымалася ў нас. Думалі — ухапілі жар-птушку за хвост, а нас развялі, як дзяцей малых. І скардзіцца няма каму і няма на што: самі такі кантракт падпісалі. А ў выніку маем тое, што маем…

— І што маем?

— Ды тое, што, падобна, нядоўга вам, Юрый, давядзецца ў нас працаваць. На гарызонце ў нашай фірмы маячыць грунтоўнае абмежаванне расходаў, а значыць — скарачэнне штату. І гэта ў лепшым выпадку. Такія вось невясёлыя справы…

— Што ўжо ж тады ў горшым? — прамармытаў сабе пад нос вадзіцель. І нечакана прамовіў: — Таццяна Аляксееўна, прабачце, калі лезу не ў сваю справу. Але, мне здаецца, вам неабходна зрабіць паўзу. Калі вы не супраць, мы можам зайсці ў кавярню, пасядзець, тут ёсць непадалёк даволі ўтульная. Калі захочаце, можаце расказаць, што здарылася. Магчыма, я змагу чым-небудзь дапамагчы — хоць бы парадай. А калі не, то хоць выгаварыцеся — часам і гэта дапамагае паглядзець на сітуацыю па-іншаму.

— А вы яшчэ і псіхатэрапеўтам падпрацоўваеце? — хмыкнула Таня. А потым узняла галаву: — Хоць, бадай што, вы маеце рацыю. Як любіць гаварыць мая мама, калі шмат работы — дык сядзь ды пасядзі. Тым больш, што допінг у выглядзе кубка моцнай кавы мне зараз проста неабходны.

— Толькі я вас хачу папярэдзіць, — сказаў, адкрываючы перад ёю дзверы ў кавярню, Юрый, — сёння я ўжо не ў камандзіроўцы і ў стане заплаціць за сябе. А калі вы не супраць, то і вас пачаставаць.

— Супраць, прычым катэгарычна! — рэзка адказала Таццяна. — Не самы падыходзячы час для рамантычных ланчаў. Давайце адкладзём гэта да больш спрыяльнай пары. Зараз — чыста дзелавы перапынак, а ў такіх выпадках я заўсёды плачу за сябе сама.

— Ну, як скажаце, — уздыхнуў Юрый — спрачацца з дырэктарам было цяжка, да таго ж ён адчуваў, што мае на гэта права.

Кава была добрая — моцная, водарная, з пенкай — асалода! І словы паліліся самі па сабе. Яна забылася, што перад ёй — усяго толькі вадзіцель, якога яна месяц назад сустрэла ля нейкіх варот, і расказвала яму — а на самай справе нібыта самой сабе — пра тое, як стваралася іх фірма, як марудна і пакутліва яны станавіліся на ногі. Якія надзеі ўскладвалі на гэты кантракт. Як радаваліся, калі палякі прапанавалі паставіць ім новае сучаснае абсталяванне на вельмі выгадных умовах. А выходзіць, што замежныя партнёры захацелі іх, кажучы крымінальным слэнгам, кінуць: абумовілі жорсткія тэрміны пастаўкі гатовай прадукцыі, паставілі машыны, якія нідзе яшчэ не эксплуатуюцца, не забяспечыўшы іх пусканаладку. Вядома, яны самі вінаватыя, не прапрацавалі кантракт як след: ранейшы юрыст пайшла ў дэкрэтны, новая яшчэ не мае вопыту. Яна за Андрэйку тады перапалохалася, ні пра што думаць не магла, Валодзю даверылася. А ён паспадзяваўся, што дырэктар, як заўсёды, усё трымае пад кантролем… Усё ў рэшце рэшт можна вырашыць — і наладчыка выклікаць, і інструкцыі перакласці, але ж час… Ён іграе супраць іх — на гэтым, падобна, і будавалі свае разлікі замежныя партнёры. За кожны дзень пратэрміноўкі пастаўкі адшытай прадукцыі трэба плаціць няўстойку, і сума значная. Калі яны пастаяць два-тры месяцы, то ўвесь чаканы прыбытак ад гэтай здзелкі растане, як сакавіцкі снег, — і гэта ў лепшым выпадку. А ў горшым, калі наладка і пуск новага абсталявання зацягнуцца, яны проста абанкруцяцца.

— Сапраўды, сітуацыя, — Юрый пакручваў у руках пусты кубак. — З перакладам, як я зразумеў, у вас атрымаўся аблом?

— Ды не тое, каб зусім, але ў патрэбныя нам тэрміны ніхто гэта зрабіць не абяцае.

— І наладчыка з-за мяжы заўтра ці паслязаўтра таксама чакаць не даводзіцца…

— Дакладна не ведаю, Валодзя там вядзе перамовы, але думаю, што так.

— Значыць, сітуацыя безвыходная?

— Кажуць, што такіх не бывае. Але падобна, што аптымісты памыляюцца…

Яны заказалі яшчэ па кубку кавы і пілі яе моўчкі, думаючы аб адным і тым жа.

— Таццяна Аляксееўна, — нарэшце парушыў маўчанне Юрый, — а як вы ставіцеся да рызыкі?

— Разумна, — насцярожылася Таццяна. — Галавы стараюся не губляць. А вы гэта да чаго?

— Ну, сітуацыя ў нас форс-мажорная. Можа, вы дазволіце мне паглядзець гэтыя машыны? Усё ж я — інжынер з вышэйшай адукацыяй, хоць і былы. Праўда, швейнае абсталяванне — не мой профіль, тым больш сучаснае… Але ж некалі маміну швейную машынку, трафейны «Зінгер», разбіраў па вінціках. І назад збіраў, і машына пасля гэтага нават працавала, — паспрабаваў пажартаваць Юрый. — Нямецкую мову, дарэчы, таксама крыху ведаю, прычым справу меў менавіта з тэхнічнымі тэкстамі — неяк на заводзе мы таксама атрымлівалі нямецкае абсталяванне, і давялося горы літаратуры пералапаціць,

слоўнікамі абклаўшыся, каб давесці яго да розуму… Не падумайце, што хвалюся, але калі ўжо зайшла такая размова, то хачу сказаць, што тэхніку я ўвогуле люблю — усялякую. І разбіраюся ў ёй нядрэнна. Працаваць даводзілася з многім, часам такі металалом ажыўляў, што і сам пасля не верыў, што гэта я зрабіў. Абяцаць нічога не магу, але ж паспрабаваць можна…

Яна глядзела на яго са страхам і надзеяй. Калі б у яго атрымалася, каб жа толькі атрымалася — гэта было б выратаванне. Але…

Здаецца, ён адчуў яе сумненні:

— Майце на ўвазе: гэтыя машыны, у адрозненне ад мамінай, я раскручваць па вінціках не збіраюся. Пагляджу: калі разбяруся, што да чаго, куды ніткі запраўляюцца і адкуль строчка выходзіць — значыць, добра. Не — не буду і брацца.

— Юра, ваша прапанова вельмі заманлівая, але я не магу падобнае рашэнне прымаць сама, — нарэшце прамовіла Таццяна. — Мне неабходна параіцца з Уладзімірам Сямёнавічам. Ён у нас адказвае за ўсе тэхнічныя пытанні.

— Канешне, — усміхнуўся Юрый. — Паехалі?

Таццяна баялася, што Валодзя прапанову Юрыя ўспрыме ў штыкі.

Але яна не паспела нічога сказаць пра ініцыятыву іх новага вадзіцеля — кампаньён яе апярэдзіў. Валодзя сядзеў за сталом змрочны, як хмара, і з парога сустрэў паведамленнем, якога яна ўжо чакала і да якога была гатова яшчэ пасля размовы з вяртлявым экспедытарам.

— Таня, я пагаварыў з палякамі. Ты мела рацыю: гэтая сітуацыя з машынамі — не выпадковасць, як я спадзяваўся. Гэта старанна спланаваная акцыя па банкруцтве нашай фірмы. Яны ўсё пралічылі і ўсё ўнеслі ў кантракт. А мы даверыліся, вушы развесілі: ах, інвестыцыі, тэхнічнае пераўзбраенне, мадэрнізацыя вытворчасці, новыя заманлівыя перспектывы, бла-бла-бла… Перспектывы ў нас будуць — але, падобна, не вельмі вясёлыя… Канешне, гэта я ў першую чаргу вінаваты — не пралічыў усё, не пераправерыў… А сёння гэтыя кампаньёны нават гаварыць не хочуць, ветліва спасылаюцца на кантракт — і ўсё, да пабачэння, праз месяц чакаем прадукцыю… Наладчыка абсталявання параілі запрасіць з Германіі, з фірмы-вытворцы. Яны нават не хочуць выступіць пасрэднікам у гэтай справе, хоць і закуплялі абсталяванне! Наладчыкі, можа, і прыедуць — усё ж фірма салідная, але калі? Баюся, што да таго часу яны нам ужо не спатрэбяцца… А ты знайшла перакладчыка?

— З перакладчыкам сітуацыя прыкладна такая ж, як і з наладчыкам, — уздыхнула Таццяна. — Усё магчыма, але не заўтра і не паслязаўтра — на працягу месяца, і гэта мінімальны тэрмін…

— А ты не паспеў высветліць, ці працуе хто-небудзь у рэспубліцы на такіх машынах? — нагадала яна яшчэ пра адно выйсце з сітуацыі, якое яны збіраліся прапрацаваць.

— Наколькі я паспеў даведацца, толькі адно сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства ў Мінску, ды яшчэ невялікая фірма з незразумелым заснавальнікам у Віцебску. Але, па праўдзе кажучы, я сумняваюся, што нам там пакажуць сакрэты новага абсталявання, — навошта ім падтрымліваць канкурэнтаў? Трэба, канешне, з’ездзіць туды, але я не ўпэўнены, што нас пусцяць нават на парог офіса, не кажучы ўжо пра швейны цэх.

Валодзя нервова барабаніў пальцамі па стале. На яго было балюча глядзець… Магчыма, яна выглядала не лепш, калі выходзіла з універсітэта — нездарма ж Юрый прапанаваў зрабіць паўзу. Але цяпер у Таццяны ўжо ёсць хоць і невялікая, але ж надзея — і грэх не падзяліцца ёй з сябрам…

— Валодзя, наш новы вадзіцель, гэты, як ты кажаш, мой пратэжэ, прапануе сваю дапамогу, — асцярожна пачала Таццяна, баючыся, што сябар зноў успыхне — як звычайна, калі размова заходзіла пра Юрыя.

— Дапамогу? Якую? — насцярожыўся Валодзя. — І адкуль ён ведае пра нашу праблему?

— А што тут за сакрэт? Думаю, што ўсе нашы, ад бухгалтара да швачкі, ужо ведаюць, што мы не можам запусціць новыя машыны. А пра кантракт і тэрміны пастаўкі ведалі яшчэ раней. Два і тры скласці — не праблема. Да раніцы, з улікам родных, сяброў і знаёмых нашых супрацоўнікаў, пра гэта будзе ведаць палова горада.

— Ну, добра, пераканала — а што ён прапаноўвае, гэты твой пратэжэ?

— Увогуле па адукацыі ён інжынер, — стала пераказваць Таццяна тое, што даведалася ад Юрыя. — І з нямецкімі машынамі ў свой час справу меў — праўда, не са швейным абсталяваннем. Кажа, што можна паглядзець гэтую цуда-тэхніку — магчыма, яна не такая складаная, як здаецца на першы погляд. Просіць дазволу паспрабаваць разабрацца з машынамі. Атрымаецца — добра, не зразумее, што да чаго, — у вантробы не палезе…

Валодзя задумаўся. А потым паціснуў плячыма:

— Ну, то хай паглядзіць, калі мае такое жаданне і нейкія інжынерныя веды. Можа, і здолее разабрацца — урэшце, гэтыя машыны таксама ж інжынеры рабілі… Зрэшты, што мы губляем? — стаў разважаць ён уголас. — Нават пры самым горшым раскладзе, калі ў яго нічога не атрымаецца ці нават калі ён сапсуе машыну, давядзецца выклікаць прадстаўнікоў фірмы з Германіі, рамантаваць і плаціць грошы — дык іх нам і так трэба выклікаць і гэтаксама плаціць. Але ў лепшым выпадку мы выйграем час, які для нас сёння нават больш чым грошы… Можа, гэта якраз наш шанс, га, Таня? Дзе гэты твой Кашавараў? Пакліч яго і пойдзем у швейны цэх…

Такім чынам, Юрыю быў прадастаўлены своеасаблівы карт-бланш: рабі, што хочаш, прасі дапамогі, якая патрэбна, — але паспрабуй ажывіць гэты цуд заходнееўрапейскай тэхнікі. З гаража ён фактычна перабраўся ў швейны цэх, у якім амаль што жыў: прыходзіў раным-раненька, а калі ішоў дахаты ўвогуле мала хто бачыў — затрымліваўся да позняй ночы, казаў, што вечарам, у цішыні, яму лепш думаецца.

Ды і днём каля яго ўсе хадзілі ледзь не на дыбачках, дыхаць баяліся, калі знаходзіліся побач: уся іх фірма ў літаральным сэнсе малілася на новага вадзіцеля: каб толькі ў яго атрымалася, каб жа ён разабраўся з гэтымі машынамі і запусціў іх у работу! Чым пагражае калектыву іншае развіццё падзей, кіраўніцтва не хавала — а падкія да сенсацый жаночыя языкі раздзьмулі сапраўднага слана — хай сабе і не з мухі, а з падкладзенага ім «траянскага каня». Шукаць новае месца працы пасля адносна стабільнай работы ў фірме нікому не хацелася, нават тым, хто раней часам пабурkваў на тое, што заробкі маглі б быць і большымі, а перапрацовак — менш. Але ж нездарма кажуць: што маем — не цэнім. Перспектыва страціць работу, надзейны і, што б там ні казалі, не самы горшы заробак нікога не ўзрадавала, і ўсе, прыходзячы ранкам па працу, з надзеяй паглядвалі на Юрыя: што там у яго?

Таццяна не была выключэннем: ёй таксама хацелася кожныя паўгадзіны бегчы ў цэх, каб спытаць у Юрыя: ну як? А яшчэ лепш — стаяць побач і назіраць, што і як ён робіць, старацца прачытаць яго думкі. Яна стрымлівала сябе амаль што сілай: ведала, як цяжка працаваць у такіх умовах, калі на табе ляжыць неймаверны груз адказнасці, калі на цябе спадзяюцца, як на Бога, — а ты зусім не ўпэўнены, ці зможаш гэтыя спадзяванні апраўдаць. Таму стара-

лася не назаляць лішнімі пытаннямі, разумела — будзе нейкі вынік — Юрый сам скажа.

І ўсё ж пры найменшай нагодзе старалася зайсці ў швейны цэх, каб хоць здалёк паглядзець, што ён там робіць, які ў яго выраз твару, паспрабаваць здагадацца, ці атрымліваецца ў яго што-небудзь, калі-нікалі мімаходзь спытацца, ці не трэба чаго? Яна ўжо навучылася разбірацца: калі Юрый нервова пакусвае вусны — гэта азначае, што нешта ў яго не атрымліваецца, калі злёгку ўсміхаецца і нешта мурлыкае сабе пад нос — значыць, злавіў нітачку, калі хмурыць бровы — напружана думае.

…Таццяна і сама не заўважыла, калі і як Юрый завалодаў усімі яе думкамі. Але аднойчы, прачнуўшыся ранкам, злавіла сябе на тым, што, пацягнуўшыся ў ложку, перш за ўсё падумала не пра Андрэйку — як ён там, у бабулі; не пра маці — ці спраўляецца з малым падшыванцам; не пра Васю — ці ладзяцца справы ў яго на будоўлі… А пра яго, пра Юрыя: калі ён учора пайшоў з цэха, ці прачнуўся ўжо, ці атрымліваецца ў яго адпачыць на вузкай канапе — ён папрасіў, каб дазволілі гэтыя дні начаваць у тым самым злашчасным вадзіцельскім пакоі адпачынку, бо шкода губляць час на няблізкую дарогу. Напэўна, зараз ужо зноў варожыць каля машын…

Падумаўшы пра гэта, Таццяна ўскочыла з ложка як апараная — што гэта з ёю? І са здзіўленнем і раздражненнем мусіла прызнацца сабе, што апошнім часам не можа думаць ні аб чым іншым — пра што б ні заходзіла гаворка, куды б ні сягалі яе думкі, яны неадольна скіроўваліся да яго… Яна паспрабавала апраўдацца перад сабою тым, што справа зусім не ў гэтым вадзіцелі, а ў іх новых машынах і тых праблемах, што з'явіліся разам з імі, урэшце — у будучыні іх фірмы, якая зараз залежыць ад таго, ці справіцца Юрый з пастаўленай самому сабе нялёгкай задачай.

Хоць у глыбіні душы разумела, што гэта не так — дакладней, не зусім так, што яе турбуюць не толькі машыны, не толькі новы заказ, але і сам Юрый. Як ён харчуецца, чым снедае, дзе абедае, ці павячэраў сёння — яна неаднойчы лавіла сябе на гэтых думках, калі запарвала ранкам каву, разагравала днём боршч, ляпіла вечарам катлеты… Таня літаральна трымала сябе за руку, каб не аднесці тыя катлеты ці хоць бы бутэрброды яму ў цэх. І без таго швачкі, заўважыла, пераглядваюцца, як толькі яна заходзіць да іх, і пільна ловяць кожны яе рух і погляд. А ёй жа здаецца, што яна бывае там не так і часта, усяго разы тры-чатыры за дзень, у крайнім выпадку — пяць, і ў яго бок амаль не глядзіць, і падыходзіць да яго ў апошнюю чаргу… Тое, што раней яна ўвогуле магла не заходзіць сюды дзень ці два — вытворчы працэс быў прэрагатывай Валодзі, лічыла, мае пад сабой лагічнае тлумачэнне: цяпер — асаблівыя абставіны… Але работніцы, мусіць, лічылі такое тлумачэнне не зусім лагічным — і ўвесь час перашэптваліся і пераміргваліся за яе спінай. Гэта яе злавала: ото ж бабская натура: варта даць хоць найменшую нагоду — адразу ж панясуць на языках! Канешне, яна магла прыструніць жанчын, паставіць іх на месца, але разумела, што пасля гэтага размоў стане яшчэ больш. І махнула рукой: ат, хай гавораць, іх не пераробіш…

Галоўнае — не чужыя размовы, галоўнае — што робіцца з ёю? Чаму гэты Юрый не ідзе ў яе з галавы? Няўжо яна, дурніца на пятым дзясятку, зноў закахалася? Госпадзі, толькі гэтага не хапала… Яна ж давала сабе зарок: ніколі, нізавошта, нікога, нават казачнага прынца, больш не пакахае! Яна выпрацавала для сябе жалезнае правіла: не хочаш болю — не пускай у сэрца каханне. І яно быццам бы працавала ўсе гэтыя гады. І так усё добра было: яна, дзеці, работа… Свабода! Галава цвярозая, нічым незатлумленая. Сабой распара-

джаешся, як хочаш. А цяпер у галаве адно: Юрый, Юрый, Юрый… І калі ж гэтае нахабнае каханне так незаўважна ў душу прашчамілася, што яна нават не заўважыла? Тады, на мосце, разам з касачамі? Ці калі ён сядзеў у міліцыі на аблупленай драўлянай лаўцы, і ёй да сардэчнага болю стала шкада яго? Ці калі падчас іх першай сумеснай паездкі ён расказваў сваю сумную гісторыю? Ці з самага пачатку, у тую першую сустрэчу, калі яна звярнула ўвагу на яго адначасова калючыя і добрыя вочы? А галоўнае — як яна магла дазволіць яму прабрацца ў яе сэрца, завалодаць яе думкамі? І што цяпер рабіць з гэтым няпрошаным і нежаданым госцем? Хоць бы ён аб гэтым яе няшчасці не здагадаўся, хоць бы тыя перашэптванні ды пераглядванні швачак да яго не дайшлі — тады, бог дасць, з цягам часу і ад яе гэтае насланнё адступіць. А калі не — што тады рабіць, як з гэтым змагацца? Ды яшчэ працуючы разам, сустракаючыся кожны дзень…

У той дзень яна стрымала сябе — зайшла ў швейны цэх толькі раз. Лоб у Юрыя быў нахмураны, ён, здаецца, нікога і нічога не заўважаў, акрамя машыны: раз-пораз паглядваў то ў інструкцыю, то на панэль з незразумелымі кнопкамі і рычажкамі, гартаў слоўнікі, зноў узіраўся на панэль, нешта параўноўваў, бязгучна варушыў губамі, усміхаўся — і зноў хмурыўся… Яна нават не стала падыходзіць да яго, толькі пацікавілася ў майстра, як справы. Тая ў адказ моўчкі развяла рукамі, красамоўна паглядзела ў бок Кашаварава — маўляў, чакаем, спадзяёмся… Зрэшты, і без яе адказу было бачна, што пакуль усё без перамен.

Таццяна, засмучаная адсутнасцю хоць якіх-небудзь станоўчых зрухаў у наладцы абсталявання — а мінуў ужо амаль тыдзень, як яго прывезлі, а яшчэ больш ранішнім адкрыццём, што гэты Юрый Кашавараў так глыбока запаў ёй у душу, пайшла да сябе. Работа не клеілася. Яны зноў пацапаліся з Валодзем, нават самі не зразумелі, з-за чаго — напэўна, толькі таму, што абое былі на нервах. Сябар убачыў, што ад яе прыкурваць можна — настолькі іскрыла, спаслаўся, што трэба дамаўляцца з пастаўшчыкамі фурнітуры, для новага заказу яна спатрэбіцца адмысловая, спецыяльная — і паехаў у Мінск. Гэта яе крыху астудзіла і суцешыла: значыць, Валодзя не губляе надзеі… І ёй не варта! І, каб нечым сябе заняць, стала гартаць апошні каталог з узорамі тканіны, хоць і на гэтым засяродзіцца не магла.

Дзень, які звычайна, калі клопатаў было безліч і работы процьма, пралятаў як адно імгненне, цяпер цягнуўся, як год. Дахаты яна пайшла раней, падумала, што дома напэўна ж знойдзе сабе занятак, калі ж хатняя работа бывае перарobленай? Але і там не магла сябе нічым заняць. Хацела памыць акно, ды, пацягнуўшы за штору, незнарок абарвала карніз, які трымаўся на адным сумленні, — расхвалявалася яшчэ больш. Вырашыла, што трэба перацерці посуд у горцы, — разбіла дарагі фужэр, а прыбіраючы шкло, парэзала палец. Раззлавалася сама на сябе, плюнула на ўсё і, заварыўшы моцны чай, уключыла тэлевізар і ўлеглася на канапу. Без мэты шчоўкала пультам з канала на канал, не разумеючы, пра што там гавораць, не заўважаючы, што паказваюць. З галавы не ішло адно: як там Юра? Можа, усё ж варта было б падысці да яго, пагаварыць, можа, яму якраз гэтага не хапае — увагі, разумення, што ў гэтую хвіліну яна — разам з ім? А мо яна ўсё гэта сабе напрыдумвала, як кожная закаханая дурнічка, а на самай справе гэтаму Кашавараву сто гадоў непатрэбная, яна для яго — толькі начальніца…

Калі ўжо сабралася класціся спаць — усё роўна дзень змарнаваны, прайшоў да крыўднага бескарысна, то, можа, хоць выспацца ўдасца? — зазваніў

тэлефон. Чамусьці яна не захвалявалася, як звычайна, калі чула позні званок — можа, што здарылася з дзецьмі ці з мамай? Яшчэ не зняўшы трубку, Таццяна ведала, што тэлефануе Юрый.

Яна не памылілася — гэта і сапраўды быў ён. Голас гучаў усхвалявана і радасна:

— Таццяна Аляксееўна, прабачце, што так позна. Спадзяюся, я вас не разбудзіў?

— Не паспелі, — Таня старалася стрымацца, каб ён не заўважыў унутранага трымцення яе голасу. — А што здарылася?

— Здаецца, я ва ўсім разабраўся. Хацеў бы праверыць, ці так гэта на самай справе. Але запускаць машыну аднаму страшнавата — раптам што не так? Ды і радавацца самому неяк няёмка. А да заўтра трываць — ну проста моцы няма…

— Я ўсё зразумела! — выгукнула Таццяна, ужо не хаваючы свайго хвалявання і радасці: няўжо ён змог, няўжо ў яго атрымалася? — Я буду праз пяць хвілін, чакайце!

Але сабрацца за пяць хвілін не атрымалася. Нягледзячы на тое, што ад нервовага ўзбуджэння трэсліся рукі, яна падфарбавала вочы, вусны, прыпудрыла цёмныя кругі пад вачыма, выбрала ў шафе любімыя штаны і прыгожую блузку, пакруцілася перад люстэркам — як выглядае?

Юрый чакаў яе ля ўваходу ў цэх — стаяў на ганку і нервова курыў цыгарэту. Заўважыўшы яе, затушыў недакурак:

— Што ж вы так доўга? Я ўжо хацеў ісці насустрач, — усхвалявана сказаў ён.

І не чакаючы яе адказу, стаў тлумачыць, пакуль яны падымаліся па лесвіцы:

— Здаецца, я зразумеў, у чым там галоўная фішка! З асноўнымі аперацыямі праблем не было, з гэтым я разабраўся адразу…

— Як адразу? — аж прыпынілася ад нечаканасці Таня. — Вы ж казалі, што няма ніякіх вынікаў!

— Ну, падумаеш, адкрыццё — як строчку гнаць! Да гэтага я дайшоў яшчэ ў першы дзень. Але ж для нас, як я разумею, гэта не самае галоўнае, гэта можна і на старых машынах зрабіць, ды так, што тыя палякі і не разбяруцца… Галоўнае ж аддзелка, я правільна разумею? А вось з гэтымі аперацыямі былі пэўныя праблемы… Пакуль дапетрыў, што да чаго…

— Але ж, Юра, вы і сакрэтчык, — пакруціла галавой Таня. — Мы ўсе ад невядомасці вар'яцеем — а вы хоць бы слова сказалі, што ўжо многае асвоілі.

— Многае — гэта не ўсё, — ён хітравата ўсміхнуўся. — Да таго ж — не галоўнае. Але вось зараз… Вы пабачыце… Можа, я памыляюся, я ж не ведаю гэтую тэхналогію так дасканала, як вы. Але вось вы паспрабуйце, Таццяна Аляксееўна, я вам зараз раскажу, што і як — ці атрымаецца?

Яна захапіла на раскроечным участку кавалак тканіны, і яны пайшлі тэсціраваць машыну. Як толькі Юрый уключыў яе, замежны монстр, які яшчэ днём здаваўся крыважэрным цмокам, што з'явіўся тут, каб пагубіць іх усіх, завурчэў мяккім прыемным голасам, нібы хатні кот-мурлыка.

…Юрый уключаў адну за другой розныя аперацыі — машына працавала бездакорна. А якасць! Цяпер Таццяна зразумела, як кардынальна адрознівалася тое, што яны рабілі да гэтага часу на старых машынах, ад магчымасцей новай. І чаму палякі так настойвалі, каб іх заказ адшывалі менавіта на гэтым абсталяванні. Нават пры самым высокім прафесіяналізме іх работнікаў, пры самай найлепшай іх стараннасці і адказнасці такога б выніку на сваіх машы-

нах яны, хоць расперазаліся б, даць не змаглі б. Таццяна шыла, абкідвала, прабівала петлі, праходзіла аддзелачную строчку — і не магла нарадавацца. Душа спявала, ёй не хацелася выключаць машыну. Калі ж нарэшце нацешылася і Юра выключыў тумблер, падняла на яго захоплены позірк:

— Юра, вы — геній! Я вас люблю!

Яна сама не зразумела, як вырваліся гэтыя словы — і зачырванелася, як дзяўчынка, якую злавілі за нечым недазволеным.

Ён стаяў і шчаслiва ўсміхаўся. А яна не ведала, куды дзець вочы:

— Я… Я хацела сказаць, што ў захапленні і ад гэтай машыны, і ад вашай працы, — пастаралася яна растлумачыць свае словы. Але Юрый, здаецца, не звярнуў увагі на іх двухсэнсоўнасць. Ці зрабіў выгляд, што не звярнуў…

— Ну што вы, Таццяна Аляксееўна! — махнуў рукой. — Нічога тут геніяльнага няма, звычайная работа. Ну, можа, крыху больш складаная — з-за таго, што незнаёмая, і інструкцыі на замежнай мове. Але, зрэшты, не богі ж гаршчкі абпальваюць. Калі знайшоўся чалавек, які ўсё гэта прыдумаў, то таго, хто б зразумеў, як гэта працуе, знайсці прасцей. Я рады, што ўсё атрымалася, што я змог стрымаць сваё слова і дапамагчы нашай фірме пазбегнуць сур’ёзных праблем. Цяпер, спадзяюся, скарачэнне штату нам не пагражае? — весела ўсміхнуўся ён.

— Ну, вам — дык дакладна, — засмяялася Таццяна. — Увогуле такі ашаламляльны поспех нашай безнадзейнай справы варта было б адзначыць? — нечакана для самой сябе ці то спытала, ці то прапанавала яна. — Недзе ў мяне ў кабінеце ёсць бутэлька шампанскага…

Яшчэ большай і да таго ж крыўднай нечаканасцю стаў адказ Юрыя:

— Напэўна, не пашкодзіла б… Але, можа, не сёння, тым больш — не цяпер, — у голасе яго гучалі прабачальныя ноткі. — Час непадыходзячы… Ды і абстаноўка… Усё ж момант, мне здаецца, заслугоўвае большай урачыстасці, чым адкаркаваная ў цэху бутэлька шампанскага. Тым больш, што вы мне неяк абяцалі рамантычны вечар, помніце? — нагадаў ён пра яе адказ на яго тыднёвай даўнасці запрашэнне ў кафэ — а яна думала, што ён даўно забыўся пра тую мімалётную размову. — Да таго ж я не прывык частавацца за чужы кошт…

Яна нахмурылася — вось яшчэ прыдумаў! Але Юрый не даў ёй запярэчыць:

— А галоўная прычына — стаміўся я моцна, — закончыў ён зусім будзённа. — Толькі цяпер, калі ўсё закончылася, зразумеў, наколькі… Проста з ног валюся, здаецца, нават да канапы не дабрыду, проста тут, ля машыны, зараз і ўпаду. Вы прабачце, Таццяна Аляксееўна, я нават дахаты вас не змагу правесці — баюся, што засну па дарозе… Я ўсе гэтыя дні гадзіны па дзве-тры ў суткі спаў.

Таццяне стала сорамна, і яна прамармытала:

— Канешне, ідзіце, адпачывайце. Я закрыю цэх, не турбуйцеся. Пра ўсё астатняе пагаворым заўтра…

Але назаўтра ні гаварыць аб чым-небудзь, ні тым больш святкаваць перамогу часу не было. Эйфарыя прайшла вельмі хутка: машыны яны запусцілі, але ж трэба яшчэ навучыць людзей працаваць на іх. І галоўнае — у час адшыць заказ. А гадзіннік цікае — тыдзень ужо мінуў…

Таццяна і Юрый амаль не выходзілі са швейнага цэха. Ён цярпліва тлумачыў кожнай швачцы, як на новай машыне выконваць тую ці іншую аперацыю. Яна ж сачыла, каб бездакорна забяспечваліся ўсе тэхналагічныя асаблівасці кожнай мадэлі — за адхіленне строчкі хоць на міліметр ад вызначанага пара-

метру заказчыкі маглі б прычапіцца і забракаваць не толькі гэты выраб, але і ўвесь мадэльны рад. Калі нехта нечага не разумеў — дырэктар сама садзілася за машыну і паказвала, як трэба рабіць, — нездарма ж папярэдне кожную мадэль адшыла сама, ад першага да апошняга шва.

Але, працуючы поплеч дзень пры дні, яны з Юрыем амаль не размаўлялі, толькі калі ўзнікалі нейкія тэхналагічныя пытанні. Ды ім і не патрэбны былі словы, яны і без таго разумелі адно аднаго — з паўслова, з мімалётнага погляду, усмешкі, з ускінутых у здзіўленні броваў… Ёй здавалася, што яны не месяц, а ўжо цэлае жыццё вось так, побач — працуюць, жывуць, па адным толькі позірку разумеюць, што яна хоча сказаць ці ён зрабіць, спяшаюцца адзін аднаму на дапамогу, раяцца, разам вырашаюць праблемы, калі тыя ўзнікаюць, — адзін прапануе, другі дапоўніць, а часам і забракуе — і раскажа пра сваё разуменне выйсця, і потым разам абмяркоўваюць, што лепш, і спрабуюць, правяраюць, і радуюцца, калі ўсё атрымліваецца.

Кожны дзень у іх цяпер была нейкая прыемная падзея: то закончылі адшываць нейкую мадэль, то Надзя нарэшце асвоіла аперацыю, якая раней у яе не атрымлівалася, то прывезлі новую прыгожую фурнітуру… Вечарам не хацелася пакідаць цэх, і хоць стамлялася неймаверна, для адпачынку хапала якіх пяці гадзін сну ды кубка моцнай кавы — ранкам яна зноў ляцела ў цэх як на крылах: там напружаная, цікавая, творчая праца, у якой яна — галоўны рухавік. І там — ён, Юрый… Са стоенай радасцю Таццяна заўважала, што і ён не надта спяшаецца пайсці адсюль… А мо ёй гэта толькі здавалася?..

Работу швачак арганізавалі ў дзве змены, каб навярстаць упушчаны час. І амаль што паспелі зрабіць заказ у вызначаны тэрмін — з адгрузкай першай партыі спазніліся толькі на адзін дзень, але такі «люфт» кантрактам дазваляўся.

І ў той жа дзень, калі адшытыя мадэлі пакаваліся ўжо, патэлефанавалі іх замежныя заказчыкі.

— Алё, вітаем вас, пані Таццяна! — гучаў у трубцы мілы і ветлівы голас Анджэя, шэф-дырэктара іх партнёрскай фірмы з Польшчы. — Як вашы справы?

— Дзякуй, пан Анджэй, — гэтак жа ветліва адказала Таццяна. — Справы ў нас, як і звычайна, ідуць цудоўна.

Агульныя аптымістычныя словы суразмоўцу, падобна, не задаволілі — яму хацелася канкрэтыкі. І таму, палічыўшы, пэўна, што правілы прыстойнасці выкананы, ён перайшоў да галоўнага пытання:

— Хацелася б даведацца, як хутка вы адгрузіце наш заказ? Спадзяюся, што заказаныя намі мадэлі вы адшылі на новым абсталяванні яшчэ лепш, чым тыя, што мы бачылі ў вас падчас свайго візіту, — Таццяна, здаецца, бачыла, як яхідна Анджэй пасміхаецца ў прадчуванні, як яна зараз пачне прасіць адтэрміноўкі, стане тлумачыць, што ўзніклі праблемы…

— Не турбуйцеся, пан Анджэй, першую партыю вашага заказу, як і прадугледжваюць умовы кантракту, мы адгружаем заўтра.

Павісла паўза — здаецца, партнёр не паверыў сваім вушам. І нават не стрымаўся, спытаў здзіўлена:

— Вы так хутка асвоілі новае абсталяванне?! І ніякіх цяжкасцей не ўзнікла?

— Ну што вы, пан Анджэй! Як слушна заўважыў ваш экспедытар, які даставіў нам машыны, мы ж не ў пячорах выраслі. Разабраліся, што да чаго. І ад імя ўсяго нашага калектыву я хачу падзякаваць вам за машыны — яны

вельмі тэхналагічныя і прадукцыйныя. З такім цудоўным абсталяваннем, ды з улікам прафесіяналізму нашых супрацоўнікаў, у якім вы маглі асабіста ўпэўніцца, мы, я спадзяюся, і наступныя партыі заказанай вамі прадукцыі адшыем своечасова і з патрэбным вам узроўнем якасці. Спадзяюся, што затрымкі з аплатай заказу не будзе? Вы ж, як салідныя кампаньёны, працуеце ў адпаведнасці з умовамі дагавору? Увогуле хачу сказаць, што мы вельмі рады, што ў нас з вамі наладзілася такое плённае і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва, — рассыпалася Таццяна ў двухсэнсоўных кампліментах.

— Мы — таксама, — прамямліў пан Анджэй.

— Дарэчы, варта было б сустрэцца і ўдакладніць дэталі наступнага заказу. Падчас абмеркавання кантракту мы з вамі больш абгаворвалі ўмовы першай пастаўкі. А цяпер неабходна вызначыцца: для наступнага заказу вам адшываць тыя ж мадэлі і ў той жа колькасці ці ў вас будуць на гэты раз нейкія асаблівыя пажаданні?

Анджэй памаўчаў пэўны час, асэнсоўваючы яе словы, — відаць, партнёры не асабліва разлічвалі, што трэба будзе рабіць заказ яшчэ і другой партыі, а тым больш — наступных. Даволі доўга памаўчаўшы, ён без асаблівага энтузіязму адказаў:

— Давайце дачакаемся, пакуль да нас паступіць прадукцыя, пабачым, наколькі якасна выкананы заказ, — і тады будзем вызначацца з другой партыяй…

— О, пан Анджэй, не сумнявайцеся, якасць вам спадабаецца — мы стараліся. Ды і абсталяванне вы нам паставілі проста цудоўнае, на такіх машынах, калі дасканала асвоіш іх, мне здаецца, проста немагчыма сапсаваць мадэль. А прафесіяналізм нашых супрацоўніц вы ж, наколькі я ведаю, асабіста тэсціравалі. Але ў любым выпадку, ацаніць якасць — гэта ваша права. Хачу толькі нагадаць, што кантракт мы з вамі падпісалі доўгатэрміновы, і ў выпадку чаго за наш вымушаны прастой вам давядзецца плаціць няўстойку, — цяпер ужо Таццяна біла палякаў іх жа зброяй.

Анджэй, падобна, справіўся з эмоцыямі ад нечаканага для яго павароту падзей і вызначыў для сябе далейшы напрамак дзейнасці. Ён зразумеў, што партнёры раскрылі загадку іх «траянскага каня» і нават больш таго — самастойна справіліся з праблемай, да таго ж своечасова… Відаць, недаацанілі яны тую самую хвалёную кемлівасць рускіх, пра якую расказваюць хто легенды, хто анекдоты… А цяпер ужо партнёры валодаюць мячом, прычым на іх палавіне поля — і цудоўна разумеюць гэта… Ну што ж, малайцы, найменшага, чаго яны заслугоўваюць — гэта павагі. Зрэшты, па вялікім рахунку, гэта не самы горшы варыянт… Тым больш, што гульня яшчэ не скончылася…

Размову ён закончыў вельмі міла і карэктна — амаль гэтак жа, як і пачаў:

— Ну што вы, пані Таццяна, які прастой, якая няўстойка? Як толькі да нас паступіць прадукцыя, то, як мы і дамаўляліся, вы на працягу трох дзён атрымаеце поўны разлік за гэтую партыю і падрабязную раскладку па новым заказе. Я спадзяюся, што наша супрацоўніцтва і надалей застанецца такім жа плённым, і мы, як і цяпер, будзем разумець адно аднаго з паўслова…

— Я таксама на гэта спадзяюся, — усміхнулася Таццяна.

Усё ж дыпламатыя — вялікае мастацтва: яны з гэтым Анджэем цудоўна зразумелі адно аднаго…

Калі яна пераказала размову з панам Анджэем Валодзю, той доўга смяяўся. І шчыра захапляўся яе майстэрствам весці перамовы:

— Танюша, ты малайчына: гэтак умыла гэтага паляка — і прычапіцца няма да чаго! За машыны падзякавала, пра няўстойку нагадала, своечасовы разлік запатрабавала… Гэта ж шчасце, што ён на цябе патрапіў! Калі б мне давялося з ім гаварыць, я б, напэўна, не стрымаўся, выдаў бы яму ўсё, што думаю пра іх паводзіны і пра наша партнёрства. Дабрадзеі гэткія!

— Валодзя, ну што ты заводзішся? — пастаралася Таццяна патушыць агонь, пакуль ён не паспеў разгарэцца. — Усё ж цудоўна закончылася! Гэта яшчэ раз пацвярджае старую, як свет, ісціну: не капай другім яму. Яны захацелі «кінуць» нас — а ў выніку мы атрымалі на вельмі выгадных умовах новыя машыны, асвоілі абсталяванне, якое мала ў каго ёсць, і зараз наша канкурэнтаздольнасць на рынку істотна павысілася. Сёння, калі нават палякі адмовяцца ад супрацоўніцтва, думаю, мы без праблем знойдзем іншых заказчыкаў — не шмат ёсць фірм, якія могуць на такім узроўні, які сёння ёсць у нас, пашыць самыя складаныя мадэлі. Да таго ж кантракт цяпер працуе на нас, і ўжо цяпер палякі павінны клапаціцца, каб мы як мінімум гэты год працавалі без прастояў. Ды і ўмовы аплаты закладзены вельмі прыстойныя — відаць, яны не разлічвалі, што мы рашым гэтую задачку з запускам машын, і спадзяваліся сарваць добры куш на няўстойцы. А аказалася, што спрацавалі супраць саміх сябе. Так што, па вялікім рахунку, мы павінны быць ім удзячны.

— Ну, наконт удзячнасці палякам — гэта пытанне спрэчнае, — пакруціў Валодзя галавою. — А што гэтаму Кашавараву трэба рукі цалаваць — то дакладна. Каб не яго інжынерны геній, не ведаю, дзе мы былі б цяпер… Так што свае колішнія папрокі ў твой адрас з-за таго, што ты падабрала невядома дзе і невядома каго, узяла на працу неправеранага чалавека, забіраю назад. І захапляюся тваёй жыццёвай інтуіцыяй. Я дык доўга яму не давяраў, усё мне здавалася, што ёсць у ім нейкае падвойнае дно.

Таццяна міжволі напружылася, слухаючы Валодзевы дыфірамбы ў адрас Юрыя, і спрабавала зразумець: з якой нагоды сябар завёў гэтую размову? Што не проста так, то дакладна — занадта добра яна яго ведае. Нешта ён мае сказаць яшчэ…

— Я вось аб чым, Таня, разважаў апошнім часам, пакуль вы з гэтым Кашаваравым у цэху днявалі і начавалі, — пацвярджаючы яе думку, працягваў Валодзя. — Напэўна, грэх чалавека з такім інжынерным розумам трымаць на пасадзе вадзіцеля, як ты лічыш? Усё ж добрага шафёра знайсці прасцей, чым талковага інжынера. А ён на справе даказаў, што цудоўна разбіраецца ў тэхніцы, наша абсталяванне за лічаныя дні вывучыў, як свае пяць пальцаў… Як ты глядзіш на тое, каб прызначыць яго галоўным інжынерам?

Валодзя патрапіў у «яблычак»: Таццяна і сама неаднойчы пра гэта думала, ды баялася заводзіць размову на гэтую тэму. А ўсё гэтая яе дурная закаханасць, якая так перашкаджала працаваць — не пра справу думаеш, а пра тое, хто што скажа ці як паглядзіць…

— Ну, мне здаецца, што гэта быў бы не самы горшы варыянт, — памаўчаўшы крыху для прыліку, нібы паразважаўшы над прапановай Валодзі, падтрымала яна сябра. — Але ж тэхнічныя пытанні ў нашай фірме заўсёды заставаліся за табой, — яна ўсё ж асцярожнічала, разважаючы, дайшлі ўжо да Валодзі бабскія перашэптванні-пераглядванні ці гэтая размова не мае да іх ніякага дачынення.

— Таня, я ведаю, што ў мяне шмат недахопаў, але ж не варта лічыць мяне самаўлюбёным дурнем! Я цалкам самакрытычна прызнаю, што ў тэхніцы мне да Юрыя — як да Кітая паўзком. Зрэшты, што нам дзяліць — работы хопіць

усім, трэба яе толькі пераразмеркаваць разумна. Давай я вазьму на сябе частку тваіх сённяшніх абавязкаў — да прыкладу, работу з пастаўшчыкамі. А то ты ўжо зусім заматалася… А на табе застануцца перамовы, юрыдычныя пытанні, стратэгія развіцця — гэта ў цябе найлепш атрымліваецца. Можа, пасля гэтага ў цябе з’явіцца больш вольнага часу. А то, я гляджу, ты хутка зусім забудзешся аб тым, што ты — жанчына…

— Гэта ты аб чым? — насцярожылася Таццяна. — Я што, так дрэнна выглядаю?

— Ды выглядаеш ты проста цудоўна! — шырока ўсміхнуўся Валодзя. — Настолькі, што нават незразумела: чаму такая прыгожая жанчына ўвесь час адна? Хоць, зрэшты, гэта якраз зразумела: калі ж табе, працагалічцы невылечнай, пра сябе думаць? З ранку да позняга вечара на фірме, дзе ж знайсці час, каб асабістае жыццё ўладкоўваць? Сумленне мяне, па праўдзе кажучы, загрызла, што ты столькі ўзваліла на сябе…

— За клопат, вядома, дзякуй, — саркастычна ўсміхнулася Таццяна. — Але, Валодзя, пра сваё асабістае жыццё ўсё ж дазволь паклапаціцца мне самой.

Ды, памаўчаўшы хвіліну, крыху змякчыла тон.

— Хоць увогуле пераразмеркаванне службовых абавязкаў, як мне здаецца, ты прапаноўваеш слушнае. Давай паспрабуем, паглядзім, што атрымаецца. Зрэшты, калі што не так, заўсёды ж можна падстрахаваць адно аднаго, праўда? І Кашавараў да нас якраз дарэчы прыбіўся — нібы з неба зваліўся. Ён вельмі добрая падтрымка для справы, асабліва з улікам гэтага польскага заказу. Інжынер ну проста геніяльны, я такіх не сустракала: любую ідэю з лёту схоплівае — не паспееш дагаварыць, а ён ужо ведае, што трэба і як гэта зрабіць. На пасадзе галоўнага інжынера яму — самае месца.

— Ну а я пра што? — узрадаваўся Валодзя. — Вось чаму люблю з табой працаваць — любое пытанне за тры хвіліны можна вырашыць!

— Толькі я цябе папрашу — скажы ты Кашавараву сам пра яго новае прызначэнне, — крыху памаўчаўшы, перасеўшым раптам голасам папрасіла Таццяна. — Мне трэба яшчэ раз з юрыстам перагледзець гэты кантракт з палякамі, каб яны зноў не ўчапіліся за якое слова ці коску, ад іх усяго можна чакаць. Тым больш, што табе трэба перадаць новаму чалавеку ўсю тэхнічную частку, растлумачыць, што да чаго, паказаць гаспадарку…

— Пачакай, Таня… Ты што, пазбягаеш Кашаварава? — нахмурыў бровы Валодзя, нібы спрабуючы нешта зразумець. — То ў кожную паездку — толькі з ім, а то сказаць яму пра новае прызначэнне часу не маеш… Слухай, дзяўчынка, ты часам не закахалася?

— Не вярзі глупства! — пачырванеўшы, выгукнула Таццяна і, гучна ляпнуўшы дзвярыма, выскачыла з кабінета.

Тым самым яшчэ больш упэўніўшы кампаньёна, што ён недалёка ад ісціны…

Дахаты Таццяна вярталася пазнавата. На рабоце цяпер, да паступлення заказу на новую партыю прадукцыі для палякаў, знікла тое напружанне, якое панавала яшчэ тыдзень назад — яны нават адпусцілі швачак, да іх вялікай радасці, у кароткатэрміновы адпачынак. Але і дамоў спяшацца не было асаблівай патрэбы: Вася ўсё яшчэ працаваў у будатрадзе, Андрэйка «ганяў балду» ў бабулі.

«На выхадных трэба будзе з’ездзіць у вёску, — падумала Таццяна. — Засумавала ўжо і па Андрэю, і па маме — больш як месяц іх не бачыла. Ды і з агародам трэба дапамагчы. Чарніцы пайшлі — у лес добра было б выбрацца хоць

на паўдня. Андрэйка, мусіць, зноў стане прасіцца дамоў… Напэўна, трэба яго забраць — калі і сапраўды Валодзя возьме на сябе яе абавязкі забеспячэнца, то гэта ж колькі часу вызваліцца! Можна будзе з сынам з'ездзіць куды-небудзь на выхадныя — вось будзе радасці».

Пасля спякотнага дня разамлелы горад шукаў жаданай прахалоды і паратунку ў доўгіх ценях шматпавярховак, пад засенню ўжо прыбітай летнім пылам, шызаватай зяляніны сквераў, у свежым рачным подыху на набярэжнай. Таццяна пайшла даўжэйшай дарогай, каб прагуляцца ля вады. Пасядзела на лавачцы, назіраючы за тым, як цёмныя рачныя хвалі нясмела, нібы баючыся, цалуюць стромкі бераг. Пакарміла качак, што таўкліся пад мостам у чаканні хлебных крошак, якія кідалі ім зверху засумаваўшыя па прыродзе гараджане, што вымушаны былі ў гэтыя сасмяглыя летнія дні сядзець у душных гарадскіх кватэрах і офісах, а не ляжаць дзе-небудзь ля вады ці на ўскрайку лесу. Паблукала ў парку па заасфальтаваных дарожках сярод алей, пабыла нейкі час сам-насам са сваімі думкамі…

…У свой двор яна зайшла, калі сонца ўжо зачапілася за шпіль тэлевышкі і паціху спускалася ўніз, заканчваючы свой дзённы эратычны танец на гэтым карункавым шасце, раздрабляючыся на мноства яркіх палымяных язычкоў, мяняючы афарбоўку і прыцягваючы позіркі тых, хто яшчэ не развучыўся час ад часу глядзець у неба. І з першага погляду згледзела, што на лавачцы ля іх пад'езда сядзіць святочна апрануты мужчына з кветкамі. «Ты глядзі, якія джэнтльмены ў нас завяліся! — падумала са здзіўленнем. — Да каго ж, цікава, такі госць? Вераніка яшчэ малаватая для такіх кавалераў, да яе ўсё больш у скураных куртках з металічнымі ланцугамі ходзяць. Пятроўна, наадварот, стараватая… У Людмілы муж раўнівы… Можа, чалавек адрас пераблытаў? У нас, здаецца, няма каму такіх гасцей вечарамі прымаць».

— Спазняецеся, Таццяна Аляксееўна, — падняўся з лавачкі мужчына з шыкоўным букетам руж — і Таццяна са здзіўленнем пазнала ў ім Юрыя. — Працоўнае заканадаўства парушаеце. Там, між іншым, запісана права не толькі на працу, але і на адпачынак…

— Юрый, я вас не пазнала, — яна не магла схаваць свайго здзіўлення. — Куды вы гэта сабраліся — такі прыбраны, з кветкамі?

— Кветкі, дарэчы, вам…

— Мне? Дзякуй… — яна ўзяла чайныя, вытанчана-прыгожыя ружы… Напаўраскрытыя бутоны іх выпраменьвалі ні з чым непараўнальны водар, якога ніколі не бывае ў тых, што куплены ў кветкавых магазінах, — гэтыя, відаць, толькі нядаўна зрэзалі.

— Спадзяюся, на гэты раз не з гарадской клумбы?

— Ну што вы! Гэта з маёй дачы… Мама і сястра ў мяне цудоўныя кветкаводы. Ну і я ім калі-нікалі дапамагаю, мне гэты занятак таксама падабаецца…

— А з якой нагоды такі цудоўны падарунак? — пацікавілася Таня.

— У знак удзячнасці. За ўсё, што вы для мяне зрабілі… Напэўна, вы нават не ўяўляеце, што менавіта…

— Ну, па-першае, вы яўна перабольшваеце. Але нават тое, што, як вы лічыце, я для вас зрабіла, — гэта я рабіла найперш для самой сябе. Так што яшчэ пытанне, хто каму павінен дзякаваць, — Таццяна раптам змоўкла, не стала тлумачыць, што яна мае на ўвазе, спыніла сама сябе, каб зноў не ўбіцца ў шчырыя размовы па душах.

І каб перавесці размову ў іншае, як ёй падалося, больш бяспечнае рэчышча, спытала:

— А прыбраліся так з якой нагоды? — яна крытычным позіркам агледзела яго бездакорна адпрасаваныя штаны і сарочку, падабраны ў тон гальштук, вычышчаныя да бляску туфлі. — Я вас такім ніколі не бачыла…

— Што, зноў не адпавядаю? — засмяяўся Юрый. — Вы мяне яшчэ шмат якім не бачылі, Таццяна Аляксееўна. Як, зрэшты, і я вас. Я спадзяюся, што гэты працэс узаемнага даведвання будзе працягвацца. Уласна кажучы, дзеля гэтага я і прыйшоў. Дазвольце запрасіць вас у рэстаран. Спадзяюся, вечар у вас свабодны? А то я неяк вельмі саманадзейна не пацікавіўся гэтым зараней…

— Мяне? У рэстаран? — яна на яго глядзела, як на дзівака, і не магла стрымаць усмешкі.

— Я штосьці не так сказаў? — насцярожыўся Юрый. — Вас па нейкай прычыне нельга запрасіць у рэстаран?

— Ды не, — ужо адкрыта засмяялася Таццяна. — Можна, вядома! Толькі чамусьці не запрашаюць. Я проста спрабую ўспомніць, калі была там у апошні раз. Не на дзелавых перамовах ці карпаратыўных вечарынках, а проста так, каб павячэраць. Ды яшчэ каб мяне туды запрасілі. І не магу ўспомніць… Можа, некалі гэта і было — даўным-даўно, у мінулым жыцці. Але ўжо я не памятаю…

— Ну, значыць, трэба вярнуцца ў мінулае жыццё, — развёў рукамі Юрый. — Толькі вазьму на сябе смеласць нагадаць, што гэта ўжо не дзелавы ланч, а рамантычная вячэра, якую вы мне некалі паабяцалі. Так што папярэджваю загадзя: ніякія «я заўсёды плачу за сябе сама» не прымаюцца. Тым больш, што ў мяне з сённяшняга дня, як вы, напэўна, ведаеце, новая пасада. І, адпаведна, новая зарплата. Такі імклівы кар'ерны рост — за нейкіх два месяцы ад дзяжурнага на варотах да галоўнага інжынера саліднай фірмы — пагадзіцеся, ёсць што адзначыць! І за што падзякаваць…

— Ну, дзякаваць вам трэба найперш сабе. Хачу вам сказаць без усялякага падхалімажу, што гэта цалкам заслужаная вамі пасада… А ўвогуле я вельмі радуюся за вас, Юра, — сказала яна неяк асабліва цёпла. — Радуюся, што вы знайшлі сябе. А мы — вас. Спадзяюся, што для нашага агульнага задавальнення і доўгага і плённага супрацоўніцтва.

— Я таксама на гэта моцна спадзяюся. А яшчэ — на тое, што яно будзе нават больш доўгім, чым ваш адказ на маё запрашэнне. Скажыце ж нарэшце: вы згодны правесці сёння са мной вечар?

— А што, я яшчэ не сказала сваё катэгарычнае «так»? — гулліва ўзняла бровы Таня. — Вось жа дзявочая памяць! Хоць вы самі вінаваты — загаварылі мяне… Канешне, я згодная! Вы толькі пачакайце пару хвілін, пакуль я збяруся…

— І што, вы хочаце сказаць, што паспееце за пару хвілін? — паглядзеў на гадзіннік Юрый. — Калі гэта адбудзецца, то вы паб'еце ўсе магчымыя рэкорды, і вас занясуць у кнігу рэкордаў Гінеса… Я, канешне, згодны пачакаць, колькі трэба, але хацелася б крыху дакладней ведаць, колькі ў вашай метрычнай сістэме азначае «пара хвілін»?

Таццяна залівіста засмяялася. І злавіла сябе на тым, што ўжо колькі часу стаіць тут з кветкамі ў руках, какетнічае з незнаёмым прыгожым мужчынам — суседзі, мусіць, шыі павыварочвалі, выглядваючы ў вокны… А калі яшчэ ён застанецца тут сядзець на лавачцы… О, тады каля іх пад'езда пачнецца сапраўдны броўнаўскі рух — кожнаму ж захочацца выглядзець, хто такі гэты невядомы мужчына, выпытаць, да каго і навошта ён прыйшоў. А заў-

тра… Пра тое, якую атаку цікаўных суседак ёй давядзецца вытрымаць заўтра, лепш не думаць — усё, што б ні прыдумала, будзе праўдай.

Хвіліну павагаўшыся, яна прапанавала:

— А ўвогуле, калі хочаце, можаце падняцца са мной і пачакаць, пакуль я збяруся, у кватэры…

— Што, баіцеся скампраметаваць сваю рэпутацыю? — Юрый у чарговы раз прадэманстраваў, што ўмее чытаць яе думкі.

— Як казала гераіня аднаго фільма, у мяне такая бездакорная рэпутацыя, што яе даўно варта скампраметаваць, — махнула рукой Таня. — Але, калі па праўдзе, то лішніх размоў не хочацца.

— Ну тады давайце лічыць, што я вас запрасіў у рэстаран, а вы мяне — на каву. Кава ў вас, спадзяюся, ёсць?

— А як жа! У мяне, здараецца, бывае пусты халадзільнік, але кава ёсць абавязкова, прычым добрая — без гэтага допінгу я жыць не магу…

— Вы толькі не палохайцеся, у мяне ў хаце парадак далёкі ад ідэальнага, — ужо на лесвіцы спахапілася Таццяна, успомніўшы карніз, які ўсё яшчэ вісеў на адным цвіку, посуд у ракавіне, які ранкам пакінула нямытым… І акно не дабралася пачысціць, і дыван пыласосіла тыдзень назад… «І тузануў мяне нячысцік запрасіць гэтага Юрыя ў кватэру! — зазлавалася сама на сябе. — Маглі б праз якую гадзіну сустрэцца ля рэстарана… Ды і ўвогуле — ці варта было пагаджацца на яго прапанову? Навошта гэта? Толькі падкормліваць таго няпрошанага лазутчыка, што невядома калі незаўважна прабраўся ў душу, — а ён потым будзе днямі і начамі грызці, кусаць яе і без таго збалелае сэрца…»

Здаецца, ён заўважыў раптоўную змену ў яе настроі.

— Што-небудзь не так, Таццяна Аляксееўна? Я ў вас нікому не стану перашкаджаць? Калі што, то я магу і на вуліцы пачакаць…

Гэта яе рассмяшыла — аказваецца, пакуль яна змагаецца са сваімі страхамі, у Юрыя ў галаве гуляюць свае «тараканы». Ён таксама баіцца пераступіць парог яе жытла — толькі зусім па іншай прычыне.

— Не хвалюйцеся, дома нікога няма, — супакоіла яна госця. — Андрэйка ўсё яшчэ ў бабулі. А Вася, старэйшы сын, паехаў у будаўнічы атрад, самастойнасці яму захацелася. Так што я пакуль што адна… Толькі майце на ўвазе, што гасцей я не чакала і парадак не наводзіла…

І зазлавалася на сябе — чаго гэта яна перад ім апраўдваецца? Яе кватэра — як хоча, так і жыве!

Дома яна перш за ўсё паставіла ў ваду ружы, затым — чайнік на пліту, дастала з шафкі каву, цукар, кубак, уключыла тэлевізар.

— Юра, вы пакуль тут самі сябе пачастуйце і займіце, добра? Не саромейцеся, адчувайце сябе, як дома. Калі што спатрэбіцца, то ў шафках ці ў халадзільніку знойдзеце неабходнае — пры ўмове, вядома, што яно ўвогуле ёсць у гэтай хаце. А я пакуль з вашага дазволу душ прыму — дзень сёння такі спякотны…

Але замест таго, каб уключыць душ, яна стала набіраць ванну. Хацелася не проста спаласнуць з сябе дзённы пыл і клопаты, але крыху даўжэй пабыць адной, за зачыненымі дзвярыма — каб сабрацца з думкамі, вырашыць, як далей паводзіць сябе з гэтым Юрыем. І навошта толькі яна прыняла гэтае яго запрашэнне ў рэстаран? Не трэба даваць сабе волі, не варта расслабляцца, выпускаць з клеткі гэтую вар'яцкую закаханасць… І ўвогуле, трэба ўцякаць ад гэтага Юрыя — як мага далей. Пакуль не позна… Ці ўжо позна? Ох, і што ж рабіць? Лепш за ўсё — выйсці зараз з ванны, ветліва падзякаваць за запрашэнне і адмовіцца ад паходу ў рэстаран. Прыдумаць што-небудзь, нейкую

ўважлівую прычыну… Хоць, напэўна, гэта ўсё ж няёмка, да таго ж непраўдападобна — спачатку згадзілася, а пакуль прымала душ, невядома адкуль з'явілася ўважлівая прычына… Праз вентыляцыйны люк тэрміновае паведамленне атрымала… Не, прыдумляць нешта і хлусіць не варта — Юра бачыць яе наскрозь, адразу ўсё зразумее. Канешне ж, пакрыўдзіцца… А ён гэтага не заслужыў. Не, калі ўжо прыняла запрашэнне, трэба ісці. А потым усё яму шчыра сказаць. Ну не зусім шчыра, вядома, пра сапраўдную прычыну, аб сваіх пачуццях яна толькі сабе, і то ў думках, можа прызнацца. Але можна, напрыклад, сказаць, што ў яе ёсць мужчына — ад такога паведамлення яго як ветрам здзьме… Ага, вось толькі б яшчэ прыдумаць, дзе ён падзеўся? Ну, тады прызнацца незнарок, што яна да гэтага часу кахае бацьку Васі. Ці Андрэйкі… Не, пра Андрэйку не атрымаецца — тады, як ехалі з Мінска, яна ў парыве шчырасці нешта там гаварыла яму пра гены… А калі да гэтага часу кахае Васевага бацьку, то адкуль узяўся Андрэйка? Таксама не складваецца…

Ото ж дасталася ад маці заганная спадчына — маніць не ўмее аніяк! У людзей гэта атрымліваецца лёгка, грацыёзна, нават таленавіта. А яна нават калі паспрабуе, то кожны, хто яе хоць крышачку ведае, адразу заўважыць. А пасля ўсё абавязкова наверх выйдзе… І праўду ж яму не скажаш: так, маўляў, і так, Юра, я вас кахаю і баюся свайго кахання, таму давайце ў далейшым нашы адносіны абмяжуем чыста дзелавымі… А можа, сказаць між іншым, што сыны нікога ў яе жыццё блізка не дапускаюць? Андрэй, праўда, калі забіралі яго з бальніцы, усю дарогу з ім шчабятаў, пра ўсе свае курсанцкія справы паспеў расказаць, а на Васю можна паспрабаваць спіхнуць... А ў далейшым усе стасункі звесці да мінімуму — ніякіх кветак, рэстаранаў, ніякіх размоў па душах. Адносіны — чыста дзелавыя. І паціху, па кропельцы, выціскаць з сябе гэтае пачуццё. Трэба шукаць у ім нейкія недахопы. Вось хоць бы тое, што курыць ён замнога… І ўвогуле…

Што ўвогуле, яна прыдумаць не паспела — успомніла, што ляжыць у пеннай ванне і займаецца самабічаваннем недаравальна доўга, і гэта ўжо перасягае ўсе межы прыстойнасці: запрасіць чалавека дахаты і пакінуць аднаго, а самой схавацца… Яна хуценька вымыла валасы, заматала галаву ручніком і, накінуўшы на плечы махровы халат, выйшла ў калідор.

…Юру яна зноў не пазнала — яго святочныя штаны і сарочка віселі на спінцы крэсла, а сам ён у старых Васевых джынсах і расцягнутай майцы стаяў на каленях і прыкручваў ножкі ў табурэтках, якія даўно расхісталіся, ды сын усё не знаходзіў то часу, то жадання давесці іх да ладу. Карніз ужо вісеў на абодвух цвіках, памыты посуд стаяў у сушылцы…

Напэўна, выгляд у яе быў больш чым здзіўлены — яна не магла вымавіць ні слова.

— Ну вы ж самі сказалі — адчувай сябе, як дома… Ну вось я і адчуў, — разгублена развёў рукамі Юра, убачыўшы яе нямое здзіўленне. — Інструменты знайшоў на балконе, рабочае адзенне — таксама, — працягваў ён апраўдвацца.

— Юра, я цябе зноў не пазнаю, — яна сама не заўважыла, што нечакана для сябе перайшла на «ты»…

Ён таксама глядзеў на яе ва ўсе вочы, і яна не магла зразумець, чаго ў тым позірку больш — здзіўлення, захаплення, жадання… Потым паклаў адвёртку і падышоў да яе ўшчыльную.

— Ведаеш, я цябе — таксама…

Ручнік размотаўся і ўпаў на падлогу, валасы рассыпаліся па плячах. Таня стаяла, здранцвелая, і не магла варухнуцца, прыкаваная да месца гіпнатызу-

ючым позіркам яго карых вачэй — яны зацягвалі ў бяздонны вір… Яна яшчэ паспела падумаць, як недарэчна, напэўна, зараз выглядае — з мокрымі ўскудлачанымі валасамі, без макіяжу, усе маршчынкі — напаказ…

Але Юра ўткнуўся носам у яе макушку, моцна абняў і прыціснуў да сябе:

— Божа, якая ж ты цудоўная… Ты такая… Сапраўдная… Светлая… Жаданая… Каханая… Адзіная… Мая… Цяпер — мая… І толькі мая… Каб ты толькі ведала, як я марыў аб гэтым… Як доўга я цябе шукаў… Як я чакаў гэтай сустрэчы… Танечка, родная, любая, як жа я цябе кахаю, каб ты гэта ведала, каб ты толькі магла здагадацца, паверыць, адчуць, што робіцца ў маёй душы кожны раз, як я цябе бачу… Якое шчасце, што ты ёсць у гэтым свеце! Бо інакш — навошта было б жыць, які сэнс?

Яна не мела ні сілы, ні жадання нешта гаварыць — мочкі каўтаючы слёзы, якія раптам хлынулі з вачэй, прыціснулася да яго ўсім целам… Упершыню пасля столькіх гадоў неабходнасці быць моцнай, правільнай, разумнай, прадбачлівай, адказваць за ўсё і за ўсіх яна адчула сябе звычайнай слабай жанчынай. І нават больш таго — маленькай безабароннай дзяўчынкай, якая зараз схавалася пад аховай яго дужых пяшчотных рук, якія гладзілі яе па галаве, ахутваючы коканам недатыкальнасці ад усіх бедаў, што ёсць у свеце, — ад зайздрасці, інтрыг, ад злых людзей і нават ад дрэннага надвор’я. І ведала, адчувала, разумела, што няма ў свеце больш надзейнай абароны, мацнейшай сцяны, салодкага палону, чым гэтыя моцныя, такія родныя рукі… Усё, пра што яна думала, пакуль прымала ванну, усе яе страхі, планы, прыдумкі ў адзін момант некуды зніклі, і сэрца да краёў запоўніла адно-адзінае адчуванне — пачуццё бязмежнага, бязважкага, усёабдымнага шчасця.

Ён моўчкі, прагна і адначасова пяшчотна, цалаваў яе мокрыя валасы, лоб, слёзы, што салёнымі ручаінкамі цяклі па шчоках, яе вусны, плечы, што выслізнулі з халата…

— А як жа рэстаран? — прашаптала яна, калі ён падхапіў яе на рукі.

— Ды будзе ў нас яшчэ тых рэстаранаў! — прашаптаў ён і зноў закрыў ёй вусны пацалункам. — У нас з табой яшчэ ўсё жыццё наперадзе…

## Іван КАПЫЛОВІЧ



* * *

Чырвонай цэглаю
Ўраслі ў зямлю муры.
Травой палеглаю
Страчаюць хутары.

Знямелі селішчы,
Нічыйныя сады:
Былое велічы
Апошнія сляды.

Пануе, дыхае
Тут час журбы, калі
Мясціну ціхую
Аклікнуць жураўлі.

Тут дні вячыстыя
Ідуць у гэты бок,
Дзе росы чыстыя,
Дзе спорны кожны крок.

Мясціны зназыя
Счакаліся пары
З гасцямі званымі,
З гамонкай да зары.

---

*__Капыловіч Іван Іванавіч__ нарадзіўся 2 лютага 1944 года ў вёсцы Забалацце Мазырскага раёна. У 1962 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Пасля заканчэння вучобы ва ўніверсітэце (1967) працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у аўтамабільную катастрофу, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка.*

*Аўтар кніг прозы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Асенні гром» (1985), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003). З вершамі выступаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Маладосць».*

* * *

Спомню маці святое імя,
Калі думкі абудзіць трывога.
Непакоюся я недарма:
Груз нягодаў даводзіў, даймаў,
І туманам укрыта дарога.

Безаглядна даверуся ім —
Прагным думкам любові, свабоды —
І пайду знаным шляхам сваім,
Дзе трывогі развеецца дым,
Дзе спакою куток і лагода.

Дум няскораны рух і настрой —
Векавая жыццёвая сіла,
Што ніколі не стане чужой
На дарозе калдобістай той,
Дзе дабро сонцам праўды свяціла.

* * *

Скрозь стагоддзі горад Сакі
Выйшаў з мора да людзей.
Лёсу ён майго адзнакай,
Дзе не раз я моўчкі плакаў,
Не паверыўшы бядзе.

Спасцігаючы нядоляй
Дзён паўднёвых шырыню,
Адыходзіў я паволі
Ад нядужасці і болю —
Знаў адчаю глыбіню.

Хваляў чулася размова,
Вецер стэпавы дыхне —
Пачынаў я жыць нанова,
Доўга быў я не гатовы
Йсці па скрушнай цаліне.

Будуць вымаўлены словы
Як для строгага суда.
Словы — мост у дзень суровы:
Грунтам стане ён, асновай,
Каб руку жыццю падаць.

Горад сонца, слёз кіпучых,
Горад збуджаных надзей.

На шляху маім балючым
Ён паўстане немінуча
Як збавіцель-чарадзей.

* * *

*Памяці Аляксея Пятрухны*

Ён паглядзіць на палатно
Прыдзірліва і строга.
Раб таямніцы ён зямной,
Сакрэт якой у Бога.

Кладзе ён за мазком мазок —
Настрой шукае фарбаў.
Натхненню трэба быў штуршок,
Каб палатну стаць скарбам.

Зірне ў раскрытае акно
Майстэрні самавітай:
Палессе роднае відно,
Дзе вербы і ракіты.

Там, на Палессі, карані
І таленту, і лёсу,
Адтуль бяруць пачатак дні
З малітвай да нябёсаў.

Дзень кожны хочацца да іх,
Да тых куткоў-мясцінаў,
Дзе неспасціжны свет спасціг
Сюжэтамі карцінаў.

* * *

У часе падарожным
Не сцішваў спешны крок
І думкі строгай кожнай
Трымаўся, колькі можна,
І чуў я кліч дарог.

Хацеў пабыць усюды,
Дзе змрок і дзе святло,
Дзе гаманілі людзі
Аб тым, што час асудзіць,
Што лёсы апякло.

Бярог людскія словы
У глыбіні душы:
Свет спасцігаў я новы,
Засцюжаны, суровы —
Ён быў мне не чужы.

І дома, і на людзях
Я не крывіў душой.
Пачуццяў не астудзіць
Марозны, снежны студзень —
Абудзіць неспакой.

* * *

На гэтым застануся рубяжы,
Дзе кожны крок упэўнены, свабодны,
Дзе хочацца ўсе сто гадоў пражыць,
Не знаючы няўтульнасці халоднай.

Без лішняе развагі прысягну
Таму, з чым буду звязаны душою.
Перад нікчэмнасцю спіну не гну
І не тулюся за спіной чужою.

Адкрытасці хачу заўсёды і ва ўсім,
Дасягнутым сябе не заспакою.
На рубяжы ўмацуюся сваім,
Каб заставацца ўсюд самім сабою.



## Міхась КУЛЕШ

### ВОКНЫ

Свет загадкава-тлумны навокал,
Ды і сам я загадка бадай.
Вось іду, зазіраючы ў вокны,
Дзе ўсё з іншага боку відаць.

Той святкуе, а ў некага драма,
За журбой не відно аканіц.
Ах, якая вакол панарама
Шчасця, смутку, чужых таямніц!

Мне прыемна за шыбай пабачыць,
Як шчыруюць там згода і лад.
Плач пачую — і сам я заплачу.
Там сястра мая недзе ці брат.

«Ну нашто табе, — скажуць мне гэтак, —
У чужое жытло заглядаць?»
А няма тут ніякіх сакрэтаў —
Мне праз вокны і сэрцы відаць.

Я жадаю ўсім вокнам спакою,
І спагады, і цішыні.
Сам стаю ля акна, якое
Разам з сэрцам для вас расчыніў.

---

***Кулеш Міхаіл Іванавіч*** *нарадзіўся 6 жніўня 1956 года ў вёсцы Полкацічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1978). Працаваў настаўнікам, завучам, дырэктарам у сістэме народнай адукацыі і прафтэхадукацыі. Цяпер — індывідуальны прадпрымальнік.*

*Аўтар паэтычных кніг «Белые ночи» (1993), «Окна» (2011).*

## ВУЛЬКА

Жыву ў элітным доме, не сумую.
Ёсць супермаркет, банк і казіно.
Жыццё у рытмах новых тут віруе,
Ды Вулька мне мілей усё адно.

Былі ў мяне імгненні і хвіліны.
І з памяці адсвечваюць заўжды:
Рабінавая — гронкамі рабіны
І Вулькаўская — цветам маладым.

Відаць, і жыў там мой анёл ахоўны,
Які бярог мяне і мой спакой.
Была там рыса,
Ды было ўсё роўна,
Што там, за рысай,
А ці лепш за ёй.

А там дамы, праспекты і завулкі,
Гамоніць Брэст, і горад і герой.
А для мяне ён пачынаўся з Вулькі,
Вясновай ціхай вулачкі маёй.

## ПАМЯЦЬ

Афганскі парк. Тут ціш нібы пракляцце.
І спынішся — і шапку здымеш ты.
Тут шэры п’едэстал, нібы распяцце,
Дзе твар героя ў мармуры застыў.

А ўчора снег стараўся цэлы вечар,
Зацягваў далеч белаю тугой.
Зацерушыў і галаву, і плечы,
І рукі мармуровыя яго.

Стаялі сосны вартаю панылай,
І раптам страпянуліся яны.
Нібы анёл знаёмы белакрылы
Раптоўна прызямліўся з той вайны.

А памяць нашы думкі пераймае.
Маўчаць забранзавелыя камлі.
Я шапку моўчкі перад ім зыдмаю,
Схіляюся да самае зямлі.

* * *

Ну вось і ўсё… Перон даўно пусты,
І знік цягнік за дымкаю густой.
Я ад’язджаю, застаешся ты.
Каму лягчэй — не ведае ніхто.

Вам смешачкі, і сам я жартаваў,
Ад шчасця сам сябе не разумеў,
А потым слёзы ўпотайкі хаваў,
Калі цягнік па рэйках загрымеў.

Страляе ветрык стрэчнае вярсты.
Там іншы свет, за дымкаю густой.
Я ад’язджаю, застаешся ты.
Каму лягчэй — не ведае ніхто.

* * *

На вятрах, на дажджах, на холадзе,
Нібы хтосьці знарок нарок,
Захлібнулася вёсачка ў горадзе —
Даўняй памяці астравок.

Што пасеяна, тое вырасла.
Бушавалі ад цвету сады.
Адляталі з вяселлямі, з выраем
І чародкі гадоў маладых.

Ціха скардзяцца сцены збуцвелыя,
І да рання крычыць вараннё.
Гэта песня не ўсім зразумелая,
Гэты смутак баліць з каранёў.

На вятрах, на дажджах, на холадзе,
Там, дзе гмахі да самых аблок,
Ты згубілася, вёсачка, ў горадзе,
Нібы памяці астравок.

## НАПРАДВЕСНІ

Зачакаўся свет вясны, напэўна,
Ён занепакоены такі.
Зноў спяваюць, бы ў дзяцінстве, пеўні
І крычаць гудкамі цягнікі.

Ройна снег запознены цярушыць,
На нулі тэрмометра слупок.
Адтаюць і далечы, і душы,
І вады закованы ставок.

А яна мільгае аблачынкай
І заводзіць жаўранка званок.
Ціхаю, нясмелаю дзяўчынкай
Стукаецца ў кожнае акно.

Пазнаю паходку, і дыханне,
І настрой вясновы гаманкі.
Дзесьці пеўні зноўку будзяць ранне,
І крычаць гудкамі цягнікі.

## VIA ES VITA*

Дарог не баяўся нібыта,
Не ведаў зайздросных вачэй.
І прымаўку «Via es vita»
Студэнтам запомніў яшчэ.

Жыццёвую ніць працягні ты,
Дык хопіць на шмат верацён.
Што кажаш мне, «Via es vita»?
Дарога — яна ёсць жыццё.

Блукаў я па свеце, за светам.
Ды помніў яе як наказ,
І мудрасць вялікую гэту
Дарогаю сцвердзіў не раз.

Калі ўжо ты выбраў дарогу —
Ідзі і не збочвай нідзе.
Не песціць яна анікога.
А мудрасць жыцця — у хадзе.

На лёс наракаць свой не варта.
Ідзеш — дык вышэй галаву.
Дарогу адолее ўпарты.
Пакуль я іду — я жыву.

---

* Дарога ёсць жыццё *(лац.)*.

***Пераклад з рускай***
***Казіміра КАМЕЙШЫ.***

Крысціна ПАПКО

# АБ САБЕ І АБ ЖЫЦЦІ: «ГІСТОРЫЯ ДУХУ» МІКАЛАЯ БЯРДЗЯЕВА І «ВОПЫТ ДУШЫ» УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА (ПАВОДЛЕ АЎТАБІЯГРАФІЧНЫХ КНІГ М. БЯРДЗЯЕВА «САМАПАЗНАННЕ» І У. КАЛЕСНІКА «ДОЎГ ПАМЯЦІ»)

У сусветным літаратурным працэсе XX — пачатку XXI ст. — перыяд росквіту літаратуры «non-fiction». Усё больш аўтараў, адчуваючы патрэбу ў самавыражэнні, звяртаюцца да жанраў «літаратуры факта». Беларуская літаратура не стала выключэннем, і за апошнія дзесяцігоддзі да дакументальна-аўтабіяграфічных жанраў звярталіся многія выдатныя літаратары, сярод якіх М. Танк, Я. Брыль, А. Адамовіч, В. Быкаў і інш. На наш погляд, выключная рыса «нявыдуманай прозы» — тэндэнцыя да даследавання характару «рэфлектуючага героя». У гэтым сэнсе надзвычай каштоўнай і яркай з'яўляецца кніга У. Калесніка «Доўг памяці» — глыбокі філасофскі роздум аб жыцці, гісторыі, падзеях і людзях, але, найперш, аб самім сабе.

Проза У. Калесніка — гэта не толькі арыгінальнае філасофска-эстэтычнае асэнсаванне жыцця і сябе самога, а і своеасаблівы тастамент нашчадкам, якіх аўтар заклікае вучыцца на вопыце бацькоў і кіравацца ў жыцці агульнапрынятымі маральна-этычнымі нормамі, бо толькі так, паводле аўтабіяграфічнага героя, асоба можа рэалізавацца і дасягнуць унутранай гармоніі. Па вялікім рахунку, на сённяшні дзень у айчыннай літаратуры няма аналагаў гэтай філасофска-медытатыўнай прозе, таму ідэйна-эстэтычныя асаблівасці аповеду У. Калесніка выклікаюць заканамерную цікавасць. Кнігу «Доўг памяці» яго сябра, народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль трапна і справядліва назваў «помнікам». Сапраўды, памяць — найважнейшая форма прысутнасці мінулага ў сучаснасці. Памяць — вечны анталагічны пачатак, які захоўвае гістарычнае і вечнае, і найперш нашу сувязь з бацькамі, дзядамі, продкамі. Гэтае трыадзінства сучаснага, будучага і мінулага грунтуе і мацуе тое, што мы называем вечнасцю. Памяць дапамагае кожнаму заставацца ў гісторыі роду, а народу — у гісторыі чалавецтва, а не ў разарваных імгненнях часу і вечнасці. Памятаць і расказаць будучым пакаленням аб пражытым, аб трагедыях і героях мінулага, перадаць высокую і светлую памяць аб іх грамадзянскім і духоўна-патрыятычным подзвігу — такую камунікатыўную звышзадачу паставіў У. Калеснік.

Кнігу У. Калесніка ў пэўнай меры можна назваць беларускім аналагам кнігі вядомага рускага філосафа М. Бярдзяева «Самапазнанне», напісанай у 1940 годзе. Жанр яе ён акрэсліў як «вопыт філасофскай аўтабіяграфіі». Сапраўды, і ў прозе У. Калесніка, як і М. Бярдзяева, цесна пераплецены аўтабіяграфічныя звесткі з асабістымі філасофскімі поглядамі. Абодва яны прапанавалі чытачу спробу пераасэнсавання свайго жыцця, шляху ўласнага духоўнага і ідэйнага станаўлення праз прызму часу і набытага з гадамі вопыту. Асноўныя тэмы, над якімі разважае аўтабіяграфічны герой М. Бярдзяева, — гэта асоба і час, асоба і творчасць, асоба і яе ўнутраная свабода. У прозе У. Калесніка тэмы амаль тыя ж, але ў ёй прысутнічае канкрэтны гістарычны час — ад вясковага маленства да сталасці інтэлектуала, патрыёта-беларуса 30—40-х і пазнейшых гадоў XX стагоддзя.

Менавіта філасофскай рэфлексіўнасцю, устаноўкай на памяць і самапазнанне твор М. Бярдзяева пераклікаецца з кнігай У. Калесніка. Іхнія творы кампазіцыйна і храналагічна структураваны ў адпаведнасці з задачамі, якія ставілі перад сабой аўтары. «Самапазнанне» М. Бярдзяева складаецца з прадмовы, дванаццаці

раздзелаў, кожны з якіх мае дастаткова акрэсленую тэму, і дадаткаў 1940—1946 і 1947 гадоў, хоць аўтар звяртае ўвагу на тое, што раздзелы размешчаны не па храналагічным прынцыпе, а па тэматычным: «по темам и проблемам, мучившим меня всю жизнь». Кніга У. Калесніка таксама пісалася часткамі. Магчыма, крыху запознена працаваў над яе завяршэннем: не засталося, на жаль, часу на дасканалую, цэласную кампазіцыйную і канчатковую дапрацоўку.

Як і У. Калеснік, М. Бярдзяеў выношваў задуму многія гады: «Книга эта мной давно задумана. Замысел книги мне представляется своеобразным». Аднак у прадмове ён заўважае, што кнігі, напісаныя аб сабе, уяўляюцца яму надзвычай эгацэнтрычнымі, і «в литературе «воспоминаний» это часто раздражает». М. Бярдзяеў тлумачыць рэцыпіенту, што ён выдзяляе ў «літаратуры ўспамінаў» некалькі тыпаў твораў, напісаных «аб сабе і аб жыцці»: дзённік, споведзь і ўспаміны. Аднак зазначае: «Моя книга не принадлежит вполне ни к одному из этих типов. Я никогда не писал дневника. Я не собираюсь публично каяться. Я не хочу писать воспоминаний о событиях жизни моей эпохи, не такова моя главная цель. Это не будет автобиографией в обычном смысле слова, расказывающей о моей жизни в хронологическом порядке. Если это и будет автобиографией, то **автобиографией философской, историей духа и самосознания»**.

Па сваёй задуме творы М. Бярдзяева і У. Калесніка ў многім падобныя: аўтабіяграфічны герой «Доўгу памяці» неаднаразова нагадвае рэцыпіенту аб тым, што галоўнае ў яго аповедзе — тое, што хочацца перадаць наступным пакаленням — «вопыт душы», а гэта і ёсць, на нашу думку, важны складнік «гісторыі духу».

Уладзімір Калеснік, як і М. Бярдзяеў, выношваў творчую задуму многія гады. М. Бярдзяеў ставіў перад сабой канкрэтныя мэты, якія акрэсліваў як «самопознание», «потребность понять себя, осмыслить свой тип и свою судьбу». Дый на старонках «Доўгу памяці» мы сустракаем тып героя «рэфлексуючага», што выклікае нашу асаблівую цікавасць і дазваляе гаварыць аб прыкметных сыходжаннях паміж гэтымі творамі. Аднак рэфлексуючы герой М. Бярдзяева значна розніцца ад героя У. Калесніка, і найперш тым, што аўтар «Самапазнання» хоць і разумеў эгацэнтрычнасць свайго твора, аднак яна набыла ў ім спецыфічныя рысы і значна адрозніваецца ад камунікатыўнай пазіцыі «Доўгу памяці».

Аўтабіяграфічны герой У. Калесніка праўдзівы і крытычны ў ацэнцы сябе і падзей. Ён імкнецца раскрыць самыя таемныя думкі і жаданні, нават тыя, якія лічыць адрознымі ад прынятых маральных нормаў. У творы выразна гучаць спавядальныя матывы. Герой М. Бярдзяева, наадварот, свядома ад гэтага адмаўляецца: «Я не хочу обнажать души, не хочу выбрасывать во вне сырья своей души [...]. Дискретность не позволяет мне говорить о многом, что играло огромную роль не только во внешней, но и во внутренней моей жизни». М. Бярдзяеў гаворыць аб тым, што яго кніга па сваёй задуме філасофская і прысвечана выключна згаданай праблематыцы. Гэта пацвярджае і тое, што, у адрозненне ад У. Калесніка, які намагаўся на філасофска-мастацкім узроўні апрацаваць жыццёвы матэрыял, ён імкнуўся да адваротнага — «написать эту книгу с наибольшей простотой и прямотой, без художественного завуалирования». М. Бярдзяеў таксама сцвярджае, што характарыстыка асяроддзя для яго не з’яўляецца вызначальнай у апісанні «гісторыі духу», а, наадварот, яго найбольш цікавіць характарыстыка асабістых рэакцый на асяроддзе.

Пазіцыя У. Калесніка значна адрозніваецца ў падыходзе да апрацоўкі жыццёвага матэрыялу: ён — майстар слова, паэт і мастак, які раскрывае свой унутраны свет, у тым ліку і жыццёвую філасофію не праз навуковыя паняцці, а праз літаратурна-эстэтычную падачу ўласных перажыванняў, часта выкарыстоўваючы для гэтага традыцыйныя выяўленчыя сродкі: пейзаж, партрэтную характарыстыку, філасофска-лірычнае аўтарскае адступленне і некаторыя іншыя.

Паказальныя ў гэтым плане партрэты герояў, створаныя У. Калеснікам і М. Бярдзяевым. «Моя мать была очень красива, её считали даже красавицей. В пятьдесят лет она была ещё очень красивой женщиной», — так лаканічна апісвае М. Бярдзяеў не толькі сваю маці, але і іншых людзей, з якімі яго звёў лёс. А вось, напрыклад, партрэт эпізадычнай гераіні, падпольшчыцы Валі, пададзены У. Калеснікам, выглядае па-іншаму: «З цёмнага кута […] выйшла нейкая дробная постаць у зімовым пальтоціку з утуленым у пухкі лісіны каўнер тварыкам і мяккім дзявочым голасам насмешліва спытала: «[…] Заходзьце, дзе вы там? […]». «Сапраўды, гэта было прыгожае стварэнне. Светлыя валасы, падстрыжаныя коратка, амаль па-хлапечы, падкрэслівалі энергічную пасадку зграбнай галоўкі. Тварык меў правільныя рысы і быў злёгку абветраны. Класічную гармонію рыс парушалі светлыя, крыху лупаценькія вочы. Дзяўчо было, відаць, блізарукім, бо глядзела занадта ўважліва, але не назоліста. Ажыўлялі выгляд малыя пухнаценькія вусны. Смелы рысунак верхняй губы выдаваў характар і сілу. Усё хараство гэтае тулілася ў пушысты каўнер паліто, накінутага на плечы. Валя вітала іх (хлопцаў. — **К. П.**) прыветным бархацістым смехам […]».

Як бачым, У. Калеснік, нягледзячы на тое, што вобраз эпізадычны, падае надзвычай падрабязны, па-мастацку ідэалізаваны партрэт гераіні, прычым звяртае ўвагу не толькі на рысы твару, але і на вопратку, манеру гаварыць і трымацца з субяседнікам. Партрэт атрымаўся змястоўным і эмацыйна афарбаваным. Цікавасць выклікае не толькі майстэрства аўтара абмалёўваць знешнасць героя, але і выказваць свае адносіны да яго праз партрэтную характарыстыку. Так, дзякуючы выразам тыпу «прыгожае стварэнне», «бархацісты смех» і шырокаму выкарыстанню памяншальна-ласкальных формаў слоў («галоўка», «тварык», «лупаценькія вочы», «пухнаценькія вусны» і інш.) рэцыпіент адчувае цеплыню прыязных і таварыскіх адносін, якія ўзніклі паміж аўтабіяграфічным героем і дзяўчынай.

Аднак, нягледзячы на шматлікія адрозненні паміж творамі М. Бердзяева і У. Калесніка, іх значна збліжае *глыбокі гуманістычны пафас*. Вышэй мы звярталі ўвагу на тое, што аўтабіграфічны герой «Доўгу памяці» кіраваўся ў сваім жыцці хрысціянскімі прынцыпамі і агульнапрынятымі маральнымі нормамі. Ён усёй сваёй сутнасцю супрацьстаяў злу, жорсткасці і гвалту, а жыццёвае крэда пераняў ад бацькі, які, у сваю чаргу, прытрымліваўся ў жыцці і ў адносінах да людзей вядомай хрысціянскай запаведзі: не рабі іншаму таго, чаго сабе не жадаеш. Аднак У. Калеснік асцярожна выказваўся на рэлігійную тэму і асабліва аб сваіх адносінах да веры. Ён згаджаўся з правільнасцю хрысціянскіх маральна-этычных ідэй, захапляўся сваімі настаўнікамі-святарамі, але ягоныя адносіны да Бога можна акрэсліць хутчэй як стрыманыя, чым прыхільныя.

І аўтабіяграфічны герой «Самапазнання» кіраваўся падобнымі прынцыпамі. Але М. Бярдзяеў, у адрозненне ад У. Калесніка — глыбока набожны чалавек, хрысціянін, які выхоўваўся ў праваслаўнай сям'і. Яшчэ ў маленстве «прыклад веры» аўтабіяграфічнаму герою паказалі маці і няня, якія імкнуліся далучыць яго да хрысціянскіх традыцый і сваёй жывой верай заахвоціць да спасціжэння рэлігійных ісцін. Аб тым, што ў сям'і Бярдзяевых вера займала важнае месца, сведчыць і тое, што яго бабуля і прабабуля былі праваслаўнымі манахінямі. М. Бярдзяеў значную (калі не большую) частку твора прысвяціў сваім развагам на рэлігійную тэматыку, якая цесна пераплецена з агульнафіласофскімі ідэямі. Ён, як вядома, стаў выдатным і вядомым прадстаўніком рэлігійнай філасофскай плыні XX ст. Мікалай Бярдзяеў з гонарам сцвярджае, што, нягледзячы на складанасць і драматызм лёсу, ён захаваў найвышэйшы скарб чалавека — веру ў Бога.

Сапраўды, лёс неаднаразова выпрабоўваў яго на мужнасць і стойкасць у вызнанні веры: чатыры разы сядзеў у турме, быў сасланы на тры гады на поўнач, праходзіў удзельнікам працэсу, які пагражаў пажыццёвай высылкай у Сібір, пазней яго выслалі з Расіі і ён скончыў жыццё ў эміграцыі. Нягледзячы на гэта, быў перакананы: самае важнае, што ён вынес з жыццёвых выпрабаванняў — гэта вера. Больш за тое, упэўнены, што менавіта дзякуючы веры выстаяў. «Из испытаний, которые мне пришлось пережить, я вынес веру, что меня хранила Высшая Сила и не допускала погибнуть». Вера ў Бога, паводле рускага філасофа, —

гэта «[…] свобода, вольность, свободный полёт, безвластие, анархия». У яго сваё ўласнае бачанне Бога. Паводле М. Бярдзяева, Вышэйшая Сіла (Бог) — гэта не «всемогущее, властное и карающее» Бажаство, а Бог «страдающий, любящий и распятый». М. Бярдзяеў шчыра прызнаецца, што не можа прыняць Бога інакш, як толькі цераз Сына, бо, паводле ягонай філасофіі, чалавек не можа прыняць Бога, калі Ён (Бог) не прымае на сябе «[…] страдания мира и людей, если Он не есть Бог жертвенный».

Жыццёвае крэда М. Бярдзяева — гэта словы Евангелля «не судите, да не судимы будете», таму ў творы не знойдзеш асуджэння ці апраўдання людзей, з якімі лёс зводзіў яго. Ён заўсёды з павагай гаворыць аб сваіх знаёмых, нават аб тых, хто не раздзяляе яго філасофскіх перакананняў, ці нават ставіцца да іх варожа. Затое сябе і ўласныя ўчынкі (нягледзячы на адмаўленне ад самавыкрыцця) М. Бярдзяеў ацэньвае дастаткова крытычна: «[…] я малодушен и труслив […]. Я человек мнительный. […] Мне всегда был свойственен эгоизм. […] Я никогда не действовал по рассуждению» і г.д. Такія выказванні сведчаць аб тым, што твор, насуперак першаснай задуме аўтара, усё ж набыў ярка выражанае спавядальна-рэфлексійнае гучанне, як і калеснікаўскі «Доўг памяці». І аўтабіяграфічны герой М. Бярдзяева — гэта чалавек, які намагаецца даць сабе аб'ектыўную ацэнку і крытычна ставіцца да ўласных недахопаў.

«Самапазнанне» М. Бярдзяева — кніга з выражаным гуманістычным пафасам. Гэта адна з самых яркіх рыс, якой яднаюцца твор-роздум рускага філосафа з аўтабіяграфічнай кнігай У. Калесніка. Герой М. Бярдзяева — гэта чалавек, які не прымае і ўсёй сваёй сутнасцю адмаўляе права існавання ў чалавечым жыцці гвалту і жорсткасці. Ён, у прыватнасці, піша: «Я с трудом выношу страдания людей и животных и совсем не выношу жестокости. Мне очень жаль всю тварь, которая стонет и плачет и ждёт избавления. Проблема Ивана Карамазова о слезинке ребёнка мне бесконечно близка».

Так, ён не можа прымірыцца з тым, што ў гісторыю чалавецтва ўвайшлі не толькі шматлікія войны, гвалт над прыродай і жывёлай, але і гвалт над людзьмі, які адзін чалавек здзяйсняе ў адносінах да другога. Гэта выклікае ў М. Бярдзяева найбольшае асуджэнне і абурэнне. Так, аўтар «Самапазнання» глыбока і эмацыянальна перажывае «жестокость государства», пад якой разумее надзвычайнае, на яго думку, права дзяржавы караць чалавека пазбаўленнем жыцця. М. Бярдзяеў, як і У. Калеснік, лічыць, што ніводзін чалавек на зямлі не мае права адымаць жыццё ў іншага чалавека: «Я не выносил холодной жестокости государства. Я никогда не мог переносить жестоких наказаний. Отрицание смертной казни всем моим существом было так велико, что склонен был делить людей на смертную казнь защищающих и смертную казнь отвергающих», — піша М. Бярдзяеў. Ён, адступаючы ад свайго «антыспавядальнага» прынцыпу на старонках кнігі, прызнаецца, што пачынаў варожа ставіцца да прыхільнікаў смяротнай кары і нават лічыў іх сваімі ворагамі. Любімыя словы М. Бярдзяева з Евангелля «не судите, да не судимы будете» (Матв 7:1-5), цяжка стасаваліся з рэальным жыццём і выклікалі глыбокае шкадаванне і адчуванне асабістай бездапаможнасці.

У М. Бярдзяева не было неабходнасці ваяваць, забіваць ворагаў. Але праз гэтую жахлівую неабходнасць прайшоў беларускі юнак У. Калеснік. На старонках «Доўгу памяці» ён неаднаразова сцвярджае ідэю хрысціянскага гуманізму, піша аб антыгуманнай сутнасці вайны, бо на ўласным вопыце адчуў гэта. Аўтабіяграфічны герой У. Калесніка сведчыць, што асабістай нянавісці да ворага не адчуваў, а забойства на вайне ўспрымаў як «жахлівую і нязносную праяву», «як жахлівую неабходнасць», якая «павінна вярнуць страчаную раўнавагу жыцця, аднавіць яго гармонію, парушаную справядлівасць». У. Калеснік некалькі разоў падкрэслівае жахлівасць гэтай праявы — забіваць нават ворага, бо ў падсвядомасці моцна трымалася спрадвечнае, хрысціянскае «не забі».

Нягледзячы на тое, што кожны творца меў свой адметны лёс, свой драматычны жыццёвы вопыт, які прыпаў на розныя часы і сацыякультурныя ўмовы, іх зближае гуманістычная ідэя абароны жыцця кожнага чалавека.

## Высновы

1. У. Калесніка і М. Бярдзяеева, двух неардынарных людзей, — таленавітага беларускага мастака-літаратара і вядомага рускага філосафа — яднае менавіта філасофска-ацэначны погляд на гісторыю і жыццё чалавека.

2. У. Калеснік высока цаніў значнасць і каштоўнасць бярдзяеўскіх ідэй для ўсяго чалавецтва. У беларускай літаратуры другой паловы XX ст. яго можна назваць паслядоўнікам М. Бярдзяева, які данёс да нашчадкаў маральна-этычны вопыт пакалення ўдзельнікаў антыфашысцкага супраціўлення, прапусціўшы перажытае праз прызму асабістага жыцця, рэалізаваўшы ў сваёй прозе талент літаратара, мастака і філосафа.

3. «Доўг памяці» У. Калесніка — арыгінальны беларускі варыянт бярдзяеўскага «Самапазнання», у якім пісьменнік-мысляр У. Калеснік рэалізуе аналагічныя бярдзяеўскім ідэі філасофскага пазнання чалавека і сэнсу яго жыцця, ідэі выхавання, самаразвіцця і самаўдасканалення асобы, пошукаў вечных гуманістычных духоўных ідэалаў і арыенціраў.

## Спіс літаратуры:

1. Калеснік, У. Доўг памяці / У. Калеснік. — Брэст.: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2005. — 547 с.

2. http://chronurree.comuf.com/berdyaev-samopoznanie

Артыкул паступіў у рэдакцыю 9 лістапада 2012 года.

**Крысціна ПАПКО**

## Аб сабе і аб жыцці: «гісторыя духу» Мікалая Бярдзяева і «вопыт душы» Уладзіміра Калесніка (паводле аўтабіяграфічных кніг М. Бярдзяева «Самапазнанне» і У. Калесніка «Доўг памяці»)

### Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны даследаванню характару «рэфлектуючага героя» на матэрыяле аўтабіяграфічных кніг выбітнага рускага філосафа М. Бярдзяева «Самапазнанне» і вядомага беларускага літаратуразнаўцы У. Калесніка «Доўг памяці», найвялікшая каштоўнасць якіх — у самараскрыцці чалавека драматычнай эпохі, яго жыццёвага вопыту самаідэнтыфікацыі, духоўнага і маральна-этычнага росту асобы насуперак схематызму ідэалогіі.

**Krystsina PAPKO**

## Me and Life: «genius history» of M. Byardziayeu and «soul experience» of U. Kaliesnik (on autobiographical works «Self-Studies» by M. Byardziayeu and «The Debt of Memory» by U. Kaliesnik)

### Summary

The article covers the analysis of the reflecting person's character based on the autobiographical books *Self-Studies* by an outstanding Russian philosopher M. Byardziayeu and *The Debt of Memory* by a famous Belarusian literature expert Kaliesnik. The greatest value of the books lies in the self-exposing of a person of the dramatic times, person's life experience of self-identity, moral and ethical development of the personality in harsh contrast to the ideology.

Змітрок МАРОЗАЎ

# НА ПЕРАПРАВЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ

* * *

Пачатак трэцяга тысячагоддзя. Патаемным зрокам сваёй душы ўвесь час імкнуся зазірнуць у будучае. Што будзе з намі праз дзесяць, дваццаць, пяцьдзясят гадоў, праз век?..

Але чым больш пазнаю свет і сябе ў ім, тым бліжэй да адной высновы: я безнадзейна адстаў ад жыцця — аж на дваццаць вякоў. А, магчыма, на цэлую вечнасць...

* * *

Чалавек — цар Прыроды? Ды які ж ён цар, калі днём і ўначы няшчадна вынішчае ўсё жывое! І не дзе-небудзь, а ў сваім доме з жыццяроднай назвай Зямля.

Вунь лясны мураш існуе мільёны гадоў у адным грамадстве — мурашніку і не збіраецца яго перабудоўваць, а тым больш разбураць. Наадварот, калі які-небудзь злыдзень здуру раскідае мурашыны дамок, ягоныя насельнікі дружнай талакой, шчыруючы ад зары да зары, абавязкова адновяць сваё жытло да ранейшага стану.

А вось чалавеку чамусьці ўвесь час карціць змяніць свой уклад жыцця. Дарэчы, не толькі за кошт «братоў нашых меншых»!

Дзеля ўлады, багацця, хвіліннай славы разбураюцца сем'і, ірвуцца радаводныя сувязі, вынішчаюцца цэлыя народы.

Бяздушша запаланіла свет, яно зрабілася хранічнай хваробай чалавецтва на пачатку XXI стагоддзя.

Міжволі ўспамінаюцца словы вядомага доктара Святаслава Фёдарава, які выратаваў ад слепаты сотні, тысячы людзей: «Што такое душа? Гэта ўменне не забіваць адно аднаго. Ды нас і на гэта не хапае. Жывёлы аднаго роду не забіваюць сваіх суродзічаў. Значыць, у іх душа чысцейшая».

Не ведаю, як хто, а я асабіста Фёдараву веру, бо, вяртаючы аслеплым святло, «унутраным» зрокам ён бачыў, як разгортваліся чалавечыя душы з пачуццём удзячнасці доктару, з неадольнай прагай радавацца жыццю, імкненню ствараць, а не разбураць.

На жаль, мы так і не навучыліся цаніць тое, што нам падаравана Богам. Напрыклад, блізкіх людзей. Толькі пасля іх адыходу ў свет ценяў на нас сыходзіць запозненае азарэнне. Ды слёзы роспачы і пакаяння не могуць уваскрэсіць памерлага. Кожная страта незваротная, як і пражытае жыццё.

* * *

Жыццё — Творчасць. Усё астатняе — прыгожае адзенне, смачная ежа, разнастайныя забавы — самазнішчэнне, згуба для гэтага найдаражэйшага Боскага дару. Увогуле, без творцаў жыццё ператварылася б у будзённую надакучлівую работу, а людзі — у работнікаў, рабоў, робатаў.

* * *

Ніколі не называў сябе паэтам. Паэт — гэта рамеснік з галіны мастацтва. Я ж занатоўваю ўражанні аб жыцці і часе, у якім жыву сам і мае суайчыннікі. Мяркую, што было б больш дакладна, калі б наступнікі пра мяне сказалі: «Быў летапісцам свайго часу».

* * *

Хвароба часу — процьма людзей адукаваных (дыпламаваных), і нястача разумных. «Дыпламаваны хам пануе спрэс, ён перасеў з каня на «Мерседэс...» ( з вянка вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы», 1991 г.).

Адсюль суцэльны вэрхал, бясконцыя штурханіна і крывавыя бойкі ў барацьбе за «хлебнае месца», крадзеж і дзяльба нарабаванага, дэфіцыт творчай думкі і сапраўдных творцаў. У выніку — заняпад духоўнасці, культуры, дэградацыя грамадства.

Ці, можа, я памыляюся?..

* * *

Мікалай Бярдзяеў зазначыў, што ў эпоху глабальных сацыяльных пераўтварэнняў, калі старое грамадства разбураецца, а новае яшчэ не створана, духоўныя каштоўнасці адыходзяць на іншы план, а іх творцы прыгнятаюцца.

Сёння мы перажываем менавіта такі час. Назіраецца **крызіс чалавека**. Грамадства праглынула, дэвальвавала яго як асобу.

У наш час таленавіты творца, бадай, як ніколі раней, залежыць ад людзей, якія робяць непасрэдны ўплыў на ягоны лёс.

* * *

Улада заўсёды імкнулася перацягнуць на свой бок творцу, незалежна ад ягонага таленту і ягонага жадання служыць ёй. Мастак і ўлада непадзельныя. Менавіта таму кожны паважаючы сябе творца вымушаны абараняць свае правы на незалежнасць. У гэтым — сутнасць ягонай трагедыі.

Вось чаму мера духоўнай свабоды кожнага паэта, пісьменніка, мастака, артыста вызначаецца мерай залежнасці ад улады.

І ўсё ж, калі творца збудуе храм Незалежнасці з вянцоў Залежнасці, улада яго не пакідае. Спытаеце чаму?

Напэўна таму, што зробленае сапраўдным творцам, навідавоку, яно не падобнае на дагматычныя палацы розных махляроў, балбатуноў і прайдзісветаў.

* * *

Духоўна распрыгонены чалавек добразычлівы ў сваіх адносінах да людзей. Зло ў кожным грамадстве — ад несвабоды і рабскай залежнасці ад умоў жыцця. Вось чаму той, хто ўмее валодаць і кіраваць сваімі пачуццямі, эмоцыямі, жаданнямі, валодае і жыццём.

* * *

Чалавечае існаванне толькі тады набывае адметны сэнс і каштоўнасць, калі напаўняецца духоўным зместам — пачуццямі, суперажываннем за лёс іншых людзей, штодзённым імкненнем адчуць сябе жывой часцінкай Сусвету.

Сёння, бадай як ніколі раней, пісьменнік павінен як мага глыбей зазірнуць у люстэрка сваёй душы... І адначасова ўзняцца над самім сабой да недасяжных зорак, каб убачыць свет у нябачных для большасці з нас праявах. Адным словам,

сапраўдны творца павінен валодаць «двайным» зрокам. Па-першае, у звычайным яму неабходна ўбачыць тое, што не бачаць іншыя, а па-другое, з дапамогай таленту і мастацкіх фарбаў перадаць людзям свой погляд на ўбачанае. Самае небяспечнае для пісьменніка, калі ён памкнецца данесці сваё бачанне свету да тых, хто пасецца ля трона ўлады...

Кожны пісьменнік, ягонае жыццё — гэта кніга адносін з уладай, са сваім сюжэтам і развязкай.

* * *

З глыбокай даўніны ўлада выдаткоўвала мастаку сродкі для існавання і творчай працы. Да прыкладу, Пушкін служыў звычайным камер-юнкерам пры царскім двары, і, пры гэтым, быў свабодным у творчасці.

Мяркую, вось гэткая несумяшчальнасць фізічнага з духоўным станам паэта і з'явілася галоўнай прычынай трагічнай смерці Пушкіна.

* * *

Калі на першае месца ставіцца чалавечае «Я», на белы свет з'яўляюцца Гітлер, Пол-Пот, Піначэт...

І наадварот, калі на першае месца ставіцца чалавечая душа, на белы свет нараджаюцца Мікеланжэла, Пушкін, Пікаса...

* * *

Здаецца, Максім Горкі сказаў, што калі чалавек прыдумаў самалёт, ён перастаў здзіўляцца сабе самому, таму што пачаў здзіўляцца самалёту.

* * *

Пісьменнікі — тыя нешматлікія людзі на Планеце, якія захавалі добрыя пачуцці, думкі і меркаванні пра чалавека. Ці ж не таму чалавек яшчэ не знік як індывід на Зямлі?

* * *

Якой сістэме служыць творца? На гэтае пытанне ў мяне адзін адказ: «У аснове маёй творчасці ляжыць мая нервовая сістэма, маё асабістае ўспрыняцце жыцця. І чым больш часу я застаюся з гэтай сістэмай у душэўнай згодзе, тым больш я жыву як творца».

* * *

Чалавек — нікім не разгаданая нервова-інфармацыйная сістэма. Таму разбурыць яе ў адрозненне ад сістэмы дзяржаўнай можна толькі са смерцю чалавека.

* * *

Нехта з вялікіх сказаў: «Паэзія — гэта тое, што застаецца, калі адыходзяць словы». А застаюцца ПАЧУЦЦІ!

* * *

Сапраўдны творца — гэта своеасаблівы барометр, які імгненна рэагуе нават на нязначныя змены, што закранаюць тое ці іншае грамадства і папярэджвае

яго сваімі творамі аб непазбежных катаклізмах. Шкада, што тыя перасцярогі даходзяць да людства значна пазней, калі папярэдзіць бяду ўжо немагчыма.

* * *

Розум мільёнаў людзей, сарыентаваны на стварэнне тэхналагічнага раю, унутрана недасканалы. Таму ў наш час практычна немагчыма прадказаць з’яўленне на Божы свет генія ў літаратуры: Верлена, Пушкіна, Гётэ, Багдановіча...

* * *

Самыя вялікія максімалісты сярод людзей — дзеці.

* * *

Прыродай кіруе мазгавы апарат чалавека?.. Калі гэта сапраўды так, то нам пагражае татальная пагібель, як і самой прыродзе. Тэхнакратычная рэвалюцыя, ледзь не пагалоўная камп’ютарызацыя мазгоў чалавецтва ў геаметрычнай прагрэсіі набліжае нас да глабальнай катастрофы.

У чым выйсце? Спыніцца, засяродзіцца на сабе, усвядоміць сябе разумным чалавекам сярод мноства мільярдаў жывых арганізмаў на спакутаванай Матухне-Зямлі.

* * *

Цікавы гістарычны факт. Знакаміты рымскі паэт Гарацый атрымаў маленькую ферму ў Сабінскіх гарах у якасці падарунка за свой паэтычны дар ад апекуна мастацтваў Мэцэната.

О Божа! Дзе ж вы нашы мецэнаты!

* * *

Пасля смерці бацькі, на працягу амаль трох дзясяткаў гадоў, кожны тыдзень тэлефаную на вёску матулі, якая, дзякаваць богу, размяняла дзявяты дзясятак свайго нялёгкага жаночага веку. З кожным годам усё часцей маці паведамляе мне, хто з аднавяскоўцаў памёр. І аніводнага напамінку за гэты немалы для чалавечага жыцця прамежак часу — пра нараджэнне ў вёсцы дзіцяці...

* * *

У праваслаўнай царкве горада Дзяржынска адразу заплакалі дванаццаць старадаўніх ікон. Некалькі дзён запар з розных куткоў Беларусі ў Божы храм едуць людзі, каб увачавідкі засведчыць незвычайнае дзіва.

А ў мяне чамусьці на душы трывожна. Можа, тыя слёзы на старадаўніх іконах — нябеснае папярэджанне людству аб непазбежнасці няведамай нам усім Бяды?

* * *

Вясковая, згарбелая ад непасільнай працы бабулька, у сталічным метро: «Божачка мой, гэтулькі навокал народу — палец няма куды ўтачыць! А ў нашым Забалоцці да людзей не дагукацца».

* * *

Маці: «Жыццё кароткае, як слотны восеньскі дзень. Не паспееш як след нарадавацца сонейку, а ўжо бярэцца на змярканне».

* * *

Цешча да зяця: «У мяне, зяцёк, гной бярэцца, як пад чарку яешня з патэльні». А ў зяця спіна ўзмакрэла, як у лазні, жылы ад натугі ледзьве не лопаюцца, аж цаўё віл рыпіць у руках.

* * *

Лермантаў. Услухайцеся толькі ў гэтае салаўінае прозвішча! Як яно пераліваецца сугуччамі зычных і галосных гукаў! Мне чуецца ў ім Ліра Вечнасці, якой не змоўкнуць ніколі.

І разам з тым Пушкін — кароткае, як выдых, палкае, як жыццё Паэта.

* * *

Якім бы сучасным ні быў літаратар, позірк ягонай душы і ягонага сэрца павінен быць накіраваны ў будучыню. Без гэтага творца з часам змарнее, увогуле забудзецца нават уласнымі нашчадкамі.

* * *

Шчасце нашчадкаў не пабудаваць на памылках продкаў.

* * *

Калі мяне папракаюць, што жанчыны ў маіх вершах нейкія паветраныя, нібы адарваныя ад зямлі, я заўсёды адказваю словамі А. Блока: «Калі піша мужчына, ён глядзіць на Бога. Калі піша жанчына, яна глядзіць на мужчыну».

* * *

У наш такі нервовы і каламутны час у першую чаргу співаюцца людзі таленавітыя. Відаць таму, што кожны талент — ад Бога. І прасветлены ён знутры чалавечай дабрынёй і чуласцю. Гібеюць без пары паэты, мастакі, акцёры, якія не могуць адмовіць менш таленавітым, але затое больш хітрым і настырным калегам у практычнай дапамозе і душэўным слове. Звычайна, платай за гэта служыць чарка, у якой топяцца геніі.

* * *

Леанід Галубовіч неяк выказаў слушную думку аб тым, што смерць зблізкае людзей. А я б дадаў: «Але чамусьці рэдка радніць іх».

* * *

Надпіс на фасадзе Кангрэса ЗША: «Сельская гаспадарка была, ёсць і будзе асновай прамысловасці і гандлю».

Відаць, не пашкодзіла б і нашаму парламенту зрабіць такі надпіс у зале пасяджэнняў, каб шаноўныя дэпутаты, абраныя народам, ведалі, за што яны галасуюць.

* * *

Памяркоўныя японцы сцвярджаюць: «Важна не як жыў, а як памёр». Мне ж здаецца, што першае не менш важнейшае за другое.

* * *

Нямецкі філосаф Оберт вызначыў паняцце «какакратыі». Сутнасць яго ў тым, што ў кульмінацыйныя моманты барацьбы за ўладу сумленныя людзі як бы адыходзяць убок.

Магчыма, таму на вышэйшыя прыступкі іерархічнай лесвіцы нярэдка ўзлазяць розныя ліхвяры, балбатуны, манюкі. Адным словам, індывіды, якія не маюць і цалі сумлення за душой.

* * *

Па чалавечым твары можна прачытаць як старэе, ці маладзее ягоны гаспадар. Прычым, не столькі звонку, як знутры. Твар чалавека — люстэрка ягонай душы.

* * *

Мудрая настаўніца Гісторыя настойліва і цярпліва вучыць: лёс кожнай нацыі на крутых паваротах і пераломах часу вызначаюць не тыя сілы і партыі, якія дзяруць чубы адзін аднаму за месца пад сонцам, а пераважная большасць насельніцтва — гэтак званы «электарат», які цярпліва маўчыць, чакаючы пакуль надыдзе час сказаць сваё слова. Звычайна, гэтае важкае слова становіцца рашаючым і апошнім.

Шкада толькі, што ў настаўніцы Гісторыі някемлівыя вучні.

* * *

Толькі паэты замест роднага склону ўжываюць вінавальны.

* * *

Выхаваннем сябе самога, уласных пачуццяў неабходна займацца кожны дзень, гэтак жа, як і выхаваннем роднага дзіцяці.

* * *

«Адзінота — стыхія паэта», — радок з верша, напісанага мной шмат гадоў таму. Прачытаўшы яго сёння, не магу з сабой цалкам пагадзіцца. Безумоўна, адзінота падчас творчага ўздыму — з'ява натуральная. Мастаку ў такія моманты трэба тварыць у суладдзі з самім сабой.

У рэальным жыцці творца, як і кожны зямны чалавек, паратунак ад адзіноты шукае ва ўвазе, паразуменні і дапамозе людзей, для якіх ён стварае свае рэчы. На жаль, у нашай будзённай каламуці творчыя асобы — спакутаваныя, замардаваныя бытам самотнікі.

Часам здаецца, што значнасць кожнага сапраўднага таленту ў геаметрычнай прагрэсіі вызначаецца памерамі яго адзіноты.

* * *

Адна мая знаёмая неяк заўважыла: «Калі б усе людзі былі створаны толькі з добрых якасцей і не мелі недахопаў, жыць на зямлі было б вельмі сумна і нецікава». Мушу з ёй не пагадзіцца. Калі б чалавецтва апынулася ў такім, на першы погляд, ідэальным стане, кожны яго прадстаўнік усё роўна б пастараўся (такая ўжо псіхалогія чалавека!) падкрэсліць сваю перавагу ў розуме, дабраце, чысціні памкненняў і г. д. перад сваімі суродзічамі. А гэтая акалічнасць зноў падштурхнула б нас усіх да спрэчак, боек і звад. Таму, відаць, у прыродзе не існуе «крыштальна чыстых людзей». Усе мы, ад генія да простага працаўніка, — грэшныя дзеці нашага бацькі Бога.

* * *

Калі паляўнічыя гоняць дзіка, ён уцякае, пакуль ёсць сілы. Але калі яго, абклаўшы з усіх бакоў, заганяюць у тупік, дзік — з адчаю і безвыходнасці — кідаецца на людзей. І спыніць яго немагчыма!

Падобнае, згадзіцеся, здараецца і з намі. Сам нядаўна бачыў. У чарзе па таннае (нарачонае нашым чынавенствам сацыяльна значным прадуктам!) малако.

* * *

«Суждены Вам благие порывы,
Но свершить ничего не дано».

Гэтыя радкі класіка не страцілі сваёй надзённасці і па сённяшні дзень. Грамадства ўвесь час ліхаманкава тузаецца пад уздзеяннем розных перабудоў, псеўдарэформ, псіхалагічных катклізмаў, а воз, як кажуць, і сёння там.

* * *

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў праклінаем дурноту кіраўнікоў і ляноту выканаўцаў. А, можа, варта было б прыслухацца да таго, што кажуць памяркоўныя англічане: «Мы маем тое, што маем».

* * *

Паэзія — гэта жывапіс душы, найвышэйшая форма духоўнай свабоды чалавека.

Калі Беларусь і трымаецца на якіх-небудзь кітах, то адзін з іх безумоўна — Паэзія.

* * *

Калека на мыліцах дастае з кішэні замусоленую старублёвую паперку і звяртаецца да гандляркі: «Дай памідораў...»

«Не дам, грошай мала, — грэбліва кідае кабета і бурчыць: — Развялося тут... Яму дай, цыганам дай, бамжу дай. Жыцця ад вас няма...»

Міжволі ўспамінаецца Джэк Лондан: «Міласэрнасць не ёсць костка, кінутая сабаку. Міласэрнасць — гэта костка, падзеленая з сабакам, калі галодны не менш за яго».

* * *

Алкаголь — павадок д’ябла, які водзіць сваю ахвяру, як Марка па пеклу. Толькі моцныя духам знаходзяць у сабе сілы разарваць гэтую повязь. Каб вярнуцца да нармальнага чалавечага жыцця.

* * *

Яшчэ не стары, але вельмі «запушчаны» мужчына сядзіць на прыступках уваходу ў метро, просіць міласціну: у скамечанай шапцы — некалькі дробных грашовых купюр. Больш не даюць. Перад вачыма жабрака мільгаюць толькі чалавечыя ногі. Гараджане спяшаюцца: хто на аўтобус, хто на прыгарадную электрычку, а хто проста, каб, як мага хутчэй прабегчы міма.

Мужчына, між іншым, чарговы раз моліць: «Падайце, на хлеб, людцы добрыя!» Ніхто не падае. І тады жабрак са злосцю крычыць: «Каб вам ногі паадсыхалі!»

...Сказаць шчыра, пачуўшы гэта, зусім не ад страху, але я паклаў у шапку бедака дваццаць тысяч.

* * *

Малады мастак да бяспамяцтва закахаўся ў замужнюю жанчыну. Тая не адказала ўзаемнасцю, але тым не менш, ледзь не кожны дзень тэлефанавала мастаку, гадзінамі распавядаючы пра сваю адзіноту, распаляючы пачуцці закаханага.

Гэткая вось «сувязь» працягвалася больш за год. У рэшце рэшт, малады мужчына не стрываў выпрабавання і выпіў жменю таблетак, ад якіх ледзь не аддаў Богу душу.

У сувязі з гэтай меладрамай міжволі прыпамінаецца цікавы гістарычны факт. У старажытным Кітаі існавала форма пакарання. Для мастакоў. Вінаватаму дазвалялася рабіць за дзень толькі адзін мазок пэндзлем. Часта здаралася, што небарака не мог стрываць гэткага здзеку над сабой і паміраў.

Відаць, выпрабаванне безадказным каханнем — таксама здзек над душой. І тут закаханаму, каб не зламацца, выстаяць, не страціць сябе як асобу патрэбна мець не толькі вялікую цярплівасць і мужнасць, але і мудрасць.

А жанчына, што «была і не была» з тым закаханым мастаком, — не асоба, ды і не жанчына таксама.

«Кахаць», не кахаючы, горш за злачынства.

* * *

Кахаць жанчыну не толькі вялікае шчасце, але і не меншыя душэўныя пакуты. Нездарма яшчэ ў глыбокай старажытнасці мудры Арыстафан пра жанчын сказаў наступнае: «Абысціся без іх гэтак жа цяжка, як і жыць з імі».

* * *

Першыя словы, якія вымаўляе малое, прыйшоўшы ў дзіцячы садок, — «мама», «тата», «бабуля», «няня», а наступнае — «укралі».

* * *

## Адвечная драма

Правіцель да народа: «Я дам табе свабоду!»
Народ: «Дзе ж возьмеш ты яе?»
Правіцель: «Вядома, у народа!»
Народ: «О кайданы мае!..»

* * *

Эканамічны крызіс заўсёды суправаджаецца адпаведным павелічэннем колькасці злачынстваў, асабліва сярод моладзі.

Як не пагадзіцца з Мікалаем Бярдзяевым, які ў свой час трапна зазначыў: «Імкненне сучаснай моладзі да гвалту — ёсць вызначэнне духоўнай кволасці».

* * *

Можна прачытаць дзясяткі тамоў класічнай літаратуры. Можна гадзінамі разважаць аб духоўнасці і, разам з гэтым, не адчуваць боль суседа, брата, маці. Відаць, таямнічая сутнасць чалавечай душы ў тым, наколькі глыбока яна ўспрымае не толькі прачытанае, але і пражытае.

* * *

Нашы прашчуры шмат вякоў таму былі адзіным цэлым арганізмам сваёй маці Прыроды. Таму і адчувалі яе нашмат лепш. Яны так не здзекаваліся з раслін, звяроў, рыб і птушак, а спажывалі роўна столькі, колькі было неабходна пячорнаму чалавеку для свайго існавання.

Дык няўжо ў бясконцай пагоні за рэкорднымі ўраджаямі, надоямі і прывагамі мы пакінем сваім нашчадкам атручаную хімікатамі зямлю, забруджыныя рознай чмутой ваду і паветра?

* * *

Шмат каму з нас вельмі падабаецца корпацца ў чужым адзенні, у лёсах значных і неардынарных людзей. Убачыць такі «дзеяч» парушынку ў чужым воку, — і, як мага званчэй, імкнецца абвясціць гэта на ўвесь белы свет.

Спытаеце, навошта? Магчыма, каб такім вось непрыстойным чынам заахвоціць свае хворыя амбіцыі?

* * *

Шкадую людзей-аднадзёнак. Яны не свецяць.

* * *

Звычайна пра свабоду творчасці гучней за ўсіх крычаць розныя бяздары, графаманы і рыфмаплёты. Так адсутнасць таленту яны імкнуцца апраўдаць «дэспатызмам» улад у адносінах да іх творчасці.

Сапраўды ж таленавіты творца пра свабоду творчасці гаварыць не любіць. Спытаеце — чаму?

Па-першае, дзякуючы таленту, творца сапраўды свабодны ў вызначэнні свайго адметнага бачання жыцця і паводзін чалавека ў розных жыццёвых праявах, а па-другое, яму проста няма калі губляць дарагі час на недарэчныя тэмы — ствараць трэба!

* * *

Цудоўны рускі паэт Юрый Кузняцоў на пытанне «чаму не любяць сапраўдных паэтаў», адказаў: «За тое, што ён паэт, а мы ніхто!»

* * *

Рынак, рынак, рынак...

Колькі сказана-пераказана аб ім за апошнія гады? Ідэя пабудовы «светлага будучага» штучна заменена на ідэю «рынкавага раю».

Мінулі два дзесяцігоддзі пасля развалу былой краіны, а жыццё людзей не зрабілася лепшым.

У той жа час эксперты розных замежных банкаў, прадстаўнікі іншых «грашовых мяхоў» літаральна навязваюць нам свае планы па далейшым скарачэнні вытворчасці прадукцыі. Маўляў, гэта з’яўляецца неабходнай умовай, каб запрацавала рынкавая мадэль эканомікі.

Словам, сёння як з Усходу, так і з Захаду на Беларусь вядзецца татальнае наступленне замежнага капіталу.

Аб якім адраджэнні нацыі ў сённяшнім стане можна весці гаворку, калі нават пры дыстрафічным сацыялізме людзі не адчувалі сябе гэтак прыгнечанымі духоўна і фізічна, як мы адчуваем гэта цяпер.

Відаць, насенне свабоды, кінутае «месіямі-сейбітамі» гарбачоўскага кшталту

ў як след не падрыхтаваную глебу, дало кволыя парасткі, якія пакуль што заглушаны пустазеллем карупцыі, фарысейства і падману.

* * *

Думку рухае інтарэс. Інтарэс — магутны рухавік чалавечых думак, памкненняў і спраў. Няма інтарэсу — адсутнічае пошук і любая творчасць. Жыццё спакваля касцянее, а ягоны сэнс становіцца догмай або скамянелай магмай. Дэфіцыт разумных інтарэсаў нараджае патрэбу ў благіх учынках.

* * *

Чалавек прыходзіць у жыццё з пэўнымі задаткамі. Але як іх раскрыць, як мага паўней ажыццявіць на карысць сабе і грамадству?

Безумоўна, адпаведныя магчымасці для гэтага ёсць. Але залежаць яны ад створаных умоў і шматлікіх перашкод, якія ў той ці іншай меры спрыяюць і не спрыяюць кожнаму з нас для самарэалізацыі ў жыцці.

Вельмі важна ўмець пераадольваць перашкоды. А для гэтага патрэбна мець не толькі духоўную, але і фізічную моц. Інакш нават значны талент збяднее, змарнее і з часам згубіцца зусім у будзённай вірлівай каламуці.

* * *

Талент — гэта своеасаблівы скарб. Чым глыбей ён хаваецца ў патаемных стратах душы і розуму, тым цяжэй яго адкапаць на Божы свет.

Што рабіць чалавеку з талентам? Яго ж не павесіш у авосьцы на цвік да лепшых часоў! Ды і калі надыдуць яны, тыя лепшыя часы?..

А талент павінен заявіць пра сябе своечасова. Не толькі своечасова адкрыць, але і зберагчы сапраўдны талент — гэта таксама вялікая жыццёвая мудрасць.

* * *

Дабрата, міласэрнасць, чуласць, спагада — дары прыродныя, якімі вызначаецца духоўнае багацце чалавека. Калі яны ёсць, іх можна ўзбагаціць самавыхаваннем на працягу цэлага жыцця. Калі ж чалавек гэтымі якасцямі абдзелены, то ўсе манеры «добрых паводзін» нічога не азначаюць.

Чарговае знаёмства. На першы погляд мой суразмоўца — чалавек інтэлігентны, выхаваны, ветлівы. Але пры гэтым у яго паводзінах міжволі адчуваецца нейкая няшчырасць.

Такі перш чым аддаць галоднаму апошні кавалак хлеба, спачатку добра падумае і абавязкова не аддасць!

* * *

Розум бачыць далей, чым вока, бо ён сляпы.

* * *

Яшчэ ніводзін лад не зрабіў чалавека больш вольным у сваіх думах і паводзінах, чым ён сам гэтага б жадаў.

Не вольны нават Бог, бо ён таксама залежыць ад паводзін сваёй паствы.

* * *

У грамадстве нестае чалавечнасці, як і сапраўдных добрых людзей. Бо «ядуць» чалавечнасць разам з тымі людзьмі.

* * *

Хто маніць у дробязях, той, на мой погляд, больш небяспечны, чым той, хто маніць па вялікім рахунку. Бо вялікі падман можна разгледзець адразу, а маленькага не бачна. Ён, як той небяспечны вірус, жыве ў чалавеку да пэўнай пары, а пры спрыяльных умовах можа даць такія метастазы, што ратаваць «хворага» будзе ўжо вельмі позна.

* * *

Падслухаць галасы продкаў, занатаваць з дапамогай мастацкага слова іх запаветы, убачыць абрысы будучыні, намацаць сцяжынкі да лепшага жыцця, імкнуцца зрабіць чалавека лепшым — святы абавязак кожнага сапраўднага паэта. Паэзія не рамяство, а першацвет душы.

* * *

Творцу, надзеленага талентам і вялікай працаздольнасцю, не абыходзіць і адпаведная ўзнагарода, імя якой — адзінота.

* * *

Што застаецца рабіць паэту, калі з-за натоўпу не бачна чалавечай асобы?

Выдаўшы каля трох дзясяткаў кніг, я ўсё часцей схіляюся да адной асновы: станаўленне творцы адбываецца з таго моманту, калі ён пачынае «пісаць у стол».

* * *

Чалавек — асоба творчая і вельмі індывідуальная.

* * *

Увесь Саюз мастакоў не здолее напісаць карціну «Лічбы на сэрцы», гэтак жа, як і Саюз пісьменнікаў стварыць другі раман «Людзі на балоце». Безумоўна, аналагі падобныя на гэтыя рэчы могуць быць створаны. Магчыма, іх наракуць шэдэўрамі, але яны не паўтораць ні ў чым ні Савіцкага, ні Мележа.

Увогуле, калектыў асоб — гэта не так ужо небяспечна. Куды страшней, калі над такім калектывам стаіць пастух, які імкнецца «пасвіць» кожнага паасобку. У гэтым разе аб калектыўнай творчасці не можа быць аніякай гаворкі. Сёння ж мы перажываем крызіс чалавека — грамадства «праглынула» чалавека як асобу.

* * *

Смяротна хвораму Барысу Пастэрнаку зрабілі чарговы ўкол. «Ну навошта вы мяне мучыце? Я ж усё роўна памру», — прастагнаў паэт.

У гэтых словах не толькі трагедыя чалавечага існавання, але і сутнасць самаго жыцця: як бы цяжка ні было, неабходна жыць — ісці праз пакуты да ачышчэння душы.

* * *

Ваўчыца і два ваўкі залезлі на свінаферму — захацелі паспытаць парасяціны. Ды на іх бяду свінні таксама былі галодныя, як тыя ваўкі, — на ферму тры дні не падвозіўся корм. Даглядчыкі атрымалі заробак і, як кажуць, пайшлі ў загул. Таму візіт на ферму «шэрых разбойнікаў» быў, як ніколі, дарэчы. Карацей кажучы,

двух «мацёрых» галодныя свінні загрызлі, а ваўчыцу знайшлі непадалёк ад фермы з раздзёртым брухам.

* * *

Раней, літаральна некалькі гадоў таму, у пад’ездзе нашага дома была чысціня, адсутнічалі «мастацкія» надпісы і малюнкі на сценах і ў ліфце. А што зараз?

Зараз пры ўваходзе ў пад’езд дома бачыш бруд, сцены закрэмзаны рознымі непрыстойнасцямі, кнопкі ў ліфце прапалены цыгарэтамі.

Спытаеце, што адбылося? Дзеці падраслі. Навучыліся чытаць і пісаць, дацягнуцца да кнопкі ў ліфце, якую можна прапаліць цыгарэтай.

Такім чынам, у дадзеным выпадку мы сутыкнуліся са з’явай, калі адукаванасць працуе не на карысць, а на шкоду для грамадства.

* * *

Масціты паэт К* напісаў злую пародыю на свайго не менш вядомага калегу. Не падумайце толькі, што ён імкнецца авалодаць якасна новым для сябе жанрам. Мэта іншая — як мага мацней зачапіць за жывое свайго «брата па пяры», выбіць яго з творчай каляіны.

Ад гэтых думак на сэрцы робіцца брыдка і сумна. На мой погляд, кожны павінен займацца сваёй справай: паэт пісаць вершы, а парадыст — пародыі. Галоўнае, каб напісанае адпавядала ўсім патрабаванням мастацкасці.

* * *

Пісьменнік усё жыццё піша адну кнігу. Назва ёй — «Кніга жыцця».

Таццяна ШАМЯКІНА

# ВАРТАЕ ЎВАГІ І ПАВАГІ

Ёсць у беларускай літаратуры пісьменнікі, імёны якіх рэдка згадваюць у рэйтынгавых «абоймах», але творчасць якіх па-свойму арыгінальная і шмат гаворыць пра час, краіну, псіхалогію беларуса. Важна праявіць цікавасць і паспрабаваць вылучыць пэўны фокус оптыкі на рэальнасць у кнігах канкрэтнага аўтара. Алесь Масарэнка — адзін з такіх літаратараў: сціплы, не крыклівы і не амбітны, але самабытны, а галоўнае — праўдзівы ў адкрыцці некаторых, толькі яму падуладных, сфер жыцця. Прычым праўдзівасць тут маецца на ўвазе не ў прымітыўна-прыземленым, натуралістычным сэнсе, а як суаднесенасць мастацкага абагульнення з характэрнымі з'явамі самой рэчаіснасці.

Пісаць пра майстра, пік творчага поспеху якога прыйшоўся, пры ўсіх агаворках, усё ж на савецкія гады, сёння няпроста. Па многіх прычынах. Па-першае, мы ўсе працуем для будучых пакаленняў, а моладзь не цікавіцца мінулым і ніколькі, аглушаная ілжывай масмедыйнай прапагандай, не цэніць яго. Па-другое, сама сённяшняя атмасфера як бы атручана нігілізмам у адносінах да вопыту сацыялізму, які не лічыцца каштоўным. Між тым любы вопыт каштоўны, і імкненне, калі яно ёсць, ісці ў глыбіню, у тым ліку ў глыбіню часу, — сведчыць пра сталасць нацыянальнай культуры. Імпульс вяртання спадчыны сёння відавочны ў адносінах, скажам, да знешняга асяроддзя, у якім жыве нацыя, — архітэктуры, ландшафтнага дызайну (што абумоўлена практычна-камерцыйнымі патрэбамі — развіццём турызму), але пакуль слабы ў адносінах да літаратуры. Аднак, можна спадзявацца, прыйдзе і яе пара, і тады акажацца запатрабаваным вопыт кожнага таленавітага пісьменніка, таму што толькі такі — у поўным аб'ёме выкарыстаны вопыт — можа стаць трывалым грунтам для далейшага развіцця культуры.

Алесь Масарэнка, бясспрэчна, таленавіты чалавек. Багаты ў творцы і жыццёвы вопыт. Нарадзіўся ён 12 красавіка 1938 года ў вёсцы Ходарава Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пра ўласны пачатак сам пісьменнік выказаўся ў аповесці «На бабровых тонях»: «Маё маленства... Апаленае вайной, апоенае галадухай і пасляваеннай нішчымніцай, яно, як ні дзіўна, назаўсёды стала мне дарагім, незабыўным. Яно — колішні я, мая сённяшняя мудрасць».

Закончыўшы ў 1956 г. Целяшоўскую сярэднюю школу, Масарэнка пэўны час працаваў інструктарам Слаўгарадскага райкама камсамола. У 1956—1960-х гг. служыў у Савецкай Арміі. Вучыўся на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта: два курсы на стацыянары, а з трэцяга пераведзены на вячэрнюю форму навучання, адначасова працуючы выхавацелем у школе-інтэрнаце № 13 у Мінску. Памяняў розныя месцы працы, як бы шукаючы сябе: быў рэдактарам на Беларускім радыё, загадчыкам аддзела маладзёжнай газеты «Чырвоная змена», інструктарам па прамысловым адлове рачнога бабра Літоўскага заацэнтра, літаратурным супрацоўнікам газеты беларускай інтэлігенцыі «Літаратура і мастацтва», рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Беларусь», адказным сакратаром часопіса «Полымя». Два гады працаваў у Сібіры, у Забайкаллі, рабочым-геадэзістам. З 1977 г. — рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць», з 1978 г. — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі

«Беларусьфільм», у 1982—1985 гг. загадчык аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», з 1989 г. — літкансультант літаб'яднання «Крыніцы» пры газеце «Чырвоная змена», працягваючы працаваць з моладдзю і ў 90-я гады. Гэты ўсмешлівы чалавек з добрымі вачыма даў нямала карысных прафесійных урокаў маладым літаратарам.

Вядомы крытык Алесь Марціновіч, аналізуючы творчасць Алеся Герасімавіча, растлумачыў частыя перамены ў яго жыцці: «Работу мяняў таму, што хацеў лепей вывучыць жыццё. Ды яшчэ ўпэўніцца, што здатны на многае. <...> Ягонай рашучасці ў жыцці надавала і тое, што з маладых гадоў не мог асабліва разлічваць на дапамогу. А яшчэ давала пра сябе знаць нежаданне мірыцца з тым, што выклікае ўнутраны супраціў. Хоць, бадай, да ўсяго было і імкненне паспрабаваць сябе, як кажуць, у новай ролі». Сам Масарэнка найбольш цэніць сваю «службу» па закліку сэрца — як кіраўніка літаратурнай суполкі, дарадцы моладзі. Больш за дзвесце чалавек выправіў ён у самастойную пісьменніцкую дарогу, даўшы рэкамендацыі ў Саюз пісьменнікаў, напісаўшы прадмовы да першых зборнікаў, унутраныя выдавецкія рэцэнзіі. Ён гаварыў у адным з інтэрв'ю: «Калі ў літаратуру ідуць маладыя, побач з імі павінен быць і нехта сталы, настаўнік, які тое-сёе і падкажа, і параіць».

Сёння ўжо сам адзін з «аксакалаў»: Алесь Масарэнка быў прыняты ў СП СССР у 1972 г. Пачынаў пісаць, як амаль кожны малады літаратар, з вершаў, упершыню выступіўшы на старонках газеты «Магілёўская праўда» ў 1959 г. Апавяданні друкуе з 1962 г.

Першая кніга Алеся Масарэнкі «На бабровых тонях» (1971 г.) мела шумны і заслужаны поспех. Яна прыцягнула ўвагу чытачоў даволі нечаканым жыццёвым матэрыялам, узятым для паказу, — адловам баброў. Незвычайны занятак некалькіх вяскоўцаў з Пасожжа дапамагаў адкрываць новыя грані ў характары беларуса, хоць бы самога аўтара, які дзеля вывучэння матэрыялу (а хутчэй, каб успомніць ранейшы, падлеткавы, свой інтарэс) нават пачаў працаваць у Літоўскім заацэнтры. Праўда, Алесь Марціновіч падкрэслівае, што месца працы тут — паводле «чарговага запісу ў ягонай працоўнай кніжцы. У сапраўднасці ж малады пісьменнік вырашыў зноў апынуцца бліжэй да роднай прыроды — той самай прыроды, маляўнічымі краявідамі якой змалку захапляўся ў ваколіцах сваёй роднай вёскі...» І аповесць узнаўляе не працу самастойнага, сталага рабочага чалавека, а падлетка, які дапамагае дарослым у іх спецыфічнай дзейнасці.

Аповесць «На бабровых тонях» будуецца з невялікіх аповедаў-эпізодаў, кожнаму з якіх прыдаецца такая назва, якая павінна зацікавіць чытача і прымусіць яго чытаць далей, што важна пры фактычнай адсутнасці незвычайных прыгод, гэта значыць, пры даволі разнастайным сюжэце. Назвы, напрыклад, такія: «Быль і небыль», «Каго сніў бацька», «Нечаканае пісьмо», «Старшыня-пяціхвілінутка», «Перагружаны каўчэг», «Бабровыя "партаменты"», «Я шкадую змяю», «Людзі і нелюдзі» і інш. Уменне прыдумаць прыцягальны загаловак, які выклікае асацыяцыі і біблейскія, і фальклорныя, і да таго ж раскрывае сутнасць эпізоду, — несумненна, адзнака таленту.

Аповесць «На бабровых тонях» — твор аўтабіяграфічны. У першых главах-эпізодах падаюцца некаторыя звесткі пра галоўнага героя, ад імя якога вядзецца аповед (ён жа — аўтар, паколькі аўтабіяграфічнасць зусім не хаваецца), расказваецца пра гульні і ўвогуле заняткі таго ў маленстве. Аўтар-герой прызнаецца без уяўнай сціпласці: «...мая цягавітая жылка падабалася бацькам. Яны бачылі ва мне працалюба, па-свойму радаваліся за свайго не надта капрызнага сына, пэўна ж, верылі ў яго жыццёвую кемлівасць...» У кемлівасці падлетка на працягу чытання твора чытач можа неаднаразова пераканацца. Але было з каго браць прыклад — з бацькоў. Адзін з галоўных герояў твора, можна сказаць, цэнтральны персанаж — бацька пісьменніка Герасім. Старэйшы Масарэнка, паранены на вайне, працягваў

актыўна працаваць і шмат што, хоць і без рукі, мог зрабіць у вясковай гаспадарцы, як гэта ўвогуле характэрна для беларуса-селяніна.

Успаміны пра вайну і нават пра перадваенны час уводзяцца ў твор неаднаразова. Скажам, згадвае Герасім свайго бацьку, які паехаў у Сібір (куды пазней, дарэчы, з'едзе і ўнук): «Лепшага месца шукаў, зямлю ўрадлівую... Да таго ж яшчэ, ён тут многіх не любіў. Тады бандытаў дай божа было. Іх атожылкі, нябось, яшчэ і цяпер засталіся ды прытаіліся... Адкуль жа ў вайну столькі паліцаяў бралася? Кусціліся з бандыцкага кодла — адтуль!» Чаму ў Пасожжы аказаліся бандыцкія сем'і — пытанне незразумелае, хоць было б цікава яго высветліць, таму што яны, сапраўды, далі ў вайну найбольшую колькасць паліцаяў і адпаведна іх ахвяр сярод мясцовага насельніцтва. Землякі-паліцаі не раз узнікаюць ва ўспамінах бацькоў. Увогуле ж лёс многіх беларусаў у вайну складваўся няпроста, неяк пакручаста. Так, Герасім згадвае пра нейкага Мішку-браканьера, які на пачатку вайны забраў у іх сям'і гармонік і на ім іграў немцам, весяліў іх: «Словам, прыхваснем быў у іх, слугою... Ды скора апомніўся, то згладзіў свой промах... Цяпер во дзяржава наша і грошы нават яму дае, пенсію, шкадуе яго — хворы ж. Харошая наша ўлада, спагадная... Чужак які-небудзь, нябось, і не паверыў бы, што так усё і ёсць на самай справе. А яно ж ёсць, ёсць!» Людзі, якія шмат нацярпеліся ў вайну, умелі цаніць усё добрае, і тым адрозніваліся ад савецкіх грамадзян перыяду «перабудовы», ды і ад цяперашніх беларусаў: мы настолькі прызвычаіліся карыстацца сацыяльнымі дабротамі, што не заўважаем іх, лічым само сабой зразумелымі і, шчыра сказаць, не цэнім. Не так было неўзабаве пасля вайны, калі кожнае праяўленне дабра ці тое ад улад, ці тое ад сваіх суседзяў успрымалася з асаблівай удзячнасцю і доўга помнілася. І яшчэ адно пачуццё тады не атрафіравалася — справядлівасці. Бацька героя аддае даніну кожнаму са сваіх землякоў і не лічыць, што былыя злодзеі заслужылі дзяржаўную дапамогу: «... роўныя, так сказаць! Але ж ці забыты той час, калі яны былі іншымі — паліцаямі?» Па яго ўспамінах відаць, што галоўнае адрозненне паліцаяў ад іншых людзей — іх гультайства, імкненне пражыць не працуючы, п'янства, амаралізм. Вось такія асобы і ішлі служыць ворагу.

У аповедах Герасіма пра самога сябе няма, як быццам, ніякага яго асабістага геройства, ды і пра свае фізічныя пакуты ён гаворыць вельмі стрымана, але ў тых умовах — пачатку акупацыі, хуткім заняцці немцамі гарадоў і вёсак — уменне выжыць, не запляміўшы сябе здрадай, беларуская кемлівасць, нават сялянская хітрасць, рашучасць — ужо геройства. Акрамя таго, Герасім — перш за ўсё чалавек абавязку: ён дзяжурыць на пажарнай каланчы і бачыць, як у горад уваходзяць немцы, але і не думае ўцякаць, бо загаду ж не паступала, працягвае па тэлефоне інфармаваць начальства. Натуральна, аказваецца ў палоне, але дзякуючы сваёй знаходлівасці збягае і нават даходзіць, хоць не без прыгод, з Мінска дадому. Прахварэўшы тры месяцы пасля нямецкай атрутнай баланды, Герасім ідзе ў партызаны, затым у рэгулярнае войска, дзе робіцца сапёрам і страчвае руку.

Герой-апавядальнік, хоць быў у вайну зусім малы, памятае, як бацька прыйшоў, страшэнна змучаны, з палону, як партызаніў, заходзячы з лесу час ад часу да родных. Такім чынам, рэтраспектыўна ў аповесці прысутнічаюць як аповеды Герасіма, так і самога героя, выкладзеныя ў зусім іншай манеры, чым расказы бацькі; праўда, і тут згадкі-меморыі не пазбаўлены жывасці і эмацыянальнасці.

Інвалід Герасім працягваў і пасля вайны плённа працаваць. А вось зладзейскі род, з якога выходзілі бандыты і паліцаі, увесь, Небам пакараны, вывеўся: «... хто з турмы не вярнуўся, а хто так напароўся на сваю пагібель...»

У ваенных эпізодах Масарэнка гранічна праўдзівы: малюе не толькі рэальнае палажэнне насельніцтва падчас акупацыі — яно, безумоўна, было кашмарным, але і стаўленне людзей адзін да аднаго, да акупантаў. Усё тады было — даставалася і ад сваіх: у аповесці няма месца лакіроўцы і прыхарошванню рэчаіснасці. І ўсё ж галоўнае тут — дослед тых, няхай і зусім невялікіх, знешне непрыкметных, крынічак, вытокаў, падстаў у чалавечай псіхалогіі, у паводзінах, якія ўрэшце

гартавалі нашу Перамогу. Яны не ў баявых эпізодах, а ў самім ладзе думак, пачуццяў і дзеянняў персанажаў, у той канкрэтнай атмасферы, у якой яны жылі падчас акупацыі, ваявалі ў партызанах. Масарэнка паказвае, як нязвыклае палажэнне акупаванага насельніцтва абвастрае ўсе чалавечыя адчуванні, робіць аголенымі і стасункі паміж людзьмі.

Па-свойму няпроста і пасля вайны. У адным з эпізодаў аўтар сутыкае рабочага чалавека Герасіма і чынушу-бюракрата — чарговага старшыню калгаса. Той абураны, што інвалід зрабіў сам сабе цудоўную хату, пуню, лазню, а не працуе, як усе ў калгасе, — усяго толькі вартаўнік. Таварыш Герасіма абараняе сябра і ўшчувае старшыню: «Дома ж ніхто за яго не зробіць. А для будаўнічай брыгады здаравілаў хапае... Ай, Змітравіч, і не сорам?» Абазваўся і сам Герасім, нагадаўшы старшыні, колькі ў яго ў начальстве лайдакоў, якія нічым карысным не займаюцца, а толькі «падхалімнічаюць ды гарэлку жлукцяць». І папрасіў старшыню «не зырыць на яго вочы» — ён будзе рабіць столькі, колькі можа. Старшыня, відаць, адчуў свой промах: «То я ж і кажу, што ты і большае можаш, чым іншыя, хоць і з адной рукой. Здаецца, так?» Герасім у адказ: «Я, можа, і магу. А от твае хаўруснікі адной рукой і цвіка не ўваб'юць...» То быў яшчэ час, ясна, што праклятыя, таталітарны, гулагаўскі, калі простаму калгасніку можна было сказаць у вочы непасрэднаму начальніку ўсю праўду.

Сітуацыя са «старшынёй-пяціхвілінуткай», з якім працаваць цяжкавата, праясняе далейшыя падзеі: сябра прапанаваў Герасіму, сыну лесніка, быламу паляўнічаму, заняцца адловам баброў, якіх збіраюцца перасяляць у Сібір. Герасім, незадаволены працай у калгасе, згадзіўся.

Герасім з сынам узяліся за справу з вялікай ахвотай, прычым і тут праявілі кемлівасць, спрыт, працалюбства. Самі зрабілі пастку, якую назвалі лаўком. Гэта было менавіта ўласнае вынаходніцтва, бо як зрабіць стацыянарную клетку для бабра, іх начальнік Малінін ведаў, але задача заключалася ў тым, каб выманіць бабра з яго нары і закрыць у лаўку — перш чым канчаткова пасяліць у клетцы. Тут вопыту ў групы лаўцоў з Пасожжа неставала. Брыгада з васьмі чалавек нават аванс — як лічылі яны, дармавыя грошы — узяла неахвотна: усе напачатку сумняваліся ў поспеху. І маці героя таксама не траціла грошы, «каб пасля, калі нас спасцігне няўдача, можна будзе вярнуць іх Малініну». Ацэньваць сваю працу, затрачаны час, а значыць, бясспрэчную справядлівасць авансу, нават і пры магчымай няўдачы, сціплым і не разбэшчаным грашыма людзям таго часу, якія прывыклі больш аддаваць, чым браць, і ў галаву не прыходзіла.

Тым не менш ловы пачаліся. Масарэнка апісвае іх падрабязна і, можна сказаць, любоўна. Неабходна было шмат чаго выдумляць, каб вывуджваць баброў з іх норак, трымаць у лаўку, які звяры тут жа пачыналі грызці, а затым яшчэ і пераносіць на вялікія адлегласці. Умовы працы надзвычай цяжкія: седзячы пастаянна ў балоце, дзе поўна камароў і нават паўзуноў, не маючы магчымасці як след адпачыць, у пастаянным перасоўванні. Ды і зубы бабра — не жарт.

Брыгада не толькі грошы зарабляла. І не знішчэннем звяроў займалася, а іх перасяленнем, каб узбагаціць прыроду іншага раёна Савецкага Саюза — такая тады была практыка. Высакародства мэты натхняла. Гэта быў незвычайны занятак, які захапіў людзей цалкам, — непасрэднае сутыкненне з жывым прыродным светам, своеасаблівыя адносіны з ім, якія прыносілі шмат задавальнення, радасці, адкрыццяў. Асабліва маладому герою, які пранікаўся любасцю да кожнага бабра і нават пачынаў бачыць у ім асобу, бо навучыўся «чытаць» па выразе «твару»: «... сцёбаў хлабазінкай па яго ваяўнічай і дужа пацешнай, настырнай мордачцы».

У адлове баброў лаўцам добра дапамагаў сабака — сучачка з мянушкай Мірта. Усе палюбілі яе — і не толькі за паляўнічыя здольнасці: «Мне ж самае дзіўнае было тое, што Мірта ўмела ўсміхацца — як чалавек! Яе ўсмешка заўсёды была ласкавая, шчырая, чароўная і нейкая мудрая...» Гэта зноў-такі ўменне бачыць у жывёлінцы індывідуальнасць са сваім непаўторным унутраным светам, павага да

«калегі» ў справе. І гэта ж — сведчанне праніклівага позірку маладога чалавека, яго аналітычных здольнасцей.

Блізкасць да прыроды, да жывёл і чаруе героя, і вучыць яго мысліць не прымітыўна-плоска, не ўтылітарна. Выпрацоўваецца назіральнасць і адпаведна — здольнасць абагульняць: «... у беразе відны норы. Яны, праўда, верхнія, а таму, канешне, пустыя. Хаця часам і ў іх ёсць жыхары: у такіх норах звычайна селяцца выдры і норкі». Ад назіральнасці — крок да цікаўнасці, здабывання фактычна навуковай інфармацыі: «... скрозь ваду аж серабрыцца — прыгожы бабёр. Праўда, я ўжо ведаў, што серабрыцца ён ад таго, што футра яго ўтрымлівае ў падшэрстку паветра, — дык вось гэтае паветра і свеціцца бялюткімі пацеркамі. Прыгожа!».

На аснове назіральнасці фарміруюцца пэўныя — вельмі спецыфічныя — веды, калі ў свядомасці падлетка біялагічныя асаблівасці жывёліны імгненна звязваюцца з ўмовамі яе існавання: «Скора мы выехалі з Крынак і падаліся зноў уверх Проні. Правы бераг ракі якраз “бабровы” — гэта значыць, густа ўкрыты лазовым хмызам, ажынаю і крапівой».

Добрае веданне розных праяў у прыродзе абвастрае ўсе адчуванні, нават работу падсвядомасці, ледзь не містычнае бачанне («нехта за мной сочыць»), выклікае пачуццё прыгожага («... мне стала шкода гэтай змяі — надта ж прыгожая яна...»), развівае ўласныя адносіны да кожнай з’явы («Мне шкода змяі. Цікава, у якіх адносінах яна з бабрамі: ворагі яны міжсобі ці сябры?»). Блізкасць да прыроды выхоўвае, як ні дзіўна, і акуратнасць, гаспадарлівасць — любы парадак, лад у справе малады герой умее ацаніць: «Парадак на базе адменны. Мне падабаецца літаральна ўсё: і вышкі з сенам, дзе спачываюць супрацоўнікі базы, і “шарэнгі” новенькіх бочак-асінавак».

Прыгажосць прыроды выклікае роздум, настройвае на філасофскі лад: «Сож зачароўвае мяне. <...> Сетка сонечных промняў нагадвае залатыя струменьчыкі ціхага бязгучнага дажджу, які хавае ў сабе, здаецца мне, ачышчальную сілу, хараство і цноту». Аповесць таму і мела шырокі рэзананс у чытачоў і крытыкі, што кожная з’ява прыроды на старонках кнігі надзялялася сваім уласным жыццём. Зацікавілі публіку і героі — не толькі Герасім, але і малады апавядальнік: у цяжкай і, на першы погляд здаецца, нятворчай працы паступова адбываецца станаўленне менавіта творцы.

У аповесці «На бабровых тонях» даволі дынамічнае дзеянне, якое складаецца з розных перыпетый лоўлі баброў, іх кальцавання, сустрэч герояў у доўгіх вандроўках па раёне з рознымі людзьмі, напрыклад, з пастухамі, сялянамі, паромшчыкам. Але прыгод як такіх тут няма. Прыгода адна: адлоў баброў. Праўда, з кожным прыходзіцца абыходзіцца па-рознаму, каб выманіць асцярожнага і разумнага звера. Розныя прыёмы лоўшчыкаў па сутнасці і ўтвараюць сюжэт, які разбаўлены шматлікімі ўспамінамі — часцей пра нядаўнюю вайну, і вось тут ужо прыгод і нечаканых паваротаў у чалавечых лёсах дастаткова, але, паўтараем: яны не ў непасрэдным дзеянні, а ў аповедах персанажаў, падаюцца рэтраспектыўна.

Аповесць створана ў духу «Палескіх рабінзонаў» Я. Маўра, толькі ў герояў Масарэнкі больш мяккасці, больш сапраўднай любасці да жывога, зусім адсутнічае практычны разлік. Тут не хаваецца дакументальная, выразна аўтабіяграфічная аснова. Уводзіць аўтар і навуковую інфармацыю. Так, у адным з заключных раздзелаў — «Бядоты бабровага племя» — прыводзяцца самыя розныя звесткі пра бабра: пра яго біялогію, метады на яго палявання, гаспадарчую карыснасць. Напрыклад: «У Кіеўскай Русі бабра <...> лічылі дзяржаўнай уласнасцю. І таму тых, хто забіваў звера без дазволу і трапляўся з дабычай на вочы служкам закону, без суда ссылалі на катаргу ці, калі падыходзіў узрост, здавалі ў салдаты».

Калі ў 1988 г. Масарэнка выдаваў вялікі зборнік выбраных твораў «Сонца майго дня», ён уключыў туды і аповесць «На бабровых тонях», у многім перапрацаваўшы яе. У прыватнасці, была значна павялічана інфармацыйна-навуковая частка, асабліва што тычыцца становішча з бабрамі на Беларусі. Сапраўды, амаль

праз дваццаць гадоў пасля напісання аповесці экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы намнога пагоршылася. Тут аўтар выступае як публіцыст і палымяны абаронца прыроды, расказвае пра канкрэтныя мясціны пражывання баброў і злачынныя метады знішчэння такой прыгожай і карыснай жывёлы.

Выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў «Школьнай бібліятэцы» тая ж аповесць (калектыўны зборнік «З павагай да зямлі і да людзей», 2011) зноўтакі аказалася са зменамі, асабліва ў раздзеле «Бядоты бабровага племя». Напісаны ў дастаткова раскаванай, свабоднай манеры, ён стаў, праўда, больш чытабельны менавіта для школьнікаў, але тут раптам выпалі і цытата, прыведзеная вышэй, што тычылася Кіеўскай Русі, і поўнасцю — усе меры па захаванні бабра пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, пра якія падрабязна апавядалася ў першым выданні. Цэлыя абзацы зняў, хутчэй за ўсё, сам пісьменнік. Поўнасцю зменены раздзел «Замест эпілога». Пераробкі свайго твора, бясспрэчна, — права аўтара, але напрамак самацэнзуры характэрны...

Ёсць у аповесці яшчэ адзін надзвычай важны пласт: вобразы сялян, прадстаўнікоў народа, іх сакавітая мова. Масарэнка смела ўводзіць у тэкст дыялектныя асаблівасці гаворкі Магілёўшчыны і спецыфічную рэгіянальную лексіку. Вось бабуля Аўгіння гаворыць: «А я саўсімацька адна цяперака. Прыскакам зраблю што, а на большае і слабка ўжо...» У пазнейшых творах і нават у перарobленых варыянтах самой аповесці пісьменнік значна абмяжуе ўжыванне дыялектызмаў; напачатку ж ён яўна захоплены роднай моўнай стыхіяй і імкнецца сцвердзіць яе на старонках кнігі.

Не менш важна — народная філасофія. Яе будучы пісьменнік спасцігаў дзякуючы блізкім людзям, таму часта прыводзіць выказванні бацькі і асабліва мудрыя — маці. У цэлым жа аповесць «На бабровых тонях» не прэтэндуе на глабальныя абагульненні — яна лакальная ў прасторавых адносінах, у сюжэце, вельмі канкрэтная ў бытавых падрабязнасцях. Але тым больш дорага каштуюць зярняткі народнай мудрасці, выказаныя бацькамі пісьменніка, простымі, сціплымі беларускімі сялянамі.

Наступная кніга А. Масарэнкі «Журавіны пад снегам» (1976) не атрымала такога шырокага розгаласу, як папярэдняя, але для самога пісьменніка была, безумоўна, крокам наперад — перш за ўсё ў авалоданні прыёмамі псіхалагічнага аналізу, у абмалёўцы вобраза чалавека. Кніга складаецца з аповесці і шэрагу апавяданняў.

Паглыбіцца ў жывы чалавечы характар аўтару дапамагае выбраная ім своеасаблівая будова аповесці «Сонца майго дня». У ёй чаргуюцца ўрыўкі тэксту з аб’ектывізаваным аўтарскім аповедам і вытрымкі з асабістага і вельмі інтымнага дзённіка героя — маладога таксіста Антона.

Прыйшла пара і для Масарэнкі асэнсоўваць псіхалогію маладога чалавека, які адной нагой — яшчэ ў сваім вясковым маленстве, другой — ужо трывала ўрастае ў гарадскую культуру. У 60—70-я гады твораў з такімі героямі, якія знаходзіліся ў прамежкавым стане, з’яўлялася шмат, з іх найбольш, бадай, вядомы і значны — «Сена на асфальце» Міхася Стральцова. Праўда, у Масарэнкі іншыя жыццёвыя сітуацыі, іншыя і чалавечыя тыпы. У яго, можа быць, нават больш, чым у яго калег, увага акцэнтуецца на лепшых рысах беларуса, якія абумоўлены яго менавіта вясковым паходжаннем. Антон сумленны, адкрыты, цнатлівы, працалюбівы, не ганяецца за забаўкамі, якія шчодра прадстаўляе горад. У героя трывалыя жыццёвыя ўстаноўкі, у тым ліку ідэйныя, сярод якіх ці не галоўная — памяць аб мінулай вайне. Ён гаворыць: «Вайны гэтай не забыць нам ніколі. Яе проста нельга забыць... Для вас яна — шпіталь, смерць... Для мяне яна — Цімох Сямёнавіч і яго жыццё, памяць аб ім... Для каго іншага — што-небудзь сваё, можа, проста салют ці старыя дзедавы пісьмы з фронту або нават кніга пра вайну, кінафільм...» А калі яму раяць не быць такім сур’ёзным, маўляў, бяры ад жыцця ўсё, што можна, ён адказвае як сталы, умудроны вопытам чалавек: «Калі ж мне тады ім быць, як не цяпер».

Антон раскрываецца не толькі ў гутарках з іншымі людзьмі — кватэрнай гаспадыняй, каханай Яўгеніяй — а і праз свой дзённік. У ім ён піша: «Жыць трэба не ў раскошы, а ў чысціні. Чысціні фізічнай і духоўнай. Калі наўкол цябе бруд, калі ў жытле тваім, а значыць, і ў душы тваёй непарадак — падымай трывогу, змагайся, выпраўляй сваё становішча. Дамагайся ва ўсім чысціні, не глумі сябе, не паддавайся часовым цяжкасцям...»

І яшчэ адно жыццёвае крэда выказвае герой: «...не быць раўнадушным да ўсяго жывога на зямлі, на ўсё звяртаць увагу, і не поўзма асільваць цяжкі, аднастайны груз будзёншчыны, а ўлёт — на крылах радасці!» Праўда, ахоплены радасцю Антон тады, калі закаханы, але ж менавіта гэты стан лепш за ўсё выяўляе глыбіннае, істотнае ў чалавеку. Сапраўды, у Антона ўсё бачанае выклікае адчуванне паўнаты жыцця і прыгожыя асацыяцыі: «Луг яшчэ не касілі, і ўсё вакол было першародна, молада і зялёна; лёгкі вецер ледзь пакалыхваў рамонкі, якія — дзіва што! — нагадвалі маленькія сонцы». Сонцы дня для маладых людзей... Вобраз сонца тут невыпадковы. Ён — і сведчанне радасці кахання, і адчуванне сваёй маладосці, і носьбіт святла маральнасці. Вельмі важна, калі пісьменнік не толькі ацэньвае тыя ці іншыя падзеі і людзей з пункту гледжання патрабаванняў высокай маралі, але і ўводзіць у твор непасрэдных носьбітаў такой маралі. Безумоўна, гэта не асабістае адкрыццё Масарэнкі: у час з'яўлення яго кнігі ў Расіі літаральна квітнела так званая «вясковая проза», якая дала імёны сусветна вядомых аўтараў: В. Бялова, В. Распуціна, В. Шукшына, В. Ліханосава, А. Іванова, У. Салаухіна, Ф. Абрамава, У. Лічуціна. Але ў названых аўтараў носьбітамі святла — высокай духоўнасці і маральнасці — былі пераважна людзі сталага веку. Масарэнка сканцэнтраваў увагу на маладым чалавеку, які яшчэ, акрамя таго, зыходзячы з прынцыпаў народнай этыкі, свядома займаецца самавыхаваннем.

Як у аповесці, так і ў апавяданнях Масарэнкі няма канфліктаў паміж добрымі і дрэннымі героямі — канфліктнасць увогуле на характарызуе прозу пісьменніка. Пераважаюць сутыкненні персанажаў па праблемах, як быццам, не вельмі значных. А больш за ўсё аўтара цікавіць, як яго героі па-рознаму рэагуюць на адны і тыя ж сацыяльныя і бытавыя працэсы, на той гістарычны вал маральна-этычнай дэградацыі, які чуйныя людзі — тыя ж пісьменнікі — ужо тады пачалі ўсё мацней адчуваць, але не ведалі, што супрацьпаставіць яму. Таму сюжэты Масарэнкі дастаткова лакальныя, часта не выходзяць са сферы сямейных адносін, як у вялікім апавяданні «Журавіны пад снегам», што дало назву зборніку. Тут герой Генадзь раздражнёны супраць сябра сваёй цешчы, які ездзіць да яе ажно з Ленінграда. Маладому чалавеку здаецца, што будучы айчым жонкі так часта наведваецца дзеля прыродных даброт нашай краіны — журавін, дзічыны. А на самай справе аказваецца, што чалавек тут ваяваў і пахаваў баявых сяброў, таму і цягне яго ў Беларусь. І больш за тое (тут аўтар выкарыстоўвае выразна белетрыстычны ход): сам Генадзь, калі быў маленькім хлопчыкам, менавіта ў вайну, сустракаўся з «дзядзем Севам» — будучым родзічам. Агульны ўспамін пра вайну аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных пакаленняў, яны пачынаюць па-іншаму ставіцца адзін да аднаго.

Але ў цэлым шчаслівыя супадзенні ў апавяданнях усё ж рэдкія. Масарэнка ў шэрагу твораў сведчыць пра ўлоўленую ім трывожную тэндэнцыю, якая пачала ўсё больш выяўляцца ў тагачасным грамадстве: адсутнасць духоўных кантактаў паміж людзьмі. Кантакт аказваецца магчымым толькі дзякуючы разам пражытаму, зноў-такі дзякуючы памяці. Аўтар гаворыць у апавяданні «Жытнёвыя каласкі»: «Нішто не забываецца, нішто. Усё, чым некалі жыў чалавек — з ім!». Гэта ўвогуле крэда Масарэнкі, таму на ўспамінах, асабліва на ўспамінах гадоў непасрэдна пасляваенных, пабудаваныя многія яго апавяданні («Плачуць журавы», «Кіно пра вайну», «Панядзелак», «Тады і цяпер» і інш.).

У апавяданні «Панядзелак», якое ў новым выданні (зборнік «Сонца майго дня») аўтар назаве аповесцю, памяць гераіні Хадоры горкая, шчымлівая: «Хадора,

як магла, старалася стрымаць сябе, супакоіць; усёй істотай, здаецца, адбівалася ад назойлівых шчымліва-цяжкіх успамінаў, што горкім, удушлівым дымам вайны наплывалі, ахутвалі як, сціскаючы з усіх бакоў так, што яна ўжо не ў сілах была выбавіцца...» Каб пазбавіцца ад успамінаў, старой удаве неабходна адно — нешта рабіць, «абы заняць сябе чым, абы не ўслухоўвацца ў сябе, не сачыць за кожным павевам думак, за кожным зрухам у душы...» Вобраз Хадоры ў многім тыповы менавіта для беларускага пісьменніка: ён малюе непатрабавальную да знешняга камфорту, сціплую вясковую жанчыну, якая нібы ўвабрала ў сябе рысы вельмі і вельмі многіх славянак — усіх, хто фактычна выцягнуў на сабе тыл падчас вайны і пасляваенную адбудову гаспадаркі, хто падняў дзяцей і ўнукаў.

Масарэнку хвалюе, як яго героі рэагуюць на розныя абставіны жыцця, часта негатыўныя. Яму важна паказаць не столькі супраціўленне абставінам, колькі сілу дабра ў чалавеку, яго гатоўнасць аддаць сябе іншым. Хадора вылечвалася ад горкіх успамінаў не толькі працай, але і думкамі пра сваіх родных. Яна жыла толькі імі і дзеля іх. «І менавіта ў іх, дзецях і ўнуках, радасць і ўцеха яе; больш ужо ёй і не трэба, сама не жадае, — мусіць, як і ўсе тыя ўдовы-гаротніцы, што да скону дзён сваіх не могуць, не маюць права быць шчаслівымі, быццам яны засталіся на гэтым свеце дзеля таго толькі, каб насіць у знямела-чуйных сэрцах, у самотна-ціхіх позірках выплаканых вачэй штодзённа-вечную жалобу — памяць па загінуўшых...» Не адчуваць свае права быць шчаслівымі, калі блізкія ў магіле, — гэта вельмі па-беларуску, па-жаночы, менавіта так разважалі пасля вайны многія ўдовы. Масарэнка падкрэсліў у сваёй гераіні рысу, пранікліва заўважаную ім у суайчынніцах.

Сам час прымушаў пісьменніка вырашаць пытанне пра прыроду чалавека, пра сілу маральнасці ў ім, але і пра прагматычны разлік. У творах Масарэнкі амаль няма развіцця характараў: час не змяняе герояў, а толькі больш выразна акрэслівае ўстойлівыя рысы, на якіх і фіксуецца аўтарская ўвага. Такі спосаб пабудовы вобраза таксама магчымы. Прычым у 60—70-я гады, калі пісаліся апавяданні, для Масарэнкі, як і для іншых беларускіх літаратараў, яшчэ характэрны гістарычны аптымізм, вера ў сонца, дабро, сілу памяці... Хоць з'яўляецца ўжо трывога: здаецца, многае дасягнута, а чалавек не робіцца лепшым, наадварот, у яго развіваецца абыякавасць да ўсяго, што не сваё, асабістае. «Так, цяпер ужо не збіраюць жытнёвыя каласкі — няма такой завядзёнкі, хаця валяецца іх часам не меней, чым тады, калі жалі збажыну сярпом. Ніхто не пячэ і праснакоў-скаваароднікаў, бо ёсць, колькі хочаш, у магазіне хлеба — і булкі самых розных гатункаў, і батоны... Таму, пэўна, і не турбуе людзей тое, што зерне гіне, задарма гіне зерне — ніхто ж цяпер з нас не галодны». Пісьменнік прымушае чытача задумацца пра важнае, асноўваючыся на фактах, як быццам, нязначных, але, узятыя разам, калі паглядзець на ўсе творы Масарэнкі пэўнага часу (70—80-я гады), яны, факты, нават у бытавых дэталях, гэты час раскрываюць.

Некаторым апавяданням не стае, можа быць, кампазіцыйнай зладжанасці — гэты недахоп з цяжкасцю пераадольваецца пісьменнікам на працягу ўсёй творчасці. Можна сказаць і пра другаснасць пэўных сюжэтаў і вобразаў, хоць у цэлым пісьменнік імкнецца заўсёды апрацоўваць сваю ўласную тэматычную «дзялянку», а тое, што яднае яго з іншымі, — адзнака эпохі, характэрных яе працэсаў.

У 1982 годзе ў Масарэнкі выходзіць раман «Баргузінскае лета», прысвечаны рабоце геадэзістаў на адной з адгалінаванняў трасы БАМа.

Каб паказаць вялікае і значнае, не абавязкова ўводзіць сотні персанажаў і браць вялікі абсяг прасторы. Масарэнка апісвае спецыфічную дзейнасць усяго адной брыгады ў складзе дзевяці чалавек разам з яе брыгадзірам Іванам Сцяпанавічам Сінёвым. Ды і фронт работ не вельмі шырокі — раён ракі Баргузін і яе прытокаў. Праўда, для беларускай літаратуры тэма, бясспрэчна, экзатычная.

Непасрэдна дзеянне пачынаецца ўсё ж з горада (ён не называецца, магчыма, Іркуцк), з базы экспедыцыі і з апісання гераіні, якая з'явіцца толькі на першых

старонках рамана і на апошніх, але вобраз якой будзе і здалёк натхняць галоўнага героя Аляксея Богуша на працягу ўсяго твора і надасць яго дзейнасці той флёр паэтычнасці, якога не хапала ў яго маруднай і цяжкой рабоце. Рамантычная васямнаццацігадовая Дуня, як многія тады савецкія юнакі і дзяўчаты, шчыра імкнулася ў тайгу — зведаць цяжкасцей, а значыць, сапраўднага жыцця. Богуш, ад імя якога вядзецца аповед, і Дуня, працуючы разам на складзе, бо праца ў таёжных умовах патрабуе значнай экіпіроўкі, паразумеліся паміж сабою. У іх, шчырых, летуценных маладых людзей, шмат агульнага. І Богуша пацягнула ў тайгу не столькі прага вялікага заробку, колькі жаданне зведаць невядомае, незвычайнае. Хлопец меў вышэйшую адукацыю і нядрэнную спецыяльнасць інжынера ў сталіцы Беларусі. Але: «... мяне горад ніколі не вабіў...» Ён не верыць у прагнозы футуролагаў аб магчымасці нармальнага жыцця чалавека ў гарадскіх умовах. Аляксей упэўнены, што «чалавеку зноў захочацца наблізіцца да зямлі-карміцелькі, ён выбавіць яе, пакутную, з-пад залішне шырокага асфальтавага панцыра, развее атрутныя смогі над сабой...» Вуснамі героя аўтар выказвае свае ўласныя, глыбока вынашаныя, дарагія думкі, якія гучалі і ў папярэдніх яго творах.

Увогуле, «Баргузінскае лета» ў многім, як і «На бабровых тонях» — твор аўтабіяграфічны. Праўда, у абмалёўку галоўнага героя ўсё ж дабаўлена значная доля вымыслу. Затое іншыя персанажы, можна меркаваць, спісваліся з натуры. Прытым, што галоўная задача пісьменніка — паказаць арыгінальнасць, непаўторную індывідуальнасць, тэмперамент і характар кожнага з членаў брыгады. Пра неардынарнасць некаторых рабочых выказваецца адзін з дзевяці — Шчыгол — ужо ў пачатку знаёмства, звяртаючыся да брыгадзіра: «... вы наўмысна падбіраеце сабе ў брыгаду трохі звіхнутых? <...> Я пакуль нармальны, а той-сёй з нашых — таго, думаю, — паказаў на Гардуноўскага. — От ён, маладзёнак наш, з прыдурам — у яго кууламеса ў мазгах ад музыкі. У Міхалёва — не меншая трасянка, свой комплекс: ён на пісьмах звіхнуўся — усё строчыць і строчыць... Спачатку на чарнавічок, а тады на чыставічок. Ні яму дня, ні яму ночы — гарбее чалавек, слепіцца. — Пасля невялікай паўзы — да Корнева звярнуўся: — І ты, Валодзька, з пункцікам — чыстаплюй і задавака».

Найбольшая ўвага апавядальніка — на брыгадзіра Сінёва. Відаць, што чалавек гэты глыбока зацікавіў назіральнага Богуша. «Ён падабаецца мне — і перш за ўсё як чалавек абыходлівы, чулы, шчыры, прынцыповы... І ў той жа час — складаны нейкі, глыбокі: як ні зазірай да яго ў душу — не адразу знойдзеш тое, чаго шукаеш, што вабіць». Род Сінёвых — просты, працавіты. Бацька яго да вайны рабіў на сплаве, потым партызаніў і загінуў пры падрыве нямецкага поезда. Маці і цяпер жыве ў Віцебску. У Сібіры сам Сінёў працуе ўжо пятнаццаць гадоў, мае шэраг рацпрапаноў, ведае і шафёрскую справу... «А зрэшты, чаго ён толькі не ведае, сказаць цяжка. Майстар на ўсе рукі, самавук, ён пастаянна імкнецца ведаць як мага больш — жыве дзейсна, шырока». Не дзіва, што Сінёў падабаецца Богушу — той і сам такі па ўнутраным пафасе, хоць намнога маладзейшы.

Ад умення Сінёва, чалавека без асаблівай адукацыі, арганізаваць працу, а галоўнае — адносіны людзей у калектыве, поўнасцю залежаў поспех экспедыцыі. Арганізатар ён аказаўся выдатны. Прычым некаторыя з брыгады, як і сам Сінёў, — ураджэнцы Беларусі, а іншыя, хоць і ўскосна, маюць да яе дачыненне. Аказваецца, стаўку на сваіх суайчыннікаў брыгадзір рабіў свядома. Як мяркуе адзін з членаў яго брыгады — Міхалёў — «...сцяжыны маленства клічуць... Таму, відаць, і стараецца скамплектаваць брыгаду "землячкоў"».

Працавалі людзі старанна, некаторыя проста апантана. «Папраўдзе, ніколі яшчэ ў сваім жыцці мне не даводзілася так высільвацца фізічна — штодня шчыруем амаль без перадыху, зацята, люта, з няшчаднасцю да сябе...»

Да сваіх абавязкаў і ў персанажаў, і ў аўтара такая павага, што ён нават дае падрабязнае апісанне тых прылад працы, якімі прыходзілася карыстацца (як быццам і яны персанажы кнігі) — лома, рыдлёўкі, шуфля, молата, кайла. Напрыклад:

«Т а п о р. Гэта па-брыгаднаму так. А для мяне — сякера. Нарадзіўся ў вёсцы, пражыў там васемнаццаць гадоў і амаль штодня меў да сякеры самае непасрэднае дачыненне. Караццей, з сякерай я на "ты"». Рэчы ў некаторай ступені ўдзельнічаюць у мікрахарактарыстыках герояў, у тым ліку героя-апавядальніка. Мастацкі прыём даволі банальны, але менавіта ў вытворчым рамане ён поўнасцю мэтазгодны.

Увогуле ж праца брыгады апісваецца падрабязна, але яе прафесійны бок выглядае менш змястоўна, чым характары герояў, ды і ўсе перыпетыі пошукавага працэсу геадэзістаў нібы раствараюцца ў асабістым, у псіхалагічным жыцці персанажаў; знешне ж сфера працы і сфера побыту ўтвараюць перакрыжаваныя паміж сабою рады. Да фармальнай прастаты цяжкой працы галоўны герой, у былым інжынер, ставіцца нават як бы з іроніяй: «Нялёгка дзяўбці мёрзлы грунт, спрасаваны мільёнамі стагоддзяў, нязручна з шуфлем у вузкай яме — не павярнуцца ў размаху, дарма што амаль напалову цаўё ўкарочана. А пра камянюкі дык і ўспамінаць страшна — ад іх, дальбог, ажно падчарэўе трашчыць. З боем даецца кожны метр. Затое — і смех, і грэх, і пацеха — ніякіх складанасцяў, ніякіх там штучак-дручак з інжынернага боку. Проста ўсё, першабытна. Адно калі з ямы паглядзіш на неба, дык вясёлкі на бровах гараць на ўсе сем колераў — знак доблесці нашай на ўзроўні сёмага поту!»

Але прастата працы геадэзістаў уяўная. На самай справе, у ёй шмат нюансаў. І ёсць прастор для вынаходніцтва. Тут першы — сам брыгадзір: «Сінёў пастаянна вышуквае больш выгодныя эканамічныя варыянты. І цяпер ён прапанаваў, каб замест рубероіду мы выкарыстоўвалі лісты бляхі, якія затым, пры засыпцы ямы, выцягвалі б назад».

Твор на модную тады, ды і сапраўды патрэбную тэму стваральнай працы, пазбаўлены рыс «савецкасці» ў плане рыторыкі: з вуснаў герояў не гучаць пафасныя, трыбунныя прамовы, не згадваецца на кожным кроку кіруючая роля партыі і выгоды сацыялізму над капіталізмам, ад прадстаўнікоў улад можна пачуць хутчэй пра меры бяспекі працы, чым пра сацыялістычнае спаборніцтва. Тым не менш гістарычнае дыханне ў кнізе прысутнічае. Яно і ў станоўчым, і ў адмоўным. Яшчэ адчуваецца валентнасць персанажаў, захаваўся нават у таго-сяго рамантычны парыў, яшчэ некаторыя чыноўнікі сумленна выконваюць свае абавязкі (што ўжо дзіва для сучаснай Расіі), зусім нярэдкія гераічныя ўчынкі людзей і шчырая адданасць справе. Але нямала з'явілася і прайдзісветаў, махляроў, хціўцаў — нават сярод моладзі. Уласна, брыгада Сінёва — як зрэз тагачаснага грамадства з яго асноўнымі тыпамі.

Безумоўна, раман Масарэнкі не прэтэндуе на рашэнні важнейшых сацыяльных праблем эпохі, але і ў дастаткова лакальным сюжэце выявіліся некаторыя тэндэнцыі часу, яго выклікі. Так, неаднаразова звяртае ўвагу аўтар на выхаваўчую сілу жывога прыкладу, хоць бы таго ж Сінёва, якога ўсе паважалі. Пры гэтым пісьменнік пазбягае дыдактызму — усё падаецца праз асобны жэст, канкрэтнае дзеянне і словы самога героя, скажам, у адносінах да выпіўкі: часам брыгадзір яе дазваляе, сам сваім падначаленым прыносіць, а ў цэлым — рэзка асуджае, прама забараняе ў адказныя дні. Асабліва відавочны яго прыклад — у адносінах да жывога, прыроды, пра ашчаджанне якой Сінёў думае пастаянна, хоць работа патрабуе ўгрызацца ў зямлю, вырубаць дрэвы, нават забіваць мядзведзяў. Але вось ужо і Шчыгол, чалавек вельмі супярэчлівы, надзелены шматлікімі негатыўнымі рысамі, абараняе чаромху, не дазваляе Вуцёху ссекчы яе. Такім чынам, маральна-этычны вопыт Сінёва ўсё ж атрымоўвае працяг у справах і імкненнях членаў брыгады. Сам ён бачыць у людзях лепшыя рысы, станоўча адгукаецца пра калег: «Хлопцы добрыя... Такіх дружных, скажу, яшчэ і не было ў мяне. Малайцы, заўзятыя рабацягі, і паводзяць сябе прыстойна, паважліва». У іншым месцы: «... цікавыя хлопцы ў брыгадзе, кожны за душой нешта сваё трымае, адметнае. Караццей, змястоўныя, не пустыя. Узяць Богуша. Вышэйшая адукацыя ў чалавека,

а ён — рабочы, лічы, землякоп. І не па доўгі рубель прыкаціў — імкнецца чалавек зразумець сябе самога праз другіх, такі жа, як і сам, а заадно і сусвет. З ім цікава пагаварыць. Неяк кажа мне: “Сцяпанавіч, успомніце ўсе свае жаданні ў маладосці, і вы здзівіцеся, што многія з іх ужо збыліся і астатнія, — кажа, — таксама здзейсняцца”. Я ўсумніўся ў гэтым, дык ён стаў тлумачыць, што такой думкі быў вялікі Гётэ, а вялікія тым, маўляў, і вялікія, што ў галоўным не памыляліся ніколі. Бачыш, важна ў г а л о ў н ы м не памыліцца, і ён гэта ўсё разумее...»

Безумоўна, усе рабочыя вельмі розныя. І нікога з іх, нават Сінёва і Богуша, аўтар не ідэалізуе (Сінёў, скажам, не жыве з жонкай). Не сакрэт, што многія пайшлі працаваць ці то дзеля вялікіх грошай, ці то збягаючы ад родзічаў, а ёсць і проста бяздумныя «перакаці-поле». Не ўсіх і Сінёў разумее. Так, пра свайго шафёра Шумка гаворыць: «Як вадзіцель — не благі, за машынай глядзіць. Але нейкі барахольшчык, старызну ўсякую збірае, абразы калекцыяніруе...» Чалавеку, не апантанаму калекцыяніраваннем, цяжка зразумець сапраўднага аматара, хоць у Шумку пераважаў усё ж камерцыйны інтарэс.

Розныя імкненні герояў часам прыводзяць іх да ярасных спрэчак, у якіх яны выказваюцца шчыра і адкрыта. Так, Гардуноўскі гаворыць Шчыглу: «Раскусіў я цябе: ты хочаш быць незалежным ад грамадства, а ўсімі выгодамі карыстацца спаўна». І Богуш сам з сабою разважае пра характар Шчыгла: «Супярэчлівы ён чалавек, няроўны, а больш правільна — складаны, няпросты. Бывае падчас узрушаны, па-прасцецку грубаваты, а больш — вясёлы, знаходлівы — слоў не пазычае і ў кішэню за імі не лазіць. Але ж і зорак з неба таксама не хапае, хаця ўсё яшчэ верыць у сваю запаветную зорку, зямную. Гэтая зорка — жанчына. <...> У астатнім — ён мой антыпод. Амаль такі ж самы, як і Каравага, як Вуцёха, як Кружлік, як... Ірына Марчык. <...> Сапраўды, ёсць нешта агульнае ў гэтых людзей. Што менавіта? Ды хоць бы іх слабасць перад уласным “Я”, жаданне бачыць сябе толькі ў першых сярод першых, зайздросная рашучасць заводзіць знаёмства з “патрэбнымі” людзьмі і тут жа рваць сувязь з тымі, няхай нават і блізкімі, хто перастае цікавіць». Тут Богуш называе не толькі членаў брыгады, а і чыноўнікаў, і нават сваю былую каханую Ірыну, спажывецкія адносіны якой да яго моцна ўразілі юнака і ў многім вымусілі збегчы ад любоўнай паразы ў Сібір. Найбольш абураны Богуш Вуцёхам: «Яму б толькі ўласны рукзак як мага паўней напхаць, а ўсё астатняе — трава не расці». Сімпатызуе і Сінёў, і Богуш Міхалёву, які імкнецца стаць пісьменнікам. Аўтар яўна аддаў некаторыя свае рысы не толькі Богушу, але і Міхалёву: «...ён лёгка ранімы, Міхалёў. Знешні спакой яго, як правіла, зманлівы — у душы віруе бура, сэрца нямее ад крыўды, а ён цярпліва будзе маўчаць, нічым сябе не выдаючы, адно шчокі чуць пабляднеюць...»

Сярод прыёмаў псіхалагічнага аналізу аўтар надзвычай часта звяртаецца да такога, у цэлым рэдкага для беларускай літаратуры, як выказванні пра таго ці іншага героя іншых герояў. Выказванні ж героя пра сябе самога, самахарактарыстыкі, дастаткова рэдкія. Напрыклад, Сінёў на запытанне, як ён трапіў на Поўнач, адказвае: «Летуценнік я ўсё-ткі па натуры, змалку рамантыкай жыў. Начытаўся кніг... “Аліцет ідзе ў горы” двойчы прачытаў».

Найбольш частыя ў рамане дыялог і нават шматгалоссе. Праўда, часам здаецца, што аўтар імі злоўжывае: далёка не ўсе выказванні, рэплікі працуюць на характарыстыкі персанажаў, а тэкст абцяжарваюць. Можна ўхваліць тыя знаходкі пісьменніка, што адначасова з’яўляюцца і прыёмамі псіхалагічнага аналізу, і часткамі структуры рамана, якія яго значна ўзбагачаюць. Гэта дастаткова шматлікія лісты да герояў, у прыватнасці, да Богуша (некаторыя пісьмы чытаюць усе члены брыгады разам). Гэта і ўстаўкі-абразкі пісьменніцкіх накідаў Міхалёва, пра якія Богуш заўважае: «Умее Міхалёў разважаць, аналізаваць — амаль як і вопытны літаратар адбірае трапныя факты, дэталі і эпізоды непасрэдна з жыцця, нават з жыцця нашай брыгады». Гэта ўрыўкі арыгінальных тэкстаў (праўда, зусім невялікія) нават класікаў літаратуры, скажам, Э. Хемінгуэя. Ёсць дакументы. Раман

пачынаецца са слова «Акт» і з поўнага тэксту гэтага Акта адносна гатоўнасці брыгады на права вядзення тапографа-геадэзічных работ, ажно да пераліку маёмасці і ўсіх подпісаў. Усе згаданыя прыёмы і структурныя формы можна аднесці да экстэнсіўнай, пашыранай характарыстыкі герояў — праз мноства апасродкаваных каналаў успрыняцця. Масарэнка не вынаходнік названых сродкаў, але карыстаецца імі надзвычай шырока, і гэта робіць яго раман у нейкім сэнсе ўнікальным у беларускай літаратуры.

Найбольш арыгінальныя ўстаўкі тычацца лёсу маленькага ізюбраня, якія паўтараюцца перыядычна і, здаецца, ніяк не тычацца непасрэдна сюжэта, пакуль Богуш якраз з гэтай жывёлінкай не сустракаецца ў яміне-пастцы. Самыя ўдалыя пейзажныя апісанні рамана — менавіта гэтыя ўстаўкі. Вядома, што якімі б квяцістымі словамі пейзаж не апісвай, ён будзе пусты, калі не апраўданы. Здаецца, Масарэнка знайшоў правільную форму менавіта апраўданага пейзажу.

Дзеянне рамана адбываецца непадалёку ад самага незвычайнага, самага глыбокага ў свеце і, бадай, найбольш прыгожага, ва ўсялякім разе ў Расіі, возера Байкал. Але неаднаразова прыгажосць мясцін, можа быць, незаўважна для самога аўтара, як бы здымаецца, нівеліруецца, псуецца дзеяннямі людзей: п’янствам, бракан’ерствам, распуснасцю жанчын, у тым ліку з мясцовага народа, меркантыльным падыходам жыхароў да прыродных багаццяў. І толькі зрэдку пераважае сузіральніцка-эстэтычны прынцып, і тады чалавек пачынае адчуваць сябе часткай цэлага: «А яшчэ добра і весела нам ад таго, што мы ўсе на выгодзе, што выдаўся месяц ліпень, амаль такі ж самы, як і чэрвень — сонечны, цёплы і без частых дажджоў, што наўкола нас — нечапаная чысціня і неаглядны зялёны прастор... І што мы, людзі, разумныя часцінкі ўсяго гэтага хараства, гэтай жывой радасці, бясконца вечнай і велічна непаўторнай, адчуваем сябе тут, на гэтых шматлікіх таёжных сцежках, альпійскіх лужках і кручах Баргузінскага хрыбта, не ўсемагутнымі багамі-волатамі, а ўсяго толькі шчаслівымі хлапчанятамі. Хто ты ёсць, чалавек? Разумная істота — і толькі?.. Бадай, так. Разумная дзеля таго, каб пастаянна жыло ў табе адчуванне, што сапраўдны гаспадар на зямным прыволлі зусім не ты, чалавек, са сваімі дробязнымі капрызамі, хваробамі і невырашальнымі праблемамі, а нехта іншы — Вялікі, Дужы, Вечны... ПРЫРОДА!»

Але аўтар не абмяжоўваецца філасофска-публіцыстычнымі дэкларацыямі — важна паказаць канкрэтнае адзінства чалавека і прыроды. Для таго і служаць устаўкі пра бадзянні па тайзе ізюбраняці, і ў яго прыгодах нібы зліваецца светаадчуванне самой жывёлінкі з поглядам на акаляючыя мясціны чалавека; тут знішчаецца тая псіхалагічная перашкода, якая ў звычайных умовах падзяляе чалавека і прыроду як суб’ект і аб’ект, чалавек адчувае сваю адзінасутнасць з іншай жывой істотай.

У рамане «Баргузінскае лета» няма інтрыгі як такой. Сюжэт просты і звыклы для жанру вытворчага рамана: падрыхтоўка брыгады да экспедыцыі, усталяванні на пэўных месцах, праца, пераезды, зрэдку паказваюцца стасункі з прадстаўнікамі мясцовага насельніцтва. Стрыжань сюжэта адсутнічае. Сінёў здолеў стварыць больш-менш дружны калектыў; сваю вытворчую задачу калектыў выканаў. Усё. Дробныя здарэнні, тыпу раскапанай магілы шамана, усё ж белетрызацыі (у добрым сэнсе слова) твору не надаюць. І вось як бы кампенсуючы яе недахоп, у канцы рамана, на месцы належнай па класічнай схеме сюжэтабудавання кульмінацыі, у кропцы залатога сячэння, узнікае літаральна купераўская ці майнрыдаўская сітуацыя (у прынцыпе яна сустракаецца яшчэ ў класічнай індыйскай «Панчатантры», дзе ў адной з навел чалавек правальваецца ў яміну разам з жывёламі). Пайшоўшы на паляванне, Богуш трапляе ў пастку, куды падае і ізюбраня. Воля, вытрымка, мужнасць і прыгаданы вясковы вопыт дапамагаюць герою, хоць і з параненай нагой, выбрацца і дайсці да жытла мясцовай ці тое паляўнічай, ці тое варажэілекаркі Паліксены Архіпаўны (прывітанне ад класічнай «Алесі» А. Купрына!). Тут, на радасць Богуша, аказваецца і яго каханая Дуня, якую жанчына вылечыла

ад запалення лёгкіх. Шчасце закаханых не перашкаджае, аднак, Аляксею клапаціцца пра пакінутае ў яміне ізюбраня.

Эпілог (ёсць менавіта фармальна-структурны Эпілог) зусім ружовы. Богуш, Дуня і Паліксена Архіпаўна жывуць у тайзе дружнай сям'ёй. У Дуні і Аляксея нарадзіліся сын і дачка, і яны чакаюць трэцяе дзіця. Ідылія поўная: «Невыезна жывём, аседла. Заможна і бясхмарна». Абое працуюць метэаролагамі для БАМа — работа патрэбная. А галоўнае, тут — родны куток іх дзяцей, самае дарагое і запаветнае месца; нават вучыць дзяцей збіраюцца самі — абы не выязджаць з лесу. За такі галівудскі хэпі-энд, пры тым, што ўвесь раман падкрэслена рэалістычны, можна было б прад'явіць аўтару важкія прэтэнзіі — танныя прыёмы не ў традыцыях беларускай літаратуры, заўсёды надзвычай драматычнай і мужна праўдзівай, а ў жыцці ж далёка не заўсёды сустракаюцца шчаслівыя сямейныя фіналы — гэта не казка.

Але паглядзець на твор можна і з іншага боку. Па-першае, радасныя, нечаканыя сустрэчы закаханых і іх далейшае бясхмарнае жыццё ўсё ж зрэдку сустракаюцца. Прытым, што душа чалавечая заўсёды прагне шчасця. Па-другое, неабходна ўлічваць умоўнасць мастацтва, у якім магчыма ўсё, і ў прынцыпе волю фантазіі даваць дазваляецца. Па-трэцяе, Богуш ехаў са сталічнага горада ў тайгу з пэўнай марай, з падсвядомай устаноўкай менавіта на такі фінал сваіх жыццёвых пошукаў: гарадскому жыхару бывае цяжка ўявіць, што ёсць людзі, якія адчуваюць агіду ад некаторых (нават ад многіх) даброт сучаснай гарадской цывілізацыі, затое ў вясковым асяроддзі, увогуле на ўлонні прыроды, усё для іх поўніцца нейкім важным сэнсам і адчуваннем блізкасці паміж сабою ўсіх жывых істот. Такі Богуш — тыповы псіхастэнік, а для гэтага псіхалагічнага тыпу ўласцівая не прага да ўлады і кар'еры, а асабістае духоўнае развіццё. І ў прынцыпе ўся кніга, пазбаўленая сюжэта ў белетрыстычным аспекце, — на самай справе падрыхтоўка да фінальнай ідыліі, апраўданне яе папярэднімі падзеямі і псіхалагічным тыпам героя.

Больш за тое, як ні парадаксальна, фінал рамана аказаўся ў многім прадбачаннем будучага. У апошні час у Расіі з'явіліся аграэкалагічныя паселішчы: людзі, часта заможныя і, як правіла, інтэлігентныя, бягуць з гарадоў і пасяляюцца ў вясковай мясцовасці (сама ж вёска, можна сказаць, загінула ў Расіі канчаткова), ведучы гаспадарку ў многім па законах сваіх славянскіх продкаў, але і ўзброеныя сучаснымі ведамі, пра што якраз марыў герой рамана «Баргузінскае лета», а насамрэч — сам аўтар: «...каб гэтак вось, як пра арэхаўку, ды пра кожную птушку, пра кожнага звера чалавек хоць трошкі ведаў з таго, ШТО яны, птушкі і звяры, ДАЮЦЬ прыродзе, як і чым звязаны з ёй і паяднаны між сабою...» Такі погляд, яшчэ вельмі нясмела, але ўсё ж няўхільна ўсталёўваецца ў свеце. А будзе сцвярджацца і больш інтэнсіўна, улічваючы яўны крызіс сучаснай індустрыяльнай, гарадской цывілізацыі. Такім чынам, Масарэнка ў рамане асэнсоўваў жыццё ў яго вялікім гістарычным, філасофскім вымярэнні. Яно заўсёды вынікае з глыбокага аналізу — жыццёвых працэсаў, псіхалогіі герояў. Так што «Баргузінскае лета», як бачыцца сёння, — удача аўтара.

У 1994 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў новы зборнік пісьменніка «Пакуль не завялі кветкі». Зборнік не надта вялікі, але дэманструе пошукі Масарэнкі ў самых розных жанрах. Па-першае, гэта аповесць «Лесавікі», што мае і загаловак «Прыпавесці», па-другое, апавяданні ў класічным разуменні слова, па-трэцяе, невялікія мініяцюры, па-чацвёртае, тое, што аўтар назваў «Дыялогамі без назваў». Жанравая разнастайнасць кнігі абумоўлена многімі падставамі, якія, можа быць, і сам аўтар не ўсвядоміў да канца. І імкненнем да мастацкага эксперымента, і фактарам гульні, прыпраўленым выхаваўчымі задачамі, бо неабходна ж на нейкіх яскравых, з агаленымі прыёмамі, творах вучыць маладых аўтараў (якраз іх вучобай Масарэнка актыўна займаўся ў 90-я гады), і галоўнае — эпохай, літаральна перапоўненай самымі рознымі падзеямі, уявіць якія яшчэ дзесяць гадоў

таму было немагчыма. Хутказменнасць падзей пасля распаду СССР дыктавала такія ж мабільныя жанры, з дапамогай якіх пісьменнік амаль імгненна адгукаўся на той ці іншы жыццёвы факт.

Творы, бясспрэчна, пісаліся ў розныя гады, прычым дат нідзе аўтар не праcтаўляе. Дзеянне аповесці «Лесавікі» адбываецца ў 1960-я гг., але ясна, што яна створана намнога пазней. Яе эпізоды-раздзелы таму і названы «прыпавесцямі», што яны апавядаюць пра падзеі, якія ў прынцыпе могуць адбывацца ў любы час, бо гаворка ідзе пра стасункі чалавека з прыродай і чалавека з чалавекам. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што жанр прытчы (беларускія даследчыкі ўжываюць абедзве формы — прытча і прыпавесць) з цягам часу змяняецца, эвалюцыянізуе. Слушна заўважыў малады беларускі даследчык гэтага жанру Р. Дубашынскі: «Адпачаткова прыпавесць — жанр вуснай традыцыі, і таму характэрныя рысы, уплыў народнага светабачання і светаадчування ў пазнейшым літаратурным творы будуць прысутнічаць заўсёды. Увасабленне народнай філасофіі, жыццёвай мудрасці ў прыпавесці сведчыць аб высокай інтэлектуальнасці прытчы як жанру і як твора. Але ўзровень, ступень гэтай інтэлектуальнасці залежыць ад таго, як народная філасофія і філасофія аўтарская адлюстроўваюцца ў творы і ў якой ступені яны спалучаны...» Так і ў «Лесавіках» А. Масарэнкі гаворка ідзе пра ісціны, глыбока ўкаранёныя ў народзе, але спалучаныя з аўтарскім поглядам і на сам народ, і на эпоху, прычым поглядам як бы з вышыні адлегласці часу, у асвятленні жыццёвай мудрасцю ўжо шмат пажыўшага аўтара.

У аповесці даволі многа герояў, але некалькі з іх — галоўныя, хоць хто ёсць хто, далёка не адразу чытач разумее. Калі вылучыць зерне з самага разнастайнага і надзвычай багатага жыццёвага матэрыялу, то можна ўбачыць, што розныя заблытаныя адносіны людзей групуюцца вакол некаторых падзей, што адбываюцца ў лесе: Янук Долька забівае вепрука, каб адвадзіць дзікоў ад калгасных капцоў, а гэта расцэньваецца як бракан’ерства; лесніка Лукьяна, які падсцярог у лесе злодзеяў, прывязваюць да дрэва, і яго той жа Янук выратоўвае. Паказваюцца таксама адносіны ў сям’і Аўтуха Малашонка з вельмі рознымі па характары яго сынамі, і праца старшыні калгаса Авяр’яна Хомчыка. Гэтыя персанажы, у сваю чаргу, пастаянна кантактуюць з дзясяткамі іншых згаданых у творы асоб. Сярод дыялогаў, гутарак, бытавых дзеянняў людзей праглядае адно: не заўсёды чалавек знаходзіць паразуменне сярод іншых; не так, як ён разлічвае, ацэньваюць яго ўчынкі. І вось ужо разбіраюць справу аб бракан’ерстве камуніста Янука Долькі, ды яшчэ аб парабелуме, які ў яго заставаўся ад вайны. На ўшчуванні той адказвае: «І што з таго, што я — камуніст?.. Мы ўсе тут такія камуністы — адно ўзносы ўносім у партыйную касу... І кіраўнік з мяне такі, што... мною кіруюць. І зараз вось: я хацеў бы пакінуць сабе парабел, на памяць па сябру, мне загадваюць, каб абавязкова здаць... Выходзіць, самастойнасці не было і не будзе ніколі. Усе нашы законы справядлівыя, але ўсе яны таксама не самастойныя, над імі ёсць няпісаныя законы...» Акрамя такіх смелых антыпартыйных выказванняў, якія якраз сведчаць, што аповесць пісалася ў часы так званай «перабудовы» ці нават у пачатку 90-х гадоў, усё ж галоўнае — думкі, адчуванні герояў, выказаныя, як правіла, праз мову аўтара. Так, Янук разважае: «Кажуць, вайна абвастрае набожнасць. Гэта праўда. Нешта падобнае на пачатку партызанства і з Януком было: адчуў, што Бог не Бог, а наканаванне нейкае, ці як там яшчэ — лёс чалавека, лінія жыцця ёсць, не выдумкі гэта». Тыя мясціны ў творы, што апісваюць псіхалагічнае жыццё герояў і іх успаміны, як правіла, ваеннага часу, мацуюць багаты бытавы матэрыял, структуруюць дзеянне, падкрэсліваюць філасофскі змест твора — яго менавіта прытчавасць. Частае выкарыстанне рэтраспекцый, што ўвогуле характэрна для Масарэнкі, надае твору неабходную гістарычную паўнату і сацыяльна-нацыянальны маштаб. Дададзім да гэтага па-майстэрску выпісаныя пейзажы, кшталту такога: «Зольны быў дзень, пахмурна-сутоньлівы. Колькі разоў памыкаўся ўсчацца дождж, але тут жа ўшчукаў; на небе ўсё роўна як не ладзілася штосьці — па

ўсіх прыкметах павінен быў сеяцца хлапясты павольны снег, а не гэтая занудліва-скрушаная золь. Хацелася, каб сонца выбілася з-за хмар, што віруюць, таўкуцца пад ім, аж — не: наплывалі новыя чароды, больш гусцейшыя, свінцова-ацяжэлыя і ўжо зусім не бялёсыя, не снегавыя...» Гэта не аднастайна-статычнае апісанне, а рытмічна разнастайны тэкст, у якім выявіўся менавіта беларускі погляд на прыродную з'яву. Пейзажаў-вобразаў у творы няшмат, але зроблены яны выдатна.

Удаюцца Масарэнку і апавяданні ў класічным сваім выглядзе. Дарэчы, сам ён не хавае сваёй далучанасці да традыцыйнага рэалізму, і пра значэнне традыцыі выказваецца наступным чынам: «Традыцыйнасць у нашай літаратуры — гэта аснова сучаснасці, яе мастацкі хрыбет. І як бы хто ні заяўляў, што ў сучаснай беларускай літаратуры, апрача таго-сяго, больш і не засталося нікога (вядома, плюсуюцца сюды і яны самі, заяўляльнікі), на гэта можна сказаць толькі адно: падобныя "пракрокі" назаўсёды застануцца блазнамі павярхоўнасці, якія любяць пагаварыць пра ўсё, за што ім добра заплацяць. Духоўны скарб нашай спадчыны непарушны, і гэта шмат каму пара б ужо ўсвядоміць».

Што ж тычыцца традыцыйнасці ў творах самога Масарэнкі, то гэта, перш за ўсё, яго імкненне да аб'ёмнасці паказу, да глыбокай матывіроўкі перажыванняў герояў і апісання абставін іх жыцця. Узяць хоць бы апавяданне «Пакуль не завялі кветкі», якое дало назву зборніку. Тут выразна супрацьпастаўляецца цяжкая, але годная старасць былой партызанкі Марфы, і лёгкая, бяздумная маладосць яе кватаранткі Пашы. Больш за ўсё непакоіць Марфу ў стылі жыцця маладых іх непавага да часу, які траціцца на драбязу. Таму падрабязна апісваецца, чым канкрэтна займаецца моладзь, а чаго (найперш працы рукамі і галавой) яна катэгарычна не жадае рабіць. Апісанне вядзецца пры дапамозе няўласна-простай мовы, якая выяўляе погляд і аўтара, і яго гераіні: «Не жадае, дрындзёлка, за мыццё брацца, не прывучана змалку. Кажа, часу няма. Марфа ў яе гады рабіла ў полі з цямна да цямна, не было калі байдыкаваць ды дзеўчыцца. На ўсё часу ставала і ахвоты». Сама ж Марфа жыве ўспамінамі як адзінай захаванай каштоўнасцю, бо немагчыма ж жыць тым, што назірае вакол сябе або па тэлевізары.

Шэраг апавяданняў зборніка — апісанні розных жыццёвых здарэнняў, сямейных сітуацый, якія раней, скажам, маглі быць нетыповымі, але ў «ліхія 90-я» ўжо аказаліся магчымымі. Так, у апавяданні «Дома» малюецца кранальная сустрэча маці і ўжо немаладога сына, які доўга не мог прызнацца ёй, што жонка ад яго збегла, знайшла іншага, а ён адзін застаўся з дзецьмі. «Маці з сынам, радыя сустрэчы, хутка забылі на ўсе нягоды. І не дзіўна: аптымізму на жыццёвых шалях заўсёды больш, чым скрухі і слёз». Дарэчы, аптымізм — жыццёвае і творчае крэда аўтара, сакрэт абаяльнасці яго прозы.

А яшчэ адзін сакрэт — у яго вернасці радзіме, бацькам, роднай матчынай мове. І ў зборніку «Пакуль не завялі кветкі», і ў падборцы апавяданняў з кнігі «Удзячны калодзеж», надрукаваных у «Полымі» (2009), пісьменніку найбольш удаюцца творы, дзе ён перадае жывую гаворку сваіх аднавяскоўцаў, уласнай маці, заўважаючы: «Адкуль у мамы, непісьменнай сялянкі, столькі дасціпу? Ну проста духоўная скарбніца, невычарпальныя нетры мудраслоўя ў чароўнай повязі думак». Многае з гэтай скарбніцы Масарэнка змяшчае ў сваіх творах, такіх як «Цырымонныя людзі», «Заплечная кухня», «Карова». Тут цікавыя не сюжэт, нават не ўспаміны сталай жанчыны, а яе сакавітая, надзвычай каларытная мова, якая зачароўвае чытача сама па сабе.

Чалавек па натуры вясёлы, Масарэнка ўмее заўважыць смешнае ў жыцці, таму любіць змяшчаць у сваіх кнігах дасціпныя выказванні або проста анекдатычныя жыццёвыя выпадкі, казусы. Яго дыялогі лаканічна і дакладна характарызуюць пэўны час, эканамічную ці палітычную сітуацыю. Напрыклад:

«— Ты — як тая карова: было б цёплым стойла ды смачным пойла...

— А ты — дужа акцівісты стаў... Глядзі, каб за гэты твой бэнээф рогі табе не збілі».

Або:

«— Пара б ужо неяк зламаць гэты дэфіцыт.

— Каб такое зрабіць, трэба знішчыць мафію... Няма дэфіцыту без паразіта».

У падборцы з «Удзячнага калодзежа» аўтар яшчэ больш удумлівы, па-філасофску пранікліва. Ён асмельваецца, скажам, іранізаваць з таго, што ўвогуле некарэктна было заўсёды згадваць — з беларусаў заходніх і беларусаў усходніх (мініяцюра «Непрымірымыя»). Ён зноў і зноў вяртаецца да жыццёвага вопыту і мудраслоўя сваёй маці (мініяцюра «Душнікі»).

Увогуле фраза пісьменніка выразная, маляўнічая, як бы «фарбуе» аб'ект. Мове твораў Масарэнкі можна было б прысвяціць спецыяльнае даследаванне.

Успрыняцце жыцця з гумарам і адначасова прага пісьменніка да структурных эксперыментаў вылілася ўрэшце ў надзвычай своеасаблівы твор «Святое возера», які выйшаў у Маскве ў выдавецтве «Эксмо» ў 2009 г., а потым з пераробкамі быў перавыдадзены ў 2011 г. Кнігу Масарэнка назваў раманам-бурлескам, прычым гэта раман у вершах, але з празаічнымі ўкрапленнямі. Наогул тут можна заўважыць сумесь, проста вінегрэт розных жанраў і формаў, а галоўнае, аўтарскай ацэнкі апісаных падзей — і сур'ёзнай, і іранічнай. Сам аўтар у адной з празаічных уставак піша: «Проза, паэзія — датклівыя формы, і часам даволі прыстойна пачуваюць сябе ў адзінай канве вобразнай палітры. А ў рамане-бурлеску — і пагатоў. Бадай, персанажаў тут і занадта, але ўсе яны — не збоку-прыпёку, выпадковых няма. Роўна так і ў жыцці. Дзе хто бачыў лішняга чалавека на гонях Бацькаўшчыны?»

Першаму ён дае слова мясцоваму паэту-самавуку Аўдзею Дабрадзею, які як бы акрэслівае прасторавыя і часавыя абсягі сваёй малой радзімы. Успамінаючы мінулае, ён адзначае: «Наш селянін пры беззямеллі / не здолеў бы заможным стаць: ён спакон веку, як з пахмелля, / глядзеў, чым дзіры залатаць. / Таму не надта кляў калгасы, / свой хутар славячы былы... <...> Бабуля ўспаміналa неяк, / што роўна на дзесяты год / калгас іх не кульнуўся з рэек, / а ўтроіў збожжа намалот. / І ўсё таму, што не зганялі / сілком людзей у калектыў; / хто не хацеў — тых не чапалі, / абы з уласнай працы жыў». І ўсё ў такім духу — фактычна, пад маскай наіўнага вясковага працяка, — развянчанне сучасных масмедыйных міфаў, якія, дзякуючы электронным СМІ, трывала заселі ў свядомасці абываталяў. Напрыклад: «А ведаеш — народ паверыў / у кашпіроўскіх, чумакоў, / і з крахам старае хімеры / быў новую прыняць гатоў». Праўда, і сам аўтар паўтарае ў кнізе некаторыя агітпропаўскія буржуазна-ліберальныя міфы, напрыклад, пра атруту Сталіным Максіма Горкага. Сёння сур'ёзныя даследчыкі аргументавана даказалі, што смерць Горкага была патрэбная не Сталіну, а зусім іншым колам.

Стрыжнёвыя персанажы, так званае сюжэтнае абрамленне (рыбалка самога Масарэнкі з жонкай на Святым возеры) павінны, па ідэі аўтара, цэментаваць самыя розныя слоўныя эксперыменты ў дэкларуемым жанры бурлескнага рамана. Але галоўнае: тут абыгрываюцца культавыя беларускія літаратурныя творы — парадыйныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат». Яны ж — травесційныя, бурлескныя, і значыць, на іх раман-бурлеск павінен у нейкай ступені абапірацца. Таму згадваюцца ў Масарэнкі багі — Зеўс, Юнона, а таксама літаратурныя героі старажытнарымскай паэмы, якая стала асновай для пародый («Энеіда» Вергілія), — Эней, Дыдона, створаная самім аўтарам Любона. Стылізацыя адразу некалькіх класічных твораў — надзвычай цяжкая задача. Ёсць уласныя знаходкі: так, на Парнасе ўсе геніі разбіваюцца па парах, прычым нацыянальнасць і час жыцця творцаў, натуральна, на тым свеце не маюць ніякага значэння, абы талент быў: «Шэкспір — вядомы ўсім краінам / як знаўца чалавечых душ — / так і ўвіваецца паўлінам / каля Янішчыц з пукам руж» Або: «Куды ні глянь — і пары, пары... / Уполпеч з Лось ідзе Бальзак. / З Цвятаевай — аж два гусары: / Грачанікаў і Пастарнак. / Жорж Санд фліртуе з Эліётам, / з Марко Ваўчок — Міхась Стральцоў...» На Парнасе ўвогуле не сумна: «Трымаліся адзіным

гуртам / Калеснік, Адамовіч, Брыль / і гаварылі пра манкуртаў, / успамінаючы Хатынь. / Іван Шамякін адзінока / непадалёк ад іх стаяў: / ён навіну і тут на вока / лавіў — палёгкі не шукаў».

Мікрахарактарыстыкі некаторых творцаў зроблены досыць удала. Напрыклад: «Навідавоку — Кузьма Чорны, / Змітрок Бядуля, Цішка Гартны / ссыпаюць выдаўцам у жорны / багацця моўнага брыльянты».

І зноў празаічная ўстаўка, усур'ёз: «Сучаснае без мінулага — што чалавек без вопыту. А то і зусім няўцямец. Ігнаруючы гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, наўрад ці можна напісаць сёння штось прыстойнае ды праўдзівае, вартае ўвагі». А ў першым варыянце кнігі былі і такія радкі: «Літаратурны персанаж мне бачыцца выключна ўвесь: ад маленства — і да поўнай старасці. У кожнага з нас — такая жытка, якую мы заслугоўваем, якую ўпадабалі, за якую трымаемся аберуч». Вось чаму, дарэчы, так часта ў сваіх творах Масарэнка звяртаўся да ўласнага вопыту — літаральна з таго часу, як памятаў сябе. Такія ж яго героі. У прыватнасці, у «Святым возеры» апісваецца каларытны зямляк — Адась Бычок, які з літаратурнымі персанажамі Энеем і Дыдонай вядзе размовы пра сучасную капіталістычную рэальнасць. Многае тут міфалагічным героям абсалютна не зразумела, што не дзіўна. Але і аўтар дазваляў сабе ў першым выданні твора даволі смелыя выказванні. Праўда, гэта ўсё ж раман-бурлеск. Згадваюцца тут і іншыя персанажы, ужо рэальныя, іх складаны лёс у няпростым ХХ стагоддзі.

У цэлым у творы пануе стыхія гумару. Уводзіць у тэкст «Святога возера» Масарэнка і свой першы гумарыстычны аповед, які датуецца 1970 годам, калі ён працаваў у выдавецтве «Беларусь». Тады гэта было смешна. А цяпер чытаеш са смуткам: амаль нікога са згаданых тут асоб ужо няма сярод жывых. Не абыходзіць аўтар увагай падзеі і апошняга часу: так, неаднаразова абыгрываецца падзел на два беларускага Саюза пісьменнікаў. Шмат у кнізе гумарэсак, афарызмаў. Не ўсе з іх у першым варыянце вызначаліся досціпам. Але ў другім выданні Масарэнка значна пачысціў раман, сёе-тое дадаў, некаторыя пасажы, наадварот, зняў.

Кніга, бясспрэчна, цікавая. У нечым — прадуктыўны пошук, смелы эксперымент, на які творца заўсёды мае права, у многім — падсумаванне творчага вопыту, дзе скрозь гумар, паміж радкоў, гучыць усё ж і крыўда пісьменніка за занядбанне яго імені, за няўвагу да яго творчасці. Ёсць у рамане і настальгія па мінулым, ёсць аддадзеная даніна бацькам, суайчыннікам-аднавяскоўцам, калегам, сябрам. Што тычыцца формы, то наўрад ці варта было арыентавацца (гэта зроблена, можа быць, нават міжволі) на Ведзьмака Лысагорскага. Пасля смерці многіх яго персанажаў «Сказ пра Лысую гару» чытаецца як нешта кашчуннае. Праблема паказу рэальных асоб у літаратурным творы павінна была б стаць тэмай шырокай дыскусіі літаратараў.

У цэлым «Святое возера» заслугоўвае згадвання і разгляду як этап у творчасці сталага майстра. Самае, бадай, важнае ў ім: імкненне да вымярэння маштабамі веку ўсяго таго — у палітыцы, ідэалогіі, літаратуры, што адбываецца ў сучасным жыцці. Магчыма, не ўсё ўдалося, але ўсё ж сам імпульс надзвычай плённы. Тут можна заўважыць, прасачыць, асабліва ў другім варыянце, з якой сілай, як жорстка час ціснe на асобу звычайнага чалавека. А чаму — няўцям. Можа быць, усё вызначаецца патрэбамі іншага свету, які і ўводзіць, хоць жартам, у твор пісьменнік?..

Напісанае Алесем Масарэнкам немаленькае, пры ўважлівым разглядзе — значнае, цікавае, павучальнае: лепшае вартае ўвагі і павагі.

**Эмануіл ІОФЕ**

# РЫГОР РЭЛЕС: ВЯДОМЫ І НЕВЯДОМЫ

Беларуская зямля дала свету шмат таленавітых яўрэйскіх пісьменнікаў. Гэта «дзядуля яўрэйскай літаратуры» Мендэле Мойхер-Сфорым, «яўрэйскі Лермантаў» Лейб Найдус, арыгінальны празаік і драматург С. Ан-скі, пісьменнік з сусветным імем Гальперн Лейвік, самабытны празаік і драматург Давід Пінскі, літаратурны крытык і публіцыст Шмуэль Нігер, сусветна вядомыя паэты Аўром Рэйзен і Іцхак Кацэнельсан.

У сярэдзіне 1930-х гадоў яўрэйская культура ў Савецкай Беларусі дасягнула найвышэйшага развіцця. У яўрэйскай секцыі Саюза пісьменнікаў налічвалася каля пяцідзесяці чалавек. У шэрагу заснавальнікаў яўрэйскай літаратуры ў нашай рэспубліцы стаялі яе класікі савецкага перыяду Ізі Харык, Майсей Кульбак, Зэлік Аксельрод, Шмуэль Галкін. У канцы 1920-х і пачатку 1930-х гадоў уступіла новае пакаленне «трэцяга прызыву». Да яго можна аднесці Хаіма Мальцінскага, Рувіма Рэйзіна, Льва Талалая, Генаха Шведзіка, Зяму Цялесіна, Моту Грубіяна, Моту Дзегцяра, Рахіль Баумволь, Захара Барсука, Ліпу Гелера, Сямёна Ляльчука, Моту Каплана. Менавіта да гэтай кагорты належаў і Рыгор (Гірш) Рэлес, які стаў членам Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 1934 годзе.

Радзіма яго — мястэчка Чашнікі колішняга Лепельскага павета Віцебскай губерні. Р. Рэлес нарадзіўся 23 красавіка 1913 года — у год, калі Расійская імперыя адзначала 300-годдзе дынастыі Раманавых. На паўстагоддзя раней — у 1863 годзе ў гэтым жа мястэчку пабачыў свет славуты яўрэйскі драматург і фалькларыст, аўтар п’есы «Дзібук», якая і сёння паспяхова ідзе на сцэнах многіх тэатраў свету, С. Ан-скі (сапраўднае імя і прозвішча Сямён (Шлома) Распапорт).

Амаль праз паўстагоддзе зямляк Р. Рэлеса — беларускі крытык і літаратуразнаўца Дзмітрый Палітыка ў матэрыяле «Радасць кожнага дня» успамінаў:

«Ёсць маленькае мястэчка Чашнікі. Цяжка адшукаць яго на карце свету. Прытулілася яно ў трыкутніку рачулак на Віцебшчыне. Але яно — адно з соцень пасёлкаў, якія рассыпаліся па беларускай зямлі, адна з геаграфічных кропак нашай рэспублікі.

...Прыпамінаецца мне паэт у тыя далёкія гады дзяцінства, калі наша мястэчка, абуджанае рэвалюцыяй, прагна цягнулася да ўсяго новага. Цікаўны хлопчык, Рэлес успрымаў усё гэта ўзнёсла, урачыста, паэтычна. Раней упаміналася пра наша «шматмоўнае дзяцінства». Рэвалюцыя ўзаконіла інтэрнацыянальнае брацтва нашага мястэчка. Свае першыя вершы мы пісалі кожны на сваёй мове, але мы разумелі мову адзін другога. Рускія, беларусы, палякі і яўрэі — мы былі дзецьмі аднаго часу, у адной калысцы калыхала нас беднасць».

Бацька будучага паэта — Лейба Рэлес быў адукаваным чалавекам і значную частку жыцця пражыў у «літоўскім Іерусаліме» — Вільні. Яго артыкулы і вершы на іўрыце друкаваліся ў яўрэйскіх газетах Санкт-Пецярбурга. Падпісваў свае творы малады літаратар так: Іегуда Лейб Рэлес фун Камень бен Бер-ha Шуў. На беларускую мову гэты псеўданім можна перакласці, як Іегуда Лейб Рэлес з мястэчка Камень, сын Бера-разніка.

Разам з іншымі маладымі літаратарамі ён часта бываў у «Старой Ром», як называлі за вочы гаспадыню яўрэйскай друкарні ў Вільні. Дарэчы, «старая Ром» — гэта маці вядомага кінарэжысёра Міхаіла Рома, пастаноўшчыка сусветна вядомага кінафільма «Звычайны фашызм». Яна была дзелавой жанчынай, з мужчынскай хваткай. Усе яўрэйскія газеты Вільні выходзілі ў яе. Дый пісьменнікі, якія пісалі на іўрыце і ідыш, друкаваліся ў яе. У гэтай друкарні, дарэчы, выходзіла і беларуская газета «Наша ніва» і нават нелегальныя выданні. «Старая Ром» умела ладзіць з паліцыяй.

Дарэчы, з уладальніцай друкарні меў вельмі добрыя стасункі і класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля. Ён спачатку спрабаваў свае сілы ў паэзіі і пісаў на іўрыце для дзіцячай газеты, якая выдавалася, зразумела, у «Старой Ром». Аднойчы ў друкарні ўбачыў «Нашу ніву» і вырашыў пісаць па-беларуску. Гэтую мову ён выдатна ведаў. Янку Купалу спадабаліся яго творы, ён стаў іх друкаваць.

Лёс закінуў бацьку Рыгора Рэлеса ў мястэчка Чашнікі, дзе ён ажаніўся. Быў хатнім настаўнікам — меламедам. Вучыў дзяцей малітвам, вучыў іх чытаць і пісаць на роднай мове ідыш — мамелошн. Сям’я жыла бедна, і Грышу нярэдка даводзілася дапамагаць бацьку.

Калі яму было шэсць гадоў, маці памерла ад тыфу. На руках удаўца засталося чацвёра дзяцей — тры дачкі і адзін сын. Сёстры былі старэйшыя за яго. Хутка Соня паехала ў Віцебск, дзе працавала на фабрыцы, Сара стала студэнткай Ленінградскага інстытута чыгуначнага транспарту. А малодшая Маня спачатку засталася з бацькам у Чашніках, а потым паступіла ў Віцебскі педагагічны інстытут.

Памяць пра роднае мястэчка засталася ў Р. Рэлеса на ўсё жыццё. Праз 16 гадоў пасля Халакоста беларускага яўрэйства ён у сваім паэтычным зборніку «Бяроза пад акном» (1961), ва ўрыўку з паэмы «Пасля буры», апавядаючы аб сустрэчы са знаёмым балаголам з Чашнік, напіша:

Я кажу, каб сябе і старога ўцешыць:
— Да дзяцінства прыехаў, да родных валок.
Я тутэйшы, рэб Шлёмка, я зямляк, я тутэйшы.
— Уй, клянуся я пугай сваёю святой.
Лейбы Рэлеса сын ты, — ускрыквае Шлёмка, —
Колькі часу сплыло і з бядой і — з вадой,
Дзе насіла цябе па дарогах далёкіх?
Не крыўдуй, мы чакаць перасталі цябе,
Паміналі, жадалі зямлі табе лёгкай.
— Я жывы! Коней-ветраў падай мне цяпер.
Ды гані, каб віхор ашалела галёкаў.

Грамадзянская вайна і цяжкія пасляваенныя гады затармазілі ягоную вучобу. Сам падрыхтаваўся да школы і пайшоў адразу ў пяты клас. Дабратворна сказаўся ўплыў бацькі. Хлопчык захапіўся літаратурай. Пры беларускай сямігодцы ў Чашніках быў літаратурны гурток, актыўным членам якога і стаў падлетак. У школьнай насценнай газеце, якую выпускалі члены гуртка, з’явіліся яго першыя вершы на беларускай мове. Бацька даў сыну такую параду: «Я вижу, что ты хочешь быть поэтом. Это неплохо. Помни только одно: пиши на своём родном языке. Только тогда ты сможешь находить нужные слова и передавать свои чувства».

Пад роднай мовай ён разумеў ідыш. Сын паслухаўся гэтай парады і памятаў яе ўсё жыццё. У 1930 годзе вучань 7 класа Р. Рэлес апублікаваў у яўрэйскай маладзёжнай газеце «Юнгер арбайтер» свой першы верш «Гей ло мір гейн» («Давайце ісці разам») і прысвяціў яго першай пяцігодцы.

У 1930—1933 гадах Р. Рэлес вучыўся ў Віцебскім яўрэйскім педагагічным тэхнікуме і адначасова друкаваў свае творы на яўрэйскай старонцы абласной газеты «Віцебскі рабочы», якая выходзіла штотыднёва.

У размове з аўтарам гэтых радкоў ён успамінаў:

«Наш еврейский педагогический техникум мы в шутку называли «Евпетух». А знаете, какую песню мы написали про свой техникум? — спытаў ён у мяне і стаў напяваць:

Аф брег фун Витьбе
Штейт а рейтер муйер.
Лернен зих дорт хевре
Цукумфтике буер.

— На русском языке, — працягваў Р. Рэлес, — этот гимн, написанный в лозунговом стиле начала тридцатых годов, звучит так:

На берегу Витьбы
Стоит красное здание.
Учатся там друзья —
Строители будущего».

Восемдзесят тры гады таму, калі Р. Рэлес надрукаваў свае вершы на ідыш, гэтая мова, нараўне з беларускай, рускай і польскай, была прадстаўлена на Дзяржаўным гербе Беларускай ССР. У пачатку 1930-х гадоў дзясяткі тысяч дзяцей у гарадах і мястэчках нашай рэспублікі вучыліся ў школах, дзе ўсе прадметы выкладаліся на ідыш. Працавалі яўрэйскія калгасы, выбіраліся дэпутаты яўрэйскіх нацыянальных пасялковых Саветаў. І ўсё справаводства ў іх вялося на ідыш.

Знамянальнай падзеяй у жыцці Р. Рэлеса стала публікацыя яго вершаў у цэнтральным яўрэйскім рэспубліканскім часопісе «Штерн» («Зорка»), галоўным рэдактарам якога быў класік яўрэйскай літаратуры Ізі Харык. У той час Р. Рэлес з'яўляўся студэнтам трэцяга курса.

У 1932 годзе юны паэт становіцца членам ВІТАПА (Віцебскага аб'яднання пралетарскіх пісьменнікаў), створанага годам раней. Яго ўзначальваў Уладзіслаў Люгоўскі. У гэтае аб'яднанне ўваходзілі таксама паэты Рыгор Жалязняк і Андрэй Ушакоў.

Сёння імя А. Ушакова мала каму вядома. Між іншым, ён аўтар слоў вядомага раманса «Дзе ж ты, чарнавокая...» У наш час нават літаратуразнаўцы не ведаюць, што ён як і дзясяткі іншых вершаў, прысвечаны Сельме Брахман, якая стала прафесарам, мастацтвазнаўцам і жыве ў Маскве.

Пасля сканчэння педтэхнікума Р. Рэлес у 1933 годзе паступае на яўрэйскае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску (сёння гэта Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка).

Яго вершы часта друкуюцца ў яўрэйскай рэспубліканскай газеце «Октябрь», у часопісе «Штерн» і іншых выданнях Беларусі, гучаць па рэспубліканскім радыё. Так, у другім нумары часопіса «Штерн» за 1934 год з'явіліся вершы «Мне становіцца зразумелым...», «Цяля». У дзясятым-адзіннадцатым за 1935-ы — цыкл «Мястэчка».

Аб ранняй творчасці Р. Рэлеса ў артыкуле «Плённы творчы шлях», апублікаваным у часопісе «Советиш Геймланд», паэт Ліпа Гелер успамінае так:

«Помніцца першы творчы вечар Рыгора Рэлеса. Гэта было ў красавіку 1935 года. Прысутнічала шмат людзей: пісьменнікі, студэнты. Рабочыя. У большасці гэта былі маладыя людзі. Вечар адкрыў славуты паэт Зэлік Аксельрод. У яго ўступным слове было сказана, што ў яўрэйскую літаратуру ўліўся малады таленавіты паэт з уласцівым яму каларытам і самабытным успрыманнем і адлюстраваннем рэчаіснасці. На гэтым жа вечары Рэлес чытаў свае вершы. Асаблівае ўражанне на слухачоў зрабілі яго інтымныя вершы аб каханні і сяброўстве і аб сваім родным кутку — Чашніках».

Па рэкамендацыі паэтаў Ізі Харыка і Зэліка Аксельрода і літаратуразнаўцы Якава Бранштэйна ў 1934 годзе 21-гадовага Р. Рэлеса прымаюць у яўрэйскую секцыю Саюза пісьменнікаў Беларусі. Па ягоных словах, прымаў яго ў саюз Міхась Лынькоў.

На жаль, у пачатку Вялікай Айчыннай вайны членскі білет Р. Рэлеса, падпісаны Максімам Горкім, недзе згубіўся (так паведаміў аўтару гэтых радкоў сам Рыгор Львовіч). Таму ў сучасных энцыклапедыях і даведніках дата яго ўступлення ў СП Беларусі пазначана 1936-м годам.

У сумна вядомым 1937 годзе Р. Рэлес заканчвае педінстытут.

«После института, — успамінаў ён, — мне дали «свободный» диплом. По тем временам это было большой редкостью. В институт позвонили из газеты «Октябер», издававшейся в Минске на идиш, и сказали, что они возьмут на работу Григория Релеса. К тому времени я уже три года состоял в Союзе писателей, у меня было много публикаций в журналах и газетах, хорошие отзывы критиков.

В любое другое время такое предложение для выпускника института было бы очень почётным: сразу попасть в республиканскую газету. Об этом можно было только мечтать. Но в те годы весь воздух в Минске был пропитан страхом. Если говорить прямо и честно, этот страх не покидал и меня. Я хорошо знал, что не проходило и месяца, чтобы из редакции газеты «Октябер», журнала «Штерн» и других печатных изданий кого-нибудь не арестовывали. Может поэтому и были там свободные вакансии.

Шестое чувство подсказывало мне: чтобы уцелеть, надо быть подальше от Минска, подальше от республиканской газеты, где ты всё время на виду, где в любое время на тебя может указать карающий перст.

Чтобы я, как курица, шёл к ним (имеются в виду работники НКВД БССР. — **Э. І.**) прямо в руки? Не будет этого. Пускай они «цып, цып» скажут другому».

Рыгор Рэлес пайшоў у Народны камісарыят асветы БССР і сказаў: «Хачу працаваць у школе». Невядома, ці зразумелі работнікі Наркамасветы сапраўдную прычыну энтузіязму выпускніка педінстытута, ці вырашылі, што ў маладога чалавека ў галаве толькі лозунгі, але ў «правінцыі», як звычайна, не хапала дыпламаваных настаўнікаў, і яго даволі хутка размеркавалі ў акруговы горад Слуцк.

У Слуцку Рыгор Львовіч спачатку выкладаў яўрэйскую мову і літаратуру ў яўрэйскай школе, а затым працаваў завучам 6-й няпоўнай сярэдняй школы, дзе быў і настаўнікам рускай мовы і літаратуры. Справа ў тым, што ў 1938 годзе ў Слуцку, як і па ўсёй Беларусі, яўрэйскія школы сталі закрывацца. Менавіта тады пачаўся разгром яўрэйскай культуры ва ўсім Савецкім Саюзе.

У паэме «Па ступеньках» ён напіша пра той час:

Учительское
Светлое начало:
Я в класс вошёл
В руках перо и мел…
А Музе без меня
Всегда хватало
Таких, кто ей
Понравиться хотел…

Закладывал, как мог я,
Знаний камни,
Чтоб юность
Поднялась на пьедестал.
И Пушкина читал
Учеником я,
Как будто бы свои
Стихи читал.

Литературе русской
Пел я гимны,
И вдохновение
Меня вело —
Из сердца моего
В сердца другие
Передавал
Священное тепло.

*Пер. з ідыш Д. Сімановіча.*

Аднойчы восенню 1939 года ў школу пазваніў сакратар ЦК камсамола Беларусі па прапагандзе Ірма Яфройкін і сказаў: «Мы цяпер умацоўваем газету «Піянер Беларусі», і паколькі вы вопытны педагог, мы жадаем Вас узяць на працу ў рэдакцыю. Нам толькі патрэбна Ваша згода». Р. Рэлес паспеў спытаць: «Адкуль Вы ведаеце пра мяне?» Яфройкін адказаў: «Вельмі настойліва Вас рэкамендуе паэт Генадзь Шведзік. Ён будзе загадчыкам аддзела, а вы — яго намеснікам».

Тыя, хто ў канцы 1930 — пачатку 1940-х гадоў былі піянерамі і чыталі гэтую газету, яшчэ па сённяшні дзень памятаюць цікавыя матэрыялы і артыкулы Р. Рэлеса, асабліва такія, як «Косця зразумеў памылку», «Да чаго прыводзіць гульня ў грошы», «Настаўніца Эсфір Аронаўна», апублікаваныя ў 1940 годзе.

Знамянальнай падзеяй у жыцці Рыгора Львовіча стаў выхад у 1939 годзе ягонай першай кнігі вершаў з сімвалічнай назвай «Онгейб», што ў перакладзе азначае «Пачатак». Другі зборнік на ідыш, які таксама выйшаў у Мінску праз два гады, называўся проста «Лідар» («Вершы»).

Аднак у Мінску Р. Рэлес працаваў нядоўга. Тэрмінова спатрэбіўся настаўнік яўрэйскай мовы і літаратуры ў яўрэйскую школу Навагрудка. Даведаўшыся, што Рыгор Львовіч з’яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, райкам партыі прызначыў яго па сумяшчальніцтве рэдактарам Навагрудскага раённага радыёвяшчання.

Вялікая Айчынная вайна заспела Р. Рэлеса ў камандзіроўцы ў Мінску. Жонка Ёха і маленькая дачушка Рэйзэлэ, якую ён назваў у памяць аб сваёй маці, заставаліся ў Навагрудку. Цягнікі ў заходнім напрамку ўжо не хадзілі. Нямецкія самалёты бамбілі чыгуначныя станцыі. Рыгор Львовіч пайшоў пешшу ў Койданава, цяпер Дзяржынск, дзе жылі бацькі жонкі. Спадзяваўся, што жонка з дачкой прыйдуць туды. Але ў 20 кіламетрах ад Мінска яго спынілі ваенныя і загадалі ісці назад. Угаворваць іх не было сэнсу.

Сястра Р. Рэлеса — Маня, якая напярэдадні вайны прыязджала пагасціць у Навагрудак, угаворвала Ёху пакінуць горад і бегчы, паспрабаваць эвакуіравацца. Але тая адказала, што не трэба паддавацца паніцы, бо Чырвоная Армія хутка разаб’е немцаў. «Тады аддай мне дзіця, — прасіла Маня. — Я пайду з ім». «Калі трэба будзе, пойдзем разам», — цвёрда адказала Ёха.

Пасля вайны Рыгор Львовіч доўга шукаў жонку і дачку. Спадзяваўся на цуд. Але потым даведаўся, што яны загінулі разам з іншымі яўрэямі Навагрудка ў жніўні 1941 года.

У першыя дні вайны Р. Рэлес і Х. Мальцінскі прыйшлі ў ваенкамат і папрасілі адправіць іх у дзеючую армію. Ім загадалі прыбыць у Гомельскі раён, дзе фарміраваліся воінскія часці. Хутка Рыгор Львовіч быў прызваны ў 3-і Мінскі зборны полк, які потым перадыслацыравалі ў Ліпецк і там расфарміравалі. Восенню 1941 года Р. Рэлеса накіравалі на будаўніцтва шахт на Паўночным Урале. З снежня 1941 да 1945 года ён працаваў адказным сакратаром газеты «Строитель» у горадзе Грамячынску (сучаснага Пермскага краю).

Ягоныя вершы публікаваліся ў яўрэйскай газеце «Эйнікайт» («Адзінства»), што выходзіла ў Маскве. Паэт заклікаў граміць ворагаў, адстойваць нашу зямлю, наша права на жыццё. Безумоўна, ён не ведаў пра тое, што творыцца на акупаванай тэрыторыі Беларусі, але ў яго творах прысутнічае адчуванне Халакоста.

У лютым 1942 года фашысты і іх пасобнікі з ліку калабарантаў непадалёк ад торфазавода расстралялі больш як 1700 яўрэяў з Чашнікаў, якія не змаглі эвакуіравацца або не паспелі пайсці на ўсход. Па іншых крыніцах, гэтая лічба дасягае 2 тысяч чалавек — палова мястэчка. Сярод іх было шмат сваякоў Рыгора Львовіча.

Іх памяці ён у 1946 годзе прысвяціў верш «Дом». У перакладзе Натэлы Горскай з ідыш на рускую мову ён гучыць так:

Наш дом не стареет — проходят года,
Но время не властно над домом.
Да только вот гости не едут сюда
Путём недалёким знакомым.

В горшках на окошках не вянут цветы,
И солнце на стёклах играет,
И жёлтые ставни свежи и чисты,
И в печке дрова не сгорают.

Но двери не хлопнут в ночной тишине,
Не скрипнут в сенях половицы —
Войти в этот дом не дозволено мне
И в нём навсегда поселиться.

Наш дом, что для внуков и правнуков дед
На долгие годы построил,
Наш дом — наяву, на земле его нет, —
Он только мне снится порою…

1945 год застае Р. Рэлеса на пасадзе літаратурнага супрацоўніка брэсцкай абласной газеты «Заря». У 1946 годзе ён працуе ў рэспубліканскай піянерскай газеце «Зорька», а з 1947 года — у сатырычным часопісе «Вожык».

Мала каму вядома, што ў 1947—1948 гадах у Мінску выйшлі ў свет два нумары альманаха «Мітн фестн трот» («Цвёрдым поступам») і альманах «Мітн клорн вег» («Ясным шляхам»). Галоўным рэдактарам першага быў Х. Мальцінскі, а другога — Гірш Камянецкі. У гэтых выданнях змешчаны і паэтычныя творы Р. Рэлеса. Аднак альманах «Мітн клорн вег» быў забаронены і пушчаны пад нож. Рыгору Львовічу ўдалося ўгаварыць работніка друкарні захаваць для яго адзін экзэмпляр. На сённяшні дзень — адзіны асобнік гэтага выдання.

У 1948 годзе пасля забойства ў Мінску па загадзе Сталіна яўрэйскага грамадскага дзеяча, народнага артыста СССР Саламона Міхоэлса, у БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, узнялася хваля дзяржаўнага антысемітызму. Пачынаюцца ганенні на яўрэйскую культуру і асабліва на пісьменнікаў, якія пісалі на ідыш. Р. Рэлеса звальняюць з рэдакцыі часопіса «Вожык» «па ўласным жаданні», а хутка выключаюць з Саюза пісьменнікаў Беларусі з фармулёўкай «за пасіўнасць». (А якая магла быць «актыўнасць», калі сродкі масавай інфармацыі не друкавалі яго твораў і не давалі магчымасці выступіць па радыё.)

У размове з аўтарам гэтых радкоў ён нагадаў:

«Мне пришлось пережить ещё один удар, стоивший немало здоровья. С мотивировкой «за пассивность» меня исключили из Союза писателей. Но здесь я должен заметить, что председатель правления Петрусь Бровка церемонию исключения провёл деликатно, чтобы не очень меня травмировать. Беседу со мной он провёл с глазу на глаз:

— Ты видишь, какая ситуация сложилась вокруг еврейских писателей? Печататься вам негде. Все еврейские издания закрыты. Так зачем считаться еврейским писателем? И из-за этого быть где-то на подозрении. Мы исключим тебя «за пассивность», чтобы над тобой не висел «дамоклов печ». Проведём заседание в твоё отсутствие, для тебя это будет не так болезненно».

Рыгор Львовіч дрыжачымі рукамі дастаў з унутранай кішэні членскі білет Саюза пісьменнікаў і працягнуў П. Броўку. Але ён адвёў яго руку з білетам і закончыў іх гутарку такімі словамі: «Спрячь его и сохрани. Будем надеяться, что он тебе ещё пригодится. Быть не может, чтобы это безумие длилось годами! Перемелется».

Для паэта насталі цяжкія дні. Ён стаў беспрацоўным, без усякіх сродкаў на існаванне. Яго адмовіліся нават узяць дворнікам у домакіраўніцтва. Домакіраўнік, былы франтавік, і, мяркуючы па ўсім, добры чалавек, калі даведаўся, што

дворнікам хоча працаваць пісьменнік, спужаўся: «Да про вас же все «вражеские голоса» говорить начнут, раструбят на весь мир. Писатель подметает улицы. И мне вместе с вами достанется».

У гэты цяжкі для яго час на дапамогу Р. Рэлесу прыйшоў супрацоўнік «Вожыка», будучы народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Па яго просьбе рэдакцыя давала Рыгору Львовічу на дом апрацоўваць пісьмы чытачоў, а за гэта, хоць няшмат, але плацілі. Потым з вялікімі цяжкасцямі і пры дапамозе знаёмства ўдалося ўладкавацца ў друкарню звершчыкам у карэктарскай з акладам 60 рублёў у месяц. Прыбіральшчыца ў той час атрымлівала 70 рублёў.

Праз некаторы час Р. Рэлес выпадкова сустрэў свайго аднакурсніка па педінстытуце Эдуарда Гушчу, які працаваў у раённым адзеле народнай адукацыі і займаўся вячэрнімі школамі. З ягонай дапамогай удалося ўладкавацца на пагадзінную працу ў адну з вячэрніх школ Мінска. Хутка гэта работа стала пастаяннай і доўжылася чвэрць стагоддзя — з 1948 па 1973 год.

Адначасова ездзіў па былых яўрэйскіх мястэчках Беларусі, каб сабраць матэрыялы для будучых кніг. У сваёй кнізе «Остров Релеса» беларускі журналіст, галоўны рэдактар часопіса «Мишпоха» Аркадзь Шульман адзначае:

«Вместе с женой Полиной они садились в автобус и ехали в городки, которые когда-то были еврейскими местечками. Командировку обычно выписывал Союз писателей Белоруссии и подписывал лично его председатель (у сапраўднасці першы сакратар. — **Э. І.**) Иван Шамякин. Он в те же годы был и Председателем Верховного Совета БССР и это спасало Григория Львовича от многих неприятных объяснений».

У 1950—1970-х гадах многія творы Р. Рэлеса друкаваліся ў варшаўскай яўрэйскай газеце «Фолкс-Штыме» («Голас народа»). У той час у ёй з’явіўся аглядны артыкул літаратуразнаўцы Меера Брукаша, у якім былі такія радкі:

«Рыгор Рэлес пабываў амаль ва ўсіх мястэчках Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей. І ўсюды знаходзіліся людзі, з якімі ён пазнаёміўся і нават пасябраваў. У выніку выйшла яго кніга «Пад кожным дахам». Гэта вельмі цікавыя апавяданні, навелы і гумарэскі аб сённяшнім жыцці людзей былой мяжы аселасці. Адначасова Рыгор Рэлес творча актыўны і ў жанры паэзіі. Аб гэтым добра ведаюць усе яго чытачы.

У яго паэзіі адчуваюцца інтымна-лірычныя матывы. Па першым ўражанні здаецца, што гэтыя матывы настолькі інтымныя, што ўсё, што ён у такіх выпадках паказвае, уласціва толькі самому аўтару. Але пазней становіцца ясна, што інтымна-лірычныя матывы ў яго вершах умела і шырока абагульнены».

З наступленнем пенсійнага ўзросту ў 1973 годзе Рыгор Львовіч цалкам аддае сябе творчай рабоце.

Чытач можа спытаць: «А што раней ён не займаўся творчай работай?» Займаўся, але сумяшчаў яе з іншай работай, якая давала сродкі да існавання.

Нараўне з паэтычнай творчасцю ў пасляванны перыяд Рыгор Львовіч актыўна пераключыўся на прозу. Найбольшую вядомасць яму прынеслі вершы, нарысы і апавяданні, апублікаваныя ў часопісе «Советиш Геймланд» («Савецкая Айчына»), кнігі на ідыш «Унтер фридлехн гимл» («Пад мірным небам») (М., 1983) і «Ибер вайсрусише штетлех» («Па беларускіх мястэчках») (М., 1983).

Ацэньваючы кнігу апавяданняў і навел «Пад мірным небам», крытык і літаратуразнаўца Залман Лібензон пісаў у часопісе «Советиш Геймланд»:

«Калі чытаеш кнігу Рэлеса «Пад мірным небам», то разам з аўтарам рушыш у шлях па знаёмых месцах. Навошта? Каб успомніць мінулае? Любавацца даўнішняй местачковай экзотыкай? Плакаць над брацкімі магіламі? Не гэта галоўная мэта аўтара. Так, ён не можа не ўспамінаць і мінулае мястэчак, якія з пакалення ў пакаленне ўкараніліся на беларускай глебе і па-новаму расквітнелі асабліва ў перадваенныя гады. Але аб гэтым па ходзе дзеяння. Галоўнае ж імкненне аўтара — адлюстраваць сучасныя карціны жыцця ўцалелых яўрэяў у вядомых і невя-

домых мястэчках, паказаць іх рысы характару, іх норавы і імкненні, а таксама іх духоўнае жыццё».

Нельга не пагадзіцца з заключнай высновай З. Лібензона, што аўтару ўдалося дасягнуць сваёй мэты.

А таленавіты яўрэйскі паэт, празаік і публіцыст, галоўны рэдактар «Советиш Геймланд» Арон Вергеліс у часопісе і ў адной са сваіх кніг напісаў:

«Кніга Рыгора Рэлеса «Пад мірным небам» мае гістарычнае значэнне. Па ёй будучыя пакаленні яўрэяў даведаюцца аб жыцці яўрэяў Беларусі пасля Катастрофы».

Вядомы публіцыст і літаратуразнаўца, галоўны рэдактар яўрэйскай газеты «Форвертс», што выходзіць у Нью-Ёрку, Іосіф Млотэк у сваім артыкуле аб творчасці Р. Рэлеса, змешчаным у гэтым выданні, адзначаў:

«Ва ўступе да кнігі Гіршы Рэлеса «Унтер фридлехн гимл» гаворыцца, што навелы і апавяданні, уключаныя ў гэты зборнік, чытаюцца з вялікай цікавасцю. Мы з нашага боку хочам дадаць, што і ў нас, у Злучаных Штатах, чытаюць гэту кнігу з вялікім задавальненнем. У ёй падкупае чытачоў тонкі, дабрадушны гумар, з якім ён паказвае сваіх герояў і інтрыгуючыя сітуацыі, у якіх ім уласціва дзейнічаць».

У 2004 годзе пры садзеянні Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын у Мінску на ідышы была выдадзена кніга Р. Рэлеса «Яўрэйскія савецкія пісьменнікі Беларусі».

Шэраг твораў Рыгора Львовіча выйшла на рускай мове: «Друзья и знакомые: Рассказы» (1963), «За тесными партами: Рассказы» (1966), «В родном уголке: Рассказы» (1973), «Отзвуки времён: Стихи» (М., 1974), «Через трудный порог. Из дневника классного руководителя школы рабочей молодёжи: Повесть» (1975), «Под каждой крышей: Рассказы, очерки» (1979), «Не розами устлан твой путь: Повести; Рассказы» (1984), В краю светлых берез» (1997).

У рэцэнзіі «Вучні і настаўнікі» на кнігу «За цеснымі партамі» Анатоль Клышка пісаў:

«Наша мастацкая літаратура не надта можа пахваліцца творамі пра сучасную школу, пра цяжкую прафесію настаўніка. І хоць кожны з пісьменнікаў прайшоў у свой час «класы і калідоры», тэму гэтую яны чамусьці занядбалі.

Па гэтай ужо прычыне з цікавасцю бярэш у рукі кніжку апавяданняў Рыгора Рэлеса «За цеснымі партамі».

Вучні, настаўнікі — усё гэта добра знаёма аўтару: шмат гадоў свайго жыцця аддаў ён школе. Таму і кнігу напісаў з веданнем справы...

Цыклам «За цеснымі партамі» аўтар адмаўляе паказуху, фальш у рабоце школы. Пераканаўча намаляваны сцэны правалу «педагагічнага эксперымента» ў настаўніцы Лолы Антонаўны, сцэны правалаў «метадаў» Эміліі Аляксандраўны. Пісьменнік сцвярджае адносіны шчырасці і патрабавальнасці ў школьным калектыве.

Астатнія апавяданні зборніка нейкім чынам пераклікаюцца з тымі, што змешчаны ў цыкле «За цеснымі партамі», менавіта таксама «педагагічнай тэмай». Яны глыбей знаёмяць нас з дзіцячым светам, насельнікі якога з такім абвостраным пачуццём рэагуюць на несправядлівасць, незаслужаную крыўду...

Пісаць пра сённяшняе жыццё школы — нялёгка, як і нялёгка працаваць у школе. Усюды шмат нязведанага, усюды патрэбны пошукі. Многімі старонкамі сваёй кнігі Р. Рэлес паказаў, што ён умее шукаць і знаходзіць».

А вось што адзначаў Рыгор Шкраба ў рэцэнзіі «Педагагічныя апавяданні»:

«Пісьменнік Рыгор Рэлес працуе настаўнікам рабочай вячэрняй школы. Гэтым тлумачыцца яго даўняя прыхільнасць да педагагічных праблем, якія ён закранае і распрацоўвае ў сваёй творчасці. Запомнілася яго невялікая аповесць «Аб тым, чаго не ведаюць вучні», надрукаваная год дзесяць таму назад. Па той дасведчанасці і ўсхваляванасці, у якой расказвалася ў аповесці пра жыццё і працу

настаўніцкага калектыву, нельга было не адчуць, што гутарка ідзе пра вельмі дарагое і важнае для аўтара, пра тое, што з'яўляецца справай яго жыцця.

Новая кніга апавяданняў Рыгора Рэлеса «За тесными партами», выпушчаная нядаўна выдавецтвам «Беларусь», працягвае размову, якую аўтар пачаў ранейшымі сваімі творамі. Тут гутарка ідзе пра людзей, якія па тых ці іншых прычынах не атрымалі ў свой час належнай адукацыі, вымушаны зноў як бы вяртацца ў сваё маленства ці ў сваё юнацтва — садзіцца за школьныя парты. У гэтым сэнс назвы новай кнігі Р. Рэлеса...

Амаль усе апавяданні Р. Рэлеса напісаны на дакладным, жывым матэрыяле, атрыманым не праз дзесятыя рукі, як гэта часам бывае, а здабытым самім аўтарам. Другая іх важная рыса ў тым, што многія з іх — творы праблемныя. Аўтар не толькі расказвае пра той ці іншы ўчынак свайго калегі-настаўніка, але і з добрым педагагічным тактам паказвае, чаму гэты ўчынак быў няправільны і як трэба было рабіць. Прачытаўшы кнігу, вы яшчэ раз пераканаецеся, што навучанне дарослых, як і навучанне дзяцей, — справа жывая, творчая справа, якая не мірыцца з шаблонам і абыякавасцю...

Менш за ўсё ўвагі аддае аўтар праблемам чыста педагагічным — як рыхтавацца да ўрока альбо як праводзіць апытанне. Ён пераважна малюе тыя сітуацыі, з якіх паўстае маральны воблік настаўніка...

Аўтар паказвае, што зладжанасць у працы настаўніцкага калектыву зусім не выключае права педагога на свой стыль у працы, на пошук і эксперымент...»

Шэраг апавяданняў Р. Рэлеса на рускай мове надрукаваны ў пятым нумары часопіса «Советская Отчизна» за 1959 год, у дванаццатым «Нёмана» за 1976 год, у брэсцкай абласной газеце «Заря», у газеце «Зорька».

Пасля смерці пісьменніка ў 2006 годзе выйшлі ў свет успаміны Р. Рэлеса «Еврейские советские писатели Белоруссии», а ў 2007-м — зборнік вершаў «Круговерть» (складальнікі Ф. Злоціна і В. Ляскоўскі). Ва ўспамінах пісьменнік умоўна раздзяліў яўрэйскіх пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру пасля 1917 года, на чатыры «прызывы».

Да першага аднёс Ізі Харыка, Зэліка Аксельрода, Майсея Кульбака; да другога — Мойшэ Тэйфа, Гірша Камянецкага, трэцяга — Генадзя Шведзіка, Руву Рэйзіна і сябе — Рыгора Рэлеса. У чацвёртым — «маладое пакаленне»: Піня Плоткін, Хаім Гурэвіч.

У зборнік «Круговерть» увайшлі і творы, якія былі перакладзены на рускую мову пры жыцці паэта, і новыя пераклады, якія раней не друкаваліся. Пераклады здзейснены А. Левінай, Н. Горскай, Я. Басіным, М. Лісянскім, Е. Палеес, Д. Сімановічам, Ю. Старасцінецкім.

Зборнік вершаў «Круговерть» адкрываецца вершам яўрэйскай і беларускай паэтэсы Алы Левінай «Вместо предисловия», прысвечаны Рыгору Львовічу.

...Так вот по городу тому,
Что лишь во сне
теперь видишь,
Слагающий стихи на идиш,
Единственный из тех, кому
Достался жребий быть поэтом.
Людей, утративших язык,
И выжить, сохранив при этом
В душе — мудрейшей книге книг —
И боль утрат невосполнимых,
И дружбы преданной обет,
И свет любви неугасимой
Ко всем, кого сегодня нет
Средь нас, так вот,
он шёл неспешно
И ничего не замечал
Вокруг, и для него звучал

Стихами каждый
камень здешний…
Он шёл — единственный поэт,
В ком речь нашла приют последний,
Затем, чтоб оставаться следу
В грядущее из давних лет

У 1999 годзе ў Мінску выйшла кніга «Мудрые еврейские сказки», а в 2000-м — «Лэхаим! Из еврейского фольклора», складальнікамі іх былі аўтар гэтых радкоў і Р. Рэлес.

Значная колькасць твораў Рыгора Львовіча надрукавана на беларускай мове. Гэта аповесць і апавяданні «Запіскі майго калегі» (1960), зборнік вершаў «Бяроза пад акном» (1961), «Аднаактовыя п’есы» (у сааўтарстве з Х. Мальцінскім. 1964), «З тых жа крыніц: Вершы і паэмы» (1993).

У рэцэнзіі Дзмітрыя Палітыкі «Радасць кожнага дня» на зборнік «Бяроза пад акном» ёсць такія радкі:

«Я перагортваю старонкі маленькага зборніка вершаў, якія даслаў мне ў падарунак, на памяць аб дзяцінстве, мой зямляк, паэт, мой друг, местачковы наш чалавек. Зборнік пераконвае мяне, што другім стала і мястэчка, і местачковыя людзі...

Я далёка ад Беларусі... На цёплым Чарнаморскім беразе трымаю ў руках маленькае паэтычнае люстэрка майго дзяцінства — вершы майго друга, і на хвіліну адступае экзатычнае хараство Крыма... Я вяртаюся на дзесяткі год назад... Напэўна, у кожнага чалавека ёсць вось такія Чашнікі, той кавалак свету, адкуль мы робім першыя крокі, адкуль пачынаюцца сцежкі-дарожкі ў вялікі свет. Гэтыя першыя ўражанні назаўсёды з намі. Уваскрэсіць іх словам, прымусіць нас з хваляваннем перажываць іх, выклікаць прыгожыя пачуцці радасці, а разам з тым павялічыць нашу любоў і павагу да людзей — якая гэта пачэсная справа для паэзіі! Ёсць такая чароўная сіла і ў зборніку Р. Рэлеса «Бяроза пад акном»....

У зборніку «Бяроза пад акном» паэт вельмі суб’ектыўны. Але гэта тая суб’ектыўнасць, якая спадарожнічае вялікай праўдзе...

Адно бясспрэчна, што кожнаму твору патрэбна праўда, мастацкая праўда. Кніжка майго друга Гіршы Рэлеса — з’ява звычайная ў літаратуры, як і тыя звычайныя факты жыцця, якія выклікалі яе. Але яна поўная паэзіі і мастацкай сумленнасці.

«Бяроза пад акном», бадай, не ўвойдзе ў вялікую скарбніцу літаратуры, якая будзе хваляваць бясконца доўга шматлікія пакаленні людзей. Яе лёс карацейшы. Яна аб нас і для нашага пакалення. Яе эмацыянальная сіла з часам будзе слабець. Кніжка пераўтворыцца ў звычайны факт літаратурнай гісторыі. І ўсё ж гэта — паэтычнае асэнсаванне нашага жыцця...

Я перачытваю «Бярозу пад акном» — зборнік не геніяльных вершаў. Але ад іх у мяне так добра на душы, я так прыемна ўзрушаны, што сваю радасць нясу і да другіх. Хочацца звярнуць увагу чытача, што выйшла з друку добрая кніжка вершаў, параіць яму абавязкова прачытаць яе, запэўніць яго, што ён адчуе там пачэснае паэтычнае цяпло, якое ўзмацняе нашу сардэчнасць, нашу веру ў дабро.

З Рэлесам-паэтам на беларускай мове чытач сустракаецца ўпершыню. Два папярэднія зборнікі выйшлі да вайны на яўрэйскай мове. Таленавітыя пераклады Рыгора Барадуліна не сціраюць аднак арыгінальнага лірычнага почырку Р. Рэлеса. Яго характэрныя лініі выступаюць ярка...

Лірыка-рамантычная ўсхваляванасць — адметная рыса паэтычнай індывідуальнасці Рэлеса. Яна адчуваецца ў кожным вершы зборніка. І калі паэт гаворыць аб вясёлым Неспакоі з вялікай літары, які паслала яму Муза, каб вывесці паэта з горкага роздуму, дык гэта вельмі трапна стасуецца да Рэлеса...

Аптымістычны лірычны голас Рэлеса ўліваецца ў хор беларускай паэзіі. Ад шчырага сэрца хочацца, каб да гэтага голасу з увагай аднёсся чытач».

На беларускую мову яго вершы перакладалі Рыгор Барадулін, Фелікс Баторын, Аляксей Зарыцкі, апавяданні і п’есы — Мікола Татур.

Па-мойму, выдатна пераўвасобіў верш Р. Рэлеса з ідыша «Каля ніцай вярбы» беларускі паэт і перакладчык Фелікс Баторын:

Дорaць успаміны
Мне неспадзяванку:
Ніцую рабіну
Над ракой Ульянкай.

Як наяве чую
Спеў маёй старонкі —
Музыку жывую
Струн-галінак тонкіх.

Цешылася сэрца —
Я, зачараваны,
Залатое скерца
Слухаў вечарамі.

Перадаць не ў стане
Я праз столькі часу
Тое адчуванне
Лёгкасці і шчасця

Ад замілавання
Увышыні на золку
Поўныя кахання,
Раставалі зоркі.

...Ды паналяталі
«Месеры», як хмары.
Кулі засвісталі,
Загулі пажары.

Не, не падманулі
Тыя прадчуванні...
Пакасілі кулі
Хлопцаў у змаганні.

Ледзь не паўмястэчка
У рове пахавана.
А вярбе над рэчкай
Жыць наканавана.

...На магіле брацкай
Помнік ёсць вячысты
І майму юнацтву,
Летуценням чыстым.

Моўчкі незабудкі
Пад вярбой кладу я
І схіляю ў смутку
Галаву цяжкую.

Акрамя таго, апавяданні і гумарэскі Р. Рэлеса друкавалія ў часопісах «Вожык», «Бярозка», «Беларусь», «Работніца і сялянка», кнігах «Дзень паэзіі-71», «Дзень паэзіі-72», «Дзень паэзіі-82», газетах «Літаратура і мастацтва», «Настаўніцкая газета», «Піянер Беларусі».

Калі аднойчы гаворка зайшла пра беларускія часопісы, дакладней пра часопісы на беларускай мове, Рыгор Львовіч у размове са мною адзначыў:

«Мне больш за 70 гадоў падабаецца часопіс «Полымя». Нягледзячы на асобныя недахопы, гэта вельмі цікавае і каштоўнае выданне, бадай, самае каштоўнае ў нашай рэспубліцы. Кожны пісьменнік, на мой погляд, можа ганарыцца, калі яго творы друкаваліся або друкуюцца ў часопісе «Полымя».

У якасці прыкладу Р. Рэлес мог бы прывесці самаго сябе. Так, у восьмым і дзявятым нумарах «Полымя» за 1955 год і ў пятым нумары за 1957 год была надрукавана яго аповесць «Пра тое, чаго не ведаюць вучні» (З запісак педагога»), у адзіннаццатым нумары за 1959 год апавяданне «На новым месцы», а ў сёмым за 1969-ы — апавяданне «Старасць адступае перад працай».

Вялікі рэзананс меў артыкул Рыгора Львовіча «Праз скрыжаваны агонь. Аб лёсе яўрэйскай літаратуры ў Беларусі», змешчаны ў восьмым нумары «Полымя» за 1995 год. Ён уключае ў сябе такія раздзелы, як «Гады росквіту», «Пад пятой сталінізму» і «У гады застою і цяпер».

Перад намі своеасаблівая энцыклапедыя «Яўрэйскія пісьменнікі Беларусі ў XX стагоддзі». Многія старонкі гэтага нарыса прысвечаны невядомым і маловядомым фактам з жыцця і дзейнасці Ізі Харыка, Майсея Кульбака, Уры Фінкеля, Элі Савікоўскага, Хезкеля Дунца, Зэліка Аксельрода, Рыгора Бярозкіна, Айзіка Платнера, Хаіма Мальцінскага, Гірша Камянецкага, Цодзіка Даўгапольскага, Ліпы Гелера, Піні Плоткіна, Фелікса Баторына.

У раздзеле ж «У гады застою і цяпер» Р. Рэлес нагадаў падзеі сярэдзіны 1950-х гадоў:

«У мяне назбіралася шмат вершаў, якія я пісаў ад узрушэння душы і хаваў ад людскіх вачэй. І ў перыяд так званага пацяплення не было ніякай надзеі, што я змагу іх надрукаваць. І я засеў над аповесцю на рускай мове. Пісаў на педагагічную тэму. Назваў аповесць «Пра тое, чаго не ведаюць вучні». Вучням, магчыма, не варта ведаць пра тое, пра што я расказаў у аповесці. Там выкрываліся негатыўныя з'явы выкладання і выхавання ў школах. Твор быў перакладзены на беларускую мову і друкаваўся з працягам у трох нумарах часопіса «Полымя».

Праз нейкі час мяне запрасіў для размовы Пётр Усцінавіч Броўка.

— Памятаеш наш угавор? — спытаўся ён у мяне — Вось і прыйшоў час. калі можна аднавіць тваё членства ў Саюзе пісьменнікаў з захаваннем стажу. Напішы заяву.

На сходзе пісьменнікаў я быў прыняты ў саюз аднагалосна».

Заканчваючы гэты артыкул, я задумаўся над тым, якое ж месца займаў Р. Рэлес у гісторыі яўрэйскай літаратуры ў Беларусі. У энцыклапедычным слоўніку адзначаецца, што ў пераносным сэнсе пад тэрмінам «патрыярх» маецца на ўвазе стары, усімі паважаны чалавек (глава сям'і, старэйшы прадстаўнік якой-небудзь галіны навукі, мастацтва і г.д.»). Менавіта гэты тэрмін як нельга лепш падыходзіць да Рэлеса, старэйшага і таленавіцейшага прадстаўніка яўрэйскай літаратуры ў нашай краіне. Цяжка нават уявіць, наколькі ён актыўна дзейнічаў у нашай літаратуры амаль тры чвэрці стагоддзя!

Адзін са сваіх вершаў Давід Сімановіч назваў «Остров Релеса»:

Правда на идише —это эмес,
Эре — по русски — это честь.
Как хорошо, что Григорий Релес
В еврейской литературе есть!

Великий поборник родного слова.
Он за идиш ведёт бои,
И выступает снова и снова
Во имя Правды, Чести, Любви.

Мои стихи перевёл на идиш —
И больше, чем я, он этому рад:
— Живой язык! Ты слышишь, ты видишь,
Как твои строчки теперь звучат?

И в самом деле звучат, как будто
Я на идише их написал...
Григорий Львович! Доброе утро!
Вам не страшен девятый вал!..

Апошняя кніга ўспамінаў Р. Рэлеса «Еврейские советские писатели Белоруссии» адкрываецца ўступным артыкулам Алы Левінай «Слово о Гирше Релесе и его книге». Яна адзначае:

«Эта уникальная книга написана Григорием Львовичем Релесом…

Известный еврейский поэт, старейший еврейский писатель, патриарх еврейской литературы Беларуси, последний из могикан — именно так называли Григория Львовича Релеса в последние годы его жизни. Очень трудно быть первым. Быть последним не только трудно, но и бесконечно тяжело. Григорий Львович долгие годы был не только последним, но ещё и единственным. Единственным членом Союза белорусских писателей, всю жизнь буквально до последнего своего дня, творившим на идише.

Релес очень страдал от своей единственности. Как он мечтал о преемнике! Как хотелось ему, чтобы появился кто-то, кто принял бы от него поэтическую

эстафету, кто не эпизодически, а всегда писал бы на идише, как делал это он, несмотря на то, что, увы, этим произведениям, как и языку, была уготована печальная участь. Эта мечта, эта боль, эта забота никогда не покидала Григория Львовича. Вернее, три боли, три главных заботы его жизни: судьба его родного языка, судьба его неопубликованных произведений и судьба его мемуаров — главной книги его жизни.

…Но более всего переживал он за судьбу своих мемуаров — его последней и самой главной книги.

Эту книгу он писал почти всю жизнь. Трагическая судьба когорты (так называл Григорий Львович Релес плеяду ярчайших еврейских писателей Беларуси первой половины XX века) стала его незаживающей раной, как и судьба самой еврейской литературы. Имена Изи Харика, Моисея Кульбака, Зелика Аксельрода, Цодека Долгопольского, Шмуэля Галкина и многих других были для него не просто именами выдающихся писателей и поэтов, младшим товарищем которых он являлся, с которых брал пример, у которых учился. Это были имена близких ему людей, с которыми он часто встречался в повседневной жизни, разговаривал, жил одними заботами, дружил. Преданность этой дружбе Релес пронёс через всю жизнь…

Г. Л. Релес писал книгу на своём родном языке. Я думаю, всем хорошо известно, что издать такую книгу, к тому же на идише, в советское время было практически невозможно. Да и в постсоветское время тоже. И всё-таки усилиями самого автора, Союза белорусских еврейских объединений и общин и Виленского (Вильнюсского. — **Э. І.**) еврейского института в 2004 году книга увидела свет. Григорий Львович даже успел побывать в Вильнюсе на её презентации, подарить её кое-кому со своим автографом. Его радость омрачалась лишь тем, что, к сожалению, не так много людей у нас в стране смогут прочитать книгу в оригинале. Его последнюю книгу.

Сейчас книга «Еврейские советские писатели Беларуси» появилась в переводе на русский язык и стала доступной всем. Вот только Григорий Львович уже никогда не узнает об этом.

Очень больно осознавать этот факт. Некоторым утешением является лишь то, что теперь жизнь тех, о ком повествует книга, как и жизнь её автора, продлится по меньшей мере на протяжённость жизни всех, кто её прочтёт. Ведь человек жив, пока его помнят».

Сусветна вядомы яўрэйскі вучоны-культуролаг Гірш-Довід Катц адзначыў: «Гирш Релес — достойный продолжатель дела славной плеяды еврейских писателей, работавших в прежние времена в Минске. Ему выпала горькая, но очень ответственная участь остаться одному и поведать миру об ушедших собратьях».

А народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, які высока ацэньвае творчасць Рыгора Львовіча і з’яўляецца перакладчыкам шэрагу яго твораў на беларускую мову, падкрэслівае: «Як іскра ў попеле, паэзія Рыгора Рэлеса не дае астыць вугалькам роднай мовы».

Незадоўга да смерці Рыгора Львовіча памерла Паліна Копелеўна Роскіна — ягоная другая жонка, верная спадарожніца жыцця, чалавек, які разумеў яго без слоў. Яны пражылі разам больш як сорак гадоў. Р. Рэлес называў яе старым яўрэйскім імем Перл, што ў перакладзе на беларускую мову азначае — жамчужына. У прасторнай кватэры пісьменніка стала вельмі адзінока. Асабліва ён перажываў з-за таго, што большасць яго вершаў, аповесцей, апавяданняў, нарысаў і п’ес так і засталася неапублікаванай ні ў арыгінале, ні ў перакладзе. А хутка — 18 верасня 2004 года — на 92-м годзе не стала і яго самога.

Я добра ведаў Рыгора Львовіча амаль пятнаццаць гадоў. Нягледзячы на выключную адданасць ідышу і яўрэйскай літаратуры, ён заўсёды заставаўся палымяным інтэрнацыяналістам, які захапляўся як беларускай, так і рускай куль-

турай, лепшымі рысамі менталітэту беларусаў, схіляў сваю галаву перад «Праведнікамі народаў свету» — жыхарамі Беларусі, якія, рызыкуючы сваім жыццём і жыццём сваіх родных, ратавалі беларускіх яўрэяў у суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны.

Менавіта павагай да беларускага народа і беларускай культуры пранікнуты яго верш «Лявоніха», напісаны ў 1963-м годзе:

Погляди-ка, Нохим, погляди, папаша,
Как Маринка-Мера «Лявониху» пляшет!

Красные сапожки, юбка из холстинки,
Ленты так и вьются в косах у Маринки.

Рядом с ней Микола в шёлковой рубахе —
Из гнезда родного вылетели птахи.

На сердце отрадно у Агаты старой —
Ой, нашёл сыночек девушку под пару!

А кругом все гости хлопают в ладоши:
Хороша Маринка! И жених хороший!

Тут и я взметнулся да сорвался с места:
Ой, хорош Микола! Хороша невеста!

Братья дорогие, я от вас не скрою —
Мне наш «Фрейлэхс (яўрэйскі вясельны танец. — **Э. І.**)
Снится по ночам порою.

Но, пожалуй, всё же больше мне по вкусу
Танец этот славный — танец белорусский.

*Пер. с идиша Н. Горской.*

Жыццё і багатая творчая спадчына Рыгора Рэлеса дастойны таго, каб яго імя назаўсёды заставалася ў нашай памяці. Было б вельмі справядлівым, каб яно было ўвекавечана на яго радзіме — у горадзе Чашнікі, Мінску і іншых населеных пунктах.

**Казімір КАМЕЙША**

# СВАЁЙ БАРАВІНЫ АТОЖЫЛАК



*Юрась Свірка.*

Гэтак Юрась Свірка сказаў аднойчы ў сваім вершы: «Я — атожылак долі сялянскай!» Яго лясное паходжанне не дазваляла яму шукаць нейкія іншыя параўнанні для сваёй паэтычнай асобы. Менавіта атожылак, жылісты, гнуткі, але не зломісты расток роднага дрэва, які добра адчувае і карані сваіх бацькоў, і родную глебу, і ўсё, што вышэй яе, да самага неба. Атожылак, скіраваны да жыцця. Лепш і не скажаш. Гэтак жа і слова, як той атожылак, песціў ён, гадаваў у сваіх вершах, пакуль не разрасліся яны ў карэністую і кроністую баравіну. Так і кнігу некалі назваў — «Баравіна» (1967).

Не часта паэты трымаюцца адной нейкай тэмы, ён жа часцей за ўсё спяваў пра родны лес, пра сваю лясную Бягомльшчыну, якую яшчэ і дасюль называюць партызанскім краем. Акордамі ў яго вершах перахлісталіся і шчырае замілаванне непаўторным лясным хараством, і той пякельны боль, які прынесла нашаму краю бязлітасная вайна. Праз тую ж сасну ён спавядаўся ў вернасці да гэтай зямлі, падкрэсліваючы крэўную роднасць з ёй:

Сасна не забываецца напомніць,
Што цень яна адкінула на поўнач,
Каб быць бліжэй да дома, хоць на цень…

Паэты добра ведаюць: калі ты трымаешся нейкага аднаго накірунку, тым больш адной тэмы, заўсёды ёсць небяспека дзесьці самапаўтарыцца. Хай сабе і мацнейшым акордам, але спяваць ужо аднойчы праспяванае. Тое заўсёды заўважыцца, калі вершы сабраны ў адзін зборнік. У яго ж вершах была сама лясная арганічнасць, непаўторнасць. Радкі і вобразы галініліся, перапляталіся ў адзінае, аднак, як і бывае ў самім лесе, кожнае дрэва — сваім ладам, малюнкам, адметнай прамізной ці выгінам, каб потым вырастаць у гэткую баравіну адзінства. Я і сам у паэзіі пайшоў аднойчы амаль тым жа шляхам, і мне ягоны творчы пошук быў асабліва зразумелы і блізкі.

Як ні дзіўна, а ўпершыню пра паэта Свірку я даведаўся ў 1953 годзе, прачытаўшы ў часопісе «Бярозка» радкі яго верша на смерць Сталіна. У тым годзе ён ужо заканчваў сярэднюю школу і збіраўся паступаць у БДУ, хацеў быць журналістам. Чамусьці ў школьныя гады паэзію мы амаль не аддзялялі ад журналістыкі, лічылі, што яны нібыта ўзаемазвязаны, хоць потым пераканаліся, што гэта далёка не так. І пашанцавала яму, ён паступіў на аддзяленне журналістыкі

філфака. Ніхто яго, вядома, не папракаў потым за той малады верш, бо пісаўся ён шчыра, з добрай верай у «правадыра». Гэта ўжо потым той перарасце ў нашых вачах у грознага ідала, і паэты, старэйшыя і маладзейшыя, дружна возьмуцца развенчваць таго, каго зусім нядаўна да змогі ўслаўлялі, скідваць з п'едэсталаў ды выкрэсліваць з радкоў. Магчыма, ляжачых і сапраўды не б'юць, а вось мёртвых часам б'юць нават бязлітасна — тым жа не баліць.

Юрасю Свірку, як мне здаецца, намнога больш балела іншае, — яго ваеннае, амаль безвыходнае дзяцінства, дзе было бясхлеб'е, блакадные ночы ў балоцістых залессях, дзе пахла дымам і порахам, а птушыныя спевы часта заглушала бязладная страляніна. Тады лясная перапёлка ў жыце спявала паэту вось як:

Хлебнае поле чужынец таптаў,
Нашага прагнуў дабра:
А перапёлка з някошаных траў:
«Гнаць пара.
Гнаць пара…»

Раны вайны залячылі даўно.
Не пунсавее крывёю зара.
І перапёлка з людзьмі заадно:
«Жыць пара.
Жыць пара!..»

Сам паэт пра сваё ваеннае дзяцінства згадваў так: «Вайна… Дзеці вайны… Бягомльскі край, партызанскі, пакутны. Вось некалькі кадраў-штрыхоў з той жахлівай ахвярнай пары.

Нашы палонныя салдаты (учарашнія байцы) — за калючым дротам у Бягомлі. Я разам са старэйшымі жанчынамі перакідваю праз агароджу хлеб, вараную бульбу, сала.

Варожыя танкеткі і фашысты з закасанымі рукавамі: «Матка, млеко, яйко, шпек». І акрамя матчынага «дару», бачу, як няпрошаныя госці прыхопліваюць кумпячок і адкручваюць галовы курам. Сведчу, як на ўскрайку нашай вёскі, на балацявіне расстрэльвалі фашысты яўрэйскія сем'і.

З пажылымі мужчынамі на партызанскім аэрадроме за Бягомлем выцягваем вяроўкамі самалёт, які прыляцеў з Вялікай зямлі на сушэйшае месца.

Блакадныя дні 43-га, 44-га гадоў. Абстрэлы, аблавы, смерці.

Жыццё ў зямлянцы. Мая вёска Маргавіца і мястэчка Бягомль спалены датла.

Восенню 1944-га хлапчука-падлетка паклікала школа ў вёсачку Атрахімаўка за тры кіламетры ад Бягомля. Не помніцца, ці была ў маёй зрэбнай торбачцы першая кніга чалавека — Буквар.

Тэма ваенна-партызанская, тэма мужнасці, гераізму, як раней пісалі, чырвонай ніткай праходзіць праз усю маю творчасць («Світанне 22 чэрвеня», «У былой партызанскай зоне», «Партызанская соль», «Дзеці вайны», «Партызанская тужурка», «Трое шчаслівых», «На партызанскім аэрадроме», «Удовы помнік абыходзяць», «Маё дзяцінства». Вярнуўся я да гадоў ліхалецця і новай аўтэнтычнай паэмай «Янчуры». Было ўсё даўно, ды балючая памяць не забывае».

Ён нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і, дзе было восем дзяцей. Юрась — самы малодшы. Бацька Мікалай Іванавіч браў удзел у Грамадзянскай вайне, інвалід. Бачыў яго толькі адзін раз, калі вяртаючыся з камандзіроўкі разам з паэтам зазірнулі і ў яго Маргавіцу, што была пры самай дарозе за Бягомлем. Вёска гэта падаравала нашай літаратуры яшчэ аднаго паэта — Алеся Ставера, дарэчы, дваюраднага брата Юрася. Памятаю, быў позні восеньскі вечар з густой лясной цемрай і імжыстым дажджом. Нас цёпла сустрэла маці паэта Акуліна Пятроўна, а бацька недзе бавіўся ў суседзяў, і мы ўдвух адправіліся на пошукі яго. А потым гаманліва вярталіся з нейкай крайняй хаты. Мікалай Іванавіч, паскрыпваючы драўляным пратэзам, кульгаў паперадзе, а мы ледзь не подбегам — услед за ім. Мы не доўга пасядзелі за сталом, прыспешваў шафёр, але за знаёмства ўсё ж перакулілі пару чарак. Бацька нарасказваў нам нейкіх

свежых вясковых навін, а маці так і не паспела праспяваць нешта народнае. А пявунняй, як казаў Юрась, была яна выдатнай, ведала шмат казак ды баек. «Ну а як жа там унучкі гадуюцца?» — перапытвала неаднойчы. «Летам прывязу», — адказваў сын.

Я ведаў, што ў біяграфіі майго сябра была і яшчэ адна змрочная старонка. Ён перанёс цяжкую хваробу, і жыццё яму ратавалі ў Грузіі. Пра гэта паэт, здаецца, нідзе і ніколі не згадваў. Прачыталася толькі аднойчы ў вершы:

Рэзалі, калолі і ламалі.
Сіні шрам застаўся на плячы.
Мне жыццё у смерці вырывалі
Добрыя грузінскія ўрачы…

З вуснаў паэта я амаль не чуў ніякіх скаргаў, а вось плячо часта падводзіла яго. Бывала, пры нейкім неасцярожным руху з ім ды рукой узнікалі праблемы. Часцей за ўсё такое здаралася летам, падчас адпачынку, калі ён далучаўся да працы касцоў ды мясцовых лесарубаў. А там трэба было не на словах сцвярджаць сваю сялянскую годнасць. Ды Юрась і тут быў сярод самых першых.

Мы тады працавалі ўжо разам на Беларускім радыё, вялі ўдвух аддзел паэзіі. Я прыглядаўся да свайго старэйшага таварыша, шмат чаму вучыўся ў яго. Розніца ў дзесяць гадоў не лічылася тады нейкай адлегласцю ва ўзросце. Як і прасіў сам старэйшы, былі заўсёды «на ты».

Радком стаяць у мяне на кніжнай паліцы яго паэтычныя зборнікі. Кожны са сваім арыгінальным аўтографам. Адзін так і называецца — «Аўтограф». Большасць з іх прыйшлі адтуль, з Чырвонай, 4, дзе мы ўчатырох — ён, Іван Калеснік, Валянцін Мысліве ц ды я (крыху пазней далучацца і Мікола Маляўка, і Яўген Хвалей, і Віктар Шымук) сядзелі ў цеснаватым пакоі на другім паверсе. Вуліца Чырвоная нейкім цудам захавала сваю старую назву, а як узнікла яна, часта згадваў стары мінчук Алесь Звонак. «Хлопцы, — казаў ён, — у той дарэвалюцыйны час на гэтай вулачцы (яна і зараз маленькая) шмат паблісквала чырвоных ліхтароў, а што гэта такое, вы самі добра ведаеце. Адтуль і назва — Чырвоная». Сапраўды, думаў я, малады, інакш было б іншае вытлумачэнне, і назва была б іншая. Магчыма, — Красная. Ледзь не ўсю сцяну ў пакоі займала вялізнае акно, якое выходзіла на вуліцу. І часта прыпадаючы да яго, можна было бачыць жоўтую сцяну насупраць, а на ёй над самым балконам выява юнака, на далоні якога застыў цэментавы голуб. Голуб дзюбкай сваёй схілёны да рукі дзяўчыны. Зусім знаёмы падтэкст старога архітэктара! Акно падаравала мне верш пра «жоўты дом». Праз шыбіну яго сонечным зайчыкам я выклікаў аднойчы на спатканне незнаёмую прыгажуню, што жыла за акном насупраць. Там, за акном, і пазнаёміўся я, яшчэ нядаўна радавы салдат, з сапраўдным генералам. Але праца на радыё абяцала мне шмат дарагіх сустрэч з сапраўднымі генераламі ад літаратуры. Ім я і буду ўдзячны да апошніх сваіх дзён.

У «літаратуршчыкаў», як нас называлі тады калегі-журналісты, было крыху больш, чым у астатніх, волі. Яны маглі сярод белага дня смела падняцца і пакіраваць у тыя ж «Чорныя скалы» (кафэ на рагу Камуністычнай і Чачэрына) і ўзяць «на грудзі» нейкую чарчыну гарачыні. Балазе, гэта на эфіры ніяк адмоўна не адбівалася.

Радыёэфір тады жартам мы называлі «малатарняй». Там перамалочвалася дружным чынам усё, што падавалі нядрэмныя журналісты, — і цікавае, і не надта. Слова — хоць і не верабей, але, уважліва слухаючы, злавіць яго за хвост можна. На агульных лятучках, дзе заўсёды шмат гаварылася пра майстэрства радыёжурналістаў, пра якасць самой эфірнай працы, часта знарочыста давалі слова нам, «літаратуршчыкам». Начальства ведала пра нашу пільнасць адносна творчай безгустоўнасці, відавочных агрэхаў і пралікаў, нязграбна прычэсаных думак ды высноў. Адно зачытванне ўсяго гэтага выклікала вясёлы смех аўдыторыі, падымала паслясвяточны настрой — лятучкі, звычайна, праводзіліся па панядзелках. Можа, па гэтай прычыне і недалюблівалі многія непрадказальных

хлопцаў з 46-га пакоя. Балазе мы заўсёды адчувалі падтрымку самога старшыні камітэта пісьменніка, таленавітага драматурга Вячаслава Пятровіча Палескага.

Людзі творчыя, асабліва паэты, заўсёды прагнуць арыгінальнасці. Нам і тую ж казённую заяву на адпачынак хочацца падаць зусім не казённым чынам. Неяк і Юрась Свірка, пачаўшы пісаць тую самую заяву, вывеўшы першае слова «прашу», раптам рэзка крутануўся ў крэсле:

— Пачакайце, а чаму гэта я павінен прасіць? Я заслужыў свой адпачынак і мне ён гарантаваны…

Заява атрымалася прыкладна такой: «Хачу пайсці ў чарговы адпачынак…» Галоўны рэдактар наш Анатоль Залеўскі (малады перспектыўны журналіст, аўтар шматлікіх інсцэніровак беларускай прозы, які рана пайшоў з жыцця) заўпарціўся, нават закрыўдаваў:

— Ну, хопіць спектакль разыгрываць, я не падпішу і не панясу начальству такую заяву!

— Падпісвай, Толя! — настойваў Юрась. — Калі баішся, я сам аднясу тую заяву…

Заява была падпісана. Ю. Свірка сам панёс яе да намесніка старшыні камітэта Аляксандра Бараноўскага. Той падпісаў яе, нават не чытаючы. З таго часу казёншчына і афіцыйшчына ў справаводных паперах «літаратуршчыкаў» знікла. Нават у гэтым, дробязным, існаваў творчы пошук. Замест традыцыйнага «прашу» пісалася рознае, кшталту «наспеў час адпачынку» ці «лета просіць перадыху»… Весела рэагавала на гэта бухгалтэрыя. А для нас саміх яно азначала нават нейкую перамогу ў адстойванні свайго намеру. Нават свае рабочыя планы і справаздачы, якіх патрабавалі амаль штодня, мы стараліся падвесяліць арыгінальнымі ўступамі ці адступленнямі.

У рэдакцыі, апроч нашага галоўнага, амаль не было курцоў, а вось сярод аўтараў, частых наведвальнікаў, людзей добра вядомых у рэспубліцы, аматараў сіняга дыму — вельмі шмат. Для іх рукою Свіркі было напісана пажаданне, якое многа гадоў вісела на нашых дзвярах, — «Куры на двары!» Здаецца, яно мела сваю сілу, бо курылі ў тыя гады, як мне здаецца, намнога больш, чым сёння.

У горадзе, «сыне д'ябла» (С. Жаромскі) здараецца ўсялякае. Неяк не пашанцавала і Юрасю Свірку. Позна вечарам, ужо бліз ад дому, а жыў ён па вуліцы Харужай, шлях паэту нечакана перагарадзілі хуліганы. Тады ён трапіў на бальнічны ложак. Як часта і бывае ў такіх выпадках, вінаватых не знайшлі. А ўсё дрэннае часам хутчэй забываецца, чым добрае. Забылася і тое.

Паэт не павінен траціць дарэмна часу, нават калі самі абставіны не спрыяюць яго творчаму настрою. Менавіта гэткага правіла прытрымліваўся і Юрась Свірка. Колькі разоў бачыў я свайго калегу за вельмі дзіўным заняткам: ён сядзеў за сталом і, забыўшыся на ўсё, спісваў густа сваім дробным почыркам старонкі перакіднога календара. Рабілася гэта адначасова з чытаннем якога-небудзь часопіса ці паэтычнага зборніка. Колькі разоў я спрабаваў зазірнуць у тыя запісы: але там і сам эксперт быў бы бездапаможны. Гэта, як зразумеў я потым, былі нейкія асацыяцыі ад прачытанага, прыкідкі нейкіх новых строф ці вершаў. Ён ніколі не перагортваў тыя спісаныя лісткі, нават забываўся на іх. А вось калі збіраўся ў чарговы адпачынак, некалькі дзён сядзеў і выпісваў з тых каляндарных занатовак усё патрэбнае ў сшытак. Пасля адпачынку ён склікаў нас усіх у пакоі і чытаў услых усё тое, што з былых «загатовак» вырасла ў вершы. Напісанага часам хапала на добры зборнік. Чытаў ён захоплена, часта прыўздымаючы акуляры, і сам нібы хмялеў ад свайго голасу, жэстам рукі яшчэ падкрэсліваў нешта самае галоўнае, нечаканае. Ён любіў нечаканыя канцоўкі ў вершах. І ў іншых, калі заўважаў штосьці нечаканае, дык не хаваў свайго здзіўлення: «Во як закруціў!..»

Я знарок так падрабязна ў гэтым расповедзе пра паэта спыняюся на яго радыйнай працы. Потым ён зменіць звыклае рабочае месца, дзе, як сам казаў, засядзеўся, і трывала асталюецца ў «ЛіМе», дзе будзе больш прасторы і часу для ўласнай творчасці. Радыё ж, як здаецца мне, спрыяла яго творчаму самараскрыццю, назапашванню гэтак званай творчай энергіі, адсюль ён выйшаў ужо выразна

сфарміраваным паэтам, са сваім голасам і манерай паэтычнага ўвасаблення і пераўвасаблення, урэшце, — з немалымі творчымі набыткамі.

У 70—80 гады ўжо мінулага стагоддзя ў паэта быў незвычайны творчы ўздым, вершы ягоныя нізка за нізкай друкаваліся ў «Полымі», «Маладосці», «Беларусі», у альманаху «Дзень паэзіі», адна за адной выходзілі паэтычныя кнігі. Усё гэта заўважалася, але чамусьці крытыкі не спяшаліся адгукацца на новыя паэтычныя «адкрыцці». Для іх хапала даўно заўважаных і апрабаваных імён. Машына пахвальбы ўжо даўно была раскручана ў пэўным накірунку. І мала хто адважваўся павярнуць яе ў іншы, незнаёмы. Думаю і сёння пра тое, што ён быў не заслужана абыдзены ўвагай. Паэт і сам разумеў, што яму не хапае той увішнасці, якой аж залішне мелася ў яго некаторых аднагодкаў. Выхад з гэтага ён бачыў толькі ў адным: пісаць яшчэ лепш, нібы кідаючы тым самым выклік усім астатнім. Партыйная крытыка тых гадоў заклікала славіць рабочы клас, «захапляцца музыкай турбін», матораў і станкоў, а ён мужна, па-сялянску гнуў сваё, вясковае:

Заглядаю я у вёску, як у слоўнік,  
Каб упэўніцца, што правільна пішу.

Можна і не сумнявацца: пісаў правільна, ды яшчэ надзвычай вобразна, ёміста і запамінальна, як быццам прымерваўся да вечнасці.

Вясковая лірыка таго часу ў многім была аднастайная, нават павярхоўная. Паэты гарой уставалі супраць так званай урбанізацыі, плакалі па вёсцы, па харастве роднай прыроды, супрацьпастаўлялі яе гарадской шэрасці і нудоце, а самі надзейна трымаліся за гарадское цяпельца. І да сябе самога адношу той грэх. Неяк Юрась Свірка ў размове прызнаўся:

— У вёсцы я вершаў ніколі нікому не чытаю, толькі там іх часта пішу…

— Як гэта? — не зразумеў я.

— А вось ты паспрабуй свае прачытаць у сваіх Навіках. Паглядзіш, што будзе…

Зразумеў я паэта, калі прачытаў яго адзін верш:

Калі б я дома вершы прачытаў  
Пра маляўнічасць родных краявідаў,  
Я з галавой сябе,  
напэўна б, выдаў  
І больш ніколі б вершаў не пісаў.  
Я знаю, што дзяды такія ёсць,  
Яны спыталі б важна,  
не для смеху:  
«Навошта ж ты ад нас, сынок, паехаў,  
Калі у нас такая прыгажосць?»

Тэма вёскі яшчэ і сёння традыцыйна гучыць у нашай паэзіі, і сёння вырашаецца яна даволі прамалінейна, шляхам супрацьстаўлення аднаго другому, нейкіх малазначных кантрастаў. Усё як быццам і на ўзроўні, але не вышэй таго. Няма той самай нечаканасці ці вобразнай выбуховасці. Вядома, ніхто не можа паэта пазбавіць права апяваць родную красу, складаць гімны прыродзе і свайму роднаму кутку, які ў кожнага самы найлепшы. Але адметным ён, звычайна, бывае настолькі, наколькі адметны сам паэт.

Юрась Свірка ўжо сваёй першай кнігай сцвердзіў сябе як дужа эмацыянальны, тонкі і ўдумлівы лірык. Вельмі шчырым і пяшчотным паўставаў ён у сваіх вершах. Ужо сама назва кнігі «Шэпчуцца ліўні» аддае той самай пяшчотай. Прамаўляеш гэтыя два словы, а за імі відаць цэлы зрокавы малюнак. А чаго варты гукапіс! Там і шэпт таго самага цёплага ліўня, і свежасць, і чысціня, і духмянасць.

Аднак паэт, выпрацоўваючы ў сабе добрае паэтычнае дыханне, не павінен забываць і дыханне самога часу. Нельга адгарадзіцца нейкімі сценамі прыроднага хараства ад таго, чым жыве твой народ, твая сям’я, блізкія табе людзі, якія поўнай мерай зведалі чэмер самых розных наступстваў, сутыкаліся ў сваім жыцці

з горам і бядой, праўдай і няпраўдай. Сумленне не дае на гэта дазволу. Свірка востра адчувае і ўспрымае ўсё тое, што дзеецца вакол яго. Усё гэта ён занатоўвае ў памяць, у якой, аказваецца, ёсць і свая біяграфія. Нездарма назву «Біяграфія памяці» (1981) атрымоўвае адна са знакавых кніг паэта. І не крычыць аўтар, нават не пратэстуе ў сваіх вершах, а толькі разважліва ды ўдумліва асэнсоўвае тое, што яму баліць, ды робіць нейкія свае высновы. Такім мне ўяўляецца ягоны верш «Сытыя чэргі»:

Я не скажу радкоў хвалебных
Пра чэргі: сытыя яны.
Яны — не сёстры чэргам хлебным,
Што помню я пасля вайны.

О чэргі, чэргі… як світальна
Жыццё высвечваецца ў іх.
Не пастаю каля крыштальных,
Не пастаю ля залатых.

Такія чэргі пакажыце
(Няхай уявяцца і ў сне),
Там, дзе сумленне ў дэфіцыце
І па завышанай цане.

Што ж тычыцца самой любові да роднай прыроды, дык тут у паэта таксама няма ніякага крыку. Усё ціха, але адметна і пераканаўча. У нядаўнія яшчэ часы такую лірыку называлі «ціхай». Нешта я не памятаю таго, каб лірыка дзесьці была крыклівай. Яна заўсёды — сама ціхасць, шчырасць, пяшчота і лагода. Так, як гэта і ёсць у Юрася Свіркі. Паглядзіце, з якой паважлівасцю кажа нам паэт пра тую ж яблыньку, што саджае ў садзе:

Саджаю яблынькі я ўвосень
І так стаю,
Каб нават цень,
Мой цень, не ціснуў на карэнне.

Я злавіў сябе на тым, што яго вершы лёгка запамінаюцца, прычым пасля першага прачытання. Гэта таксама гаворыць само за сябе. Можа, таму, што ў іх шмат афарыстычнага, жыццесцвярджальнага. Мы часта выступалі з ім у самых розных аўдыторыях, і мне здавалася, што для чытання ён выбірае не самыя галоўныя свае вершы. З паэтамі такое бывае. Часам я казаў яму пра тое, а ён апраўдваўся: «Гэта не ўсе зразумеюць». А чытаць было што. Мала чытаў ён і свой вядомы верш «Хачу прачнуцца». А мне заўсёды карціць працытаваць яго. Не ўстрымаюся і на гэты раз:

Хачу прачнуцца я праз сотні год,
Паслухаць траў і ветру шапаценне,
Хачу я толькі на адно імгненне
Паслухаць, як жывеш ты, мой народ.

Хачу паслухаць шум сваіх бароў
І пахадзіць прасекаю лясною,
Спыніцца над Бярозаю-ракою,
Паслухаць шоргат сініх чаратоў.

Калі пачую: ты жывеш, народ
(Па голасу пазнаю беларусаў),
Тады спакойна на пагост вярнуся
І зноў засну —
На сотні тысяч год.

Дык гэта ж якраз тое, што нам усім даўно балела і баліць, тое, што не павінна пакінуць абыякавым і чалавека з дзён наступных. Бо гэта дума і хваляванне за нас, наш лёс і нашу будучыню.

Любіў паэт іншасказальнасць, падтэкст, і ці то фальклорнымі вобразамі, ці нейкімі сімваламі ад прыроды яму часта ўдавалася засяродзіць нашу ўвагу на самым трагічным моманце або на нейкай нечаканай выснове.

З каляндарнага лістка на стале вырас надзвычай каларытны верш пра тую ж касу, якая знішчыла цэлы луг пяшчотных і непаўторных красак і зараз вырашае так: «Вось пайду пад страху і павешуся». Цытую з памяці, а таму не ручаюся за дакладнасць.

Быў яшчэ верш пра дарогу, дзе з горыччу скажацца: «Абганяюць нас, буланы, абганяюць!» Гэта ўжо пра свой творчы боль, тое самае суперніцтва, якое хвара-віта перажываюць паэты.

З усяго, што трымае памяць, часта згадваю верш пра тое беларускае Е ў першым складзе перад націскам. Знайшоў жа паэт свой ход у тым вядомым граматычным правіле, згодна якому Е ў першым складзе перад націскам пераходзіць у Я:

Ты адкрыта жывеш,
Не хаваешся ў зацішку.
Як жа маешся ты,
Першы склад перад націскам?

Трымаецца, як бачым, і даволі трывала крэўнае наша крывіцкае Я, жыве і здзіўляе свет мужны народ, якія б ні пасылаў Бог яму выпрабаванні. Пра іх, тыя самыя выпрабаванні, у паэта таксама нямала вершаў. Нават самы абыякавы чытач не можа абысці ўвагай падобнага кшталту радкі. Яны хвалююць і бяруць, як кажуць, за жывое.

Гартаючы паэтычныя кнігі Юрася Свіркі, заўважаеш, як шмат у іх вершаў, навеяных дарогамі. Паэты любяць дарогі, ахвотна і пішуць пра іх. Дарожных вершаў Юрася Свіркі хапіла б на добры паэтычны том, дзе, я ўпэўнены, не было б вершаў-блізнят, якія б паўтаралі сябе, хоць дарогі ў родным краі часта бываюць падобныя адна на адну. А ў нас з ім было і шмат сумесных, часта непрадбачаных, але памятных дарог. Сёння, праз далячынь часу, усе яны нібыта зліваюцца ў адну, нібыта здарыліся ўсе аднойчы і ўсе адразу. Добра высвечваецца ў памяці адна, зімовая, якую падараваў нам 1973 год. Тады, атрымаўшы нейкі ганарар, у добрым пераднавагоднім настроі, мы хадзілі па заснежаным Мінску, часам зазіралі ў нейкія забягушнікі, а самой душы хацелася прыгод. І ён раптам успомніў Мечыслава Шаховіча, які працаваў тады рэдактарам Старадарожскай раённай газеты.

— А давай махнём да Мечыка! — загарэўся нечакана Юрась. — Ён нядаўна званіў, запрашаў мяне.

Доўга не раздумвалі, і «зборы былі не доўгімі», як спявалася ў вядомай песні. Праз нейкі час, без цяжкасці набыўшы білеты, сядзелі ўжо ў аўтобусе. Зусім новай была для мяне тая дарога ў Старыя Дарогі. Тут ужо, хочаш не хочаш, а сам сабой прамаўляецца каламбур. Дарога і сапраўды шмат у чым каламбурыла. Перш чым адправіць нас на вечарыну ў раённы Дом культуры, павяла ў тутэйшую лазню, добра папарыла, а потым і ўсадзіла за стол, наліла самай вядомай у нашым краі аржаной моцы. А прыгоды ўсе пачаліся назаўтра, калі па занесенай сумётамі дарозе пакіраваліся на Асіповічы, у лясную вёсачку Заельнік, радзіму жонкі паэта. Стары рэдакцыйны «газік» буксаваў, вязнуў у высокіх гурбах, увесь час даводзілася выходзіць і падсабляць старэнькай тэхніцы. У дадатак да ўсяго ў машыне раз за разам выбівала хуткасці, і малады шафёр не паспяваў падпіраць хуткасны рычаг нейкім драўляным рагачом. Нарэшце заселі мы капітальна, і тады ўтрох з рэдактарам і Юрасём пабрылі ў бліжнюю вёску прасіць трактар. Вясёлы трактарыст дацягнуў нашу «лайбу» да самай цешчынай хаты, і ўжо неўзабаве ў ёй шумела добрае застолле. На яго сышліся і сваякі, і суседзі. Юрася вяскоўцы прымалі як самага дарагога госця, а яшчэ і паэта. А прыемнай нечаканкай той сустрэчы быў дзікі мёд на закуску. Перад гэтым гаспадар спілаваў у лесе асіну, а ў ёй таілася пчаліное гняздо ды яшчэ з добрым набыткам мёду. Круглячок з дуплом стаяў у сенцах, і мы самі налівалі з яго ў місу рэдкаваты духмяны мёд разам з сотамі, аблізваючы вусны і пальцы. Ах, як хораша смакаваўся ён на лусце счарсцвелага вясковага хлеба! Такое, каб і хацеў, не забудзеш.

Нехта з вяскоўцаў вяртаўся гэтым часам з палявання. У хату ён заваліўся проста са стрэльбай-дубальтоўкай. Пакуль налівалі госцю чарку, нехта прапанаваў выйсці на двор, пакуль не сцямнела, ды крыху пастраляць. Выйшлі ў сад, зарадзілі дубальтоўку. Першы стрэл дазволілі самаму паважанаму з нас, Юрасю. Нехта вынес з сенцаў рыдлёўку, чаранком уваткнулі яе ў гурбу ля яблыні, і яна сталася мішэнню. Юрась не захацеў цэліцца, падняў рулю і проста бабахнуў дуплетам у неба. Я ж дык добра падзяўбаў тую рыдлёўку шротам, ледзь не перабіў чаранок. Тым часам хтосьці ахвяраваў пад мішэнь сваю старую вушанку. Ад яе, здаецца, і засталіся адны толькі вушы. Дружны рогат напаўняў сад, ляцелі ў снег адстраляныя гільзы. Спагнаўшы ахвоту, стралкі неўзабаве падаліся ў хату — на стале ўжо чакала гарачая бульба.

Мы пераначавалі, а назаўтра рэдакцыйны «газік» у суправаджэнні трактара паімчаў нас да Бабруйска. А там былі ўжо свае прыгоды. Ледзь не ўсе ганарарныя грошы пайшлі на шампанскае ў вакзальным буфеце. Надыходзіла навагодняя ноч, і мы яе сустракалі па-навагодняму. Частавалі ўсіх, хто трапляўся пад руку. Праўда, засталося яшчэ і на таксі, на якім мы пад раніцу і дабраліся да сталіцы. Тая дарога падаравала мне верш, які я прысвяціў Юрасю Свірку:

Пад Новы год не без прыгод
Мы ехалі на дзікі мёд.
Дарога гоцала, кідала,
Яна таксама дзікай стала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бяседа за сталом гула,
Як тая дзікая пчала,
Па вуснах цёк душок мядовы
І патрапляў у рот, вядома.
Той самы чэсны, без падробкі,
Узнагародны мёд салодкі.
Салодкі самы, чысты самы,
Прапахлы сонцам, верасамі.
Хоць і ўлавіў гарчынку ты…
А што за мёд без гаркаты?!
Ён быў з гарчынкаю такою,
Як часам і жыццё людское.
Ён нават густа з сотаў цёк,
Таксама, як цячэ жыццё…

Сёння, перачытваючы апошнія вершы свайго сябра, бачу, як шмат гаркаты было ў яго на сэрцы. Адкуль яна? З тых далёкіх «балючых гадоў блакады і балота» ці ад сумнага і непазбежнага, што чакала яго ў нашым часе? Не на ўсё знаходзіш адказ у вершах. Многае, што болем адкладвалася на душы, невылечным болем так і засталося ў ёй назаўсёды.

Балюча перажываў паэт заўчасную смерць жонкі, якая была ў ягоным жыцці пасля страчаных бацькоў самым надзейным апірышчам. Гэта страта ўсё часцей і часцей нагадвала пра сябе і ў вершах:

Здаецца, яшчэ ўчора — не калісьці —
Мы гаварылі. Слёзы на вачах.
Ты ў вырай свой апошні, бы ў калысцы,
Аплаканай сплыла на ручніках.

І памяць я напружваю да болю,
Жалобных гукаў чую перазвон.
Ды не сатруць твой воблік аніколі
Ні сорак дзён, ні сорак тысяч дзён.

Не сплю. Чакаю: «Божачка мой, Божа…»
Жывою паўстаеш ты зноў і зноў.
А можа (мне ўсё верыцца), а можа,
Ты, хоць і позна, вернешся дамоў.

Сваю адзіноту паэт часта згладжваў там, на Лысагорскім лецішчы. Яго драўляная хата, што вуглом выходзіла на залом дачнай вуліцы, была ціхай і ўтульнай. Пасля жонкі ён сам даглядаў і выходжваў свой маленькі гарод, шчырым гаспадарскім вокам сачыў за кожнай дробяззю пры хаце, дбаў пра кожнае дрэва і кусток. Трагічны матыў незваротнасці шчымліва гучыць у адным з апошніх вершаў паэта «Язмін»:

Мы яго пасадзілі калісьці вясною.
Ты хацела,
Каб рос ён на дачы і цвіў…
Пяць гадоў я вякую ў расстанні з табою,
Ды ні разу цябе нежывою не сніў.
Беласнежна цвіце ён. Духмяныя гронкі,
Быццам ты ў белым плацці
Стаіш пад акном.
А язмін, як і лёс, — і надзейны, і ломкі,
Як і ўсё, што пазначана вечным жыццём.

Дача для яго была як маленькі куточак душэўнага прытулку, добрай чалавечай раўнавагі. На вялікі жаль, тут, на дачы, і спынілася назаўсёды яго сэрца. Вось пасля і не вер у прадчуванні паэтавай душы. У вершы «Прыкідка запавету» чытаем:

І я надзею берагу
На Божы лік, і дар, і згоду,
Калі праз смутак і тугу
Сплыве душа ў яго Гасподу.

Сплыве без зборышча вянкоў,
Без адпявальных галашэнняў,
Без пустаты хвалебных слоў,
Без непатрэбных суцяшэнняў,
Без анямелай мітусні,
Без абыходлівай пашаны…
Адно — сплысці на трэцім дні
Туды, дзе пантэон пясчаны.

Усё амаль так і адбылося… Няўжо гэта ўсё азначала, што паэт рыхтаваўся да свайго сумнага развітання, ледзь не прыспешваў яго? Вершы пра тое не кажуць.

Незадоўга да 70-годдзя Юрася Свіркі па просьбе часопіса «Крыніца» я браў у яго інтэрв'ю. Вось што сказаў ён тады адносна таго, што напісана ім: «У ацэнцы і пераацэнцы створанага з гадамі адчуваецца дваякае пачуццё, што выклікаецца клічнай ці пытальнай інтанацыяй. Ад радасна захапляльнай: «Няўжо я змог так напісаць!» да незадаволена здзіўленай: «Няўжо я мог так напісаць?» У гэтым радзе мы, чаляднікі, не заўсёды набліжаемся да класічнага ўсcкліку стварыўшага трагедыю «Барыс Гадуноў»: «Трагедыя мая закончана. Я прачытаў яе ўголас. Адзін. Біў у далоні і крычаў: «Ай ды Пушкін, ай ды сукін сын!»

І ўсё ж, як адметнае і значнае для мяне, назваў бы зборнікі 60—80 гадоў «Баравіна», «Аўтограф», «Паўшар'е блакіту», «Біяграфія памяці». У іх (мне хочацца верыць) у большай ступені адлюстроўваўся час, неспакой душы за жыццё, за лёс чалавека, прыроды, матчынай мовы, чысціню і высакароднасць пачуццяў».

Чытаю адзін з яго аўтографаў на кнізе «Узаемнасць»: «Дарагому Казіміру з найлепшымі думкамі і пажаданнямі. Помняцца гады і ўсе сустрэчы ў дарозе, у роднай вёсцы і за святочнымі сталамі. Юрась Свірка 9.02. 1993 г.» Ці мала было тых сустрэч і святочных сталоў?! Добра сваім пачуваўся ён у маіх Малых Навіках, адносна мяне нават неяк пажартаваў, скаламбурыў: «Вялікі паэт з Малых Навікоў!» Я тым жа, сваім, быў заўсёды і ў яго Маргавіцы. Згадваю апошнюю нашу паездку на яго радзіму летам 2003 года разам з Алесем Пісьмянковым, Вячаславам Корбутам і дачкой паэта Ірынай. У нас была цёплая сустрэча ў старшыні райвыканкама ў Докшыцах, незабыўныя сустрэчы з землякамі там жа і ў Бягомлі, і, нарэшце, у хаце сястры ў Маргавіцы. Здзіўляюся, як шмат усяго цёп-

лага, сардэчнага і незабыўнага ўмясцілася ў адзін летні дзень, хоць ён і вялікі. Абдымкі землякоў і родных — гэта асаблівыя абдымкі. Тут ніколі не бывае паказнога прытворства. Я добра разумеў адчуванне Юрася Мікалаевіча, калі бачыў на яго вачах слёзы расчулення. Ніколі не варта саромецца гэтых самых чыстых на свеце слёз.

У маі таго года паэту споўнілася 70 гадоў. Тым летнім днём ён жартаваў: «Юбілейныя чытанні працягваюцца!» Іх працягвала сама дарога. Едучы і туды і назад мы спыняліся ў Шунеўцы, яшчэ адной сумнай сястры Хатыні, задумліва блукалі сцяжынамі ля жалобнага мемарыяла. Хадзілі моўчкі. Кожны думаў сваё і, відаць, адно і тое ж.

Былі і яшчэ прыпынкі на той далекаватай лясістай дарозе. Па вачах сябра бачыў: не хацелася яму развітвацца з роднымі і дарагімі сэрцу мясцінамі. А ў памяці маёй часта ўсплывалі зусім нядаўна напісаныя ім радкі:

Прыйшла пара, калі не хочацца
Над дробяззю маракаваць,
І што у сэрцы не лагодзіцца,
Другому сэрцу не сказаць.

Хто ж ведаў, што дарога гэта і сапраўды будзе развітальнай. Праз год паэта не стане. У роднай пушчы я пачуў гэту страшную вестку. Верш мой ляцеў наўздагон, але запазніўся — «пантэон пясчаны» ўжо зачыняў свае цяжкія дзверы, за якімі толькі незваротнасць ды вечнасць:

Мы плылі,
Далёка заплывалі,
Асцярог міналі астраўкі.
Князем цябе некалі празвалі
Тыя жартаўліўцы-дружбакі.

Князь мой, князь,
ты так заплыў далёка.
Стуль жа не вяртаюцца назад.
Захліснула чорная затока
Стомленых вачэй пагляд.

За дрымотнай дымкай ля Бягомля
Адгукнуцца плачам сснякі.
Слову,
што зямлі служыла годна,
Ды глядзела ў неба з-пад рукі.

Князь на вецер словы не кідае
І дружыну ў крыўду не дае.
Слова князя песняй узлятае,
Князеў меч не плача, а пяе.

Нехта там,
За берагам, чакае,
І цябе не прычакае ён.
І ў радок самотны мой сцякае
Ціхая сляза, як вечны сон.

Здаецца, маімі вуснамі прамовілася некалі тое жартоўнае — Князь. Але як потым прыжылося! Было, і праўда, нешта княжае ва ўсёй ягонай паставе: і тая ж роздумная запаволенасць хады, ці спаважнасць, і скупая ўсмешка ўперамеж з суровасцю (часта са сціснутымі, ажно з прыкусам вуснамі — тое і фотаздымак не адзін засведчыў), і востры, на мудрасці замешаны, позірк вачэй з-пад шкельцаў акуляраў. Можа, і не зусім па-княску пачуваўся ён у вялікім княстве паэзіі. Але чаму ж? Княжыў, меў сваю вагу і там.

Зіновій ПРЫГОДЗІЧ

# МАСТЫ НАД БАСФОРАМ

***Пяць чароўных, непаўторных дзён у чэрвені мінулага года дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў правяла ў старажытным, загадкавым і паўсходняму гасцінным Стамбуле. Беларускае прадстаўніцтва Платформы «Дыялог Еўразія» арганізавала шмат цікавых, змястоўных сустрэч з пісьменнікамі, журналістамі, настаўнікамі, работнікамі дабрачыннага фонду, простымі жыхарамі горада. Гэтыя сустрэчы дапамаглі глыбей зразумець душу турэцкага народа, яго радасці і турботы, пакінулі яркія, незабыўныя ўражанні.***

***Ёсць намер напісаць пра гэта грунтоўна і падрабязна. А пакуль хацелася б узгадаць некалькі эпізодаў з нашага стамбульскага гасцявання.***

## Сям'я — аснова асноў

Кажуць, каб лепш, глыбей пазнаць чалавека, трэба пабываць у яго дома.

Таму з радасцю прынялі прапанову нашага куратара Зафэра Элдэма правесці вечар у турэцкай сям'і.

Злавіўшы таксі, з цэнтра сталіцы доўга ехалі некуды, як нам здалося, на ўскраіну горада. Але калі выйшлі з машыны, то апынуліся ў вельмі ўтульным, багатым на зеляніну мікрараёне. І злева, і справа стаялі прыгожыя, з элементамі нацыянальнай архітэктуры катэджы, і больш сціплыя, але не менш акуратныя і дагледжаныя трох і чатырохпавярховыя жылыя дамы.

У адзін з такіх дамоў мы і накіраваліся ў госці. Ля пад'езда нас ужо чакалі, ветліва запрасілі падымацца на трэці паверх. Перш чым зайсці ў кватэру, перабуваемся ў хатнія тапачкі. Заўважаем характэрную дэталь: над парогам прымацаваны абярэг. Туркі, як і мы, людзі даволі прымхлівыя — засцерагаюцца ад чужога, нядобрага вока рознымі талісманамі.

З шырокай прыветлівай усмешкай нас сустракае гаспадар кватэры Ібрагім-бей. Знаёміць са сваімі сямейнікамі. Спачатку з сынамі — старэйшым, які толькі нядаўна ажаніўся, і малодшым — першакласнікам. Пасля — з жонкай, нявесткай, маці нявесткі. Аддаўшы нам даніну павагі, жанчыны пайшлі на кухню, а мы, госці і мужчынская палавіна сям'і, уладкаваўшыся ў зале на мяккай канапе і крэслах, пачалі знаёміцца бліжэй.

Ібрагім-бей на пенсіі, але яшчэ працуе. Мае сваю справу — займаецца пераплаўкай, перапрацоўкай пластмасы. У гэтым яму дапамагае старэйшы сын. Заробкі неблагія. Ва ўсякім разе змаглі пабудаваць вось гэту кватэру, а яна каштавала нямала. Аднак абышліся без крэдыту.

Кватэра трохпакаёвая. Месца пакуль што хапае ўсім, але сям'я сына чакае папаўнення, і тады, магчыма, прыйдзецца думаць пра асобнае жыллё для яго.

Ібрагім-бей добра ведае пра Беларусь, аднойчы быў нават праездам у Мінску. А сам ён родам з Македоніі. У пошуках лепшай долі шмат гадоў таму прыехаў у Турцыю, якая гасцінна яго прыняла, забяспечыла і працай, і дахам над галавой,

стала яму другой радзімай. Хаця роднай мовы не забывае. З прыемнасцю знаходзім шмат агульных слоў — хлеб, кавун, блізка…

Жанчыны даюць знаць, што ўсё гатова, і гаспадар запрашае нас за стол. Частуемся нацыянальнымі турэцкімі стравамі — піражкамі з брынзай, запечаным у вінаградным лісце рысам, пахлавой і яшчэ шмат чым, незнаёмым, непрывычным для нас, але дужа смачным. За актыўнай дэгустацыяй і цікавай размовай нават не заўважылі, што ніхто нам не прапанаваў спіртнога — ні гарэлкі, ні віна, ні піва. І як, аказваецца, лёгка можна без усяго гэтага абысціся. Затое колькі новага, цікавага пачулі ад гаспадароў дома.

Турэцкія сем’і, як правіла, шматлікія і вельмі дружныя. Традыцыйна селяцца кампактна і жывуць разам: альбо ў адным доме, альбо непадалёку, маючы асобныя кватэры: у адной — бабуля і дзядуля, у другой — мама, тата і дзеці, у трэцяй — дзядзя і цёця. Але нават калі маладажоны з’едуць з бацькоўскага дому, захочуць жыць асобна, яны ўсё роўна стараюцца як мага часцей наведваць родных і блізкіх.

Сваяцкія сувязі вельмі моцныя. І гэта надзвычай мудрая традыцыя, якая дазваляе вырашаць адразу некалькі праблем. У туркаў няма кінутых на волю лёсу старых і дзяцей, а таксама даволі нізкая маладзёжная злачыннасць.

У Турцыі сям’я — аснова асноў. І гэтая аснова спрадвеку трымаецца на ўладзе і аўтарытэце мужчыны. Бацька альбо муж з’яўляецца галоўным у сям’і, і яго рашэнні выконваюцца без усялякіх пярэчанняў. Слова мужчыны — закон. Ён, як правіла, матэрыяльна забяспечвае сям’ю. Зразумела, што і ўсімі фінансамі распараджаецца таксама ён. Акрамя таго, мужчына нясе адказнасць за ўчынкі сваіх сямейнікаў, за выхаванне дзяцей. Цікава, што да нядаўняга часу ўсе пакупкі рабіў толькі муж.

Жанчыне ў сям’і адведзена другарадная роля. Яна павінна паважаць і цалкам слухацца мужа, весці хатнюю гаспадарку і выхоўваць дзяцей. Ёсць нават такая прымаўка: «Гонар мужа залежыць ад таго, як паводзіць сябе жонка і як яна вядзе дом».

Пасля кемалісцкай рэвалюцыі (у 1926 годзе) у лёсе турэцкай жанчыны адбыліся вялікія перамены. У сваіх правах яна была зраўнавана з мужчынаю. Сярод турчанак цяпер ёсць і дэпутаты парламента, і прафесары ўніверсітэта, пісьменніцы і журналісткі, юрысты і ўрачы. І ўжо зусім неверагоднае — некаторыя з іх сталі спявачкамі, балерынамі, драматычнымі актрысамі. Хаця раней яны і марыць пра гэта не маглі. Усё жыццё іх не выходзіла за межы сям’і ці гарэма. Нават жаночыя ролі ў турэцкім тэатры выконвалі мужчыны, а першымі актрысамі, якія нарэшце тут з’явіліся, былі не мусульманкі, а армянкі і грачанкі.

Да сённяшніх дзён забаўляльныя ўстановы ў Турцыі былі даступныя толькі для мужчын. Сёння ж і жанчыны атрымалі магчымасць наведваць клубы, рэстараны, кавярні, танцаваць пад еўрапейскую музыку і адчуваць сябе вольна і нязмушана.

Аднак, ведаючы ўсё гэта, не варта забываць, што характар і натура турэцкага мужчыны мала змяніліся. Жанчына як была для яго істотай падначаленай, так і засталася. Турчанка ўсё яшчэ скавана многімі ісламскімі звычаямі і традыцыйнымі правіламі паводзін. Яна абавязана ўступаць дарогу мужчыну і не мае права абганяць яго. Не прынята ў Турцыі і ўступаць жанчыне месца ў грамадскім транспарце. У мячэцях, на пахаванні жанчыны могуць знаходзіцца толькі ззаду мужчын. Асабліва строга ўсе гэтыя правілы захоўваюцца ў правінцыі — невялікіх гарадах і вёсках, дзе традыцыйна моцны ўплыў рэлігіі.

Нават у сталіцы часам можна бачыць такую сцэнку. Муж ідзе па вуліцы на адзін-два крокі наперадзе жонкі і робіць выгляд быццам жанчына, якая крочыць за ім, не мае да яго аніякага дачынення. А калі гэтая патрыярхальная парачка сустрэне раптам такую ж самую, добра знаёмую, то сітуацыя наогул даходзіць да смешнага. Мужчыны шчыра прывітаюць адзін аднаго, па турэцкім звычаі двойчы



*Беларускія пісьменнікі ў сям'і Ібрагім-бея.*

абняўшыся, і распачнуць няспешную гамонку, а жанчыны ўвесь гэты час стаяць непадалёку і моўчкі назіраюць.

Я ніколечкі не хачу пакрыўдзіць шаноўнага Ібрагім-бея, але нават у ягонай сям'і гэтае няпісанае правіла захоўваецца. За гасцінны стол селі толькі мужчыны. Жанчыны былі побач, аднак сціпла прымасціліся на канапе. Яны ветліва ўсміхаліся, часам нават уступалі ў размову, але ўсе трое былі ў абавязковых хустках.

Пра ўсё гэта я расказваю зусім не для таго, каб выказаць нейкае недаўменне ці — барані бог! — пагардлівае асуджэнне. Толькі для таго, каб зразумець гендэрную сітуацыю ў Турцыі, падкрэсліць трываласць спрадвечных ісламскіх традыцый. Пачуццё ўласнай перавагі, якое стагоддзямі культывавалася і развівалася ў мужычын з дзяцінства і, наадварот, усведамленне сваёй непаўнацэннасці, другараднасці, залежнасці, якое прывівалася жанчынам — усё гэта нікуды ў адзін момант не магло знікнуць. Яно ў той ці іншай ступені праяўляецца і цяпер. Мужчына — бог і цар у сям'і. І ў грамадстве, нават пры ўсіх роўных умовах, аднолькавай адукацыі, адной і той жа прафесіі — ён усё роўна займае больш высокае становішча, чым жанчына.

Усе гэтыя перажыткі мусульманскіх і патрыярхальных поглядаў прыводзяць да пэўных сацыяльных праблем. Так, напрыклад, у горадзе настаўніц многа, іх нават лішак, а ў вёсцы — не хапае. Чаму? А таму, што жанчыну паслаць настаўнічаць у вёску нельга з-за негатыўных адносін да яе фанатычнага сельскага духавенства. Ці такі красамоўны факт. У Турцыі не хапае ўрачоў. Яшчэ больш востры недахоп сярэдняга медыцынскага персаналу: адна медсястра прыходзіцца на трохчатырох урачоў. Аказваецца, бацькі, як правіла, не жадаюць, каб іх дачка ішла ў медыкі. Зноў-такі даўняя традыцыя. «Дзяўчына, жанчына не павінна набліжацца да чужога мужчыны, хай сабе ён урач альбо медыцынская сястра, а ён яе пацыент. Зносіны медсястры з пацыентам па меншай меры амаральныя», — сцвярджаюць мусульманскія традыцыяналісты. Асуджальна, на іх погляд, і працаваць разам з урачом-мужчынам. Яна павінна працаваць толькі ў пары з урачом-жанчынай і абслугоўваць толькі жанчын.

Традыцыяналісты высоўваюць розныя аргументы і супраць таго, каб жанчыны працавалі на заводах альбо ва ўстановах. Іх месца, перакананы гэтыя артадоксы, — дом, муж, сям'я, дзеці.

Тым не менш, у Стамбуле, Анкары, Ізміры і іншых буйных гарадах эмансіпацыя жанчын зайшла даволі далёка. Турчанкі ўдзельнічаюць у конкурсах прыгажосці, працуюць у начных клубах, начных барах, забаўляльныя праграмы якіх не абмяжоўваюцца традыцыйным танцам жывата і стрыптызам.

Дарэчы, турэцкія жанчыны лічацца аднымі з самых эмансіпіраваных на Блізкім Усходзе. Юрыдычна яны маюць роўныя правы на прыватную ўласнасць і спадчыннасць, а таксама на адукацыю і ўдзел у грамадскім жыцці. А што датычыцца сям'і, то сённяшнія турчанкі, хоць у пэўнай ступені і абмежаваныя сценамі ўласнага жылля, нярэдка кіруюць усімі ўнутранымі справамі клана ў куды большых межах, чым гэта прадугледжана традыцыямі. Пры гэтым маці карыстаецца павагай з боку малодшых членаў сям'і нароўні з галавой роду. Адносіны ж яе з дзецьмі цёплыя і нефармальныя.

Наогул дзяцей у Турцыі вельмі любяць і песцяць. Асабліва сыноў, паколькі яны павышаюць статус маці ў вачах мужа і яго сваякоў. Да 10—12 гадоў сыны шмат часу праводзяць з маці, і толькі пасля гэтага іх выхаванне давяраецца мужчынам. Дочкі звычайна жывуць разам з маці ажно пакуль не выйдуць замуж.

Для турэцкай сям'і характэрны даволі ранні ўзрост уступлення ў шлюб. Пры гэтым лічыцца, што мужчына не павінен паніжаць узровень жыцця жонкі. Таму шлюбы паміж прадстаўнікамі розных сацыяльных груп тут адносна рэдкія.

У 1926 годзе рэвалюцыйны турэцкі ўрад адмяніў ісламскі кодэкс сям'і і прыняў некалькі змененую версію швейцарскага грамадзянскага кодэкса. Новы закон аб сям'і патрабуе і прызнае толькі грамадзянскія цырымоніі шлюбу, абавязковую згоду абодвух бакоў, заключэнне кантракта і адзінашлюбнасць. Аднак у традыцыйным турэцкім грамадстве выбар будучай жонкі альбо мужа, а таксама цырымонія шлюбу да гэтага часу вядзецца бацькамі ці саветам сям'і. Самі маладажоны іграюць у гэтым нязначную ролю.

А вось захаванне ўсіх рытуалаў вяселля, як і благаслаўленне шлюбу імамам лічыцца надзвычай важным.

У вялікіх гарадах турэцкае вяселле сёння мала чым адрозніваецца ад беларускага. Той жа абмен шлюбнымі пярсцёнкамі паміж жаніхом і нявестай, тыя ж урачыстыя вясельныя касцюмы (чорны гарнітур у жаніха і белая сукенка ў нявесты) і абавязковы картэж з аўтамашын, якія ўпрыгожаны каляровымі стужкамі, паветранымі шарамі, кветкамі і лялькаю на капоце. І нават асобныя элементы вяселля нагадваюць нашы традыцыі. Так, напрыклад, сваякі нявесты робяць выгляд, што яны не жадаюць аддаваць яе жаніху і наладжваюць вясёлы гандаль, патрабуючы выкуп. Ці, скажам, калі вясельны картэж едзе па вуліцы, яму перагароджваюць дарогу сталом ці лаўкаю і пакуль не будзе выстаўлены пачастунак альбо выкуп, дарогу не адкрыюць.

А вось само вяселле праходзіць нязвыкла для нас — ціха і цырымонна. Без хмельнага буйства і весялосці. Без публічных пацалункаў жаніха і нявесты. Інтымны бок шлюбнага жыцця павінен быць, па турэцкіх звычаях, схаваны ад вачэй не толькі чужых людзей, але і самых блізкіх сваякоў.

Вяселлі бываюць розныя, у залежнасці ад матэрыяльнага становішча сям'і, ад таго, дзе праходзіць урачыстасць — у горадзе ці ў вёсцы. Аднак заўсёды на вяселле збіраецца шмат людзей, у асноўным сваякоў жаніха і нявесты. Падарункаў дорыцца вельмі многа. Акрамя кветак, гэта, як правіла, золата і грошы.

Пасля вяселля дзяўчына пакідае свой родны дом і пераязджае жыць да мужа. Становішча яе тут бывае даволі незайздросным: свякруха і свёкар патрабуюць ад нявесткі поўнага падпарадкавання. Такое зневажальнае становішча можа змяніцца з нараджэннем у маладой сям'і сына.

Мараль у Турцыі вызначае надзвычай строгія правілы паводзін для жанчын. Дашлюбныя сувязі — вялікая ганьба. Але яшчэ большы грэх — сямейная здрада,

якая кладзецца нязмыўнай ганьбай не толькі на грэшніцу, але і на ўсю яе сям'ю. Гарачы турэцкі мужчына ў парыве рэўнасці можа нават забіць сваю жонку і яе каханка. І такія выпадкі, на вялікі жаль, былі і застаюцца не такой ужо рэдкасцю.

Тым не менш колькасць разводаў тут невялікая. Тлумачыцца гэта, на наш погляд, перш за ўсё строгасцю традыцыйных правіл маралі. А яшчэ, магчыма, тым, што сучасны кодэкс не прызнае старую норму аб прэрагатыве мужа на права вуснага і аднабаковага разводу і прадпісвае судовую працэдуру гэтага працэсу. Іншымі словамі, калі раней мужу было дастаткова публічна тройчы сказаць жонцы «Я цябе адпускаю», і ён мог лічыць сябе вольным, то цяпер, каб атрымаць развод, трэба звяртацца ў суд і абавязкова назваць пераканаўчую прычыну свайго рашэння, а суд яшчэ далёка не заўсёды можа прызнаць гэту прычыну дастаткова абгрунтаванай і адмовіць раўніваму мужу ў іску.

…Тры гадзіны гасцявання прамільгнулі неўпрыкметку. Але, як кажуць, трэба і меру ведаць. Развітваемся з гаспадарамі, як з даўно знаёмымі і блізкімі людзьмі. Дзякуем ім за хлеб-соль, за цікавую і шчырую размову. Робім на памяць агульны здымак і развітваемся: жанчыны абдымаюцца, а мы, мужчыны, абмяжоўваемся моцным, сяброўскім поціскам рук.

## На трывалым падмурку ведаў

Агульнавядома, што сістэма адукацыі ў Турцыі адна з самых якасных у Еўропе. І, канечне ж, для паўнаты ўражанняў нам хацелася пазнаёміцца — хоць бы ў агульных рысах — і з гэтай сферай.

І вось на чале з нашым нястомным і клапатлівым куратарам Зафэрам Элдэмам едзем у каледж Фатых. Праўда, цяпер у каледжы канікулы, ні з вучнямі, ні з настаўнікамі сустрэцца не зможам, але нас прывітае дастаткова дасведчаны чалавек, каб адказаць на ўсе нашы пытанні.

Забягаючы наперад, адразу скажу, што чалавек гэты цалкам апраўдаў нашы надзеі. Ён не толькі грунтоўна, з веданнем справы расказаў пра каледж, але і ў цэлым пра турэцкую сістэму адукацыі, яе плюсы і мінусы.

Аднак напачатку пра сам каледж. Размешчаны ён у прыгожым шматпавярховым будынку з шырокімі калідорамі і светлымі, прасторнымі пакоямі. Класы для заняткаў абсталяваны найноўшымі сучаснымі прыборамі і апаратурай. Для ўрокаў фізкультуры ёсць шыкоўная спартыўная зала і асобна — гімнастычная зала. Асобна таму, што, як патлумачыў наш гід, сярод навучэнцаў шмат жадаючых займацца гімнастыкай.

Акрамя таго для правядзення розных арганізацыйных, культурных мерапрыемстваў каледж мае яшчэ шэсць вялікіх і малых залаў. Адну з іх мы дэталёва агледзелі. Тры сотні мяккіх, зручных крэслаў, вялікая, утульная сцэна, мноства рознай гукавой і асвятляльнай апаратуры. Звяртаем увагу на тое, што ўздоўж сцен прымацавана некалькі тэлевізійных камер. Аказваецца, яны тут не толькі для таго, каб весці запіс найбольш цікавых канцэртаў, але і для трансляцыі ў інтэрнэт. Бацькі ў любы час, зайшоўшы на адпаведны сайт, могуць паглядзець у рэжыме онлайн, чым займаецца яго дзіця. Прычым такімі камерамі абсталяваны практычна і ўсе класы.

Сістэма навучання трохступенчатая. Першая ступень — дзіцячы садок. Другая — пачатковая школа (ад першага да восьмага класа). І заключная ступень — ліцэй, навучанне ў якім складае чатыры гады. Адбор навучэнцаў вядзецца на конкурснай аснове.

Каледж — установа прыватная і таму, зразумела, платная. Плата, па нашых мерках, не такая ўжо і малая — недзе каля 10 тысяч долараў за год. Але яна цалкам апраўдвае сябе, бо выхаванцы атрымоўваюць тут грунтоўныя, рознабаковыя

веды, у тым ліку вывучаюць і рускую мову. Сведчанне іх поспехаў — сотні розных прызоў і ўзнагарод, якія яны заваявалі на прэстыжных міжнародных алімпіядах і якія цяпер упрыгожваюць усе сцены прасторнага вестыбюля.

А яшчэ ў каледжы вельмі сур'ёзная ўвага надаецца выхаванню сваіх навучэнцаў. У аснову гэтага працэсу пакладзены восем галоўных маральных каштоўнасцей — чэснасць, сумленнасць, дабрыня, акуратнасць і г.д. Тут справядліва лічаць, што веды самі па сабе, без трывалага маральнага падмурку, без патрыятычнага настрою, нядорага каштуюць.

Усе сур'ёзныя арганізацыйныя і вучэбна-выхаваўчыя пытанні вырашае савет каледжа, у склад якога ўваходзяць найбольш вопытныя педагогі, некаторыя бацькі і былыя выхаванцы. Савет прызначае дырэктара каледжа, яго намеснікаў, а таксама педагогаў.

Дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што такіх каледжаў у Турцыі няшмат. Самая распаўсюджаная форма навучання тут — васьмігадовая сістэма беспераыннай абавязковай адукацыі. Аднак апошнім часам вакол гэтай сістэмы вядуцца гарачыя спрэчкі. Многія лічаць, што яна ўжо састарэла і не адпавядае патрабаванням часу. І ў якасці альтэрнатывы прапаноўваюць дванаццацігадовую сістэму адукацыі — 4+4+4.

Што сабою ўяўляе гэтая сістэма? За першыя чатыры гады вучань набывае пачатковую адукацыю. Далей, пачынаючы з пятага класа, дзецям будзе дадзена магчымасць выбіраць тую галіну, у якой яны хацелі б спецыялізавацца. На гэтым этапе вучні будуць наведваць тыя ўрокі, якія падрыхтуюць іх да навучання ў старэйшай школе. Акрамя асноўных прадметаў яны змогуць выбіраць і факультатыўныя прадметы. Колькасць гадзін, якія адводзяцца на факультатывы, будзе расці па меры пераходу з класа ў клас.

Такім чынам, ажыццявіўшы выбар паміж гуманітарнымі і дакладнымі навукамі, вучні пятых—восьмых класаў зробяць і свой жыццёвы выбар — атрымаюць у сціснутым выглядзе першапачатковую прафесійную адукацыю. Апошнія ж чатыры гады будуць скіраваны на тое, каб пашыраць і паглыбляць веды школьнікаў у той галіне, якая ім сапраўды цікавая.

На думку прыхільнікаў такой сістэмы адукацыі, яна дасць магчымасць ліквідаваць некаторыя праблемы цяперашняга васьмігадовага навучання, лепш падрыхтаваць школьнікаў да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але для гэтага трэба яшчэ многае абмеркаваць з вучонымі і педагогамі, шырокай грамадскасцю, зняць усе спрэчныя пытанні і надаць законапраекту сілу закона.

Што тычыцца вышэйшай адукацыі, то да паслуг моладзі Турцыі 152 дзяржаўныя і 52 прыватныя ВНУ. Гэта — універсітэты, якія складаюцца з факультэтаў, аддзяленняў прыкладных навук і прафесійна-тэхнічных аддзяленняў, а таксама інстытуты, кансерваторыі, ваенныя і паліцэйскія акадэміі. Універсітэты выкарыстоўваюць трохступенчатую сістэму навучання. Першы ўзровень — бакалаўрыят, наступныя — магістратура і аспірантура.

Акадэмічны год у турэцкай сістэме вышэйшай адукацыі (зрэшты як і ў васьмігадовай абавязковай школе) звычайна пачынаецца ў сярэдзіне верасня і працягваецца да сярэдзіны чэрвеня. Зімовыя канікулы доўжацца ад двух да чатырох тыдняў.

Дарэчы, у турэцкіх ВНУ вучацца не толькі юнакі і дзяўчаты з Турцыі, але і з многіх еўрапейскіх краін, краін СНД. Што іх прываблівае? Напэўна, перш за ўсё спрыяльныя ўмовы паступлення. Замежныя студэнты прымаюцца на аснове нацыянальных дыпломаў аб сярэдняй адукацыі, вынікаў розных нацыянальных і міжнародных тэстаў. А падача дакументаў бывае, як правіла, абсалютна бясплатная альбо намнога таннейшай, чым у ВНУ іншых краін.

Фінансава даступнае і само навучанне. Кошт яго, як і кошт пражывання ў Турцыі, значна ніжэйшы, чым у іншых еўрапейскіх краінах. Да таго ж замежныя студэнты без цяжкасцей могуць знайсці сабе месца ў інтэрнаце. Атмасфе-

ра ў студэнцкім асяроддзі цёплая і сяброўская. Турэцкая культура забяспечвае гэтай краіне імідж самай стабільнай і бяспечнай краіны ў бліжнеўсходнім рэгіёне.

Паспяховаму навучанню ў тамтэйшых ВНУ спрыяе багатая матэрыяльная база. Універсітэцкія гарадкі з выдатнымі вучэбнымі аўдыторыямі, цудоўнымі бібліятэкамі, навукова-даследчымі лабараторыямі, абсталяванымі сучаснымі прыборамі і апаратурай.

Але самае галоўнае, канечне, у тым, што тут высокія стандарты навучання, якія забяспечваюць выпускнікам канкурэнтаздольнасць. Да таго ж турэцкія дыпломы аб вышэйшай адукацыі прызнаюцца ва ўсім свеце без усялякіх агаворак і скідак.

Мы пацікавіліся, а ці ёсць у Турцыі студэнты з Беларусі? Ёсць. Аднак дакладную лічбу ніхто назваць не змог. Затое нас «узброілі» іншай статыстыкай. Не менш цікавай і паказальнай. У 1996 годзе пры Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце ўпершыню была арганізавана група па вывучэнні турэцкай мовы. У групе было ўсяго пяць чалавек, і мала хто верыў у поспех гэтай ініцыятывы. Аднак ужо ў наступным годзе добраахвотнікаў набралася на дзве групы па восем чалавек у кожнай.

Так пачыналася супрацоўніцтва Беларусі і Турцыі ў галіне адукацыі. Цяпер ужо каля 180 беларускіх студэнтаў вывучаюць турэцкую мову ў пяці самых прэстыжных універсітэтах краіны. Прычым у Беларускім дзяржаўным і Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэтах уведзена выкладанне турэцкай мовы як першай замежнай.

Для тых жа, хто жадае ўдасканальваць свае веды, турэцкі ўрад штогод выдзяляе каля трыццаці стыпендый, па якіх можна паехаць у Турцыю на двухмесячныя летнія курсы адукацыйнага цэнтра пры Анкарскім універсітэце. Аспірантам і дактарантам прапаноўваюцца спецыяльныя стыпендыі, разлічаныя на восем месяцаў.

Між іншым, турэцкая мова ў нашай краіне выкладаецца не толькі ў вышэйшых навучальных установах, але і ў некалькіх гімназіях і сярэдніх школах на факультатыўных пачатках. І справа там пастаўлена даволі сур’ёзна. Аб гэтым красамоўна сведчаць такія факты. Навучэнка ліцэя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Насця Чыстая на VII Міжнароднай алімпіядзе ў Анкары стала пераможцай у самай прэстыжнай намінацыі «Веданне турэцкай мовы». А вучаніца 7-га класа мінскай гімназіі № 17 Ксеня Жук на IV Міжнароднай алімпіядзе перамагла ў конкурсе песні, вучаніца 11-га класа мінскай СШ № 64 Аліна Прыхадоўская атрымала залаты медаль у конкурсе малюнка.

У той жа час за апошнія чатыры гады рэзка ўзрасла колькасць студэнтаў з Турцыі, якія паступаюць у розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

Паглыбляецца супрацоўніцтва на ўзроўні асобных ВНУ. Падпісана, напрыклад, пагадненне аб рознабаковым супрацоўніцтве паміж Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка і ўніверсітэтам Мармары. Адбыліся не толькі ўзаемныя візіты рэктараў гэтых навучальных устаноў, але і выкладчыкаў, студэнтаў. Усё лепшае з вопыту арганізацыі навучальнага і выхаваўчага працэсу актыўна ўкараняецца ў практыку абедзвюх ВНУ.

Такія ж цесныя дзелавыя кантакты наладжаны паміж Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам і Эрджыескім універсітэтам, размешчаным у горадзе Кайсеры, а таксама паміж Баранавіцкім дзяржаўным універсітэтам і Сярэдняморскім універсітэтам горада Анталіі. Гэта дае магчымасць турэцкім студэнтам стажыравацца ў Беларусі, а беларускім — у Турцыі.

Адзін усходні мудрэц зазначыў, што гісторыю цывілізацыі можна выказаць у шасці словах: чым больш ведаеш, тым больш можаш. Нам прыемна было пераканацца, што гэтую ісціну добра ўсведамляюць юнакі і дзяўчаты як на турэцкай, так і на беларускай зямлі.



*У офісе фонду «Ці ёсць хто-небудзь?».*

## Ці ёсць хто-небудзь?

Так называецца адзін з грамадскіх фондаў, які займаецца ў Турцыі актыўнай дабрачыннасцю.

Адкуль гэта нязвыклая, трохі дзіўнаватая назва?

Нам расказалі такую гісторыю. Падчас апошняга землятрусу ў Турцыі (а было гэта ўжо больш за дзесяць гадоў таму) у некаторых гарадах і вёсках адбыліся значныя разбурэнні, якія прывялі да шматлікіх чалавечых ахвяр. На дапамогу тым, хто пацярпеў, акрамя спецыялістаў-прафесіяналаў, выйшлі сотні, калі не тысячы валанцёраў-добраахвотнікаў. Яны разбіралі завалы разбураных дамоў, зазіралі ва ўсе падвалы і шчыліны і гучна пыталіся «Ці ёсць хто-небудзь?» І нярэдка здаралася, што на гэта пытанне адгукаўся жывы яшчэ чалавек, якога пасля гэтага ўдавалася выратаваць.

Гэты добраахвотны рух шырока асвятляўся ў прэсе, і фраза «Ці ёсць хто-небудзь?» набыла незвычайную папулярнасць, стала своеасаблівым брэндам, сімвалам дзейснай і бескарыслівай дапамогі. Таму арганізатары акцыі вырашылі прадоўжыць сваю дабрачынную дзейнасць і пасля ліквідацыі наступстваў землятрусу. Быў створаны спецыяльны фонд пад назвай «Ці ёсць хто-небудзь?», якая так палюбілася туркам.

Сёння фонд набыў такі шырокі рух, што для таго, каб надаць яму строгі парадак і дакладную арганізаванасць, створана ажно трыццаць філіялаў. У адным з такіх філіялаў, што дзейнічае ў Стамбуле, мы пабывалі ў гасцях.

Нас сустракаў намеснік дырэктара па сувязях з грамадскасцю Эрсэль Дагтэкін. Правёўшы невялічкую азнаямляльную экскурсію па офісе, ён ахвотна адказаў на шматлікія пытанні маіх дапытлівых калег.

Па якіх накірунках ажыццяўляецца дабрачынная дзейнасць фонду? Перш за ўсё гэта экстранная дапамога, калі адбываецца якое-небудзь надзвычайнае здарэнне. Людзям акрамя бясплатных медыцынскіх лекаў выдаюцца розныя бытавыя прадметы першай неабходнасці.

На пастаяннай аснове аказваецца дапамога шматдзетным сем'ям, якія маюць у гэтым патрэбу. А каб такая дапамога была адраснай і канкрэтнай, валанцёры фонду дэталёва і вельмі скрупулёзна вывучаюць сітуацыю ў гэтым сектары. Таму кожная сям'я атрымоўвае менавіта тое, што ёй неабходна.

Акрамя таго актыўна дзейнічае яшчэ адзін праект такога ж накірунку — «Сем'і-пабрацімы». Сутнасць гэтага праекта ў тым, што багатая сям'я выбірае сабе ў якасці падшэфнай сям'ю бяднейшую і на працягу года (а калі спатрэбіцца, то і на працягу больш доўгага тэрміну) аказвае ёй разнастайную дапамогу. Самае каштоўнае ў гэтым руху заключаецца нават не ў дапамозе (хаця яна, безумоўна, важная і неабходная), а ў тым, што дабрачынныя сувязі нярэдка перарастаюць у сяброўскія, і сем'і, якія дагэтуль не ведалі адна адну, становяцца сапраўднымі пабрацімамі.

Пастаянны клопат фонду і пра беспрацоўных. У чым ён заключаецца? Тым, хто мае патрэбу, аказваецца матэрыяльная дапамога. Тым жа, хто жадае здабываць сродкі на жыццё сам, спецыялісты фонду дапамагаюць у набыцці новай прафесіі і працаўладкаванні. Дарэчы, у гэтым маюць патрэбу не толькі беспрацоўныя, але і некаторыя выпускнікі сярэдніх школ. Таму пры офісе філіяла працуюць круглагадовыя курсы кройкі і шыцця. Маладых людзей (а гэта ў асноўным дзяўчаты)

тут не толькі навучаюць кравецкаму майстэрству, але і клапоцяцца, каб усе яны пасля атрымалі нармальную работу.

Побач з гэтым фонд аказвае разнастайную разавую падтрымку. Толькі адзін стамбульскі філіял атрымоўвае штогод каля 30 тысяч пісем з рознымі просьбамі. Канечне, не ўсе іх ёсць магчымасць задаволіць, але значная частка заяўнікаў атрымоўвае дапамогу — матэрыяльную, маральную, юрыдычную. Дарэчы, кансультацыі вопытных юрыстаў тут вельмі запатрабаваныя, і нярэдка яны больш эфектыўныя, чым, скажам, нейкая сума грошай ці падараваная вопратка.

Цікавімся, ці выходзіць дзейнасць фонду за межы Турцыі? Аказваецца, замежны накірунак не менш важны і не менш актыўны, чым унутраны. Спадар Дагтэкін назваў лічбу, якая не магла не ўразіць: за мінулыя дзесяць гадоў фондам была аказана дапамога каля 60 краінам! Напрыклад, у Нігерыі, якая асабліва пакутуе ад недахопу пітной вады, было выкапана больш за сто калодзежаў. Гэта зусім няпростая праца, бо капаць даводзілася на глыбіню да 30—40 метраў у вельмі складаных умовах. Кожны такі калодзеж абыходзіўся фонду ў круглую суму.

У Судане вырашалі не менш важную праблему — барацьбы з катарактай, на якую чамусьці хварэюць вельмі многія жыхары гэтай паўночна-ўсходняй афрыканскай краіны. Па ініцыятыве і пры матэрыяльнай падтрымцы фонду неаднаразова выязджалі групы хірургаў-афтальмолагаў, якія правялі больш за 200 тысяч паспяховых аперацый.

А калі ў Інданезіі адбыўся моцны землятрус, туды тэрмінова накіравалася некалькі аўтапаяздоў з гуманітарнай дапамогай. Пацярпелым ад прыроднага катаклізму былі дастаўлены прадукты, палаткі, спальныя прыналежнасці, а таксама ўсё неабходнае, каб можна было працягваць вучобу ў школе.

Нярэдка ў той ці іншай замежнай краіне сітуацыя складваецца настолькі катастрафічная, што дапамогу даводзіцца аказваць не толькі тэрміновую, але і даволі маштабную. Так было ў выпадку з Самалі. Валанцёры фонду, праявіўшы цуд арганізацыйнага энтузіязму, за адны суткі сабралі каля 40 мільёнаў долараў і перадалі пацярпелым. Акрамя таго паўтысячы самалійскіх юнакоў і дзяўчат было прывезена ў Турцыю. Усіх іх уладкавалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Стамбула, забяспечылі інтэрнатам і стыпендыямі.

Як фарміруюцца сродкі фонду? Значную іх частку складаюць добраахвотныя ахвяраванні. Членамі фонду з'яўляюцца каля сарака буйных бізнесменаў і больш за дзве тысячы пастаянных спонсараў. А яшчэ ў гэтым дабрачынным і высакародным руху прымаюць удзел тысячы і тысячы простых жыхароў, для якіх неабыякавая чужая бяда.

Свой пасільны ўклад робяць і супрацоўнікі фонду. Статутам таварыства дазваляецца траціць на патрэбы фонду каля 30 працэнтаў сродкаў. Рэальна ж траціцца не болей 5—7 працэнтаў. Больш таго, 10 працэнтаў сваёй зарплаты супрацоўнікі штомесячна пералічваюць на рахунак фонду.

…Мы пакідалі фонд «Ці ёсць хто-небудзь?» узрушаныя і расчуленыя. Маштабы і аб'ёмы дабрачыннай дзейнасці ўражвалі і здзіўлялі. А ў Турцыі ж гэта не адзіны падобны фонд. Іх — восем!

Адкуль у туркаў, якіх наўрад ці можна назваць вельмі ўжо заможнымі, такая душэўная спагадлівасць і такая кранальная самаахвярнасць? Дзе ляжаць карані гэтых цудоўных чалавечых якасцей? Нехта скажа: яны бяруць свае вытокі ад канонаў і запаведзей ісламскай веры, якая заклікае да цярпімасці і міласэрнасці. А нехта прыгадае тысячагадовыя традыцыі ўсходняй культуры, што грунтуюцца на асноватворных паняццях высокай маральнасці і духоўнасці. Трэція спашлюцца на сацыяльна-філасофскія вучэнні сучасных знакамітых турэцкіх мысляроў, якія на аснове глыбокага разумення прыроды чалавека, уласцівых яму любові і талерантнасці, сеюць у душах людзей не толькі зерне добрых надзей на тое, што свет усё ж такі стане больш гуманны і справядлівы, але і агульную адказнасць за стварэнне такога свету.

Сцяпан НЕКРАШЭВІЧ

# УРАЖАННІ З ПАДАРОЖЖА Ў ПОЛЬШЧУ

*У 1929 годзе ў БССР пачала згортвацца палітыка беларусізацыі і як вынік — дыскрэдытацыя тых людзей, якія былі яе натхніцелямі і праваднікамі. У верасні таго ж года газета «Рабочий» надрукавала артыкул «Политика и люди» з абвінавачваннямі ў адрас С. М. Некрашэвіча ў тым, што ён з'яўляецца «другом Луцкевича, Островского и других агентов Пилсудского в Западной Белоруссии». С. М. Некрашэвіч накіраваў рэдактару газеты ліст, у якім выказаў нязгоду з «нелепыми обвинениями». А да гэтага ліста ён прыклаў і свае падарожныя нататкі.*

*Вядомы мовазнавец, акадэмік Сцяпан Некрашэвіч (1883—1937) быў першым старшынёй Інстытута беларускай культуры (1922—1925), у 1927—1928 гг. узначальваў аддзел гуманітарных навук Інбелкульта. З дня адкрыцця 1 студзеня 1929 г. Беларускай акадэміі навук з'яўляўся яе віцэ-прэзідэнтам. Але ўжо ў кастрычніку 1929 г. па надуманай прычыне яго адхіляюць ад гэтай пасады.*

*У 1930 г. АДПУ сфабрыкавала так званую справу «Саюза вызвалення Беларусі», па якой толькі ў акадэміі навук было арыштавана звыш 30 чалавек. С. Некрашэвіча такі лёс напаткаў 21 ліпеня 1930 г. і паводле пастановы Калегіі АДПУ БССР ад 10 красавіка 1931 г. яго выслалі на 5 гадоў у г. Сарапул (Удмурція), дзе ён працаваў бухгалтарам канторы «Заготзерно». У лістападзе 1937 г. быў арыштаваны паўторна і ў снежні 1937 г. асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да выключнай меры пакарання. Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах (1957, 1988 гг.).*

*Прапануем чытачу артыкул С. Некрашэвіча «Уражанні з падарожжа ў Польшчу», напісаны ў 1926 годзе. На рукапісе дакумента маецца рэзалюцыя рэдактара часопіса «Полымя» З. Х. Жылуновіча: «У № 8 "Полымя". 15/Х.26. З. Ж.». Але артыкул так і не ўбачыў свет. У друку было адмоўлена, як пісаў сам С. М. Некрашэвіч, «па прычыне рэзкасці тона быўшым Упаўнаважаным Наркамата замежных спраў т. Казюрай, які, матывіруя прычыну адхілення, заявіў: "Калі надрукаваць гэты артыкул, то больш палякі нікога ў Польшчу не пусцяць"».*

*Гэты артыкул захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь сярод дакументаў агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б (НАРБ. Ф.4п. Воп.1. Спр.4595. Арк. 6—7).*

### Ад мяжы да Варшавы

Жандарская Польшча дае сябе пачуць адразу ж па пераездзе мяжы. Наш цягнік ідзе да першай станцыі — Стоўбцы. На мяжы ў Коласаве каля нашага пікету поезд на хвіліну затрымліваецца. Высаджваецца наша варта. Праз колькі крокаў польскі пікет, ды не проста пікет, а цэлая фартэцыя з калючага дроту. Тутака ўваходзіць польская варта, узброеная вінтоўкамі. Зварочваю на апошняе ўвагу майго суседа па купэ. Моцна лаецца ў адрас Польшчы.

Зараз жа Стоўбцы. Пачынаюць трэсці рэчы. Знаходзяць «Известия». Забіраюць. Спрабую супярэчыць. Куды там. Аддаваць — і не блізка. «Jego wozić nie wolno», — чуеш у адказ. Шукаюць папярос, але знаходзяць толькі адну каробку. Расчараваны, што няма пажывы. Усе рэчы ператрасаюцца станоўча. Часта чуюцца рэзкія пратэсты публікі, асабліва горача пратэстуе амерыканскі доктар, які ў Маскве многа накупіў медычнай і педагагічнай літаратуры, а таксама піянерскіх і камсамольскіх значкоў. Яго пратэсты, матываваныя амерыканскім пашпартам, маюць моц: і кнігі, і значкі яму вяртаюць.

У Стоўбцах пераходжу ў польскі цягнік на Варшаву. Хутка ад'язджаем. Мінаюць адна за другой знаёмыя станцыі, мястэчкі. Са мной у адным купэ апынуўся амерыканскі доктар. Сам ён родам са Слуцку. Трохі ведае беларускую мову. Прыехаў з жонкай з Амерыкі ў СССР, каб паглядзець на новае жыццё. Ад усяго бачанага ў захапленні. Вялікае ўражанне на яго зрабіла маніфестацыя моладзі, якую ён бачыў у Менску; вельмі зацікавіла яго наша сістэма выхавання, наша нацыянальная палітыка, наша эканамічнае будаўніцтва. Асаблівае ўражанне на яго зрабіла перамена псіхалогіі мас. «Калі я, — расказвае доктар, — у Маскве ў рэстаране даў афіцыянту на гарбату, то ён падачкі не прыняў і горда заявіў, што ён рабочы». Доктар мае цвёрдую веру, што пралетарыят СССР выходзіць са славаю на новую дарогу сацыялістычнага жыцця.

Публікі спачатку ў вагоне мала; далей трохі падсядае, галоўным чынам вайсковыя, якіх, відаць, у пагранічным раёне надта многа. Вось і першая вялікая станцыя — Баранавічы. Убягае хлопчык-газетчык і на ламанай польскай мове прапануе газеты. Пытаюся, хто ён па нацыянальнасці. Адказвае, што паляк і каталік. Бацькі гавораць дома па-беларуску. Але ён ходзіць у польскую школу і навучыўся па-польску. Першы прыклад паланізацыі.

З Баранавіч поезд накіроўваецца не на Брэст, а на Слонім, Ваўкавыск, Беласток. На кожнай станцыі — вялікай і малой — стаяць вагоны з рознымі ляснымі матар'яламі. Сякуць беларускія лясы. Сякуць паспешна, па-грабежніцку, каб толькі больш можна было высечы. Белавежскую Пушчу палякі аддалі для эксплуатацыі амерыканскай кампаніі, якая знішчае гэты сусветны запаведнік за дапамогай вядомага бандыта Балаховіча і яго шайкі. Чым тлумачыцца такое грабежніцкае знішчэнне беларускіх лясоў? Няйначай, як няўпэўненасцю ўлады, што Заходняя Беларусь ім заўсёды будзе належаць. Адсюль дэвіз: бяры і дзяры Усходнія крэсы.

Па дарозе з акна вагона відаць наш брат, абадраны і абшарпаны мужык-беларус за сахой ці плугам, бачны панскія маёнткі, палацы. Шкадуеш, што ў часы рэвалюцыі дашчэнту не зруйнавалі гэтыя панскія гнёзды.

Прыязджаем у Беласток — цэнтр беларускай прамысловасці на Захадзе. Многа фабрык і заводаў не працуе. Зруйнаванае вайной не адбудоўваецца. Палякі галоўную ўвагу зварочваюць на развіццё прамысловасці ў сваіх карэнных ваяводствах. Дзеля гэтага прамысловасць у Заходняй Беларусі занепадае. Лік рабочых на тых прадпрыемствах, якія нават працуюць, зменшыўся ў параўнанні з данымі перад вайной напалавіну. Такім чынам Заходняя Беларусь дэіндустрыялізуецца.

## Варшава

Увечары прыязджаем у Варшаву. Тут сустракаюся з дацэнтам Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі Г. Гарэцкім і засяляюся разам з ім у адным гатэлю. Жартуем, кажам, што гэтак для Польскай дзяржавы будзе эканомія на адным шпіку. Жывём у Варшаве некалькі дзён. Стараемся выпаўніць свае навуковыя заданні і азнаёміцца з польскім жыццём. У навуковых колах у большасці спатыкаюць прыхільна і аказваюць дапамогу. У адміністрацыйных — наадварот: глядзяць, як на страшэннага для іх бальшавіка, у кішэні якога можа знаходзіцца бомба, ці штось яшчэ горшае.

Навуковая праца ў Польшчы патрохі наладжваецца, хоць праўда нічога выканаць, чаму б можна было павучыцца, там не знойдзеш. Ёсць некалькі навуковых таварыстваў і шмат навукова-даследчых інстытутаў. Апошнія, праўда, у большасці папяровыя. Галоўнай навуковай інстытуцыяй лічыцца Academia Umiejętności[1] ў Кракаве.

Салідных музеяў і бібліятэк, калі не лічыць універсітэцкай (700 тыс. тамоў; Ленінградская публічная бібліятэка — 4½ міл. тамоў), няма. Нават ні адна з бібліятэк не мае абавязковага экзэмпляру польскіх выданняў. Тое, што друкуецца ў Галіцыі або ў Познані, таго няма ў былой рускай частцы Польшчы (Kongresówcy)[2] і наадварот. Нават і самаго закону аб абавязковым экзэмпляру няма. Наогул трэба сказаць, што Польшча пакуль не мае яшчэ аднаго агульнага для ўсёй дзяржавы заканадаўства. Кожная з былых часцей Польшчы жыве па свайму заканадаўству. У Вільні, напрыклад, беларускага рэдактара судзяць па 129 ст. б. Рас[ійскага] Кар[нага] Уставу, а ў Львове — па адпаведнай ст. б. Аўстрыяцкага Карнага Уставу ўкраінскага рэдактара. У Канграсоўцы прызначаецца царкоўны шлюб без права разводу, а ў Пазнані — грамадзянскі са свабодным разводам і д. т. п.

Некалькі слоў аб самой Варшаве. Бачыў яе перад вайной за царскія часы, бачыў у часы вайны. Перад вайной Варшава выглядала чысцей, па крайней меры былі роўныя вуліцы. А цяпер тарцы пагнілі і ехаць па Маршалкоўскай ці Нова-Свету — галоўных вуліцах Варшавы — тое ж самае, што па якой-небудзь загараднай вуліцы. Адно, што добра робяць палякі — гэта замяняюць тарцавы брук асфальтам. Будаўніцтва ў Варшаве, як ва ўсёй Польшчы, няма. Калі што і будуецца — дык гэта казармы ды касцёлы. У Варшаве толькі заметна паднаўленне дамоў: здзіранне старога тынку, падмазка, маляванне.

Насельніцтва Варшавы за часы польскай самастойнасці павялічылася ў паўтара раза, і цяпер перавышае 1 200 000 чал. Адсюль рэзкі кватэрны крызіс і шалёная спекуляцыя на кватэрах і пакоях. Пакоі не здымаюць, а купляюць і пры гэтым па вельмі высокаму кошту. Зразумела, што купляць можа толькі буржуазія; рабочым і служачым у цэнтральных часцях гораду жыць бадай немагчыма.

Рух на цэнтральных вуліцах Варшавы вялікі, асабліва руху дадаюць таксі, якіх налічваецца звыш 10 000. Кошты на праезд у таксі даступныя — 50 грошаў за 1 км, на нашы грошы каля 11 кап. Таксі выцясняюць звозчыкаў, на якіх цяпер ездзіць больш багатая публіка.

Кошты на тавары на нашы грошы або даляры параўнаўча нізкія. Асабліва на манафактуру, абутак, шаўковыя матэрыі і вязаныя вырабы. Шмат таннага тандэту[*], чым Варшава здаўна славіцца. Аднак, нягледзячы на таннасць, для рабочых і служачых цэны недаступныя. Заработныя стаўкі нізкія. Стаўка сярэдняга служачага 200—300 злотых, што складае на нашы грошы 40—65 руб.

Нізкая заработная плата з'яўляецца прычынай шматлікіх хабараў, бяруць усе, пачынаючы ад лёкая, які просіць даць яму на uszanowanie, і канчаючы генераламі і міністрамі. Ні адна, кажуць, дзяржаўная манаполія не абышлася без буйных хабараў. Адным словам польскае «панства» раскрадаюць «оптам» і ў розніцу. Урад на гэта глядзіць скрозь пальцы. Адзін паляк, характарызуючы сучаснае хабарніцтва ў Польшчы, сказаў: «У нас многа хабараў бралі рускія чыноўнікі. Але тыя хабары параўнаўча з цяперашнімі можна назваць толькі дзіцячымі хабарамі».

---

[1] Польская акадэмія ведаў (польск. Polska Akademia Umiejętności) — польская навуковая арганізацыя, якая мае статус навуковага таварыства. У 1872 г. Кракаўскае навуковае таварыства пераўтворана ў Акадэмію ведаў, якая і стала асновай стварэння ў 1919 г. Польскай акадэміі ведаў. У 1952 г. спыніла дзейнасць у сувязі са стварэннем Польскай акадэміі навук. Адноўлена ў 1989 г.

[2] Кангрэсовая Польшча — так называлі частку Польшчы, якая пад афіцыйнай назвай Царства Польскае адышла да Расіі згодна рашэнню Венского кангрэса 1814—1815 гг.

[*] tandeta (*польск.*) — дзяшоўка, барахло.

Нізкая заработная плата, беспрацоўе з'яўляюцца прычынай шматлікай вулічнай прастытуцыі. Варшава, можна сказаць, кішыць прастытуткамі. Прыстаюць нават удзень. Ледзь зазяваешся ў вітрыны — тут цябе ўжо апанавалі. А ўвечары па некаторых вуліцах проста не прайсці.

Кідаецца таксама ў вочы вялікая колькасць вулічных старцаў. Наглядаў, хто аказвае ім дапамогу. Больш рабочы і хто адзеты папрасцей. Багатыя адварачваюцца.

Надзвычайна многа рознага кшталту рэстаранаў, шантанаў, дзе часта да раніцы скачуць розныя шымі і факстроты і дзе буржуазія прагульвае народныя грошы.

Эканамічнае становішча Польшчы досыць цяжкае: рынкаў няма, злоты значна ўпаў. Толькі ў апошнія часы, дзякуючы забастоўцы ангельскіх углякопаў і вывазу вугалю ў Англію, Польшча трохі ўмацавала свой злоты і давяла яго да 9 за даляр (намінальна 5 злотых = 1 даляру). Вываз вугалю гэтак адбіваецца на ўмацаванні польскай валюты, што злоты мае тэндэнцыю расці яшчэ вышэй. Аднак урад штучнымі мерамі стараецца спыніць гэты рост (вышэй 9 злотых за даляр), бо ў праціўным выпадку Польшча пры дарагавізне сваіх тавараў канчаткова пазбавіцца магчымасці вывазу іх за межы. Для прамыслоўца выгадна, калі тавары будуць нізкія, хоць гэта як раз нявыгадна для рабочага і селяніна, але Польшча рэспубліка буржуазная, і яна перш за ўсё робіць тое, што карысна для буржуазіі. Умацаванне ў звязку з ангельскай забастоўкай злотага як раз супала з майскім пераваротам Пілсудскага. Адсюль яшчэ большая папулярнасць. Маса ўпэўнена, што стабілізацыю валюты зрабіў урад Пілсудскага.

Тым не менш і цяпер яшчэ эканамічнае становішча Польшчы застаецца крайне напружаным. Польскі эканаміст Кржаноўскі, характарызуючы паступовы заняпад сучаснай экономікі Польшчы, выказаў яго формулай: «Złoty jesień polska». Цяжкае эканамічнае становішча Польшчы, вялікае беспрацоўе з'яўляецца прычынай хуткага росту камунізму. Адзін паляк з інтэлегентаў мне казаў, што моладзь проста захапляецца камунізмам і масай ідзе ў шэрагі камсамолу. Апошняя з'ява між іншым знайшла свой адбітак і на старонках рамана Жаромскага «Przedwiośnie».

Хто стаіць ва ўладзе ў Польшчы? Палітыку і галоўны тон задае вайсковая партыя Пілсудскага. Ва ўрадзе ўсё яшчэ застаюцца эндэкі і крайнія правыя. Усюды моцны клерыкальны ўплыў. Газеты шмат пісалі аб змене адміністрацыі, але ўсё фактычна засталося па-старому.

У апошнія часы ў Міністэрстве асветы і спраў рэлігійных паднялося пытанне аб выдзяленні рэлігійнага дэпартаменту, аднак супраць гэтага праекту ўсепольскі каталіцкі з'езд вынес рэзкі пратэст. Клерыкалы павялі кампанію супраць міністра асветы Суйкоўскага. Некаторыя абяцанкі Суйкоўскага ўкраінцам у школьнай справе канчаткова падарвалі аўтарытэт гэтага міністра, і яму нядаўна Сейм большасцю галасоў выказаў недавер.

Некалькі слоў аб каталіцкім з'ездзе. Калі чытаеш яго рэзалюцыі, гэтак і аддае «смрадам» сярэднявечча. Напрыклад, аб забароне разводаў па ўсёй Польшчы, аб уплыве ўлады на праваслаўную царкву адносна забароны разводаў, аб уплыве духавенства на выхаванне моладзі, на грамадзянскую мараль і д.т.п.

Між іншым інтэлігенцыя часта пытаецца аб формах нашага шлюбу. Гаворыш, што ў нас свабодны развод, што нават ёсць праект зусім скасаваць афіцыяльны шлюб. Тут жа гаворыш аб «аліментах». Закон аб аліментах выклікае здзіўленне як вельмі разумная савецкая мера.

Каталіцкае духавенства не толькі выносіць рэзалюцыі аб уплыве на народ, яно сапраўды яго мае. Польская маса такая клерыкальная і такая хваравіта фанатычная, як можа ні адзін народ у свеце. Як раз пад час пасяджэння каталіцкага з'езду адбывалася перанясенне мошчаў якогасьці «святога Косткі». Ксяндзы праз касцёлы выгналі на вуліцу цэлую Варшаву. Глядзеў я на гэты натоўп народу і

шкада было за яго цемнату. А тоўстыя пралаты ў чырвоных паясах, стоячы на балконах дамоў, благаслаўлялі маніфестантаў.

Чым цяпер жывуць шырокія колы польскага грамадства? Цешацца незалежнасцю Польшчы. Аб гэтым гавораць і пішуць. Вераць у асобнае пасланніцтва Польшчы. Ідэя Польшчы — для яго вышэй за ўсё. Гэта свайго роду ідэалагічнае вучэнне, якое замяняе сацыяльную барацьбу, з'яўляючыся як бы нейкай партыяй. На грунце ідэі аб асобным пасланніцтве польскага народу развіваецца непамерная самаўпэўненасць, злучаная з нецярплівымі адносінамі да іншага народу. Як выраджэнне гэтай ідэі — самы звярыны шавінізм, якая хвароба заразіла ўсю Польшчу.

Рознапляменнасць польскага насельніцтва, вялікі працэнт нацменшасцяў (1/5 насельніцтва) і немагчымасць адсюль праглынуць гэтую пілюлю яшчэ больш абвастрае польскі шавінізм і даводзіць яго ў барацьбе з нацменшасцямі да самых уродлівых форм.

## Львоў

У першы раз з нацыянальным уціскам мне давялося пазнаёміцца ў Львове, куды я з т. Гарэцкім прыехаў у першыя дні верасня.

Заводзім знаёмствы з мясцовымі ўкраінскімі дзеячамі. Просім азнаёміць нас з украінскім рухам у Галіцыі. Расказваюць.

Малюецца жудасная карціна нацыянальнага ўціску. Да 2000 пачатковых украінскіх школ зачынена. З 20 урадавых гімназіяў засталося толькі 7. Выкладанне ў Львоўскім універсітэце цалкам адбываецца на польскай мове, тады як перад вайной большасць прадметаў чыталася па-ўкраінску. Усе служачыя ўкраінцы з урадавых устаноў звольнены. Адных толькі жалезнадарожнікаў звольнена звыш 2000 чал. Украінскія выданні канфіскуюцца. Астрогі перапоўнены палітычнымі змагарамі-ўкраінцамі.

Але настрой бодры, сцяг змагання трымаюць высока. На рэпрэсіі адказваюць рэпрэсіямі. Арганізавалі замахі на 2 польскіх прэзідэнтаў. «Цяпер, — кажуць, — мы ўпэўнены, што да нас ніхто з польскіх прэзідэнтаў і носа не пакажа». Маюць моцную арганізацыю. Праз кааператыў арганізавалі ўсю сялянскую масу. Нацыянальная свядомасць стаіць высока. Закладаюць прыватныя школы, гімназіі. Шмат маюць тайных школ, у тым ліку 2 вышэйшых: універсітэт і палітэхніку.

Тайная вышэйшая школа мяне вельмі цікавіць, і я пытаюся ў рэктара ўніверсітэта расказаць, як у іх адбываюцца заняткі. «Прафесарскага кадру ў нас даволі, — расказвае рэктар тайнага ўніверсітэта прафесар N. — Горш справа стаіць з аудыторыямі і лабараторыямі. Аудыторыі часта прыходзіцца мяняць, каб не высачыла паліцыя. З лабараторыямі гэтага не зробіш, дзеля чаго мы змушаны абмежавацца толькі першымі курсамі, дзе выкладанне ідзе лекцыйна. Апошнія курсы нашы студэнты слухаюць у замежных універсітэтах, аб чым у нас ёсць згода. Лекцыі чытаюцца з вялікай асцярогай. Каля кожнай аудыторыі мы растаўляем варту. Аднак здараецца, што паліцыя накрывае. Тады прафесараў і студэнтаў вядуць у астрог. Перш вадзілі адразу цэлымі аудыторыямі. Звычайна студэнты спявалі нацыянальныя ўкраінскія песні: "Ще не вмерла Україна", "Не пора, не пора"… Гэта рабіла моцную агітацыю на вуліцу. Цяпер палітыка тактыку змяніла, і ў астрог водзяць па аднаму».

Пытаюся, чаму палякі хацелі адчыніць Украінскі ўніверсітэт не ў Львове, а ў Кракаве, і чаму ўкраінцы не згадзіліся з гэтай прапановай. Той жа рэктар прафесар N расказвае, што палякі баяцца Украінскага ўніверсітэта ў Львове, каб ён канчаткова не ўкраінізаваў гэтага гораду, паколькі ўсё вакольнае насельніцтва ўкраінскае. Для іх куды цікавей Украінскі ўніверсітэт у Кракаве, бо на выпадак вайны або паўстання будуць гатовыя ўкраінскія заложнікі.

Некаторыя ўкраінскія прафесары хацелі згадзіцца з прапазыцыяй палякаў, але баявая ўкраінская дружына ім заявіла: «Калі вы будзеце гаварыць аб Украінскім універсітэце ў Кракаве, то на першы раз мы вам наб’ём морды, хоць вас і шануем; а калі вы заікнецеся аб гэтым у другі раз, то застрэлім». Пасля такой засцярогі больш разгавораў аб Украінскім універсітэце ў Кракаве не было.

З украінскіх партый найбольш моцная Камуністычная і УНДА (Украінскае нацыянал-дэмакратычнае аб’яднанне). Цяпер гэтыя партыі зліваюцца.

Сам горад Львоў выглядае брудна: разбітыя яшчэ ад вайны брукі не папраўлены, вуліцы паліваюцца рэдка, а пылу з гор наносіцца многа, шмат дамоў яшчэ захавала на сабе сляды вайны і ўкраінска-польскай разні 1919 году. Аднак гандаль, відаць, горад мае вялікі. Кідаецца ў вочы многа крам, базараў.

Між іншым, калі мы былі ў Львове, то праз тры дні мусілі адчыніцца так званыя Targi Wschodnie, нешта на манер Ніжагародскага кірмашу, як кажуць палякі. Чакаць не захацелі, але выйшлі паглядзець на прыгатаванні. Са спісу відаць, што будуць прымаць удзел толькі польскія фірмы. Украінцы Targi Wschodnie байкатуюць і ў працівагу ім у кастрычніку ў Станіславе арганізуюць свой кірмаш. Вельмі прасілі па салідарнасці прыслаць прадстаўнікоў ад Беларусі.

Са Львова хацелі на самалёце вылецець у Кракаў, каб паглядзець на Карпаты, але не было квіткоў. Едзем цягніком. З вакна вагона глядзім на ўкраінскіх сялян у нацыянальных гарнітурах, на іх вузкія палоскі — такія вузкія, пра якія ў нас кажуць, што калі сабака ўпоперак паласы ляжа, то хвост апусціць на чужое поле. Вёскі частыя і густа населеныя. Хаткі бедныя. Наогул сялянства жыве вельмі бедна. Беднасць навучыла сялян да вялікай ашчаднасці і цвярозасці. П’янства не мае месца ў Галіцыі. Адносіны сялянства да паноў пасля рэвалюцыі надзвычай варожыя. Маёнткі часта паляць. Сялянства жыве надзеяй, што хутка іх брат з усходу прагоніць ненавісных ім паноў. Савецкая Украіна таксама прыцягвае сімпатыі Галіцыі, як Савецкая Беларусь — Заходняй Беларусі.

## Кракаў

Праз восем гадзін прыязджаем у Кракаў. Раніцай ідзём аглядаць горад. Горад ціхі, невялікі, трохі большы за Менск, але чысты і стыльны; мае шмат прыгожых будынкаў, паркаў, алей; уражанне робіць вельмі добрае. Кракаў — гэта гісторыя Польшчы, яе музей. Што ні крок — то гістарычныя помнікі: палацы, касцёлы, помнікі. Тут лепшая ў Польшчы так званая Ягелонская бібліятэка (1 500 000 тамоў), тут лепшыя музеі, асабліва музей Чартарыйскіх і іх жа бібліятэка з багатай калекцыяй славянскіх і беларускіх рукапісаў, тут жа знаходзіцца старэйшы ў Польшчы ўніверсітэт, дзе калісьці вучыўся наш зямляк Скарына, тут урэшце знаходзіцца галоўная ў Польшчы навуковая ўстанова Academia Umiejętności. Нам паказваюць плошчу, дзе палілі на вогнішчы асуджаных інквізіцыяй, паказваюць ланцуг на плошчы, якім прывязвалі асуджанага. У музеях паказваюць розныя прылады інквізіцыі для пытак. У катэдры ў Вавелю, дзе хавалі каралёў, аглядаем высока-мастацкія іх фігуры з мрамара і бронзы, зробленыя лепшымі італьянскімі скульптарамі. З помнікаў зварочваюць увагу бронзавая статуя на Вавелю генерала Касцюшкі і капец, насыпаны каля Кракава, а таксама помнік Міцкевіча, Ягелы і інш.

У наступныя дні знаёміліся з польскімі вучонымі, з Акадэміяй навук. Сустракаюць, як гасцей, і аказваюць ва ўсім дапамогу. Праўда, папалі мы ў Кракаў у няўдалы час, калі ўсе знаходзяцца на urlopie (адпуску) і многа ўстаноў зачынена. З прычыны гэтага я не мог азнаёміцца з беларускімі рукапісамі бібліятэкі Чартарыйскіх, што ўваходзіла ў заданні маёй камандыроўкі.

З Кракава на аўтобусе паехалі ў Вялічку, дзе аглядалі слынныя на ўвесь свет саляныя капальні. Соль там здабываюць каля 1000 год. Агульная працягласць

шахтаў звыш 300 кіламетраў. Вадзілі нас па розных гротах, з якіх прававерныя католікі парабілі касцёлы, капліцы з салянымі фігурамі святых. Зацікавіліся паглядзець, дзе рабочыя працуюць па здабыванню солі. Патрабавалася асобнае дазваленне Галоўнай управы капальні, якое нам і далі, прыкамандыраваўшы да нас у якасці праваднікa аднаго з галоўных інжынераў (звычайнага тэхніка даць пабаяліся). Умовы працы рабочых вельмі цяжкія. Працуюць або машынай, высякаючы саляную глыбу і пасля яе падрываючы, або кіркай. Пры машыннай працы выдзяляецца вельмі многа салянога пылу, які залазіць у нос, у рот, у вочы. І колькі ж рабочы атрымлівае за гэтую катаржную працу? — 2½ злотых на дзень, на нашы грошы каля 60 кап.

З Кракава, закупіўшы патрэбную нам навуковую літаратуру, накіроўваемся ў Варшаву: я з кнігамі цягніком, а т. Гарэцкі на самалёце. Хто цяпер лятае ў Польшчы на самалётах? Дыпламаты, паслы, чужаземцы і дамы света і паўсвета, якія гоняцца за новымі адчуваннямі і карыснымі для сябе знаёмствамі на самалётах.

## Вільня

У Варшаве затрымліваемся на колькі дзён і едзем адсюль у Вільню. Прыязджаем раніцай. Ідзе дождж. На вуліцах брудна, без калош і не прайсці. Распачатая яшчэ да вайны каналізацыя не скончана нават на цэнтральных вуліцах. Рамонту не відаць. Дамы стаяць абшарпаныя, брудныя. Рух у горадзе слабы. Насяленне параўнаўча з данымі перад вайной значна зменшылася. У Вільні ў 1921 годзе лічылася 128 000 ч. (да вайны 200 тысяч). Цяпер насельніцтва трохі павялічваецца. Кідаецца ў вочы вялікі лік вайсковых, паліцэйскіх, асабліва апошніх. Часта чуваць руская гутарка. Уся яўрэйская інтэлігенцыя гаворыць па-руску.

Трапляем мы ў Вільню як раз у дзень святкавання 20-годдзя беларускага друку. Да пачатку пасяджэння заходжу ў універсітэцкую (б. Публічную) бібліятэку. Прашу даць каталог старых беларускіх рукапісаў і старадрукаваных кніг. Загадчык аддзелу адказвае, што ўсе рукапісы і кнігі царскі ўрад эвакуяваў у Яраслаўль, дзе яны ў 1918 г. згарэлі. Засталося толькі некалькі актаў і грамат. Такі ж сумны лёс і Віленскага музею. Частка дзесьці загінула ў Яраслаўлі, а частка звалена ў кучу і ляжыць неразабранай. Ад археалагічных і мінералагічных калекцыяў паадрываліся ярлыкі, дзеля чаго гэтыя калекцыі страцілі ўсялякі навуковы інтарэс.

Увечары іду на пасяджэнне. Маленькая зала, або больш правільны пакой з пастаўленымі заместа крэсел прымітыўнымі лаўкамі. Пытаюся, чаму для такога ўрачыстага пасяджэння такая маленькая і такая бедная зала. Адказваюць, што хацелі наладзіць пасяджэнне ў залі Беларускай гімназіі, але куратар (папячыцель) не дазволіў. Патрохі збіраецца публіка. Прыходзяць паслы Валошын, Рак-Міхайлоўскі, сенатар Уласаў, настаўнікі, прадстаўнікі Жонду і нацыянальных меншасцяў. Відаць некалькі чатырохкантавых шапак беларускіх студэнтаў і студэнтак Віленскага ўніверсітэту. Прадстаўнікоў ад Беларускага пасольскага клуба няма. Старшыня сходу адчыняе пасяджэнне і вітае нас як культурных прадстаўнікоў Савецкай Беларусі. У залі доўга стаяць дружныя воплескі. Прадстаўнікі Жонду азіраюцца па залі, але на лобе ў нас не напісана, што мы з Bolszewii, як кажуць палякі. Толькі пасля пасяджэння ім удалося паглядзець на нас, калі мы зайшлі ў асобны пакой, і куды яны заглянулі пад не зусім «благавідным прадлогам».

Слова аб гісторыі беларускага друку старшыня сходу (Нацыянальнага камітэту) дае Антону Луцкевічу (здраднік А. Луцкевіч прымыкаў да грамады). У сваёй цікавай па зместу прамове Луцкевіч дае гісторыю беларускага друку, падкрэслівае, што газета «Наша Ніва» за ўвесь час свайго існавання была сканфіскавана чатыры разы. «Помню, — кажа прамоўца, — адзін раз «Наша Ніва» была сканфіскавана за гэткі верш: «Падымаецца молат помсты народнай і як апусціцца,

дык ад вас (буржуазіі) мокрага месца не застанецца». Назіраю за прадстаўнікамі Жонду. Заёрзалі на крэслах. Відаць, прыймаюць па свайму адрасу. У сваёй далейшай прамове Луцкевіч спыніўся на ліку зачыненых польскай уладай беларускіх газет і сканфіскаваных нумароў. Пералічвае зачыненыя газеты. Выходзіць цэлы сынодык.

Пасля прамовы старшыня сходу прапануе ўшанаваць уставаннем памяць піянера беларускага руху нябожчыка Івана Луцкевіча. Усе ўстаюць. Прадстаўнікі Жонду вагаюцца: уставаць ці не. Урэшце неахвотна ўстаюць. Далей следуюць вельмі цікавыя прамовы ад польскіх і літоўскай арганізацый. Прадстаўнікі яўрэйскай арганізацыі спазніліся, прасілі надрукаваць іх прывітанне ў газеце.

Пасля сходу інцыдэнт. Прадстаўнікі Жонду ўглядаюцца ў вітрыну, на якой выстаўлены ўсе беларускія газеты, і тут заўважваюць савецкія газеты. Патрабуюць зараз жа іх зняць. Публіка пратэстуе. Урэшце старшыня сходу прымушаны быў на ўсю залю заявіць, што па запатрабаванні польскай адміністрацыі савецкія газеты павінны быць зняты. Моцныя нараканні. Але савецкія газеты здымаюцца, і на вітрыне застаюцца чорныя плямы.

Нашаму прыезду ў Вільню грамадаўцы вельмі рады. Мы чуць не першыя госці з Савецкай Беларусі. Нас знаёмяць з мясцовымі беларускімі працаўнікамі. Пытаюцца аб сваіх знаёмых у Менску. Перадаюць паклоны. Грамадаўцы робяць нам банкет, гарбату. Расказваюць аб сваім цяжкім жыцці, аб прыдушэнні польскай уладай беларускага руху і аб усім, што за апошнія гады набалела на сэрцы.

У нашых газетах часта пішуць аб прыгнечанні нацменшасцяў. Аднак ёсць яшчэ й такія, што ўсё ж не вераць гэтаму, кажуць, што газеты пішуць для палітыкі. Гэтым таварышам я б сказаў, што нашы газеты яшчэ мала пішуць аб польскім здзеку. Аб ім трэба пісаць кожны дзень, трэба крычаць на ўвесь свет, каб усе ведалі, як польская буржуазія распраўляецца з працоўнымі ў Заходняй Беларусі.

Вялікі працэнт нацменшасцяў, што апынуліся ў польскай дзяржаве, моцна непакоіць польскую ўладу. У выпадку вайны, рэвалюцыі — гэта самы небяспечны элемент. Як жа перацягнуць сімпатыі нацменшасцяў на свой бок? Ёсць два спосабы: або даць ім нацыянальную аўтаномію, магчымасць нацыянальна-культурнага развіцця, або задушыць усялякае праяўленне нацыянальнай самасвядомасці і ўцяліць нацыянальныя меншасці да пануючай нацыі. Апошні спосаб ужываў царскі ўрад. Гэты спосаб, толькі больш удасканалены, дапасоўвае да нацыянальных меншасцяў і польскі ўрад. Мне з польскіх колаў перадавалі, што нават ёсць праект «знішчэння Русі». Гэта больш праўдападобна, бо Грабскі сказаў: «Праз 25 год у Польшчы не будзе нацыянальнага пытання».

І сапраўды, польская ўлада ўсёй сістэмай сваёй адміністрацыі прынялася за паланізацыю «крэсаў». Мерапрыемствы і сродкі дзеля гэтай мэты ўжываюцца самыя разнастайныя. Тут перш за ўсё трэба сказаць аб падтасоўванні даных аб нацменшасцях у Польшчы. Па польскай статыстыцы выходзіць, што у Польшчы юдэяў больш, чым яўрэяў, больш праваслаўных, чым беларусаў. Усяго польская афіцыйная статыстыка налічвае ў Польшчы беларускага насялення 800 тысяч чалавек. Усе беларусы-каталікі залічаны да палякаў. Сракоўскі ў сваёй брашуры: «Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich», крытыкуючы афіцыяльныя даныя, прыходзіць да высновы, што беларусаў пад Польшчай трэба лічыць не менш 1 600 000 чал. Фактычна ж беларускае насельніцтва ў Заходняй Беларусі складае каля 3 000 000 чал. «»

Самым важным сродкам паланізацыі палякі лічаць так званае асадніцтва. Каб мець сваіх сталых агентаў, якія б маглі зліцца з народнай масай і рабіць на яе штодзённа ўплыў, палякі раздаюць беларускія землі «асаднікам». Землі асаднікам раздаюцца за вайсковыя заслугі. Хто такія «асаднікі»? Самы разбэшчаны вайной элемент, самыя падонкі грамадства. Усё, што ў Польшчы было горшага, небяспечнага, злачыннага, злодзейскага, крымінальнага, — усё гэта кінута на «крэсы». Кінута цэлая армія гэтага адборнага элементу, цэлых 150 тысяч чалавек. Далі ім

дарэмна лепшыя землі, далі грошы на абсталяванне гаспадаркі, зрабілі моцную асадніцкую арганізацыю з павятовымі камітэтамі і з Цэнтральным камітэтам асаднікаў у Варшаве на чале. Галоўным патронам гэтых камітэтаў лічыцца сам пан Пілсудскі. А што ж далі беларускаму селяніну? Камбінацыю з трох пальцаў. Нягледзячы на тое, што бадай усе бежанцы вярнуліся на сваю радзіму і што беззямелле за гэты час у беларускіх вёсках значна павялічылася, — усе землі аддаюцца чужынцам, асаднікам. Трохмільённая беларуская маса набыла толькі трэйцюю частку таго, што дарам дасталося асаднікам. Якія ж адносіны беларускага сялянства да асаднікаў? Самыя варожыя. І ёсць за што. Не кажучы ўжо аб тым, што ў беларуса з-пад носа ўзялі яго зямлю і далі чужынцу, дык асаднікаў не церпяць яшчэ і па іншых прычынах: асаднік — польскі агент, асаднік-шпіён, які ўдае беларуса, асаднік перашкаджае адкрыццю беларускіх школ і арганізацыі беларускага сялянства, асаднік, урэшце, разам з паліцыяй арыштоўвае беларускага селяніна і катуе яго. Варожыя адносіны ўсяго насельніцтва да асаднікаў прымушаюць іх быць заўсёды ўзброенымі (апошняе ім дазваляецца): калі едзе асаднік у суседнюю вёску, або мястэчка ці горад — у яго заўсёды за плячыма вінтоўка. А беларус чакае і ўпэўнены, што надыйдзе хутка час, калі гэтыя асады разам з панскімі палацамі згінуць у агні яго помсты.

Другім сродкам паланізацыі з'яўляецца польская школа і выхаванне моладзі наогул. Звыш 300 беларускіх школ, якія былі закладзены ў часы нямецкай акупацыі, зачынены. Зачынены ўсе беларускія прытулкі. Цяпер засталіся толькі 4 пачатковыя школы, якія не сягоння-заўтара будуць зачынены, і 4 прыватныя гімназіі: у Вільні, Радашковічах, Навагрудку і Клецку. Заявы на адкрыццё 400 беларускіх школ, якія былі пададзены беларускім сялянствам, згодна новаму моўнаму закону, два гады ляжаць без усялякага руху ў Міністэрстве асветы. Заявы на адкрыццё прыватных школ не задавальняюцца. А калі тая ці іншая вёска ўсё ж такі адкрыць прыватную школу, то настаўніка садзяць у вастрог, а бацькоў абкладаюць вялікімі штрафамі. Абяцаныя два гады таму назад настаўніцкія курсы не адкрыты і да гэтага часу. А кваліфікацыя настаўнікаў былых расійскіх школ не прызнаецца. Дзеля гэтага нават знайсці настаўніка для гімназіі — справа нялёгкая: то яму адмаўляюць у адсутнасці кваліфікацыі, то ў палітычнай ненадзейнасці і д.п. А між тым у польскія школы настаўнікі прызначаюцца без усялякай кваліфікацыі, абы былі граматнымі па-польску. І пацягнуліся з Галіцыі так званыя кухаркі, прастытуткі, замяшчаюць на «крэсах» вакантныя пасады ў польскіх школах. Зразумела, што беларускае насельніцтва ў большасці байкатуе польскую школу і лічыць за лепшае зусім не вучыць сваіх дзяцей, чым калечыць іх у польскай школе.

Віленскі ўніверсітэт чыста польскі. Нічога па-беларуску не чытаецца. Некалькі год таму Б. Тарашкевічу прапанавалі былі чытаць беларускую мову папольску, але ён ад такой ласкі адмовіўся. Пасля таго спрабаваў гэты курс чытаць (вядома па-польску) прафэсар Масоніус. Аднак чытанне курсу хутка спынілася, бо беларускае студэнцтва на лекцыі прафэсара Масоніуса не хадзіла.

Патрапіць беларусу ва ўніверсітэт вельмі цяжка. Атэстаты беларускіх гімназіяў не прызнаюцца. А вытрымаць экзамены ў асобных камісіях могуць толькі вельмі рэдкія адзінкі.

Такія ж адносіны не толькі да беларускай школы, але і да яўрэйскай. Аб становішчы ўкраінскіх школ гаварылася вышэй. Як глядзіць Міністэрства асветы на нацыянальную школу, характэрна будзе прывесці погляд міністра асветы Суйкоўскага. Калі да яго ў першыя дні верасня звярнулася дэлегацыя нацменшасцяў (беларусы, яўрэі, немцы, літоўцы) у школьных справах, і калі прадстаўнікі яўрэйскай дэлегацыі (доктар Шабад) пачаў гаварыць аб патрэбе адкрыцця яўрэйскіх пачатковых і сярэдніх школ, то пан Суйкоўскі яхідна запытаў: «Можа б вы хацелі адчыніць і яўрэйскі ўніверсітэт?». «Гэта мы яшчэ не вымагаем, але пэўна ў бліжэйшы час такое пытанне паўстане», — рэзонна заўважыў міністру доктар Шабад.

Палякі не толькі праводзяць паланізацыю праз школы, але і праз касцёлы, праз сваё шматлікае духавенства. На «крэсы» яны сагналі цэлую армію розных езуіцкага толку манахаў і манашак: кармелітаў, басакаў, францішканцаў, базыліян і інш. Манахі і манашкі ў іх настаўнікі, загадчыкі агульных памяшканняў вучняў, сёстры міласэрнасці і д.п. і ўся чорная хеўра за славу Езуса і айчыны робіць на Беларусі сваю брудную справу.

Але польская палітыка нацыянальнага ўціску мае і свае станоўчыя вынікі. Неспадзявана для сябе палякі дабіліся дыферэнцыяцыі нацыянальнага пытання ў Польшчы. Цяпер у Польшчы кожны беларус добра ведае, хто ён, — як з боку нацыянальнага, гэтак і сацыяльнага. Нават беларусы-каталікі, якія раней лічылі сябе за палякаў, усвядомілі сябе беларусамі. Польскі бізун дапамог у нацыянальнай самасвядомасці.

Характэрным паказальнікам росту нацыянальнай і сацыяльнай свядомасці беларускага народу з’яўляецца надзвычай хуткі рост беларускай партыі Работніцка-Сялянскай Грамады. Закладзеная блізка 3-х месяцаў таму назад, гэта партыя налічвае цяпер да 25 000 членаў. Столькі членаў не мае ні адна партыя ў Польшчы. У росце гэтай партыі ёсць штосьці надзвычайнае, стыхійнае. Сялянства ў партыю проста валам валіць. Паступаюць у члены цэлымі вёскамі. Арганізуюцца ў гурткі. Усяго было гурткоў падчас майго побыту ў Вільні 637. Асабліва вялікі гурток дала Гарадзеншчына, дзе налічваецца 99 гурткоў. Між іншым Гарадзеншчыну палякі, лічачы карэннай Польшчай, далучылі яе разам з Ломжанскай губерняй да Беластоцкага ваяводства і забараняюць на гэтай тэрыторыі ўсялякую культурна-асветную працу. Зараз у Грамадзе адбываецца вялікая арганізацыйная праца. Ствараюцца, нягледзячы на ўсе перашкоды з боку польскай адміністрацыі, павятовыя арганізацыі Грамады. Паслы сойму з партыі Работніцка-Сялянскай Грамады не знаюць адпачынку. Кожны дзень у дарозе збіраюць павятовыя з’езды, праводзяць арганізацыі. У Наваградку павятовы з’езд быў забаронены. Грамадаўцы ў знак пратэсту наладзілі цэлую дэманстрацыю, чым не на жарт перапужалі мясцовую адміністрацыю. У выніку шмат каго арыштавалі.

Хто паступае ў Грамаду? Галоўным чынам сяляне. Паступаюць беларусы і праваслаўныя, і каталікі. Паступаюць хлопцы, дзяўчаты, старыя. Часта здараюцца выпадкі дасылання папээсаўскіх мандатаў з просьбай у залічэнні ў Грамаду. Цяпер ідзе праца па прыцягванню ў Грамаду пралетарскіх мас гарадоў і мястэчак.

Работніцка-Сялянская Грамада цяпер у Заходняй Беларусі з’яўляецца адзінай моцнай партыяй, якая не дае спакойна спаць польскай адміністрацыі. Прыдумляюцца розныя меры, каб паралізаваць працу партыі. Мабілізуюць усе варожыя да Грамады элементы. У маю бытнасць у Варшаве туды прыязджаў у Міністэрства ўнутраных спраў па даручэнні ад Віленскага ваяводы Рачкевіча беларускі «дзеяч» Валейша, прыязджаў Аляксюк. Нават выкарыстоўваецца дзеля гэтай мэты «вядомы рэвалюцыянэр» Мамонька, які разам з ППС збіраецца выдаваць якуюсьці газету. Пэўна яшчэ будуць выпушчаны на сцэну цэлы шэраг «дзеячоў», каб скампраметаваць працу Грамады, а разам з ёю і беларускі нацыянальна-вызваленчы рух.

Вядома, будуць і падачкі. Аб іх ужо гавораць і пачынаюць пісаць. Выдавацца яны будуць на беларускую культурна-асветную працу, але будуць трапляць у кішэні розных прахадзімцаў.

На Грамаду цяпер у беларускіх колах ускладаюць усю надзею, нават, як ні дзіўна, асобы часта з варожага лагеру. А грамадзісты добра памятаюць рэвалюцыйнае выслоўе: «Правы не даюцца, а бяруцца».

І на барацьбу за свае правы ідзе Заходняя Беларусь у Грамаду. Кандыдатаў папярэджваюць, кажуць, што Грамада нічога не дае і нічога не абяцае; яна толькі заклікае да барацьбы з польскай уладай — і, можа, доўгай і ўпартай барацьбы. І на гэты лозунг ідзе сялянства. Паступае ў партыю або ідзе, як кажуць сяляне, «запісацца за Беларусь».

«Ад веку мы спалі і нас разбудзілі…» Можа, ніколі і нідзе не стасуюцца так да беларуса гэтыя словы, як цяпер у Заходняй Беларусі. Беларус доўга спаў, доўга маўчаў, зубы сцяўшы. Ён беспраўны, ён парый. Яго прагналі са службы. Яго арыштоўваюць, катуюць. Б'юць селяніна, рабочага, б'юць інтэлігента. Катуюць бязлітасна, жорстка. Ламаюць рэбры, выбіваюць зубы, б'юць палкамі па пятах, заганяюць булаўкі пад пазногці. Здаецца, вярнуліся часы страшэннай сярэднявяковай інквізыцыі.

А беларус спаў. Але цяпер ён паўстаў. Паўстаў для змагання за свае правы, за правы ўсіх працоўных, якія стогнуць пад панскім абцасам.

Рост Грамады яшчэ не спыніўся. Ува што ён выльецца — пакажа бліжэйшая будучыня.

Што буржуазны друк аб нас піша? Такую хлусню, такія небыліцы, што нават расійскія эмігранцкія газеты перасталі перадрукоўваць з польскіх газет розныя байкі аб СССР, знаходзячы іх фантастычнымі. І праўда, як толькі 19 верасня я пераехаў польскую граніцу, купляю варшаўскія газеты. Чытаю навіны аб СССР: у раёне Менску паўстанне вайсковых часцей, змагаюцца цэлыя палкі і г.д., і г.д. Такія ж весткі бадай кожны дзень.

Не магу тут не ўспомніць аб адным odczycie (дакладзе) аб СССР, на які я папаў у Кракаве. Чытаў яго ксёндз Квяткоўскі, які, па яго словах, два разы быў прыгаворany бальшавікамі да расстрэлу. Даклад чыста чарнасоценны-пагромны. Чаго толькі Квяткоўскі аб СССР не брахаў. Што тут і цяпер яшчэ пануе голад, што ў часы голаду на Паволжы памерла 24 мільёны чалавек, што 168 вагонаў царкоўных каштоўнасцяў і па сягодняшні дзень ляжаць па загаду камісара Н. Троцкай у Крамлі, і што самыя царкоўныя каштоўнасці сканфіскаваны для вайны з Польшчай, што сялянам зямлі не далі, а парабілі савецка-камісарскія маёнткі і д.т.п. Кончыў прамоўца свой даклад тым, што запужаў прысутных на сходзе (былі толькі чарнасоценцы) хуткім прыходам бальшавікоў, бо апошнія падкупілі ўсе польскія партыі, нават эндэкаў, і што дзеля гэтага грамадства павінна быць гатова k obronie.

Асабліва цяжкія адчуванні прыходзіцца перажываць у Вільні — гэтай калысцы беларускага нацыянальнага руху, дзе ўсё прыціснута, дзе за кожным беларускім працаўніком ходзіць па пятах некалькі шпікоў, і дзе польскі жандар спраўляе свой крывавы баль на землях працоўнай Беларусі. Сэрца абліваецца бязмежнай нянавісцю і злосцю проці панскай Польшчы. Хочацца хутчэй у Савецкую Беларусь — падыхаць свежым паветрам.

Праз Варшаву еду ў Менск. Вось знаёмае Коласава. Бывай, жандарская Польшча.

С. Некрашэвіч
10/X-1926 г.
Менск

Фонд 4п. Вопіс 1. Справа 4595. Лісты 9—24. Копія.

***Матэрыял да друку падрыхтавалі супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Токараў і супрацоўнікі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Н. Калеснік і М. Тумаш.***

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «ДЗІВОСНЫЯ СНЫ» ПАЎЛА МАРЦІНОВІЧА

**Маляваныя сны Паўла Марціновіча.** *Укладальнік Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. На беларускай, рускай і англійскай мовах. Мн.: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2012.*

Каб ніякіх непаразуменняў не ўзнікла — маўляў, займаюся прапагандай творчасці блізкага мне чалавека, адразу засведчу: П. Марціновіч — ніякі мне не сваяк. Нават і не далёкі. Дарэчы, да месца і такое ўдакладненне: ні ў якім разе не трэба блытаць гэтага Марціновіча з яго двайным цёзкам — паэтам, перакладчыкам Паўлам Марціновічам. Ды, у рэшце рэшт, хто ж ён такі, гэты П. Марціновіч, якому прысвечана цудоўная кніга-альбом «Маляваныя сны Паўла Марціновіча»?

Калі сказаць коратка: беларускі самадзейны мастак, зямны шлях якога ўмясціўся ў прамежку 1911—1981 гадоў. Канкрэтызаваўшы абсягі ягонай творчай дзейнасці, трэба засведчыць, што П. Марціновіч — адзін з прадстаўнікоў інсітнага, ці, інакш кажучы, наіўнага мастацтва.

Гэты тэрмін, як вядома, быў уведзены ў 1966 годзе славацкім мастацтвазнаўцам Ш. Ткачом. Хоць інсітныя мастакі і належаць да самадзейных, яны, тым не менш, адрозніваюцца ад іх. Мастакі-аматары ў сваёй творчасці арыентуюцца на спасціжэнне яе прафесійных сакрэтаў. Мастакі ж інсітнікі падобнай задачы перад сабой не ставяць. Тое, чым яны займаюцца, мае характар звычайнага захаплення, усё адбываецца па сутнасці інстынктыўна.

Элементамі інсіту прасякнуты, у прыватнасці, мастакоўскія памкненні такіх майстроў, як Я. Драздовіч, М. Засінец, І. Супрунчук, І. Тарасюк і іншыя. Калі ж браць класічны прыклад, то на Беларусі — гэта, найперш, Алена Кіш. Дарэчы, імёны ўсіх іх на слыху. Да іхняй творчасці прыцягнута ўвага мастацтвазнаўцаў, якія інсітным мастацтвам па-сапраўднаму зацікавіліся ў 1990-я гады мінулага стагоддзя, а ў 1994 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прайшла першая выстаўка гэтага мастацтва.

На жаль, да нядаўняга часу пра П. Марціновіча мала хто ведаў. Ягонае імя ўпершыню ўсплыло толькі на ІІ-й міжнароднай навукова-метадычнай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы вывучэння, захавання, перайманння». І вось спецыяльная кнігаальбом «Маляваныя сны Паўла Марціновіча», у якой дэталёва прасочваецца жыццёвы і творчы шлях гэтага выдатнага народнага самародка, а таксама змешчаны рэпрадукцыі ягоных работ.

Да з’яўлення выдання спрычыніліся многія людзі, зацікаўленыя ў тым, каб ніводнае імя творцаў, вартых увагі, у тым ліку і самадзейных, не знікла з народнай памяці, а з іхнімі творамі магла пазнаёміцца як мага большая колькасць людзей. Але, перадусім, самае галоўная заслуга ў тым, што альбом, прысвечаны П. Марціновічу, нарэшце з’явіўся, належыць вядомаму даследчыку, мецэнату, а цяпер ужо і лаўрэату спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва Анатолю Статкевічу-Чабаганаву.

Падобная цікаўнасць да творчасці П. Марціновіча ў яго невыпадковая, пра што Анатоль Васільевіч расказвае

ў пачатку свайго артыкула «Мастак з роду Марціновічаў»: «У дзяцінстве, жывучы ў бабулі Марыі Аляксандраўны Статкевіч у Засмужжы, што на Любаншчыне, я бачыў у многіх вясковых хатах дзівоснай прыгажосці маляваныя дываны. Былі такія дываны і ў нас. Захаваўся фотаздымак (ён змешчаны ў кнізе. — **А. М.**), дзе я ў піянерскім гальштуку каля маляванага дывана.

З малых гадоў я ведаў, што аўтар гэтых палотнаў наш аднавяскоўвец Павел Яўхімавіч Марціновіч, як у вёсцы ганарацца так званымі маляванкамі».

Не быў бы А. Статкевіч-Чабаганаў даследчыкам, калі б абмежаваўся толькі тымі фактамі, што дазваляюць убачыць жыццё П. Марціновіча толькі ў яго вызначальных момантах. Ён пайшоў далей: «Мне захацелася больш даведацца пра гэтага творцу з народа, тым больш, што ў канцы XIX ст. лёс звёў яго дзеда і майго прадзеда. Справа ў тым, што Аўраам Сцяпанавіч Марціновіч, дзед мастака Паўла Яўхімавіча, быў сярод пакупнікаў Засмужжа».

Пра гэтую гісторыю з пакупкай маёнтка Засмужжа, тыя, хто пазнаёміўся з першым томам А. Статкевіча-Чабаганава з цыкла ягоных кніг «Я — сын Ваш», канечне, ведаюць. Ды згадаць яшчэ раз не лішне. Калі князь Вітгенштэйн прадаваў на Любаншчыне маёнтак Засмужжа, прадзед А. Статкевіча-Чабаганава дваранін Іван Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч, вырашыў купіць яго. Але кошт па тым часе быў велізарны — 30 тысяч рублёў срэбрам. Каб выкупіць гэты маёнтак, што перайшоў да княгіні Марыі Львоўны Гагенлоа, народжанай Вітгенштэйн, давялося збіраць грошы блізкім родзічам, прадстаўнікам некалькіх родаў. Аднак, — працягвае А. Статкевіч-Чабаганаў, — «разам з дваранамі маёнтак выкуплялі і некалькі сем'яў з незацверджанай у дваранстве шляхты і заможных сялян. Марціновічы таксама былі сярод пакупнікоў. Такім чынам, дзед мастака Аўраам Сцяпанавіч Марціновіч стаў разам з маім прадзедам Іванам Вікенцьевічам Сацкевічам-Статкевічам і іншымі гаспадарамі заснавальнікамі вёскі Засмужжа».

Знаёміцца з біяграфіяй П. Марціновіча вельмі цікава. Перагортваючы яе старонкі, пастаянна ловіш сябе на думцы, што часам лёс у таленавітага чалавека паварочваецца такім чынам, што ён, могучы дасягнуць куды большага, чым дасягнуў, цалкам не рэалізуе свае магчымасці. У дадзеным выпадку — мастакоўскія. Быў Павел у сям'і шостым з семярых дзяцей. Меў схільнасць да вучобы. У ліку лепшых вучняў скончыў Любанскую сямігодку. Праявіў схільнасць да вывучэння моў: беларуская, руская, нямецкая. Нават па-яўрэйску навучыўся размаўляць — засвоіў яе ад гаспадароў хаты, у якіх кватараваў.

Да вайны ўзначальваў адну з паляводчых брыгад у родным калгасе, з'яўляўся нават дэлегатам Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве. І ўвесь час маляваў. Яму б атрымаць належную адукацыю. Ці, ва ўсякім разе, маляваць тое, чаго патрабаваў час. Наконт гэтага А. Статкевіч-Чабаганаў сцвярджае так: «Павел з дзяцінства добра ведаў жыццё аднавяскоўцаў. На яго памяці ў вёсцы адбывалася калектывізацыя з усімі яе наступствамі, быў створаны калгас «Асвета», куды ўвайшла вёска Засмужжа. Здавалася, гэтыя гістарычныя падзеі павінны былі паўплываць на светапогляд вясковага мастака. Тым больш, што калі б на карцінах маладога майстра з'явіліся сюжэты мірнай калгаснай працы, гэта было б ухвалена мясцовым кіраўніцтвам. Аднак Павел працягваў ствараць на палотнах своеасаблівы маляваны рай, перадаючы шчырасць пачуццяў і імкненне да поўнай гармоніі чалавека з прыродай».

Што ўяўляе сабой гэты «маляваны рай» П. Марціновіча і даведваешся, уважліва знаёмячыся з кнігай-альбомам. І з аповеду А. Статкевіча-Чабаганава даведваешся, і з артыкула малодшага навуковага супрацоўніка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Ірыны Смірновай, і загадчыка арганізацыйна-творчага аддзела Любанскага раённага цэнтра культуры Сяргея Выскваркі «Малява-

ныя дываны майстра з Засмужжа». Між іншым, гэта І. Смірнова і С. Выскварка на ўжо згаданай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы вывучэння, захавання, перайманння», і расказалі ўпершыню пра П. Марціновіча.

Але дзякуючы альбому, па-сапраўднаму, на поўны голас загаварылі і творы П. Марціновіча: дываны, макаткі, карціны. Безумоўна, прадстаўлена далёка не ўсё, адных дываноў, якія дайшлі да нас, налічваецца больш чым трыццаць. Для рэпрадукцый узята толькі самае цікавае, найбольш важнае. Тое, што радуе сваёй эстэтыкай, эмацыянальнай напоўненасцю, дазваляе ўпэўніцца ў тым, што інсітнае, або наіўнае, мастацтва здатна даваць адказы на зусім не наіўныя пытанні. А яшчэ, знаёмячыся з рэпрадукцыямі тых жа дываноў ( іх у Засмужжы называлі «каўёрамі»), даведваешся, як працаваў П. Марціновіч, ствараючы свой чарговы твор.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў пра гэта даведваўся яшчэ ў маленстве — ён вучыўся з ягонай дачкой Евай у пачатковай школе, ён наведваўся да яе дамоў: «Павел Яўхімавіч спачатку нацягваў палатно на раму, грунтаваў мылаварам і вапнай, затым старанна заціраў і фарбаваў яго ў чорны колер. Фарбы набываў у Мінску і нават у Маскве». А гэта з артыкула «Маляваныя дываны майстра з Засмужжа»: «Сюжэты для сваіх фантастычных дываноў, па сведчанні дачкі, ён «маляваў з паштовак», фабрычных дыванкоў, модных у пасляваенны час фотаздымкаў на любоўныя тэмы».

Праўда, падобная праблематыка была ў пазнейшых творах П. Марціновіча. Раннія, што не захаваліся, мелі іншыя сюжэты: «тройка коней, ільвы на паляне, дзяўчына вярхом на ваўку, дзе добра ўгадваюцца вядомыя класічныя сюжэты». П. Марціновіч, па сутнасці, свядома адыходзіў ад рэальнасці. Але не трэба забываць, што на гэта ўплывалі і самі заказчыкі, — вясковыя жанчыны і дзяўчаты, — ім хацелася на дыванах бачыць іншае жыццё, чым далёка не радасная пасляваенная рэчаіснасць.

Па сутнасці, ім хацелася тых «дзівосных сноў», якімі была напоўнена творчасць А. Кіш. У гэтыя «дзівосныя сны» вяртаў іх сваімі маляванымі дыванамі і П. Марціновіч. Дый, хутчэй за ўсё, у нейкім мройным свеце знаходзіўся і сам. Інакш як растлумачыць тое, што ён чамусьці пастаянна маляваў белы палац, які стаяў на выспе, адлюстроўваў берагі невядомай рэчкі, а яшчэ вяршыні гор, якія асвятляла заходзячае сонца.

Хоць гэта можна тлумачыць і паінашаму. Як? Ды гэта ўжо кожны, хто пазнаёміцца з творамі П. Марціновіча, мусіць дадумацца сам. На тое і існуе такое паняцце, як загадка творчасці, і чым больш таленавіты мастак, тым цяжэй яе разгадаць. П. Марціновіч, несумненна, быў талентам з вялікай літары.

У гэтым я ніколькі не сумняваюся, пазнаёміўшыся з альбомам «Маляваныя сны...». А яшчэ, калі загарнуў ягоную апошнюю старонку, скажу шчыра, мне падумалася, а можа, я ўсё ж і нейкі ягоны далёкі сваяк. Пераплятаюцца ж людскія лёсы, яшчэ як пераплятаюцца. У гэтым лішні раз упэўніваешся, калі знаёмішся са свайго роду «фотагалерэяй жыхароў вёскі Засмужжа», а менавіта такі падзагаловак мае апошні раздзел кнігі-альбома — «Сведкі часу», у якім сабраны рэдкія здымкі. Узіраешся ў твары людзей, большасць з якіх адышлі ў вечнасць, і зноў жа ўпэўніваешся, як цесна пераплятаюцца розныя роды. А калі ўзяць адзін род, род Марціновічаў...

Спадзяюся, што з цягам часу пра маё радство з героем кнігі-альбома «Маляваныя сны...», адкажа мне А. Статкевіч-Чабаганаў. Яму, рупнаму даследчыку родаў, як кажуць, і карты ў рукі. Пакуль што ад імя ўсіх чытачоў выказваю ўдзячнасць Анатолю Васільевічу за падтрымку такога важнага выдання. Не магу не адзначыць таксама, што яно ажыццёўлена за кошт сродкаў упраўлення культуры Мінскага абласнога выканаўчага камітэта і аддзела культуры Любанскага раённага выканаўчага камітэта.